# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 6

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б[illegible]ЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 6
1926

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК



# ЗА ПАРОГАМ*)

## Тарас Гушча

### VIII

Аб Сьцёпку і Аленцы па Заборцах гутарка прашла. Вось як вярнулася тады Аленка з лесу, калі яна ў Рэмусаву луку хадзіла, дык гэтая гутарка ўжо з некалькіх языкоў зьляцела. І як борзда такія плёткі па людзях расходзяцца! Ну, як-бы іх вецер у вушы ўдзімае! Здаецца-ж і ня было нікога, і ніхто ня бачыў іх, а вось-жа ўсё дакладна перадавалася: дзе і калі спаткаліся, як хто на каго зірнуў, хто каму ўсьміхнуўся і нават як усьміхнуўся. А як даведалася Аленка, што пра яе і пра Сьцёпку гаварыць пачалі, то моцна засаромілася.

Ніколі-ж яна ня думала, што на яе сяброўства з Сьцёпкам людзі паглядзяць вось якраз гэтак. Усё-ж гэта няпраўда, няпраўда! Аленка ведала, што часамі хлопцы і дзяўчаты любяцца, што ёсьць на сьвеце каханьне, нават і ў песьнях аб ім сьпяваецца, але сама яна гэтага пачуцьця ніколі не зазнавала, не адчувала, не разумела і знаць яго ня хоча. Яно для яе незнаёмае, чужое... Глупства ўсё гэта! У Аленкі протэст з душы выбіваецца. Хочацца голасна сказаць усім гэтым плеткаром, што яны лгуць, брэшуць! Крыўдна стала нейк Аленцы, хоць вазьмі ды заплач.

Узяла кнігу, на двор вышла, на прыгумені ў зацішное месца села. Разгарнула кнігу, водзіць вачамі па літарах, бачыць словы, цэлыя радкі, але ад гэтага чытаньня ў памяці нічагусенька не застаецца,—аб Сьцёпку думае. І як ён на памяць ёй узышоў, сама ня ведае, людзкія-ж плёткі на нейкі час зусім забываюцца. А ўрэшце—ліха іх бяры: хіба ты язык людзям завяжаш? Горш за ўсё вось што: покі аб гэтых плётках нічога ня было вядома, яна хацела прыпільнаваць Сьцёпку, як ён будзе з дому ў дарогу выходзіць—за сялом можна было-б пераняць яго,—і даць яму на дарогу маленькі баханок хлеба і той рубельчык грошай, што прыхаваны ў яе на ўсякі выпадак, а цяпер хіба яна пойдзе? Ніколі! І злосьць узяла на Сьцёпку—з-за яго столькі няпрыемнасьці, і яна нікалечкі не шкадуе яго. Наадварот—глядзець на яго ня хоча!

Аленка ведае такую мясьцінку на сваім двары, адкуль можна добра пабачыць Сьцёпкаў двор, а самой быць незаметнай. Ня гледзячы на ўсю злосьць на Сьцёпку, ідзе яна на тое месца. Ёй проста цікава паглядзець наогул. Каля хаты там народ сабраўся. Аленка прагна, але дарэмна

*) Глядзі „Полымя" № 5.

ловіць слова—нічагутка ня чуваць. І раптам Аленчына сэрца супроць яе волі забілася мацней: з двара якраз выходзіць Сьцёпка! Ідзе бяз нічога, ідзе сьмела, высока падняўшы галаву. Маладзец усё-ж такі хлопец! Момант—і Сьцёпкава постаць зьнікае з Аленчыных вачэй. Цяпер яго больш адгэтуль ужо не пабачыш. Ные сэрца ад нейкага жалю. І ўспомніўся Аленцы той верш, што чытала Сьцёпку. Нядаўначна-ж яна прызналася яму, што гэты верш напісан спэцыяльна для яго... Вось тут Аленка і заблуталася ў сваіх разважаньнях. І дзе-ж яе праўда? Чаму веры даць? Ня лгала-ж яна Сьцёпку, складаючы яму той верш... І нашто яна складала яго? Нашто чытала? І горш за ўсё: нашто было яшчэ і казаць?

Злуецца Аленка сама на сябе, аж палец кусае сабе, а, нарэшце, і заплакала нават. Дурная яна, эй, якая дурная! Сьмяяцца з яе будзе Сьцёпка: хіба *ім* можна верыць? Ашуканцы яны, манюкі!.. Каб толькі ведалі хлопцы, што думала аб іх цяпер Аленка, то напэўна пакрыўдзіліся-б на яе.

Людзі разышліся ад Барутавай хаты. Некаторы час Аленка яшчэ пастаяла ў патайным месцы свайго дворыка. Бачыла, як з двара выбег Алесь з ёмкаю белаю торбачкаю. Алесь борзда пабег, а сьледам за ім вышла і Сьцёпкава маці. Прыпынілася каля весьніц, пазірае ў той бок, куды Алесь пабег, і выцірае цішком сьлёзы.

— Хлеба маці пасылае,—падумала Аленка і павесялела, бо гэта-ж і яе была такая думка. Але ці дагоніць яго Алесь?

Аленка борзьдзенька вышла з патайнога месца і пашла сьцежачкаю ў поле: можа адтуль убачыць дарогу. Не: ні дарогі, ні Сьцёпкі, ні Алеся ня бачыла Аленка. Дарэмна толькі ногі трапала. Азірнулася наваокол: на полі там-сям жанкі былі. Ёй здавалася, што яны дагадаюцца, чаго яна ў поле вышла, і яшчэ больш гаварыць пачнуць. Выбачайце: яна проста ў агарод пашла, каб зельля нарваць. Зьбірае Аленка зельле, а сама пра Сьцёпку думае... Што ні кажэце, а хлопец ён слаўны!

## IX

Скончылася лета. У пачатку восені паехала Аленка ў Загор'е. Апошні год астаўся ёй павучыцца. Пачалася школьная работа, і час праходзіў борзда. Незаметна набліжаліся зімнія вакацыі. Нічога ня ведала Аленка пра Сьцёпку. Дзе ён? Што з ім? Відаць, ня добра з ім, калі да гэтага часу не падаў аб сабе вестачкі. А можа проста ня хоча з ёю знацца, астаўшыся ў горадзе. Ці мала там у яго сяброў і сярод хлопцаў і сярод дзяўчат? І зноў успамінаўся Аленцы яе той верш. Прыкра рабілася дзяўчынцы. Ну, але-ж калі гэта было? Яна была тады проста дурная. А ёй так хочацца аб горадзе даведацца. Сапраўдную навуку і можна пазнаць толькі ў горадзе. І хто, як ня Сьцёпка, мог-бы расказаць пра жыцьцё ў горадзе, пра навуку? Пасылала Аленка ліст дадому, хацела пра Сьцёпку спытаць, але нейк сорамна было, бо яшчэ з маткаю дома

размову мела аб ім. Праўда, жартуючы казала ёй мацi тое, што сама ад людзей чула, аб іх каханьні. Ну, а калі-б і так? Ня крадзенае-ж гэта, і такая хвор ходзіць па людзях. А што на Аленку заглядаюцца, то што-ж тут дзіўнога? Не на ўсякую, нябось, і глядзець будуць. Ну, словам, матка зірнула на гэта зусім проста, а потым зразу нейк перашла на сур'ёзны тон.

— А ўсё-ж, дачушка, ой як трэба шанавацца! Асабліва цяпер, калі такая распуста па людзях пашла.

У падмацаваньне факту гэтай распусты Аленчына маці расказала некалькі прыкладаў. Прыклады былі жывыя, блізкія і ўсім вядомыя: Анэтка Шаркуновых, Насьця Жук. Пацешыліся ды кінулі, як агрызеныя косьці, з малымі на руках. Што ім цяпер рабіць? І ня высудзілі нічога, бо аказалася, што ў тых лайдакоў нічога няма, хоць жылі пры гаспадарках—выкруціліся. І каго-ж тут вінаваціць? Самі вінаваты. Вось так і правучаюць дурных.

— Я павінна папярэдзіць цябе, дачушка. Ты-ж ужо не маленькая: праз год, праз два і замуж пойдзеш.

Аленка зачырванелася ад сораму і вочы ўніз апусьціла.

— І ня думаю я пра замуж,—нездаволена адказала яна.

— Усе мы ў свой час так гаварылі, а толькі тое і рабілі, што думалі, каб скарэй замуж выйсьці.

Вось чаму Аленка і не адважылася ў лісьце аб Сьцёпку спытаць і чамусь спадзявалася, што Сьцёпка сам напіша ёй. Так яно і было.

Калі Аленка зірнула на памяты конвэрцік—відаць, у дарозе вандраваў ня мала,—то сэрца яе забілася, як пташка ў клетцы, а шчокі румянкам загарэліся. Са школы якраз выходзілі. Звычайна Аленка ў такіх разох ня вельмі сьпяшалася: павольна складала кнігі і сшыткі, адзявалася, ці таварышку каторую-небудзь чакала, каб разам са школы пайсьці і пагутарыць аб тым, што зьяўлялася выдатнейшым момантам дня. Часамі-ж да іх і хлопцы далучацца. бо былі такія, што і пажартаваць ужо любілі з дзяўчатамі і так ці йначай сваё кавалерства выказвалі. І дзяўчаты, калі ўжо праўду казаць, не заставаліся глухімі на гэтыя жарты. Для віду злаваліся, протэставалі, ад хлопцаў нібы стараніліся, але цішком цікавалі такі за імі і былі рады, калі, жартуючы, і штурхане ці ўшчыкне іх хто з хлопцаў ці так якую штуку выкіне... Ну, проста прыемна адчуваць, што цябе ўвагаю людзі ня крыўдзяць.

Цяпер-жа Аленка пастаралася борзьдзенька і незаметна выйсьці, каб адной застацца. Не, не адной, а са Сьцёпкавым лістом! Бягучы на кватэру, некалькі разоў на конвэрт зірнула, і толькі дома асьцярожненька расьпячатала яго. На самы пачатак і на канец ліста глянула. А ў самым канцы „Сьцяпан Барута“ стаяў.

У нязвычайным хваляваньні прыступіла Аленка да чытаньня. Ліст быў напісан старанна. Відаць, Сьцёпка многа думаў, каб напісаць яго.

Найбольшая труднасьць тут для Сьцёпкі была ў напісаньні самога зваротку да Аленкі: як яе назваць? „Таварыш“—аддае нейкаю нявыразнасьцю. Напісаць „друг“?—але так спадручней да хлопца зьвярнуцца. Напісаць хіба „мілая Аленка“? А можа лепш „дарагая Аленка“? Тут у Сьцёпкі пытаньне зьявілася: якое слова лепш перадае шчырасьць і сардэчнасьць—„мілая“ ці „дарагая“? Мусібыць „дарагая“ ўсё-ж такі бліжэй да сэрца. Але ізноў-жа—каб не станавіцца тут на шлях звычайных закаханых лабатрасаў, пакутнікаў каханьня, бо ніякай закаханасьці ў Сьцёпкі няма, а ёсьць проста пачуцьцё дружбы да свае зямлячкі, з якою зьвязвае Сьцёпку жыцьцё дома, блізкае суседзтва і розныя агульныя інтарэсы, што мелі і маюць дачыненьне да іх вучнёўства. Ну, а затым Аленка проста слаўная дзяўчынка. Нават і верш такі добры напісала яму. Урэшце, Сьцёпка пашоў на такое згодніцтва:

„Дарагая суседка, мілы таварыш Аленка!

Мне дужа хочацца ведаць, як ты жывеш, а таксама і як твая навука пасоўваецца. Вось чаму і пішу я табе. Можа ты ніколі і ня думала, што я табе ліст прышлю, і забылася ўжо, як мы апошні раз разьвіталіся. Ну, але-ж некалі вучыліся разам і цяпер вучымся, толькі ў розных школах, і мне ўсё цікава ведаць. Яшчэ тады, як пакідаў я дом, я сказаў сабе, што напішу табе. Зьбіраўся напісаць, як у Менск прыбыў, а потым адлажыў, покі ня выясьніцца справа з маім паступлельнем.

Каб апісваць усё папарадку, то трэба было-б вельмі многа пісаць. Вышаў я тады адзін, і мне маркотна нейк зрабілася; ішоў-жа я ў незнаёмы горад, дзе ўсе мне чужыя. Адну станцыю прашоў і заначаваў на ёй, а адтуль паехаў машынаю дармагалам. Выпадкам я пазнаёміўся там з адным добрым стрэлачнікам, і ён пасадзіў мяне на поезд. Наогул мне пашанцавала. Паздаваў я экзамены добра і лёгка, як плюнуць, бо я шмат болей ведаў, чым гэта трэбуецца, каб паступіць на рабфак. Але здаць экзамены яшчэ ня значыць—паступіць: наехала ў чацьвёра больш, чым можна прыняць. І мяне былі ня прынялі. Горка мне было. Што рабіць? Пашоў я да вышэйшага начальства ў главпрофобры і там нават шуму нарабіў, проста біцца хацеў, бо я быў пастаўлен перад фактам голага змаганьня—быць ці ня быць. Разумеецца, не задзёрыстаць мая памагла мне, а маё становішча, як выгнанага з дому,—за што? ты ведаеш. І мяне залічылі на рабфак звыш нормы, а потым усё ўладзілася, і мяне запісалі сапраўдным студэнтам рабфаку, далі пэнсію дванаццаць рублёў і гатовае памяшчэньне.

Ты ня ведаеш, Аленка, як я рад, што вучуся. Я нічога ня ведаў, ідучы шукаць навукі, і цяпер яшчэ многа чаго ня ведаю, але я чую, што мае вочы прасьвятляюцца, што перада мною адчыняецца зусім новы сьвет; і ўсё тое, што праходзіла перад маімі вачамі, што ня спыняла на сабе мае ўвагі або пакіроўвала яе ў другі бок, цяпер устае перада мною ў новым асьвятленьні, набывае зусім другі сэнс і характар. Я

цяпер ведаю ролю пролетарыяту ў рэволюцыі і яе ролю ў тым, каб завесьці новыя парадкі і новае жыцьцё. Для мяне цяпер усё больш і больш праясьняецца погляд і на сябе самога, як на адзінку грамадзкага колектыву. Наогул, Аленка, шчыра табе раю зьвярнуць больщую ўвагу на грамадзяназнаўства. Чытай газэты, але іх яшчэ трэба і ўмець чытаць.

Ты ў гэтым годзе скончыш сямігодку. Што будзеш рабіць потым? Ці думаеш на гэтым спыніцца, ці вучыцца далей? Здаволіцца аднэю сямігодкаю не выпадае, бо яна мала дае. Трэба прабівацца ў вышэйшую школу, каб заняцца навукаю, як належыць. Я думаю, скончыўшы рабфак, падавацца ў унівэрсытэт. Трэба добра „пагрызьці граніт навукі", каб быць карысным у жыцьці. Добра падгатаваўшыся, і ты можаш папасьці туды. Ня трэба толькі сьпяшацца замуж выходзіць. У нас тут многа дзяўчат вучыцца. Усякія ёсьць. Сярод нашых рабфакаўцаў розныя людзі: і моладзь, і людзі сталыя, з барадамі. Ёсьць і жанатыя, а некаторыя тут і жэняцца і замуж выходзяць. Я на гэта гляджу, як на рэчы непатрэбныя. Калі навука, дык навука.

Вольнага часу ў мяне мала. Многа чытаю, мала куды хаджу. Жывём мы ў агульным памяшчэньні, у васобных пакойчыках. Выдаём насьценную газэту. Некалькі сваіх артыкулаў даў і я. Мяне больш цікавіць „наш быт", і ў гэты аддзел я і пішу. Яшчэ трэба сказаць табе, што поэтаў цяпер разьвялося, як камароў у балоце. Са мною таксама жыве адзін поэта. Слаўны ён хлапец, і мы з ім дружым. Адна яго загана, што ён поэта. Але ён сваёю поэзіяй карыстаецца ў меру. Калі яму няма за што купіць папярос, то ён кажа: „Трэба, брат, верш злажыць—курыць няма чаго", і садзіцца пісаць. Вершы-ж ён піша затым, што за радок даражэй плацяць, і верш, кажа ён, вельмі лёгка напісаць. Аб нашым быце я напішу табе, калі толькі прышлеш мне сваё пісьмо. За поэтаў ня гневайся на мяне, бо я ўпусьціў з памяці, што і ты пішаш вершы, але-ж вельмі многа фабрыкуецца гэтага тавару.

Я часта, Аленка, успамінаю цябе... Ну, і бывай здарова. Памятай, што трэба яшчэ вучыцца табе. Прыедзеш на зімнія вакацыі, зайдзі да нашых. Я ня скора мусібыць прыеду да сваіх.

Усяго найлепшага. Сьцяпан Барута".

Некалькі разоў прачытала Аленка гэты ліст. У некаторых момантах чытаньня ёй то было прыемна, то горка і крыўдна. Асабліва з гэтымі вершамі яна так і ведала—насьмяецца з яе Сьцёпка. Аленка доўга ўзважвала, чаго больш у Сьцёпкавым лісьце, добрага ці благога для яе, напісаць яму ліст ці не?

## X

Сярод таварышоў Сьцёпка выдзяляўся сваёю стараннасьцю ў навуцы, сваёю сталасьцю і сур'ёзнасьцю. За гэта яго празвалі тут другім Ламаносавым, тым больш, што ён не пабаяўся пайсьці пяхотам цэлых сто

вёрст, каб пастуціць на рабфак. Але-ж яму больш нічога і не аставалася, як толькі вучыцца. Навука гарнула Сьцёпку і давалася яму лёгка. Ен памятае, як трудна была тая дарога, што прывяла яго сюды, і якую адказнасьць узяў ён на сябе, кінуўшы бацькаў дом. Таксама не забывае ён і тых слоў, што кінуў людзям, выходзячы з свайго двара: „будаваць новы зруб на новы калодзеж". Сьцёпку самому падабаліся гэтыя словы, і самае важнае тут тое, што вырваліся яны самі сабою, не надумана. Трэба даказаць усім, што ён сваіх слоў на вецер ня кідае, і калі думаюць аб ім людзі, што ён—адшчапенец, што з яго толку ня будзе, то памыляюцца. Апроч усяго гэтага, тыя ўмовы, у якіх яму давялося быць, яго здавольвалі: ёсьць разгон для навукі, можна чыста хадзіць і ня быць галодным. Пасьцель у яго такая, што ў Заборцах магла яму толькі прысьніцца.

Сьцёпка быў трохі дзікаваты і замкнуты. Ён стаяў як-бы крыху наотшыбі ад таварышоў і пільна прыглядаўся да ўсяго, што праходзіла тут перад яго вачамі. І перш за ўсё, увагу яго спыняў іх вучнёўскі быт і асабліва адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі. Адносіны гэтыя былі самыя простыя і звычайныя. У часе пераменак па карыдорах і ў аудыторыях усе яны шумелі, ганяліся адны за другімі, дурэлі, як гэта ўласьціва моладасьці. А то проста хадзілі ў парах з дзяўчатамі, пабраўшыся за рукі ці „пад ручку", ці проста абняўшыся. Сьцёпку дзівіла гэтая прастата і натуральнасьць, але сам ён не адважваўся прайсьціся так з дзяўчынаю, як гэта рабілі яго таварышы—хлопцы, бо Сьцёпка бачыў, што ў гэтых адносінах ёсьць нешта ня зусім сяброўскае, як ні стараліся адны і другія надаць гэтым адносінам характар сяброўскасьці: за сяброўскасьцю хавалася нешта іншае.

Часамі і Сьцёпка з сваім прыяцелем Сымонам Галызаю, з тым поэтам, аб якім ён пісаў Аленцы, выходзіў на карыдор. Яму проста было цікава пацерціся тут, зрабіць пэўныя назіраньні, каб мець матэрыял у газэту і праверыць некаторыя свае мысьлі. Ён зьвярнуў увагу на аднаго з сваіх таварышоў.

— Зірні, зірні!—штурхануў Сьцёпка локцем прыяцеля Сымона, паказваючы вачамі на Шулевіча,—закруціўся ўжо каля Ніначкі, як здрок каля конскай наздры.

З усіх дзяўчат на сваім курсе Ніна карысталася найбольшаю ўвагаю з боку таварышоў-хлопцаў. У гэтым сэнсе і Сымон ня быў сьвяты: Ніне ён два вершы зла̀жыў і сам любіў каля яе павярцецца.

— Не зайздросна табе, Сымоне? Бач, як Нінка да яго прыгарнулася!

— Каб я захацеў, дык яна заўтра са мною ў загс пашла-б.—І рукою правёў Сымон па тым месцы, дзе належыць быць вусам, але там іх яшчэ ня было.

— А з Шулевічам яна напэўна і сёньня-б пашла,—падражніўся Сьцёпка.

Сымон нічога не адказаў, бо якраз сустрэліся з гэтаю параю. Шулевіч акінуў іх строгім і гордым поглядам, а ў гэтым поглядзе было напісана: „Што то я!“ Нінка мільгнула сваімі вясёлымі вочкамі па Сьцёпкавым твары і нават чуць заметна ўсьміхнулася яму. Сымон гэта бачыў. Разьмінуўшыся, адказаў на Сьцёпкаву увагу:

— Ад гэтага ня было-б мне ні халодна, ні цёпла.

Бровы яго спусьціліся ніжэй, і цень па твары прабегла. Сьцёпка заўважыў гэта і перавёў гутарку на другое. Якраз і званок далі. Пашлі ў аудыторыю. На лекцыі літаратуры, як і на другіх лекцыях, студэнты сядзелі групамі і распрацоўвалі заданьне па Дальтон-пляну. Сымон зьвярнуў увагу, што Шулевіч прымайстраваўся ў тую групу, дзе была і Ніна. Сьцёпка сядзеў пасярэдзіне між Сымонам і Міхайлам Драбаком, сур'ёзна і сумленна разьбіраў матэрыял заданьня. Сымон слухаў, але мала што цяміў, бо ён больш сачыў за Нінаю і Шулевічам. Шулевіч з відам профэсара даваў Ніне тлумачэньне. Часамі-ж профэсарская важнасьць сходзіла з яго твару, і ён пaглядаў на Ніну, як проста на дзяўчыну, і часамі туліўся шчыльней да яе, каб чуць яе блізкасьць сваім целам. Ніне было трохі нялоўка, і яна рабіла рухі, каб адсунуцца.

— Адсунься!—ціха сказала яна Шулевічу.

Шулевіч глядзіць на яе цёмнымі вачамі. Нінцы робіцца не па сабе ад гэтага погляду.

— Ну, што за мяшчанства, Ніна!—з дакорам шэпча хлопец:—пара-б ужо вызваліцца ад гэтых буржуйскіх поглядаў. Ці ты ў інстытуце дваранскіх дзявіц? І кім гатуешся быць: лялькаю, цацачкаю ў руках мужа, ці ты думаеш рабіць справу пролетарскай рэволюцыі? Таварышы мы ці не? Ці табе можа прыкра быць таварышам рэволюцыянэра?

Нінчын протэст унікае. Сядзіць моўчкі плячо ў плячо. Нават яно так і зусім ня кепска. А ён к таму-ж і сакратар фабкому і гэтак адданы рэволюцыі! Ну, і чаму-ж бы ня быць ёй таварышом рэволюцыянэра?

І сядзяць яны лагодна. Палажыў руку ёй на ногу вышэй калена.

— Мы—таварышы, мы—дзеці пролетарыяту,—шэпча Марцін:—ты—дзяўчына і таварыш мой. Як прыемна адчуваць блізкасьць свайго таварыша-дзяўчыну!.. К чорту буржуазную этыку!

Ніна чырванее. Але ён такі разумны і ў пролетарскіх справах так добра разьбіраецца! І праўда: многа ў жыцьці гэтага мяшчанства. Змагацца трэба з ім.

Сымона зайздрасьць забірае. На Ніну злуецца, што так шчыльна прытулілася да яго. Але ён спусьціў з памяці, што калі сам так сядзіць з дзяўчынаю, то адчувае сябе вельмі добра. Ну, але аб гэтым наогул мала хто помніць і мала прымае гэта пад увагу.

Скончылася лекцыя. З аудыторый па кватэрах сталі разыходзіцца. Шумнаю грамадою хлынула рабфакаўская братва, у выхад на сходы імкнецца. Штурхаецца, бурліць, жыве. Вясёлая баявая Насьця Чычка, ёмкая, з мужчынскімі ўхваткамі, бураю налятае на мізэрнага Міхайлу Драбка, хватае пад паху і—круць з дарогі, а сама наперад бяжыць, за пярылца бярэцца, каб на ніз спусьціцца латвей. Крутнуўшыся ваўчком, вёрткі Драбак наганяе Насьцю, закідае рукі ёй на плечы, садзіцца „катла", а Насьця пад шум і рогат духам на ніз імчыцца з ім.

— Вось пракаціўся—лепш, як на аўтобусе,—сьмяецца Драбак і паказвае цэлы рад белых зубоў.

Сымон займае адпаведную позыцыю, каб Ніну перахваціць. Ніна выходзіць, як бы чымся заклапочаная, апусьціўшы вочы. Шулевіч за ёю ідзе, але яго братва адціскае. Гэтым момантам карыстаецца Сымон. Яму хочацца балюча ўкалоць Ніну.

— Ну, як, Ніна, заданьне: многа прашла?

— Да трохі падчытала.

Ніна па Сымону бачыць, што злосьці ў яго поўныя косьці, і трохі дагадваецца аб прычыне яе.

— Ну, а як Шулевіч: моцны ў літаратуры?

У гэтым пытаньні насьмешка чутна. Відаць яна і на Сымонавым твары. У замяшаньне прыходзіць Ніна. Сымон добры хлопец. Шулевіча-ж яна нейк баіцца. Не чакаючы адказу яе, Сымон злосьмешна дадае:

— Романтызм і літаратуру каханьня на практыцы вывучалі сама-тужна-ляборатoрным спосабам?

Ніцы нялоўка. Чаго прыстаюць яны? Чым тут яна вінавата? Ырае Ніна ў натоўп, каб скарэй да кватэры дабегчы і аднэй застацца. А ну іх усіх к чорту! На кватэры Ніна ў люстэрачка глядзіцца, валасы папраўляе, рукою па бровах праводзіць і яшчэ раз аглядае сябе—ня брыдкая дзяўчына!

## XI

Сымон таксама зрабіў рэвізію свайму хараству. Што ў ім харошага? Валасы ў яго слаўныя: кучаравыя і пад колер каштана і завітушкамі па галаве раскідаюцца. І лоб шыкарны—адкрыты, шырокі. Такія лбы ў разумных людзей бываюць. Вочы таксама нішто сабе,—шэрыя, строгія і самае важнае—мысьлі ў іх відаць. У Шулевіча цёмныя вочы; можа і душа ў яго цёмная. Шэрыя вочы лепш: гэта самы добры колер вачэй мужчыны, і ўсе выдатнейшыя людзі на сьвеце мелі шэрыя вочы. Вось з носам справа горш: ня то, каб залішне вялікі—таўставаты на канцы і ўгару задзёрты. Ну, але-ж бываюць і горшыя. І губы мерныя. Вось толькі верхняя трохі на ніжнюю налазіць. Пробуе Сымон ніжнюю губу трохі наперад падаць. Выходзіць яшчэ горш: губы—як трубы. Аказваецца, самае лепшае так, як яно і ёсьць. Урэшце, Сымон прышоў да пракананьня, што хлопец ён адлічны. „Усё на сьвеце аддай і та-

пор“, кажа ён сам сабе. А Нінка няхай не забірае многа ў галаву: тысячы такіх Нінак знойдуцца.

Сымон у зацішны куток падаецца, карандаш бярэ і з сшытку лісток паперы вырывае. Думае штось, палажыўшы карандаш на губу, і піша:

Эх, ты, Ніначка-рабфакаўка!
Расчырвоная ты макаўка...

Не: гэтак не гадзіцца—так можна па добрасьці напісаць, а Сымон хоча выказаць нешта іншае. Касуе два радкі, пачынае нанова: думае і запісвае:

У Ніначкі, у рабфачкі
Сорак градусаў гарачкі...

Сымон спыняецца. Ён ловіць сябе на брыдкім учынку. Нашто гэта рабіць? Што яна зрабіла, каб пісаць пра яе?.. А яшчэ комсамолец—горш усякага мешчаніна!

Сымон рве напісанае на дробненькія шматочкі. У выніку ўсяго—няпрыемнае самапачуваньне. Але ён будзе сам за сабою глядзець, а Ніна—чалавек і таварыш. Патаварыску да яе і адносіцца трэба. На гэтым ён і заспакойваецца, а мысьлі яго ў другі бок ідуць. У яго ёсьць ахвота напісаць што-небудзь, расьсеяць свой настрой, выявіць сябе, паказаць сваё „я“. І паўстае пытаньне: варт яму пісаць ці ня варт? Трэб было-б з кім парадзіцца. У Сымонавай галаве зараз-жа і плян узьнікае—бліжай пазнаёміцца з організацыяй маладых поэтаў, увайсьці ў яе. А для гэтага трэба мець у руках нешта такое, з чым можна было-б у людзі выйсьці. І першая задача—напісаць, напісаць такі твор, каб адразу відаць было, хто такі Сымон Галыза. І гутарка аб ім пройдзе, як аб выдатнейшым маладым поэце. Усе зьвернуць на яго ўвагу.

Усё гэта захапляе Сымона. У Сымона вір гудзе-шугае. І мысьлі і вобразы, як сьнег у мяцеліцу, кружацца; іх трудна стрымаць, падпарадкаваць сваёй волі, накіраваць іх на пэўную дарогу і даць ім пэўнае афармленьне. Але Сымон несьвядома падпарадкуецца нейкаму рытму, якога нават і не зважае. Хочацца яму заклікаць людзей на вялікую новую працу, і ўвесь час у яго гэтае „гэй“ на языку верціцца. Сымон нічога ня бачыць навокала сябе, вочы яго блішчаць, пазіраюць у вадзін пункт, нарэшце, ён хапае карандаш, паперу і піша:

Гэй, прашоў Кастрычнік плугам,
Пралажыў мільён разор!
Дык выходзьце шчыльным кругам—
Ёсьць разгон тут, ёсьць прастор!
Гэй, за працу ўсе дазваньня,
Грамадою, як адзін!
Грымнем песьню, гымн змаганьня,
Зьлітнай воляй цьмы грудзін!

Хай пачуюць па ўсім сьвеце
Нас, рабочых і сялян,
Як пусьцілі мы на вецер
І паноў і іх абман!
Нам ня трэба дармаедаў!
Нам няма дарог назад,
Бо народ наш волю зьведаў
І зажыў на новы лад.
Дык выходзьце ўсе да працы!
Сам ідзі і кліч другіх!
Не на небе—тут палацы
Мы збудуем без сьвятых!
Гэй, зьвінеце, грайце, струны:
Мы пакінем вечны сьлед—
Пабудуем дом комуны,
Дом адзін на цэлы сьвет!

Пішучы, Сымон увесь гарэў, як у гарачцы. Ён борзьдзенька перапраўляў тэкст, мяняў словы, выразы, касаваў цэлыя строфы. І толькі тады ўжо, калі верш быў перапісан, Сымон-мастак адышоў, саступіў месца Сымону-чытачу і самакрытыку. Чытач-крытык быў задаволены.

Асабліва падабалася тут яму гэтае самае „гэй“: „Гэй, да працы ўсе дазваньня!“, Гэй, зьвінеце, грайце, струны!“ Першы радок—„Гэй, прашоў Кастрычнік плугам!“ як-бы трошкі і ня зусім гладкі, бо „гэй“ тут можа і ня зусім да-рэчы. Але і гэтую невялічкую шурпатасьць Сымон ухіліў, ухіліў вельмі проста: увесь яго верш праходзіць пад знакам „Гэй!“ Ён і назваў яго „Гэй!“ Зусім добра. Сымон прачытаў верш яшчэ раз—добра! А каб продэклямаваць яго? Яшчэ лепш вышла-б. Цяпер у Сымона па закону эволюцыі аўтарства зьявілася моцнае жаданьне прачытаць свой твор каму-небудзь, каб пачуць голас сапраўднага чытача-крытыка. У кватэры быў адзін толькі Сьцёпка. Залажыўшы за сьпіну рукі, ён хадзіў ад аднае сьцяны да другой. Відаць, думаў нешта. Часта на яго гэтая задумлёнасьць находзіць. Сымон пазірае на Сьцёпку, як-бы пільнуючы той момант, калі найлепей зачапіць яго. Сьцёпка мімавольна падняў вочы на Сымона.

— Хадзі сюды, Сьцёпка!

— Ну?—Сьцёпка стаяў каля Сымона і чакаў.

— Вось ты паслухай. Я ведаю, што ты ня любіш поэзіі, але паслухай.

— Ну,— ізноў сказаў Сьцёпка, гатовы слухаць.

Узяў Сымон лісток паперы і энэргічна продэклямаваў: „Гэй!“

Верш прачытаў з такім-жа натхненьнем, з якім і напісаў яго. Скончыў і вачэй на Сьцёпку не падымае, чакае, што Сьцёпка скажа. Сьцёпкава сур'ёзнасьць з твару сходзіць.

— Во, гэта верш!.. Добра, дальбог добра!

Сымон прасьвятляецца.

— Дык добра, кажаш?

Замест адказу Сьцёпка весела гаворыць:

— А ну, чытані яшчэ раз!

Сьмялей і з большым захапленьнем продэклямаваў Сымон другі раз.

— І адкуль ты ўзяў, што я поэзіі ня люблю? Сапраўдную поэзію ўсе любяць, і я люблю яе. А твой верш у сто раз лепш сотні другіх, што друкуюцца.

І Сьцёпка стаў сам дэклямаваць некаторыя строфы, адступаючы ад тэксту:

Хай пачуюць па ўсім сьвеце
Нас, рабочых і сялян,
Як пусьцілі мы *на сьмецьце*
І паноў і іх абман!

— „Як пусьцілі мы *на вецер*“,—паправіў Сымон.

— Ну, гэта ўсё роўна: сьмецьце па ветру якраз і лятае добра... Не, брат, слаўны верш!.. Сымон! скажы ты мне вось што. Якраз гэта будзе ў сувязі з вершам. Ці думаў ты калі-небудзь над тым, што мы занадта многа гаворым?

— Як гэта—гаворым многа?

— Да так: слоў у нас вельмі многа. Куды ні пайдзі, усё толькі і чуеш прамовы. Адно якое-небудзь слова выклікае тысячы другіх слоў. Слова на слове едзе і словам паганяе. Выходзіць нейкая слоўная гімнастыка, слоўкультура.

— А чым-жа гэта кепска? Гаварыць складна людзі навучацца. А хто добра гаворыць, той добра выкажыць і думку сваю.

— Каб выказаць разумную думку, ня трэба многа прыгожых і выкрутасістых слоў.

— А я ўсё такі не разумею, што ты хочаш сказаць? І якая тут сувязь з маім вершам? Для мяне гэта найболей цікава.

Сьцёпка на момант апусьціў вочы ўніз, як-бы разважаючы, сказаць ці не, або як сказаць гэта, а потым зірнуў на Сымона.

— Я хачу вось што сказаць. Мне здаецца, што за словамі ня бачым мы жывой работы, сапраўднага дзела. А *словагаворню* за гэтае дзела прыймаем. Цяпер аб тваім вершы. Верш бясспрэчна добры. Ты ў ім заклікаеш усіх да работы, да працы, заклікаеш будаваць „дом комуны“. Вельмі добра. Ну, а вось скажы, з чаго ты мысьліш пачаць будаваць гэты дом?

— Як з чаго? Перш за ўсё, трэба пашырыць ідэі комунізму сярод шырокіх пластоў народу, трэба паказаць усе выгады і ўсе перавагі колектыўнага жыцьця перад жыцьцём індывідуальным, трэба будзіць, падымаць шырокія масы, рабіць іх політычна сьвядомымі... Да ці мала з чаго можна пачаць?

— Займацца пропагандаю? Гаварыць, гаварыць без канца?—Запытаў Сьцёпка.—Добра, але я думаю, было-б яшчэ лепш, каб і тыя, хто гаворыць, ад слова да дзела перашлі.

— Ї пераходзяць.

— Пераходзяць, але мала... Вось што, Сымон. Давай летам паедзем куды-небудзь на вёску. Прачытаем наўперад там верш твой, запалім сэрцы, а потым за дзела возьмемся. Я табе скажу за якое дзела.

Ї Сьцёпка тут выкажыў програму свае работы.

## XII

Ніна Ральніцкая, ціхая і старанная дзяўчына, але навука давалася ёй нялёгка. Можа ад таго, што падгатоўка яе была слабая. Яна даўно закінула навуку, скончыўшы тры клясы гімназіі. Павятовы гарадок, дзе жыла наўперад і вучылася Ніна, забралі немцы. Прышлося пакінуць горад і пераехаць у другое месца. У часе польскай окупацыі памёр Нінчын бацька, масьцеравы па профэсіі. Ї так жылося ім цяжка, а цяпер стала яшчэ цяжэй. Удваіх з маткаю кідаліся яны туды і сюды, біліся, каб з голаду не памерці. Розныя спосабы перапробавалі: і пралі, і панчохі вязалі, і шылі, і мылі на людзей. Клопату і работы было многа, а карысьці мала.

Хацелася Ніне павучыцца трохі, прабіцца на шырэйшую дарогу, ад жыцьця не адставаць. А гэтае новае, маладое жыцьцё біла крыніцаю на кожным кроку. Моладзь стыхійна ішла ў організацыі, каб грамадою, напорнаю, дружнаю расьцерабіць сабе шырокую дарогу. Не рабіла маці ніякіх перашкод сваёй Нінцы—няхай на свой хлеб ідзе, у людзі выбіваецца, а яна сяк-так адна будзе кідацца і меншых гадаваць. Дома засталася маці, два малодшых браты і сястра.

Ї пашла Ніна на рабфак вучыцца. Навука, студэнцкія гурткі, організацыі, жывая работа, таварыскае жыцьцё,—усё гэта было так нова і цікава. Ї жыцьцё тут не адным толькі рабфакам замыкалася. Даклады, тыя ці іншыя спэцыяльныя лекцыі вядомых і выдатных асоб, зьезды, паказальныя суды, дыскусіі,—усё гэта было даступна вучнёўскай моладзі. Гэта тыя кузьні, дзе выкоўваліся асновы новага быту і формаваліся будаўнікі новага жыцьця. У вольную-ж часіну можна было і ў тэатр схадзіць, і ў кіно папасьці, ці проста на сваю вучнёўскую вечарынку. А гэтыя вечарынкі ладзіліся часта. З цягам часу круг знаёмства з новымі людзьмі пашыраўся, бо ня любіць моладзь на месцы сядзець. Але поплеч з гэтым расьлі і запатрабаваньні яе да сьвежых і новых ура-

жаньняў і забавак. Тое, што было цікава ўчора, сёньня ўжо траціла сваю прывабнасьць, прыядалася.

У гэты дзень Ніна прачнулася рана, хоць спаць яна легла зусім позна: іх вечарынка зацягнулася далёка за поўнач. Можна было-б яшчэ паспаць, бо дзень вольны. Але як ні старалася Ніна заснуць, сон ня браў яе. У галаве быў цяжар, як-бы там волава наліта. Яе таварышкі— Ганна Будай, Роза і Фаня моцна спалі.

Ніна асьцярожненька ўзяла люстэрачку і паглядзелася. Твар яе быў стомлены і бледны. Пад сінімі вачамі былі цёмныя палоскі, а губы сухія. Ніна правяла рукою па губах і пацёрла іх, каб яны хоць трохі пачырванелі і ажывіліся. Паставіла назад люстэрачка, палажыла пад голаву рукі і ляжала нярухліва. Перад яе вачамі прашоў мінулы вечар з яго програмаю—даклады, вусная газэта і гульні. Вось гэтая афіцыяльная частка вечара адабрала многа часу, і самая вечарынка іх зацягнулася. Прыеліся ўжо гэтыя даклады, як царкоўная служба даўней. Новага ў іх вельмі мала. Сорак раз чулі іх усе, і нікому яны няцікавы, але ніхто не адважыцца выступіць процiў іх. А можа гэта так і трэба? Можа яна проста несьвядомая і гэтага самага мяшчанства ў ёй многа? Ніна часта чула гэтае слова і баялася яго, як заразы. А што такое мяшчанства, яна не магла даць сабе яснага адказу. Вось Фаня знаходзіць, што той парадак, які быў у іх кватэры, ёсьць мяшчанства, і яна была прынцыпіяльна процiў такой „прылізанасьці“. Мяшчанствам называў Шулевіч усякую дзявочую саромлівасьць. І Ніна стала думаць аб Шулевічу. Хлопец ён прыгожы, спрытны. У пытаньнях марксызму разьбіраецца вельмі добра, і ўвесь ён гарыць, калі выступае з прамоваю. А калі зірне табе ў вочы, то робіцца і радасна і нейк страшна. Ён многа з ёю гутарыў у гэты вечар. І вось гэтыя словы гучаць у вушах Ніны: „Я-б з табою, Ніна, увесь вечар правёў-бы, але, ведаеш, трохі перад братвою нялоўка—гутаркі ўсякія пойдуць“. А калі выходзілі з вечара, то ён правёў яе пад ручку, а ў цёмным куточку так моцна абняў яе, што аж нейкая дрыготка, як агонь, прабегла па целе. Сумненьня ніякага няма, што яна падабаецца яму. Яшчэ раз зірнула на таварышак ды ізноў зірнулася ў люстэрачка. Цяпер яна лепш выглядае, няма гэтае стомленасьці, твар яе як-бы зусім ажыў і стаў другім.

Ніна яшчэ паляжала трохі, думаючы аб Шулевічу. Розныя думкі прыходзілі. Нават і такія былі думкі, што ён і яна ня толькі таварышы па рабфаку, але і таварышы ў жыцьці, прасьцей сказаць—муж і жонка. І так добра ім удваіх! Ён—актывісты, вядзе адказную грамадзкую работу, а яна сярод жанчын сваю работу робіць. А работы там многа. Перад Нінаю рысуецца яе дзейнасьць і яе жыцьцё з Шулевічам. У гэтых думках-марах сон незаметна змыкае ёй вочы. Прачнулася Ніна тады, калі ў дзьверы нехта моцна пастукаў. Дзяўчаты ўжо папрачыналіся, але былі яшчэ ня зусім адзетыя.

— Хто там?—крыкнула Фаня, а дзяўчаты ўзрушана замітусіліся.

— Авангард усясьветнай рэволюцыі. Можна?

Гэта былі галасы рабфакаўцаў.

Дзяўчаты закрычалі на розныя тоны, выказваючы гэтым свой страх, каб сюды не набеглі хлопцы. Накінуўшы спадніцу і шлёпаючы босымі нагамі, Роза першая кінулася да дзьвярэй.

— Ня сьмейце ўваходзіць, мы неадзетыя!—крычала Роза і нажымала рукою на зашчапку.

— Дык гэта-ж вельмі цікава паглядзець на неадзетых дзяўчат,— жартаваў за дзьвярамі чыйся голас.

— Няможна: сьляпымі паробіцеся!

— А я-ж бачу цябе, Розачка, праз шчылінку, і мне зусім ня шкодзіць на вочы.

— Майсей! ты—хуліган!—закрычала Роза і затанцавала на месцы.

Дзяўчаты сьмяяліся тут, а хлопцы там за дзьвярамі.

— А ты, Роза, інстытутка!—ня ўнімаўся Майсей.

— Адчыняйце!—напіралі хлопцы, каб пастрашыць дзяўчат.

— Чорт вас там не пабярэ, невялікія паны,—крыкнула ім Ганна.

— Паноў цяпер няма.

— Паны цяпер за дзьвярамі стаяць,—дадала Ніна.

Дзяўчаты весела зарагаталі.

— Адчыняйце,—адзецца вам паможам!

— Абыйдзецца бяз вас.

Дзяўчаты борзьдзенька адзяваліся, прыбіралі пасьцелі, прыводзілі сябе ў парадак і сьмяяліся, перакідаючыся жартамі, а хлопцы падганялі іх, стукаючы ў дзьверы.

— Эх, як многа яшчэ гэтага мяшчанства на сьвеце!—пачулася з-за дзьвярэй.

— І хуліганства,—дабавілі дзяўчаты.

— Пойдзем, хлопцы!

Дзьверы расчыніліся.

— Спалохаліся, каб і па праўдзе не пашлі,—сказаў уваходзячы Шулевіч.

З ім былі Нічыпар Лапік, Майсей Пінхус і яшчэ адзін рабфакавец.

— Здарова, дзяўчаты!

— А як у іх тут добра!—сказаў Лапік і кінуўся на Ганніну пасьцель.

— Пашоў ты! ад цябе казлом сьмярдзіць!—падбегла да яго Ганна і стала сьцягваць за ногу з ложака. Ёй на дапамогу падскочыла Ніна, і ўдзьвёх сапхнулі яго на падлогу пад звонкі рогат усяе кампаніі. Лапік усхапіўся на ногі, абняў пад пахі Ніну і Ганну.

— Шчыльней рады, таварышы жанчыны!—крычаў ён.

Некалькі моманту Лапік валтузіўся з дзяўчатамі.

— Даёш Загс?!—выкрыківаў ён, ушчарэпіўшыся за іх стан.

Роза і Фаня не сьцярпелі і кінуліся памагаць таварышкам. Усе яны спляліся ў адзін клубок, сьмяяліся, крычалі, пішчалі і стараліся паваліць Лапіка.

— Нічыпар, не падгадзь!—падбадралі яго хлопцы.

Каб не падгадзіць, Нічыпар пусьціў у ход недазволеныя прыёмы абароны, хватаючы дзяўчат, дзе папала. Дзяўчаты-ж прышлі ў азарт, паваліл Нічыпара, прыдушылі яго падушкамі, завярцелі ў коўдру і з гучным сьмехам цягалі яго па падлозе, падцягнулі пад самы парог і кінулі. Чырвоны з ускалмачанымі валасамі вылез Нічыпар з коўдры.

— Ай, Нічыпар, Нічыпар! І куды-ж ты варты!—сьмяяліся з Нічыпара.

— Ну, і дужыя-ж нашы дзяўчаты—у соху запрагаць можна. Ніколі я іх больш чапаць ня буду.

Калі гэты шум сьціх, Шулевіч запытаўся:

— Хто сёньня хоча ў кіно?

— Усе!

Шулевіч даў дзяўчатам білеты, а Ніне ён сказаў, што вечарам зайдзе па яе і пойдуць разам, бо ў яго больш білетаў няма. Яе-ж ён правядзе па свайму білету ці як,—ну, словам, усё ён устроіць.

Вынікам гэтай дурасьлівасьці Нічыпара і раньняга візыту рабфакаўцаў да рабфакавак быў гумарыстычны расказ у насьценнай газэце. Расказ быў напісан прозаю, а канчаўся вершам.

*(Канец будзе).*

# ВЕРШЫ

## Янка Купала

### ЁСЬЦЬ-ЖА ЯШЧЭ...

Есьць-жа яшчэ ў мяне сіла
Крыўдзе ня дацца, змагацца,
Над сьпячых продкаў магілай
Вольна маланкай мігацца.

Ёсьць-жа яшчэ ў мяне сэрца,
Поўнае шчырых жаданьняў,
Якое перш разарвецца,
Чымся любіць перастане.

Ёсьць-жа яшчэ ў мяне песень,
Поўных надзеі, жыцьця,—
Як-бы ня быў ім сьвет цесен,
Вырвуцца ў сьвет з нябыцьця.

Ёсьць-жа яшчэ ў мяне вера
Ў вольны мой родны народ,
Што—у патрэбе—з сякерай
Выйдзе за волю ў паход!

Ёсьць-жа яшчэ... Ну, а людзі?
Сябры-суседзі тут, там?
Вы—непадкупныя судзьдзі,
Што-ж, яшчэ хочацца вам?!

## І ПРЫДЗЕ...

І прыдзе новых пакаленьняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленьне
Жыцьцё прашлі, ці чарада

Зьняваг мінулых нас ня зьела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы падаўнаму нясьмела
Жылі ня ў лад і не ўпапад?

Ці аб свой гонар дбайна дбалі,
І добравольна, бяз прынук,
Самі сабой не гандлявалі,
Ня несьлі ў петлі дум і рук?

І ці пакінуці на памяць
Мы песень гэтакіх змаглі,
З якіх-бы можна было ўцяміць,
Што мы свабоднымі былі?..

А ўжо свой выдасьць непадкупны
Аб нас гісторыя прысуд,
Калі аглядам гляне рупным
І разьбярэ, ў чым справа тут.

У сьведкі запісы пакліча,
Паданьні клікне ў час такі
І ўсё паліча, пераліча...
А суд гісторыі цяжкі!..

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў ня зломак,
А плечы гнуў у крук ня раз;

Ня йшоў з адкрытымі вачыма
У сьвет і сьцежкі не прастаў,
А ўсёй магчымасьці магчымай
Таптаў сьляды, сябе таптаў.

## ЗА ЎСЁ...

За ўсё, што сёньня маю,
Што даў мне мой народ:
За кут у родным краю,
За хлеб-соль без клапот,—

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да сьвятла.

Для бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гымн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

Змагаўшыся з напасьцяй
За шчасьце для людзей,
Ня раз пісаў ў няшчасьці
Крывёй з сваіх грудзей.

Уносіў гэтым долю
Сваю для ўсіх дабра,
А болей... Што-ж там болей
Жадаць ад песьняра?!

## ЦАРСКІЯ ДАРЫ

*(З мінулага)*

Цар грозны, маскоўскі—вясёлы,
Шчасьлівы з пабедаў вялікіх—
У госьці і з местаў і з сёлаў
Нявольнікаў верных паклікаў.

Пад водгульле трубаў, літаўраў,
Пад рогаты ўпасьвенай дворні
Падносіць падданым ён дары,—
Нявольнікі прымуць пакорне:

Дару я табе, украінцу,
Украйны капальні і стэпы,—
За гэта вуголь і пшаніцу
Ты звозіш мне ў сьвірны і склепы.

У Польшчы ты, польскі народзе,
Жыві сабе й думай аб славе,—
Мне толькі хай ткуць ткачы ў Лодзі;
Чуў—пекныя полькі ў Варшаве.

Хай Латвію возьмуць латвійцы
І рыбную ў Бальтыцы лоўлю,—
Адно я да іхняй зямліцы
Баронаў дадам на гадоўлю.

Ты цешся, грузіне, краінай,
Тамарай грузінскаю слаўнай,—
Мне выдзеліш толькі часьціну,
Дзе пыхкаюць нафтай фонтаны.

Свой Крым, а з ім ханаў і мулаў
Бяры сабе, крымскі татарын,—
Мне-ж мора пакінеш агулам
І ўсе санаторыі дарам.

Ты, мой туркастанскі сабрату,
Ідзі ў Туркастан разжывацца,—
Ўзамен я каракуль і вату
З тваіх пазьбіраю плянтацый.

Табе, сібірак, без граніцаў
Сібір аддаю, мо' што высьпіш,—
Але мне да ўласнай скарбніцы
Сібірскае золата ссыпеш.

А ты, беларусе нямрушчы,
Вазьмі Беларусь на ўспамінак,—
Твае-ж прыдадуцца мне пушчы,
Мой царскі вялічыць будынак.

І права даю для ўсіх разам
Пладзіцца, як маку зярняты,—
За што мне за першым наказам
Дасьцё ўсе сыноў у салдаты.

Так грозны маскоўскі цар шчыра
Дзяліў між нявольнікаў дары,
Пад гікі прыдворных упыраў,
Пад водгульле трубаў, літаўраў.

## НА ПАГРАНІЧЧЫ

На пагранічча ценем-зданьню
Снуецца з кута ў кут трывога,—
То ў хату здрадліва загляне,
То мятусіцца ля парога.

У кожны год, як на асінах
Кара ад сонца адсычэе,
З сваім зьяўляецца ўспамінам
І мутным сочыцца ручэем.

Кусьнецца мухаю кусьлівай,
Насыціцца да перасыту,
І ў сэрцах забубніць пужліва,
Як цэп па такавішчы ўбітым.

*

На пагранічча вечнай вехай
Красуе памяць аб мінулым,
Калі разьюшанай уцехай
Жыцьцё ў крыві з крывёй танула.

Перад паглядам, як прывіды,
Ўстаюць расстрэлы і пажары,
Нічым ня сплачаныя крыўды,
Нічым ня вернуты ахвяры.

Красуе памяць папялішчаў
Іржою зьедзеных калючак,
З вятрамі жудасьліва сьвішча
І ў прысках топіцца пякучых.

*

На пагранічча кемкі знахар,
Калі тварыць варожбы хоча,—
Ён азіраецца на Захад,
Ён на Усход кіруе вочы.

А сейбіт, жменяй мазалістай
Загонам кідаючы зерне,
Надзеяй думкі назалістай
Да супакою не наверне.

Згадаць ня ў моц, як ні варожа,
Каму ён сее свой палетак:
Ці сам пажне і зьмеле збожжа,
Ці нехта іншы зьесьць хлеб гэты.

*

На пагранічча ціха, сонна,
Хоць, як пруты, напяўшы жылы,
Па той і гэты бок нязгонна
Стаяць варожыя дзьве сілы.

Праз пушчы, пасекі, загоны,
На рубяжы крывавай славы,
Абапал высяцца кордоны,
Абапал блукаюць заставы.

Падчас вуркне мотоцыклетка,
Воз контрабандны пракульгіча,
Ды бзынкне куля злоснай сьведкай,
На знак, што тут вось пагранічча!

## КАБ...

Каб таму па локаць
Адсушыла рукі
І аб сьценку біўся
Ад балеснай мукі,—
Хто сушыў ў няволі
Люд наш працавіты,
Задаваў вужача
Раны непазбыты.

*

Каб таму крукамі
Пакрыўляла ногі
І да роднай хаты
Не знашоў дарогі,—
Хто крыўляў нам праўду,
Застаўляў ў прыгоне
Бежанцамі гінуць
На бацькоўскіх гонях.

*

Каб таго скруціла
Гадзінавым скрутам
І прастала потым
Сухажыльным прутам,—
Хто круціў нам сьцежкі
Да жыцьця і славы,
Засьцілаўшы вочы
Туманом крывавым.

*

Каб таму маланкай
Асьляпіла вочы
І блукаў абмацкам
Ён у дзень і ў ночы,—
Хто для нашых дзетак
Хоча асьляпленьня,—
Бэсьціць чужаніцай
Думак прасьвятленьне.

*

Каб вады гарачай
На таго нагрэлі
Ї ня ўстаў ён болей
Са сваёй пасьцелі,—
Хто над Беларусяй
Хоча распасьцерці
Свой бізун чужацкі
Ї народ усьмерціць.

*

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часьці
Ї зьвяр'ё збрылося
Мяса параскрасьці,—
Хто быў прычыніўся
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.

## УЛЕТКУ

Соладка ўлетку ў дзень ройны
Ў зелені, ў кветках купацца,
З ветрам гуляць неспакойным,
З сонцам гуляць, цалавацца!

Слухаць лясное гамонкі,
Зважных, няўцямлівых шумаў,
Як гэта хвойкі-сасонкі
Гойдаюць ласкава думы.

Слухаць, як міла ля ўзьмежку
Гутарыць з коласам колас,
Як льлецца ў сэрца з усьмешкай
Нівы спагадлівы голас.

Музыка зычная ў сьвеце,—
Моўкнуць нягоды напасьці...
Хочацца думаць, як дзеці,
Верыць, як дзеці, у шчасьце!

## У ЛЕСЕ

Калі бывае мне маркотна,—
А я маркочуся часьцей,
Як гэта думае ахвотна
Мой дабрадзей ці ліхадзей,—

Тады іду я ў лес нядбала,
Каб не мазоліць воч людзям,
На мох валюся дзе папала,
І ўжо я з пушчай сам-на-сам.

Ніхто ня бачыць і ня чуе,
Аб чым тут гутарку вяду,
Дзе думка днюе і начуе,
Сваю хавае дзе нуду.

А з лесам сябры мы старыя,—
Ня раз праводзілі папас;
За сорак год нам дружбу крые,
Калі зышліся першы раз.

За гэты час, на век схаваны,
Шмат мелі ўсякіх лет і зім,—
Былі агні, былі туманы,
Было ўсяго са мной і з ім.

Цяпер, калі сюды прыду я,—
Знаёма, ясна, як сьляза:
Ўсё тыя шышкі лес гадуе,
Ўсё тая ўеццца дзермяза.

Таксама мох ляжыць, як воўна,—
Бы ў пуху песьціцца нага;
Ад птушак ройна, шуму поўна,
Глядзі ды слухай як мага.

Сягоньня бачу тут бярозку:
Была жывой—цяпер ляжыць,—
Як маёй смутнай долі цёзку,
Пасьпеў віхор яе скрышыць.

Бяз часу ёй прышлось замерці...
Ляжы, гаротная, ляжы,
Пакуль не разьбяруць па цьверці
Цябе на дровы ці крыжы!

На памяць мне прышла дзяўчына,—
Скажу—тутэйшая яна,—
І здарылася з ёй прычына,
Прычына жудкая адна:

Кашульку ёй зьнялі ў няшчасьці—
Суседзі, а ня іншы хто—
І падзялілі ўсю на часьці,
Як-бы дзяліць ня мелі што.

. . . . . . . . . . . . .

Прыціхне лес ды зноў аб нечым
Шуміць, гамоніць, колькі дуж,
Супроць вятроў каробіць плечы,
Ўвесь выгібаецца, як вуж.

Вароны ў высі крык заўзяты
Узьнялі, бы клянуць сябе,
А дзяцел дзюбаю зубатай
Дзяўбе сасонку ды дзяўбе.

Зязюлька ў тахт „куку" кукуе,
Як ёй хто голас натачыў;
Лічу, ці доўга павякую...
Замоўкла... мала налічыў.

## ВЕЦЕР

Ах, і з якой-жа дакукай
Бушуе са сьвістам крылаты!
Вые жалобна, як сука
Па ўтопленых дзецях-шчанятах.

З гікам праз нетры, ламочча
Імчыцца і ліжа вужакай,
Ліжацца ў вушы, у вочы,
Як тая сьлізьлівая п'яўка.

Скуль яго з немачай гэтай
Нялёгкая гоніць, прыгнала,
Як-бы яму людзей, сьвету
Бяз сьвету майго яшчэ мала?

Я-ж не прасіў і ня клікаў,—
Ня трэба такога мне госьця,—
Без тваёй музыкі дзікай
Патраплю злажыць свае косьці.

## МАЛАДАЯ АЧУНЯЛА

Ах, як сталася ўсё гэта?!
Як-бы нейкая камэта
Натварыла цудаў-чараў
І схавалася за хмару.

Зьнядужэла маладая,
Нібы сьмерць яе зьядае,—
Ці то хоча ці ня хоча,
Зазірае ў самы вочы.

Яе дружкі і нядружкі,
Як дасужлівыя служкі,
Баюць: верце ці ня верце—
Маладая ўжо пры сьмерці;

Што ў яе, мабыць, сухоты
Або іншыя слаботы
Не дадуць дажыці веку,
Колькі трэба чалавеку.

Людзі далі ў гэтым веру—
Надта-ж верныя ня ў меру,—
Паглядзелі бліжай, далей
І галоўмі паківалі.

— Што-ж рабіць, калі нядужа?
Пахаваем яе, дружа...
Так кум куму зважна кажа;
А ноч цёмная, як сажа!

І ніхто нідзе ня згледзіў,
Як тут рупныя суседзі
У вахвоту аж да поту
Узяліся за работу.

Той з сякераю, як дужы,
На дамоўку дошкі стружа
І габлюе гэблем гладка.
Ці ня рана, мой ты сватка!

А другі з стальной рыдлёўкай
Зямлю рэжа на дамоўку,—
Дол капае, дол глыбокі,
Каб пясочак быў нялёгкі,—

Каб, як ляжа, легла лепей
Маладая у гэтым склепе,
Сьвету больш не турбавала,
Ціха-ціха ў доле спала.

А суседкі без аглядкі,
Маладую ўклаўшы спаткі,
Пазабыўшы сьмехаў, гуляў,
Шыюць ёй на сьмерць кашулю.

Шыюць, шыюць дый заплачуць,
Аж адна аднэй ня бачаць,
Сьлёзы вытруць, потым сьціха
Шэпчуць: „Ах, якое ліха!“

А ў сьвятліцы на палацях
Маладая ў белай шаце
Уздыхае, ломіць рукі
Ад вялікай цяжкай мукі,

Што яе адну дзіцятку,
Як сіротку, без даглядку
На няласку, на нядбальле
Ўсе пакінулі бяз жалю.

— Хай кідаюць,—шэпчуць губы,—
Хай жадаюць маёй згубы,
Але дзе-ж той ненаглядны?
Ці і ён, як усе, здрадны?

Няўжо ён яе ніколі
Ўжо ня хоча бачыць болей?
А бажыўся з усёй сілы,
Што йшчэ вернецца да мілай,

Прынясе здароўе, шчасьце
І ня дасьць ён ёй прапасьці,
Потым разам удваёчку
Скінуць з думак, з сэрца ночку.

— Ах, вяртайся, мой саколе!
Паратуй мяне ў нядолі,
Ўсьцеражы сваю каліну,
Каб ня легла ў дамавіну!

Так адзін зышоў дзень з сьвету
І другі мінуў за гэтым,
Маладая ўсё йшчэ жыва,
Аж суседзям неяк дзіва!

Ўжо грабар—сусед замежны—
Дол ёй выкапаў належны,
І дамоўка ўжо гатова
І кашуля... адным словам!

А на трэці дзень навіна:
Той прыехаў да дзяўчыны,
Каго так чакала дбала...
. . . . . . . . . . . .
Маладая ачуняла.

Акопы. Чэрвень-ліпень 1926 г.

# НА НАЧЛЕЗЕ

## М. Нікановіч

### I

Шэрая брудзь змрокаў няясных коўзалася па-завугольлю ды пробавала выпаўзаць адтуль і ахінаць вёску шэрую, якая раскапусьцілася ў чорных, як сажа, клейкіх палёх. Тады гарбацілася вёска гэтая, прыпадала шчыльна к зямлі хаткам імізэрнымі і спуджана-тупа глядзела ў нямы прасьцяг вокнамі чырвона-крывавымі, міргаючы газоўкамі ды лучынамі... Часамі адзавецца галасамі чыстымі, звонкімі з якога-небудзь двара, і зноў задрэмле пад калыханку разудалага жартаўніка-ветрыка.

А то ў другім канцы скамячылася яна, сьцішылася, соладка заснула, прыкрыўшыся маўчанкаю, і здаецца, няскора ўзварухнуцца ёй імпэтам жыцьцёвым...

І толькі за гумнамі, пры кудлатым гаі, цераз які гультайна-паважна рачушка коціцца і мігціць срэбрам жывым пад шчодрымі пацалункамі праменьняў зор, згубіўшыся ў сьвежа-пахнучым лісьці, салавейка цешыўся... Ды няясныя вясноўскія гукі, разам з пахам зямлі прэлай, прыцішна-лагодна паўзьлі і самі сабою ўліваліся глыбока ў грудзі, і поўнілі іх радасьцю бурнай... І, здаецца, гэтай радасьцю вёска раптам абазвалася, замітусілася, усхліпнула галасамі маладымі, юнацка-задорнымі...

— Гэй, ты там?! Паўлік, сабірайся!..

— Міхась-вярэнька!.. Вывадзі свайго рысака!..

А потым перамяшаліся галасы гэтыя, схлупіліся, не пазнаць... Цэлай плоймай сыпнулі, з рогатам расплясkaліся...

— Адась тут?.. Жарабка...

— Ды пускай іх наперад!..

— Навыперадкі лупцуй.

— Выяжджай...

— Го-го-го-о!..

Залапаталі коні дружна па адцесьлівай дарозе, і галасы прыціхлыя ў гам зьліліся, і толькі пасьля, як гэта ўсё ўляглося, песьня пырснула і патачылася цурочкамі ў цягучую цемень ночы...

А што-ж гэта за вярба
Надта рана расьцьвіла...

Каціўся адзін напружана-высокі голас, і як толькі ён патануў у шырокіх сырых абшарах, тады раптам ускалыхнулася паветра цэлай жменяй галасоў рознастайных...

Гэй, гый!—Го-ха-хо!..
Гых, ха!.. Ха-ха-ха... а... а... а!..

А пасьля пачалі аддаляцца яны і паволі заміраць і, нарэшце, сьціхлі зусім.

А ноч чорнамазая абгортвала ўсіх, ахінала і, любоўна абняўшы, шаптала на вуха зыкамі рознымі: крыкам кнігаўкі, крэктам качкі спуджанай, сьвістам дзятла ў лесе...

І падступілася яна блізка к вогнішчу начлежнікаў, падцікоўвалася к ім, падслухвала гамонку іх... Але, разбаўленая кволымі праменьнямі водблеску, губляла свой колер і, як сава, тулялася за кустамі ды за гнілымі калодамі і карчамі... Паленьнямі раскіданымі хлопцы разьлягліся каля вогнішча, у гаі, што любоўна к лесу смутна-шумліваму, цёмнаму прынік. Зямля яшчэ сыравата, дык бурносы хлопцы разаслалі і, катушкамі ды сьвіткамі ўкрыўшыся, завялі гутаркі розныя: часам разумна-сталыя, часам гумарыстычна-сьмешныя... Ды не на адну хвіліну сьмех не спаўзае з твараў іх, бо жарты сыплюцца, як з меха.

Дый ня дзіва: яны комсамольцы, вось і б'ецца крыніцай з грудзей кожнага радасьць нясутрыманая, радасьць шырокай жыцьцяздольнасьці!..

Здаецца, што нават і коні прыслухоўваюцца да гамонкі хлапцоў, дзогаюць аб мякка-сырую сенажаць нагамі спутанымі, кідаюць пагляды на вогнішча з разумна-чорных вачэй і, падышоўшы блізка к чарадзе хлапцоў, стаяць ціха на адным месцы ды глядзяць з роўнадушнасьцю ў аксамітна-чорны прасьцяг.

І хто яго ведае, што яны думаюць у такім разе?.. Скаціна нема, выказаць ня можа, але каб яна хоць трохі магла гаварыць—яна-б напэўна нешта сказала, перабіла-б гутарку Сёмкі.

А Сёмка—кулацкі сынок, ня раз пробаваў убіцца ў комсамол, але ні аднаго разу яму і не ўдавалася гэта; так ён і астаўся з сваімі чэрства-сярдзітымі думкамі ды нейкай помстай к ячэйцы комсамолу.

І Сёмку слухаюць усе хлопцы, ловяць кожнае яго слова, каб потым асекчы яго, калі залішне загаворыцца. А на вёсцы ён першым багацеем лічыцца, самым зайздросным жаніхом і не адна маці паглядае на яго хітра-лісьлівы твар з носам-гузікам чырвоным, з тоўстымі сьлюнявымі вуснамі, марыць... Але, эт! Старыя жывуць з рахункам ды заўсёды мараць...

На арэхавым кійку Юзік сала пячэ. Яно сквэрыцца, пускае прыемны пах і час-ад-часу пробуе ўсхліпваць агоньчыкам сінім. Тады выхоплівае яго скоранька Юзік з агня і, пакручваючы на ўсе бокі, к лусьце хлеба прыціскае, каб тлустасьць дарэмна ня трацілася...

Усьміхнецца Юзік здаволена, шчурыць вочы свае блакітныя і сьліну глытае...

— Эх, добра!.. Вот ужо да чаго люблю я сала пячы на агні... Вось як тут, на начлезе... Любата!..

— І ня думай!.. Куды лепш і смачней зьясі, як дома печанае на патэльні!..—уставіў нехта сваю думку з чарады.

— Ды я заўсёды толькі вось і ем... Значыцца, на штышку падпечанае... перарваў у гэты час Сёмка сваю гутарку, кінуў насьмешліва-кпівы погляд на Юзіка і, усьміхаючыся агіднай усьмешкай, кінуў:

— Ды ты-б еў печанае і на патэльні, каб яно ў цябе было!..

— Добра што ўжо ў цябе ёсьць!..—агрызнуўся Юзік.

— У мяне то ёсьць, а вось у цябе?! Кацярына, мусіць, дала сягоньня скварку табе з здохлай сваёй сьвіньні, дык і цягаеш яе...

— С-с-с-сукін сын!.. Сволач кулацкая!.. І што я табе займаю ці чапаю цябе?!

Ускіпеў Юзік і нават забыўся ў гэты час на сала, якое лягло на корч і ўсхліпнула агнём...

— Гадзюка заўсёды шыпіць—ці ты яе чапаеш, ці не!.. Натура, бач, шляхецкая...

Не ўцярпеў ужо і Адась. Адась лічыўся ў вёсцы самым найлепшым парадцам, памоцнікам, абаронцам усёй беднаты вясковай; нездарма-ж яго сялянства ў час перавыбараў сельсавету і камітэту ўзаемадапамогі ў сябры выбралі як у сельсавет, так і ў камітэт. Акрамя гэтай працы ды сакратарства ў ячэйцы, Адась часта папісваў у газэты і ніколі не прамінаў, каб ня выкрыць якога-небудзь злачынства, зробленага кулаком над бедным селянінам. Ня раз ужо ён абсякаў хвасты шляхце—кулаком; дасталося ад яго пяра і Гарасіму, бацьку Сёмкі. Якраз перад самым кірмашом яго міліцыя накрыла гонячы ў восеці самагонку на продаж. Не пашкадавалі тады Гарасіма і здорава нагрэлі.

Кулаччо ня любіла Адася, здаецца, з перцам яго зьела-б, але затое рэшта сялянства прыхільна адносілася да Адася ды лічыла яго за аднаго з найлепшых комсамольцаў.

Так-жа любіў іх і Адась, і ў кожным разе, у кожным выпадку гатоў стаць за сваю беднату грудзьмі.

Так і цяпер. Ня мог сьцярпець Адась насьмешак сына кулацкага над пастухом.

— О, нашоўся другі!..—закоўзаўся Сёмка.—Галата сіберная... Морда мужыцкая!..

Нібы пугаўём сьцебануў па ўсіх Сёмка, нібы электрычны ток пусьціў па шэрагу начлежнікаў... Насупіліся хлопцы, вачыма бліснулі...

— Не хваліся, дурань!..

— Ня лайся, кулачок!.. Эх, ты!..

— ...А то морду вот тваю шляхецкую...

— ...На порхаўку...

Здагадаўся Сёмка, што справа можа кончыцца і ня зусім добра, і, ублытаўшыся ў маўчанку, ад агня адвярнуўся...

А ночка трапяталася, пляскалася ў твар кожнаму сьмехам разудалым, паддзьмухала ветрам цёпла-парным з паплавоў мокрых, лашчылася кошкай чорнай за сьпінамі начлежнікаў.

Гутаркі тады паплылі ў хлапцоў. Аб абрэзках зямлі загаманілі; усякі радаваўся, думкі свае выказваў, часам жартамі перасыпаў іх.

— Вось тады мо' зажывём як сьлед, пановаму...

— Добра ка'а, пановаму, пашматпольнаму... Гы-гы-га!.. Як зямелькі, значыцца, прырэжуць ад кулацкіх гэтых, значыцца...

— Скора ўжо... Ось тады як запяюць яны...

— Гарасіміха і так качалася па зямлі, не давала яе нікому ні араць, ні сеяць, а тады дык мусіць лопне ад злосьці!..

— Ха-ха-ха!..

— Праўда, брат!.. Гы-гы-гы-га-а-а!..

У гэты час узварухнуўся ўзноў Сёмка і, выставіўшы з-пад кажуха кудлатую галаву з узьбітым чубам „паказацку“, сыкнуў у кучу.

— Хутчэй вы палопаеце ўсе, чэрці, ад голаду, чымсь Гарасіміха ад злосьці!.. Мусіць не даждацца вам гэтай зямелькі... Хацела-б галата ў рай...

Узноў кіпнем усхадзіліся начлежнікі і невядома што-б было, каб Сёмка не ўхапіўшы свае кажухі ды ня даў заду ў кусты ад начлежнікаў...

## II

Ну і хто гэта ня ведае, як прыгожа бывае раніца вясноўская?! Яшчэ неба сінь-бельлю ня ўмылася, яшчэ запазьніўшыяся зоркі жарталі мірганьнем сваім, а ўжо птушкі будзілі гай, поплаў шырокі, поле...

На лубяку, каля кучы асіньніка і бярэзьніка цецярукі забалбаталі і нават чуваць, як цяжка-глуха лопалі сваімі здаровымі скрыдламі... Жаваранак ужо тапіўся ў блакітнай шыры; вольна-шырокімі зыкамі поўнілася сьвітаньне.

А неўзабаве і красуня-сонца косы свае раскудлачаныя з-пад цёмнай хусткі бору старога выпусьціла і космамі залатымі неба ўхарошыла. Коні чхалі ды раскаціста ірзалі радасьцю маладой, вясноўскай, здаволена галовамі памахвалі, адчуваючы сьвежую сакавітую траву: надаела ўжо прэлае, сьмярдзючае сена з асакою ды елачкаю ды сечка саламяная...

Ад ірзаньня гэтага і папрачыналіся начлежнікі.

— Хлопцы!.. Уставай хутчэй ды дамоў!..

— Пакуль дамоў, дык карчоў падлажы... Абагрэцца хаця...

І калі ўсе начлежнікі, калоцячыся ад ранішняга холаду, лезьлі грэцца к вогнішчу, тагды толькі запрыкмецілі, што сярод іх Сёмкі ня было...

Ён за ноч некуды зьнік з сваімі коньмі.

— Ну, хлопцы, як сабе хочаце, а справу з абрэзкамі кулацкіх гаспадарак так аставіць нельга!..—ужо добра абагрэўшыся, зьвярнуўся да ўсіх Адась.—Калі добра ўзяцца за гэта, дык у нас па нашаму сельсавету зямлі, брат, хопіць для ўсіх, каб надзяліць безьзямельных і малазямельных... Блізка 30 гаспадарак кулацкіх...

— Больш!.. Куды больш!..

— Ну добра!.. Няхай будзе 30. Глядзі: няхай па пяць дзесяцін адмахнуць—ужо табе 150 гатовенькіх, а ў некаторых не па 5 адрэжуць... Вось як, напрыклад, у Гарасіма... там, брат, на 15 блізка пойдзе!.. І трэба самім за гэта дзела ўзяцца!..

— Ну, панятна!.. А хто-ж гэта зробіць за нас, калі ня мы самі?!

— Ты, брат, Адась, махні за нас за ўсіх!.. За усё вобчаства, пастарайся!..

Адась толькі ўсьміхнуўся.

І не адзін вечар так гаварыла паміж сабою моладзь і старыкі, будучы на начлезе, бо тэма гэтай гаворкі была што ні на ёсьць балючая. І толькі гаварылі, а заяву на абрэзку падаваць ніхто не хацеў, усё ускладалі адзін на аднаго. Кожын баяўся ўгнявіць кулака, кожын думаў, што гэта толькі гутарка, прыемная, душухвалюючая думка—і толькі, а зямлю ніхто парушыць ня зможа...

— Чорт яго ведае!.. Боязна неяк...

— І то праўда!.. А калі не абрэжуць ды неададуць нам, дзе-ж мы пласт саломы дастанем, пуд хлеба ў галадоўку?!

А потым падбадзёрвалі сябе думкамі вясёлымі.

— Э, чаго там баяцца?! Калі наша ўлада так кажа, дык і зробіць!.. Гэта-ж не даўней!..

— Добра ка'аж!..

І справа заўсёды на гэтым канчалася.

Неяк у сьвята, калі, трохі падрабіўшыся і ўсеяўшыся, сяляне кучамі абселі прызбы і размазвалі гутаркі розныя аб пасевах, аб усходах, аб міжнародным становішчы, якое, як на дзіва, заўсёды ведаў Цімох (за што і звалі яго ў вёсцы „Бабскі Весьнік“) і заўжды апавядаў сялянам з мастацкай манюю, дый цяпер пробаваў завесьці сваю шарманку,—нечакана Адась цэлы жмут газэт прынёс...

Кожын ведаў Адася, што ён можа добра прачытаць і як сьлед растлумачыць незразумелае, і ўсе мужчыны, кінуўшы пустыя гутаркі, абкружылі Адася.

— Чытай, брат, што пішуць!..

— Мо' пра нас што ёсьць... мужыцкае што?..

— Т'каля аб зямлі там паглядзі!..

Адась ужо ведаў заранёй настрой і жаданьні сваіх вяскоўцаў і толькі чакаў часу, калі сьціхне грамада, чакаў, калі падплыве яшчэ больш мужчын...

Разварачваючы газэту, твар радасьцю асьвяціўся, усьмешка скаўзанула... Ён знашоў сваю заметку...

— Ну, што, усе сабраліся?.. Чытаць можна ўжо?..—падняўшы галаву і абводзячы заднія шэрагі шукаючым паглядам, гучна спытаў Адась.

— Валяй, валяй!..

— Усе тут...

— А мо' хочаш, каб за хутаранамі, за шляхтай паслалі?..—нехта зарагатаў.

— Дый не мяшала-б!.. Аб іх тут і гутарка будзе!..—насьмешліва кінуў Адась і пачаў чытаць.

Аж раты ўсе паразьзяўлялі, калі Адась пачаў ім пра абрэзкі зямлі чытаць, пра тое, што шляхту іхнюю трэба абрэзаць ды ў першую чаргу Гарасіма, бацьку Сёмкі, як заўзятага эксплёататара і кулака...

Як кончыў чытаць Адась, захвалявалася грамада, нібы лес у навальніцу ці жыта ў непагоду... Галасамі рознымі адазвалася.

— Так!.. так!..

— Ото-то-то!.. От добра, от добра!..

— Вот калі шляхтам штаны падрэжам!..

— От нехта лоўка хваціў у газэце гэтай!..

Гаманілі-рагаталі, здаволенасьцю агульнай захопленыя, цікавіліся...

— Хто мог напісаць гэта?!

А моладзь слухала і гэтак сама радавалася ды пасьмейвалася: яна ведала, што гэта ня мінула Адасёвага пяра...

— Ен, падла!.. Ён, Адась гэты!.. Ён толькі так можа... яго работа!..

— Дый больш ніхто!.. Адась нас абароніць, хто-ж тут больш?..

Ужо разыходзячыся, талкавала бедната. А Адась у гэты час ня спаў і, сабраўшы ўсіх беднякоў, старыкоў і моладзь, запрапанаваў напісаць агульную заяву, прылажыць да яе газэту і падаць куды належыць аб хутчэйшым абрэзе іхняй шляхты...

Так і зрабілі.

А неўзабаве камісія з раёну прыехала ўсе кулацкія гаспадаркі абгледзела, ацанавала, зямлю памерала і, абнадзеіўшы беднату атрыманьнем зямлі, паехала.

Вестка аб гэтым разьнеслася далёка, што абразаецца шляхта Ганушэўская...

А шляхта-кулакі, аднекуль дастаўшы газэту (бо самі газэт аніякіх ня выпісвалі, лічачы бескарыснасьцю), дзе пісалася аб як найхутчэйшай абрэзцы іхніх гаспадарак, чыталі і, дагадваючыся, клялі Адася, бо прыяжджаўшая камісія казала ім, што, дзякуючы заметцы ў газэце, яны парушылі іх ціхі спакой.

— Ён, сукін сын!.. Басата гэтая!.. Больш ніхто тут так ня зробіць, акрамя яго!.. Баяцца-ж нас усе, бо вясной куды каторы дзенецца бяз нас, як бясхлебіца прыпрэ... як карова іх сабакам завые?!

— Дык што-ж гэта такое?.. Няўжо нам і канец прыходзіць і ўсё з-за галадранца гэтага?.. гаварыў усёй сваёй кампаніі за чаркай самагону здаровы, аплыўшы тлустасьцю, з лысінай-месяцам чырвонаносы Гарасім...

Яго рукі, размашыста-шырокія, упэўненыя, гаварылі аб яго ўпартай, паважна-шляхецкай натуры.

— Так, пане Гарасім, так!.. Дзела дрань!..

А нехта з кампаніі, з вялізнага каўнера бурноса ціха-асьцярожна падаў думку:

— Убраць нада...

— Як гэта?..

— Што ўбраць?..

Не здагадаліся ўсе.

— Убраць?! Значыцца, з сьвету гэтага, сволач такую... Каб не паскудзіў, не замінаў добрым людзям жыць!.. Ось як...

Маўчанка распаўзлася, а потым парушылі яе ўжо шэптам гадзючым, злосна-недалужным...

А Адасю і ў думках нават не зварухнулася, што там негдзе ў гнязьдзе шаршнёў, закураным пахам тлённым, самагонным, гатуецца нешта жудаснае, страшнае...

Шаршні хочуць джала сваё паказаць, укусіць сярдзіта, сьмяротна ды ў самае балючае месца грамадзкасьці вёскі...

Камісія-ж, якая павезла к сабе гатовы матэрыял, не драмала, а выносіла пастанову аб хутчэйшай абрэзцы Ганушэўскіх кулакоў, каб зьнішчыць тую ненормальнасьць клясавых супярэчнасьцяй, тую эксплёатацыю і зьдзекі, якія ўтвараюць над беднатой вясковай кулакі гэтыя.

## III

Прабегла ўжо ня мала часу пасьля ад'езду з вёскі Ганушэвічы раённай камісіі, а вынікаў ня было чуваць ніякіх. Бедната вясковая ўжо пачала і сумнявацца, час-ад-часу недавер'е пракоўзьнецца ў каторага, бывае, калі размову пачнуць весьці на гэту тэму, дык часта сярод агульных разваг, радасьцяй аб скорым надзеле зямлёй, надзей на лепшае жыцьцё, ценьню пералётнай птушкі апаска мятнецца...

— А калі ўсё гэта толькі пацешыць нас?! Толькі вочы адвесьці, што вось, значыцца, і прыехалі, і памералі...

— ... А вы і чакайце!..

— Чакай... Пятра—сыр зьясі!..

Але ў гэты час, хто слухаў такія размовы і ведаў, што гэта зроблена не на сьмех, не на жарты, заўсёды падаваў сваю сталую думку.

— Кінь, хлопцы, ляскаць пустое!.. Калі пачалі што рабіць для нас, мужыкоў, беднаце, значыцца, дык і давядуць да канца і зробяць... Сумлявацца ня сьлед!.. Ды скажы каторы мне, калі-ж ткі нас яны ды ашукалі?..

— Хто гэта?! Бальшавікі?..

— Ды няо хто!

— Дык яно верна!

— Ну і па гаворцы канец!..

Так гаманіла, радзілася паміж сабою бедната ганушэўская. З дня на дзень чакала, што скажа раён і калі...

І, нарэшце, прычакалі.

Тагды лета было на самым пуку, за касьбу некаторыя мужчыны пачалі брацца, бедната тая, у каго хлеб даўно з стала і сьвірна ўцёк— дык і зажынаць ужо папробавала: хоць і не дасьпеў яшчэ хлеб у каласох, дык у восьці дойдзе... Бо ня вытрымаць-жа бяз хлеба!..

Некаторыя вяскоўцы дык і рукой ужо махнулі на абрэзкі, аж надзею ўсю згубілі, толькі самыя беднякі, якім не сягоньня—дык заўтра трэба было кідаць свае дзьве ці дзесяціну з чвэрткай зямлі на 7—9 душ, якія, пакроіўшыся сярод суседніх палос на пятнаццаць, дваццаць два кавалкі і выцягнуліся рушнікамі на паўтары вярсты, якім трэба было ўсё кідаць і браць пугу ды гнаць на паству вясковыя каровы і сьвіньні, бо зямля ўжо не хацела радзіць,—вось гэтыя, дык надзеі ня гублялі. Яны падбадзёрвалі і другіх яшчэ.

— Ня ўсё разам робіцца!.. Трэ' пачакаць!... Сказалі-ж так!..

— Гэта-ж не блазнавацца яны ўздумалі, а дзела рабіць!..

Думалі ўсе, што аж на тое лета абрэзкі з надзеламі пройдуць, ажно зусім нечакана, неяк вечарам, калі статак пацягнуўся дамоў з паствы і бабы вячэру рыхтавалі, тады ўсе бачылі, хто на вуліцы ў той час быў, як двое таварышоў, з раёну, з портфэлямі, праехалі па вуліцы і накіраваліся к хаце старшыні сельсавету.

Хваляй радаснай думкі-дагадкі паскакалі па вуліцы.

— Камісія прыехала!..

— Абразаць кулакоў, гэта значыць...

— Каморнікі, надзяляць нас будуць...

Зашыхоліла вёска, гамонкамі рознымі ды дагадкамі напоўнілася, радасьцю непадробленай твары ў беднякоў асьвяціліся... А цераз гадзіну хата старшыні роем пчаліным гула... Уся вёска сабралася.

У табачным дыму галасы плавалі, пытаньні сыпаліся...

— Дык, значыць, к нам, таварышы?..

— Кулачкоў кратаць будзем?! Га?

— Зямельку здабываць?..

— Так, мужчынкі, так!..—супакойваў усіх немалады ўжо, з барадой мяцёлкай, у шэрай сьвітцы адзін з прыехаўшых.

Яго разумна-карыя вочы ўпіваліся ў кожнага мужыка, варушылі чорныя змаршчакі ў усьмешку добрую, ціхую і шчакаталі сэрца радасьцю новай, здаволенай. Тагды расьпяразваўся кожын у думках і выкладваў іх перад прыежджым таварышам, як на далоні.

— Дык вы, мужчынкі, цяпер нават, каб дарма часу ня губляць, пішэце заявы каму хочацца атрымаць зямлі і каму на пасёлак... Бо заўтра мы і пачнём...

Закірмашавала грамада. Хто граматны—той бесьперастанку страчыў заявы, і неўзабаве цэлы стос іх вырас перад носам камісіі...

Амаль цэлую ноч прасядзелі мужчыны ў хаце старшыні, вядучы гамонку ўсё-ж аб абрэзках, і толькі далёка за поўнач пачалі памалу разыходзіцца...

А назаўтрае раніцай уся вёска на нагах была: узноў хата старшыні стрыножылася...

І толькі праз два дні ўпартай працы „ад цямна да цямна“ кончылі працу па разбору заяў і да абрэзкаў прыступіліся...

Цэлая вёска павaліла на хутары за камісіяй глядзець, як гэта будуць „абразаць“, што кулакі будуць рабіць... А каму належаў надзел, той ішоў, агорнуты радасьцю, вымяраць сабе кавалак зямлі, пра надзел якой ён толькі марыў ды часамі сьніў... І Адась уцёрся ў грамаду і неўзаметку ішоў ды падслухваў радасныя гамонкі вяскоўцаў.

Неўзабаве ў хутар Гарасіма ўпёрліся. На двор не пашлі, а паслалі хлапцоў, каб пазваць сюды, на поле, гаспадара.

Вышаў і Гарасім. Вакол яго—чарада суседзяў-кулакоў. Відаць, паседжаньне рабілі, радзіліся, як рабіць і што, ды скраплялі свае пастановы самагонам, бо ў Гарасіма ўжо і язык адмаўляўся служыць... Заплыўшымі п‘янымі вачыма аглядаў ён грамаду, шырока расставіўшы свае крывыя ногі: у гэтых шэрых вачох час-ад-часу ўсхліпваў воўчы aганёк...

Рэшта з кулакоў падсьмейвалася, хіхікала, вострыя слоўцы, ахварбованыя ў „мат“, пускала ў вяскоўцаў...

— Ба-а-а-с-с-сата, вы!.. Гых!..

Прыдушана-агідна выкінуў цераз вусы Гарасім.

— Вот, грамадзянін Гарасім Буратоўскі, ад зямлі, вамі карыстаемай, належыць адрэзаць у запасфонд для надзелу безьзямельных і малазямельных 15,9 дзесяцін усіх угодзій...—зьвярнуўся к Гарасіму адзін з сяброў камісіі...

— Скулу вам у горла, а не пятнаццаць дзесяцін!.. Я вось тут...—замітусіўся сярод шаршнёў Гарасім, шукаючы нібы абароны ў іх, нібы кала якога... А потым, з налітымі крывёй вачыма, сьціснуўшы кулакі, кінуўся к камісіі...

— Вон, басата!.. Вон з маёй зямлі!..

— Ня тронь!..

— Ня тронь!..

— Ня руш!.. Сволач ты няшчасная!..

Раўнуў раптам натоўп і ў вачох іхніх аганькі ўсхліпнулі зыркія, жудасныя... У самых бяднейшых—самі сабою рукавы кашуль к лакцю паехалі...

Хоць сягоньня жадалася беднаце права сваё адстаяць, выліць усю крыўду і злосьць, якія гадамі накіпалі ў моцных мужыцка-працавітых грудзёх, бо ня толькі гадамі, а нават цэлымі вякамі мазольнае права і справядлівасьць тапталіся няшчадна бруднымі ботамі прыгоншчыны, і толькі сьлёзы дажджом, пот ручаём, кроў сукравіцай ліліся на загоны і то не на свае, а на панскія... Гэта мінулася, але ў памяці мужыка гэтая чорная пляма яшчэ не пасьпела сьцёрціся назаўсёды, і сягоньня, замест колішняга пана-прыгоншчыка ў поўнай сваёй велічы кулак-шляхціц паўстаў з ружовай панскай кроўю ў жылах сваіх... Вось чаму і выбухнулі так раптоўна скрытыя дагэтуль пачуцьці бядняцка-мужычыя...

Трэба было-б яшчэ адно слова, адзін рух з боку кулакоў—і распачалася-б бойка, няшчадная, рашучая, не на жыцьцё, а на сьмерць. Заўважыў гэта адзін з таварышоў і ў час спыніў...

— Ціха!.. Гр-нін Буратоўскі, гаварэце, з якога боку вам выгадней аддаць?

— Ад дарогі мер!..—буркнуў Гарасім і абмяк.

І паскакаў сажань паміж жыта і ярыны Гарасіма, адразаючы ладны кавалак зямлі пасечнай, чорнай, тлустай...

— Эх, тут і зямелька добрая!.. Пасека...

— І не кажы!.. Бяз гною родзіць!.. Бач якое жыта!?

Гаманілі-цешыліся паміж сабою сяляне.

У гэты час жонка вышла Гарасімава з-за брамы і, угледзеўшы, як уся вёска топча сьцежкі ды забівае па полю калікі,—заламала свае поўныя рукі і рынулася вобземлю...

— О, матка боска!.. Езус пане!.. Хамы... Хамы!!!—раўнула каровай Гарасіміха і згубіла ад непамернай злосьці прытомнасьць.

— Го-го-го!..

— Гы-гы-гы!..

— Ого-го, брат Гарасім!.. Глядзі, твая жонка езусу душаньку, мусіць, аддала!.. Хацела з зямлёй на той сьвет...

Мятнуўся Гарасім і з крыкам кінуўся к жонцы. У гэты час дачка выскачыла з двара і з бацькам, падхапіўшы яе, патарабанілі ў хату...

Дзьве нядзелі працавала камісія над абрэзкамі кулацкіх гаспадарак, дзьве нядзелі бедната атрымоўвала прырэзкі да сваіх вучасткаў зямлі і так надзелы. І ў кожнага кулака адна і тая-ж сьцяна праклёнаў, пагроз і кпінкаў з працы камісіі; былі выпадкі, што зачэплівалі ганьбою чорнай і ўладу...

А як уся вёска пачала касіць сена ды жаць жыта—той, хто атрымаў прырэзку ці надзел, гэтак сама кінуўся касіць, жаць і звозіць тое, што папала ад кулака ў яго вучастак надзелу...

— От цяпер, брат, паглядзім, хто гультай, а хто працаўнік, калі я і ты зраўняліся!..

Гэтак кідаў не адзін бядняк „свайму“ кулаку цераз мяжу надзелу...

Той толькі скрыгаў зубамі.

## IV

Усяго толькі тры месяцы прашло пасьля надзелу беднаты зямлёю, а зьмяніліся абшары, што шляхта калісь-то імі карысталася. Паміж шырокіх і аграмадных гнёздаў шаршнёў прыткнулася бедната быўшая і весела глянула з сваіх палеткаў хаткамі новымі з сьвежа-сьсечанага дрэва ды на нова дзе перасыпанымі. Гумны з заду хат селі, азяроды цымбаламі зайгралі, калодзежы песьню запелі...

Чуваць, як новы дух з новым бытам ламалі пасялкоўскія загарадкі і лезьлі ў хату, на двор, у хлявы, нясучы за сабою бязбожніцтва, культуру—шматполку, добрую пародзістую скаціну.

— Мы дык і на чатырохполку пераходзім!.. На новай зямлі лягчэй і ямчэй, дый карысьці больш будзе, агроном казаў... з радасьцю малога дзіцяці гаварыў які-небудзь бядняк, сустрэўшыся з сваім „гаспадаром“.

Ухмыляўся толькі той у бараду, міргаў хітра вокам і, кашлянуўшы ў кулак, ціха кідаў:

— Гэта можа і ўсё добра, але толькі не для цябе!..

— Чаму?..

— Таму!.. Стаў сваю хату ды ўсю сваю шматполку-матполку на калёсах... Каб, значыцца, у час выбрацца адгэтуль... Хі-хі-хі!..

Ківаў зьдзіўлена галавою на „гаспадара“ які-небудзь Мікіта і, усьміхаючыся, адыходзіў.

А пасёлкі расьлі, як грыбы ў дождж.

Ды яшчэ дзедаўскія звычаі пачалі яны ламаць: часта к сабе агронома на параду запрашваюць, вэтэрынара к скаціне, а не шаптуху-бабу, як кулакі-шляхта; Адась-селькор падпіску на газэты сабраў. Хоць і трудна, грошай малавата, але кожны пасялковец газэту сабе выпісаў.

Хочуць вучыцца па газэціне!

А кулаком гэта—сьмерць.

І пачалі яны, кулакі, значыцца, часьцей сабірацца, пасяджэньні рабіць патайныя, сакрэтныя, нешта ўсё раіліся, абгаварвалі ды на канцы самагонам скрaплялі...

І неяк раз, калі ўжо восень залатая глядзела на панадворак, трапечучы медзьдзю лісты на дрэвах, жартуючы прахалодным ветрыкам у зжатых снапох абітага акалоту на гумне, калі ноч, як зямля гэтая чор-

ная, ліпкая, прыпадала к вакну і засьцілала посьцілкамі іх, як ваканіцамі, тагды-ж у гэтым гнязьдзе шаршнёў гуд ціхі, сьмяротны працяў непарушную ціш, аж ноч здрыганулася за вакном Гарасімавай хаты...

— ...Забіць яго!.. Сачыць за ім, і ў кожную мінуту ўбраць яго, чаго-б гэта нам ня варта было!.. Адась усё нам нарабіў!..

А Сёмка слухаў і радаваўся; ён ужо даўно падбіраў момант адмсьціць Адасю за начлежнае, але ўсё неяк сутрымліваўся, а цяпер—рукі разьвязалі.

V

Ноч удалая распасьцёрлася, хоць і дыхае ў твар начлежнікам халадком вострым, скрозь восеньню позьняй працятым. Але нічога. Начлежнікам гэта не пяршыня: яны ўжо не адну ноч правялі тут пры рэчцы ціхай, не адна ночка ледзянымі драцінкамі ўсякага навылёт працінала і прымушала дрыжэць, трапятацца лістам асінавым пад буйным ветрам. Але і гэта нічога!

Вогнішча тады грэе-лашчыць мілей маткі роднай, цалуе-галубіць твар бурачковы...

А сягоньня што?! Адна ўцеха, а не начлег! І пяюць хлопцы, сыплюць макам песьні разудалыя...

— Хлопцы, сягоньня і шляхта будзе на начлезе!..

— От дзе свалата!.. Багатыры!.. Як быццам сена ў іх не хапае...

— Дый ніколі-ж яны не вадзілі ў гэты час...

— А хто табе казаў?..

— Адкуль ты гэта ведаеш?..

Запытаў Адась у белабрысага хлапца, убудованага ў вялікі стары, аж блішчыць—так сацмуголены кажух, падперазанага ў дзьве столкі пастронкам.

— Сягоньня я ў коопэратыве быў, дык там гэты быў, Сёмка... ды і кажа, значыцца, пытае ў мяне, а ці павядзём мы сягоньня на начлег... А я к'у, што павядзём!..

— Дык ён што?..

— Дык і я павяду, к'а...

Нешта як-бы мулкае, нядобрае кранулася ў душы Адася, пачуцьцё тупой апаскі павярнулася ў сэрцы і, выпрастаўшыся, глянула ў вочы...

„Допіс зьмясьціў у газэце“... неслася ў Адасёвых думках, „чыталі і яны яго, сволачы, ды, чуваць, сыкалі здорава“...

І тагды раптам прыпомнілася Адасю, аж повад аслаб у руках яго, мігнулася адно маленькае здарэньне, на якое ён у той час і не зьвярнуў увагі...

...П'яны Гарасім, ідучы ноччу (неяк летам), сустрэўся з ім, з Адасём, і тады, закурваючы, сказаў ціха, праз зубы:

— Эх, братка, Адась!.. Штучкі я з сабой не захапіў сягоньня... аднэй гэтакай... Хі-хі-хі!.. Даўно ўжо гатую табе гасьцінец... Шкода, гм... шкода...

— Што, дзядзька?..—не зразумеў той.

— Я цябе!..—і тут у нявымоўнай злосьці, запусьціўшы трохмэтравы „мат“, Гарасім сунуўся к Адасю, але той усьпеў адскочыць у час у бок, і Гарасім, ня стрымаўшы роўнавагі, распластаўся на дарозе...

Вось сягоньня нешта так яскрава і паўстала ў думках Адася гэтае здарэньне. А потым у пачуцьцёх нешта зьявілася—жудаснае, апасьлівае...

— Але, ат!.. Чаго гэта я?!

Як-бы прачнуўся ад сну Адась і, тармазнуўшы за повад ды грукнуўшы каню пад бакі старымі ботамі, заехаў наперад чарады. Узноў пасыпаліся, як дзе на вечарынцы, галасы розныя, разьвясёлыя... Яшчэ здалёку хлопцы ўбачылі на ўзгорку, пры гаі, куды заўсёды і вадзілі на начлег коняй і там начавалі, як валасамі чырвонымі агонь кудлачыўся... Ноч расступалася, плуталася па мокрых купінах і кустох, а ўсё-ж ткі не магла схаваць за сваёй сьпіною гэтакія-ж сама, як і яна, чорныя постаці.

— Ужо яны і агонь разлажылі!..—нехта азваўся з начлежнікаў.

— Што?.. Паедзем к ім ці будзем выбіраць іншае месца?!

— Паедзем туды!.. Цяпло гатовае, ня трэба будзе і турбавацца класьці...

— Паедзем!..

— Ну што-ж, паедзем!..—ціха, як-бы сам для сябе, згадзіўся і Адась. Спачатку нечага было замітусілася пры вогнішчы чарада начлежнікаў, калі пачула конскі тупат, а потым узноў прыціхла, прыпала к зямлі карчамі вялізнымі, нязграбнымі...

— Здарова, хлопцы!..

— Нех бэндзе пахвалёны, панове шляхты!..

Кінулі па слову з грамады прыехаўшых.

Тыя зірнулі і насьмешку скрывілі, а Сёмка, падняўшыся на локці, заірзаў жарабком і гукнуў самаздаволена:

— А мне ўсё роўна—што хам, што шляхціц... Здароў!..

Сёмка асабліва націснуў на слова „хам“, так што яго выраз не застаўся незапрыкмечаным Адасем і ўзноў у яго ў сярэдзіне, негдзе, глыбока ў сэрцы шавяльнуліся і апаска і злосьць адчайная. Ён ведаў, што ў гэты час ён добра, „пасуседзку“ гаварыць з імі ня будзе.

Сталі к вогнішчу пад'яжджаць і пасялкоўцы, якіх, як сьмерці сваёй, ня любіла шляхта-абразанцы.

Узноў, як і тагды, увесну, сталі пячы сала на агні, узноў пачуліся кпінкі з боку беднаты над кулакамі, і цяпер ужо не такія, як калісь:

гэта былі бадзёрыя, упэўненыя ў сваю мазалістую моц словы, прасякнутыя ненавісьцю к багатым і вялікім замілаваньнем да тых, хто ўздумаў ды зрабіў: надзяліў іх зямлёю...

Не праміналі і Адася, які гэтак сама з другімі начлежнікамі пёк сала і прыслухоўваўся да гутаркі.

— Дзякуй ім, гэтым комуністам... бальшавіком! Далі нам хоць жыць, як... вось скора падмацуемся і зусім добра будзе...

— Ды дай рады!.. А усё-ж трэба мець падзяку і Адасю нашаму... каб не яго газэта, дык і чорт ведае колькі-б чакалі?!

— Праўду ка'аж!..

Здаволена гаманіла паміж сабою бедната.

А ў гэты час кулакі ад злосьці лопалі, асабліва Сёмка. Вачыма шэрымі тачыў Адася і ўнутры радаваўся ўцехай зьвярынай...

Ночка-ж пляскалася аб вогнішча і, скрыўджаная нядбайствам да яе начлежнікаў, плакала за голымі кустамі лазьняка, плачам дзіцяці...

## VI

Забалявала віхура сярод ночы, зашкуматала дрэвамі напоўголымі, плаксівымі, і заплакалі яны сьлязьмі жоўта-залацістымі, халоднымі...

А вецер скіголіў, песьню жудасную пеў, пляскаўся за пахілымі вольхамі па рэчцы, як-бы радаваўся, што хоць у гэтую ноч яму ніхто не перашкаджае разгуляцца, распрануцца памаладзецку. А яна, гэтая ночка цёмна-каравая, валасамі сваімі доўгімі і чорнымі, як сажа, ахінала ўсё шчыра і гэтак сама падсьвіствала ды ўздыхала ў тахт ветру буйнага...

Весела, мусіць, было і ёй.

Начлежнікі ўжо даўно спалі, карчакамі аблёгшы вогнішча мізэрнае, недалужнае; сьціскалі яго колам жывых сьвітак і кажухоў.

Ня спалі толькі Сёмка з сваімі таварышамі; лёгшы воддаль ад чарады, яны ўсё нешта ціха-прыдушана шапталі, аб нечым згаварваліся, ды пачуць толькі немагчыма было, бо шэпт іх вецер-дурань падхопліваў і адносіў далёка за сырыя кусты хмызьняка і купіны з пасохшай леташняй травой на дрыгве і там весела пеў аб нечым...

Не, не ды і адарвецца які-небудзь кавалак іхняй гутаркі і да вуха Адася даляціць!... Раскудлачаная думка завіхаецца растрасьціся ў мурог сухі на ветры, але чуткае вуха Адася ловіць...

— ... трымацца разам... якое што, дык...

— ... на коні... баста...

І сполах нейкі прабірае Адася, злосьць. Пад шчыльна падпяразаны кажушок падлазіць і дрэпае па сьпіне пальцамі прыкра-халоднымі, мяртвячымі... Агонь гаснуць думае, а тут і зубы ўжо пробуюць музыку нейкую высьцёбваць і без агню, у ліпка-дрымотных пацёмках страшна

робіцца неяк, і Адась кідае на агонь кучу гальля, прыціскае зьверху рукою ды паддзьмухнуў... Узноў весела заскакаў маладзец-агоньчык, як-бы казаў ці хацеў толькі сказаць, што вось без мяне тут аніяк не абыйдуцца і такая я „ганаровая шышка“, што і куды!

Скоса зірнуў Адась у бок кучкі кулакоў, якія трымаліся сваім гняздом: там ціха было... Прытаіліся. Тады погляд свой на сваіх хлапцоў, на пасялкоўцаў, кінуў і невядома чаго глыбока недзе, на дне душы зьявілася нешта, што моцна крычала, аж глушыла яго...

— Каб я мошкай цяпер зрабіўся... Ну, каб хаця аднэй частачкай вось гэтага агоньчыка... Мала таго, што ўкрыўся-б сягоньня ад гэтых злых воч і думак кулацкіх, а змог-бы яшчэ і спаліць іх... усіх іх з даб-ром, з скацінай...

Ведаў Адась, што не заснуць ужо яму, адляцеў кудысь сон яго, мусіць вецер гэты вышастаў, і зьявілася ў яго патрэба гутарку з кім завесьці, адагнаць ад сэрца нешта такое, чаго ён і сам добра ня ведае...

А тут

— ... І-і-і-гі-гі-гі-гі!.. І-і-і-і-іі!..

З агульных тонаў завірухі галасы рэзнулі вуха, аж зьлякнуўся Адась... Недалёчка недзе, вось тут зусім; коні нешта затупалі, пера-палашыліся...

„Воўк—няйначай!“ мятнулася ў галаве Адася.

„Схадзіць трэба глянуць, і тады“...

Само неяк усплыло напаверх думак, вылілася ў пастанову і, прыглядаючыся ў мутна-чорную даль, падняўся Адась, абцягнуў кажушок, паправіў заборы ззаду пад поясам і, прывычна адпіхнуўшы з ілба на патыліцу шапку шэрую, „салдацкую“, пасунуўся ў цемень...

Яшчэ некалькі слабых крокаў—і ноч зьела яго.

У гэты час, падняўшы асьцярожна галаву і агледзеўшы ўсіх пужліва-трывожным поглядам, Сёмка пхнуў пад бок свайго суседа.

Трохі воддаль яго паднялася ўскудлачаная галава з валасамі, як жар, чырвонымі, і колкія маленькія вочкі забегалі па сьпінах і па сьпячых тварах начлежнікаў.

— Пара!..

— Так!..

І Сёмка зьнік за кустамі.

Тады вецер рвануў з сілаю, замітусіўся ў адчайнай злосьці, нагнуў аж да долу лазьняк далікатны і зарумзаў плачам баб'ім на беразе рэчкі... Ночка начніцай хваталася за зямлю і слала посьцілкі дзірава-чорныя.

А потым галасы вырваліся з гэтага гаму, галасы жорсткія, вагнём пякучыя, адчайныя...

— ... Ды што я... зрабіў... табе...

— Га-а-а!.. ы-ы-х-г!..

— А-а-а-а-й-і-і...

Нема разьнеслася навокала і разбудзіла начлежнікаў, і ў гэты час, калі яшчэ ўсе, усхапіўшыся са сну, не маглі ўцяміць нічога, адкуль гэта і што, раптам пырснуў кароткі, прарэзьлівы стрэл... Снапом бліскавіцы агонь мігнуўся і... сьціхла ўсё.

І здаецца, у той час вецер сьцішыўся, ня так лазьняк нудзіў, вада ў хлюпкіх берагох заціхла, толькі што ноч, на момант расступіўшыся, шчыльней агарнула ўсіх ды напаіла начлежнікаў сполахам востра-мёртвым... Гэты сполах сьвяціўся ў вачох кожнага начлежніка і ён яскрава адбіваў страх жудасьці, сьмерці...

Глянулі ўсе адзін на аднаго, абвялі чараду, як-бы шукаючы вінавайцу ці скрыўджанага...

І ў кожнага за вачмі, у душы, востра ў мазгох,—адбілася:

— Адася!..

— Няма яго!..

Рынулася чарада хлопцаў на стрэл, мацаючы нагамі мокрую сеножаць з купінамі. Раптам, адзін з іх наткнуўся на нешта мяккае, на купіну непахожае...

— Ай!.. Тут, браточкі!..

І адскочыўся, увесь трасучыся.

З галавешкай прышлі. Цемната расступілася, і ў жоўта-крывавым кругу трапятаюча-палахлівага сьвету, вынырнуў белы, як мел, твар з крыху выскаленымі, рагочучымі зубамі, з шклянымі, жудасна-сьмяротнымі вачыма... Гэтыя вочы як-бы глядзелі на ўсіх з дакорам і гаварылі:

— Вось вы і не даглядзелі... Мяне ўжо няма...

І кожны з начлежнікаў адчуў нейкую віну перад гэтым трупам, якога ўперад звалі—Адась, кожны ў глыбіні свае душы ўяўляў, што і ён тут павінен, мо' яшчэ і горай за таго забойцу, што зрабіў гэтак, а ўсе, што вось стаяць тут вакол, ні ў чым нявіноўны, нават могуць вось у гэты час, пры гэтым, яшчэ сьвежым трупе рынуцца на яго і зрабіць тое-ж самае, што і з Адасём...

А потым усплыла і зьнеслася некуды гэтая жуда і апаска і забушавала злосьць...

Адчайная, мужыцкая злосьць...

— Сёмка, сукін сын!..

— Ён!..

— Яго работа, сволач такая!..

І, напаўняючы паплавы самай жорсткай лаянкай і праклёнамі, уся грамада сыпнула ў мокрыя кусты шукаць Сёмку.

А цемень калацілася, дрыжэла і ветрам скуголіла над трупам Адася, якога два хлопцы прынесьлі к вогнішчу.

Цяпер толькі два-тры з кулакоў усталі і з зьдзіўленьнем пачалі пазіраць на Адася ды, як-бы нічога ня ведаючы, распытвацца, як і што?..

— Маўчаць!..—успыліў адзін з пасялкоўцаў, які і прынёс труп Адася к агню.—Ваша работа!.. Вы тут усе вінаватыя!..

— На мякіну іх!..—блiснуў вачыма другі.

Змоўклі кулацкія сынкі і, шчыльней захінуўшыся ў кажушкі, пачалі раіцца паміж сабою, як-бы ўжо і дамоў сабірацца.

— Не паедзеце!..

— Чаму?!

— Таму!.. У раён мы з вамі...

— Куды?.. У раён?..

— Маўчы!!! Арыштаваны!..

— А во!..

І з боку ад кулакоў сьмяротным чорным кружочкам ствол абрэза блiснуў.

— Ладна!—ціха кінулі хлопцы і змоўклі.

Ноч праглынула і іхнія постаці.

А там дальш галасы адзываліся, шукалі, мацалі... Нібы гульню нейкую недарэчную, дзікую задумалі начлежнікі сярод гэтага балота ў такую цёмную і халодную ноч.

— Няма яго, коняй забірай!..

— Ка'аж, коні лаві!..

— Сам прыдзе!..

— О-го-го-о-о-о!..

І ўзноў аж ноч затрэслася, але ўжо падалёку, у самым гаі, рэзнуўся другі стрэл...

— Ён!..

— Насіць, мусіць, каторага!..

Пашлі хлопцы на гэты стрэл шукаць нечага, самі ня ведаючы, чаго ідуць і па каго. У кожнага зноў апаска шавяльнулася ў грудзёх.

— Ну добра, я іду... А што, калі і мяне ён там паложыць гэтак, як і гэтага...

Але несьвядома хлопцы імкнуліся ўперад, буяныя помстай і зухаватасьцю, каб адзін перад другім ня струсіць і гэтым не паказаць сябе і надалей баязьлівым хлапцом...

— Недзе тут, здаецца!..

— Але!..

Ціха шапталіся хлопцы. І вось у гэты час выплыў з навальніцы шоламу выразны чалавечы стогн... Працяглы, канаючы...

Закамянелі ўсе, а потым рушылі туды. Калі-ж запалілі сярнічку, дык сярод дзьвюх бяроз, ушчаміўшыся плячмі ў карані, ляжаў Сёмка з абрэзам карабіна ў руцэ. З яго грудзей бурболіла і пеніла цёмная кроў...

Ён канаў.

Ані ў воднага не зьявілася жаласьці к гэтаму чалавеку, а наадварот: цэлая патока палілася слоў, здаволеных, запэцканых лаянкай бруднай...

— Застрэліўся...

— Эт!.. Сабаку—сабачая і сьмерць!..

Кінуў гэтак нехта з чарады і, адвярнуўшыся, усе пашыбалі к вогнішчу. А вецер ужо не жартаваў, не абнімаў і не цалаваў хмызьняк, а пеў даўгую хаўтурную песьню.

9/V 26 г.
в. Клянік.

# АБХАЗІЯ

**Ясакар**

## У ВАЎНЯНАЙ НАЧЫ

Мора блакітнасьць абвіта паўночнай жалобай.
Туліцца вецер, як злодзей, між замчышчаў-скал.
Цемра па зрывах вандруе, аб камень б'е лобам,
Вые, галосіць, як баба, шалёны шакал.

Ціш заблудзілася ў крыках, засьлеплены змрокі,
Капаюць хвілі, бы кроплі, бы рой камароў.
Ноч непрагляднасьці поўна, як буйвала вока,
Шыры і высь затапіла цямрыстая кроў.

Шолахі, шумы і крыкі—дзе сонца патухла.
Выпіў агнішча зарніцы паўночы упыр.
Носяцца тысячы гукаў, лунаюць, як птухі:
Ноч сугалосна іграе—музыка сьляпы.

Грэк-падарожнік спыніўся на гвалт вадаспаду,
Чуецца нейкім самотным пад дзікім кустом:
Вырасьлі ў міг забабоны заснуўшай Эляды.
Драпае нешта за сэрца—ня ведае што...

Эй, каб хутчэй да аула, хутчэй к прыбярэжжу!—
Лезе у голаву думка—навостраны нож;
Што-ж гэтак ноч раскрычалась, бы хто яе рэжа,
Нібы на сьвеце настала апошняя ноч.

Веера пальмаў шапочуць, дрыжаць, нібы крыльлі,
Звоніць пустымі клыкамі мядзяны бамбук,
Вышыўкі спуджаных зорак аблокі пакрылі,—
Зоркі, бы ружы, сарваны мільёнамі рук.

Сполах застыў між цясьнінаў, трывожыць высоты,
З процьмы дэльфінам заёрзаў, дзіцёнкам крычыць.
Радасьці дня пасхаваны мэдузнай сьлізготай,
Згінулі ўсе паратункі ў ваўнянай начы.

Сівым разгневаным стадам буйтураў-грамадаў
Скача на бераг шматзвонны зьдзічэлы прыбой,
Дробіць каменьні ў пясчынкі, іх нішчыць, як здраду,
Брызгае полымем брызгаў між белых зубоў.

Лямант захмелены глушыць скалістыя жмуты,
Вабіць на трызну віхураў уздыблены вал,
Водгукі даляй спляліся ў грымучыя скруты,
Вые, галосіць, як баба, шалёны шакал.

Сьціснуты морам сьпявучым, прыбойнай мярэжкай,
Зьдзіўлены цудам узгор'яў, шматвёрсных брускоў,
Цягнуцца скурай пантэры, вузкія, бы сьцежкі,
Ціхія гнёзды-аулы абхаскіх куткоў.

З вохаў начы вырастаюць капытныя грукі—
Коньнік імчыцца стралою, на хвілю прыстаў,
Быццам зьнямелі ў трывозе сталёвыя рукі—
Выплыў з атэнскіх паданьняў забыты кэнтаўр.

Сьвіст прастагнаў у паветры крылатым цар-зьмеем,
Гулкую цьму прадзіравіў, бы ножніцы шоўк.
Водгук скаціўся трохкратны з скалістых камэяў,
Бразнуў у шпіль кіпарыса, парваўся і змоўк.

Гадзіна-помста, якая у сэрцы прыгрэта?
Поўнач, які прыгалубіць таемны злачын?
Звычай дзядоў выканае у пору у гэту?
Песьню на тары*) зайграеш ты заўтра аб чым?

Востры кінджал ты суседу нясеш у частункі?
Красьці каня ці дзяўчыну табе памагчы?
Згінулі ўсе паратункі
Ўваўнянай начы...

Гагры, 15/II 1926 г.

*) Музычны струнны інструмант.

## ПАЛАЎ ЗАХОД

Палаў заход пажарышчам з рубіну,
Крапіў вінoм гранітныя зубцы,
Грамадам скал пазалаціў ён сьпіны,
Трасьліся пальмы, як жрацы.

І на начлег кудзельныя аблокі
На хрыбты гор, як буйвалы, брылі,
Як матылі, замігацелі змрокі,
Завандравалі па зямлі.

Насіўся сум, як стада чаек з мысу,
У мора ўпаў ружова-бледны пас.
Стаялі тры на горцы кіпарысы,
Як той гальготы сівы сказ.

А дзе-ні-дзе шакалы галасілі,
Пужалі даль стагнаньнем і выцьцём.
І зрыў вісеў сьцяной зялёна-сіняй,
І дзень глынула забыцьцё.

Гагры, 11/III—26 г.

## РАНІЦА КІНУЛА КАЗКУ Ў ДНО МОРА

Пальмы пад шопатным, клёкатным ветрам
Шумяць, нібы крыльлі бакланаў,
Хмелем магноліі хмеліць паветра,
Зардзелі барашкі туманаў.

Раніца кінула казку ў дно мора—
Паданьне зарнічных бязбрэжніц.
Зараз прыбой загудзіць, загавора,
У скоках запеніць, засьнежыць.

Сыпне на бераг шалёныя шквалы,
Зазвоніць, засьвісьне ў дагонку,
Рынецца дзікі на скалы, абвалы,
Захлешчацца зрыў зычна-стромкі.

Вецер зачэшацца шустры і востры,
Завохае вохам-стагнаньнем.
Хваля за хваляй—блакітныя сёстры—
Зайграюць шматколерным граньнем.

Зыйдуцца разам, засьлюняцца сьлінай,
Разыйдуцца, пусьцяцца дуба,
Варам заварацЬ, сівой шумавінай
І вышчарацЬ белыя зубы.

Белыя грэбні зашчэмяцца ў шчэмкі,
Забрызнуць салёнаю юхай,
Вецер зачэпіць струмені-зачэпкі,
Расплюхнецца жаласным плюхам.

Гагры, 15/II—26 г.

# ВЕРШЫ

## А. Гурло

* * *

Бязьмежна-радасны прастор!
Вясна далы травой мурожыць,
А бор далоні распасьцёр
Над шляхамі раздарожаў.
У палёх, як струны-каласы,
Жытнёвых руняў выхаванцы,
Мігцяць ад крапінак расы:
Ім скора спорам красавацца.
Паўднёвы жар ўсё агнявей
Сьпякотай грэе з небнай высі,
А недзе цецярук ў траве,
Як сьмехам-рогатам разьліўся.
І пошчак ў сэрцы прагучаў—
Нібы-та хто крануўся струнаў.
Мне стала хораша ў вачах:
Здалося, стрэўся я з красуняй,
Да сэрца шчыра прыгарнуў,
Прыпаў к яе грудзям гарачым...
Ў трывозе мару я адну
Прыгожа-зорную убачыў:
Наведаўся у родны кут—
Ён на мяжы да родных гоняў.
Падаць усім рад я руку,
Ўвесь сьвет прыняў-бы на далоні.
Прастор і шыр—мая краса—
Бунтуюць-кружаць думкі роем.
І ў хмельнай радасьці я сам—
Ну, проста чараўнік, гэрой я.
Мне толькі прыкра, што жыцьцё
Сьпяшыць, каб рваццa далей, далей.
Сягоньня сэрцам я ацёк:
Куды назаўтра рушаць хвалі?
З усім-усім зрасьліся тут
Былыя дні, трывога, радасьць.
Мне надта дораг родны кут,
Ён мне—ня вораг, я—ня здраднік.

* * *

Ой, прыдзі, ты, прыдзі да мяне
Ў гэты срэбрам аквечаны вечар,
Бразьні-стукні на звонкай струне.
Ой, прыдзі, ты, прыдзі да мяне,

Раскажы мне аб радасным нечым.
Я ў самоце сваёй не астыў
І цябе не забыў, мая муза.
Ў маіх мысьлях адна толькі ты.

Я ў самоце сваёй не астыў,
Толькі ты разьвяжы адзін вузел,
Што так моцна сьціскае мяне,
Не дае на‘т спачынку у ночы:

Няўжо, думаю, я адзьвінеў.
Ой, прыдзі, ты, прыдзі да мяне.
Мой пагляд к табе рвецца прарочa.
Мае думкі з табою жывуць—

Без цябе ім маркотна жывецца.
Цябе шчыра я клічу, заву.
Ня тумань ты маю галаву,
Ня сьціскай так балюча ты сэрца.

* * *

Распусьцілася рана вярба—
Каб ня зьнішчылі толькі марозы.
Сваё сэрца я сам занядбаў,
Сваё сэрца я сам замарозіў.

Кажуць, лечыць чаруючы пах
Веснавога буянага хмелю,
Але я ня зусім заняпаў—
Яшчэ сэрца з душой не зьмярцьвелі.

Абярнулася радасьць у сум
І спаткалася сэрца з зацішшам.
Але гэты цяжар я зьнясу
І пайду ўсё далей на узвышша.

Мяне кліча ў прасторы вясна,
Як матуля ды роднага сына.
І хвалюецца чарка віна,
Што яна прынясла для ўспамінаў.

Дарагія вясёлыя дні,
Што былі і няма—што мінулі.
Яшчэ сэрца струнамі зьвініць
І душа паранейшаму чула.

І мне хочацца, хочацца жыць
Ды як хочацца жыць яшчэ дужа!
Хіба можна стаяць на мяжы,
Калі хмель галаву маю кружыць,

Калі нейкая жджэ навіна?!
Ў кожным подыху чуецца ласка...
Я хачу зацьвісьці, як вясна,
Я хачу рассыпаць ўсюды краскі.

Сярод іх я душой адпачну,
Каб вярнуць зноў жыцьця асалоду.
Я вітаю красуню-вясну
З пахам кветак, збажыны і мёду.

# ЛЁС ЧАЛАВЕЦКАЙ МОРАЛІ

## С. Вольфсон

Мораль ёсьць сумеснасьць правіл павядзеньня, якія ані не зьдзяйсьняюцца ў парадку знадворнай прынукі, як гэта робіць права, а якія вызначаюцца на аснове прывычных для данага грамадзкага колектыву ацэнак „добрага“ і „дрэннага“, таму „дазволенага“ і „недазволенага“.

На першых часох чалавецкай гісторыі мораль і права—непадзельны. Тое, што звычай лічыць дрэнным учынкам (чым вызначаюцца такога роду ацэнкі мы ўгледзімо ніжэй), што выклікае адмоўныя адносіны з боку грамадзтва, таго зрабіць нельга. Калі ты зробіш нешта дрэннае, грамадзтва можа цябе пабіць каменьнем або выкінуць з сваіх колаў. Незамацаваная ў выглядзе агульна-канечнай нормы, традыцыйная ацэнка ўчынку ўсё-ткі зьвязвае павядзеньне першабытнага чалавека путамі дапушчальнага і дазвольнага; адносна апошніх нельга сказаць, што яны—„мораль“ або „права“. Толькі паступова вызначаецца мяжа паміж тым і другім. Гэта мае месца таму, што частка правіл павядзеньня пачынае зьмяняцца ў юрыдычныя нормы,—ахоўвацца імем закону за дапамогай асаблівага апарату ўлады.

Якія-ж правілы павядзеньня зьмяняюцца ў права? Тыя, парушэньне якіх пагражае самому існаваньню грамадзкай організацыі ў клясавым грамадзтве, гэта значыць, у сагляданьні якіх найбольш зацікаўлена пануючая кляса. Вось гэтая кляса, якая трымае ўладу, апранае пэўную частку сваіх моральных прынцыпаў—свой „этычны мінімум“—у праўныя вопраткі. Гэты „мінімум“ робіцца прымусова-канечным для ўсяго грамадзтва, для пануючых, як для падлеглых кляс, парушніка яго чакае кара. У праве мы маем справу з „этычным мінімумам“ пануючай клясы, у вачох гэтай клясы права, значыцца, высока моральна. Да сагляданьня гэтага „мінімуму моралі“ пануючая кляса прымушае падлеглыя клясы. Яна дамагаецца гэтага за дапамогай апарату ўлады, які знаходзіцца ў яе руках, а таксама шляхам ідэолёгічнага ўзьдзеяньня на клясы—антогоністыя. Яна пераконвае іх, што нормы, якія ўстанаўляе права,—сьвятыя, справядлівыя, моральныя... Але ў клясавым грамадзтве—мы гэта бачым ніжэй—існуе толькі клясавая мораль. І таму, калі пануючая кляса пазірае на права, як на „этычны мінімум“, то кляса заняволеная ўсьцяж ацэньвае

тое самае права, як антыэтычнае, аморальнае. Прыгоннае права было моральным у вачох абшарнікаў, але наўрад ці лічылі яго такім сяляне. Пераможца-пролетарыят конфіскаваў у эксплёататараў зямлю, рудні, фабрыкі, ён устанавіў права, адпаведнае „этычнаму мінімуму“ рабочай клясы, але дэкрэты, якія абвяшчаюць гэты акт, у вачох якога-хаця абшарніка і фабрыканта—ажыцьцёўленая аморальнасьць.

Праўным нормам усе члены данага грамадзтва прымушаны падлягаць незалежна ад таго, якую этычную ацэнку яны гэтым нормам даюць: яны прымусова-канечны.

За моральнымі нормамі таксама ёсьць некаторая канечнасьць: іх выкананьня вымагае ад нас грамадзкая думка. Яна цісьне на нашыя ўчынкі вялізным грузам. Але на мяне ўплывае, трэба памятаць, толькі грамадзкая думка мае клясы; што тычыцца грамадзкай думкі варожай клясы; дык яна для мяне абыякая. Селянін, што падпальвае абшарніцкую сядзібу, рабочы; што забаставаў і не дае гораду асьвятленьня, ведаюць, што грамадзкая думка чужое клясы іх запляміць, прызнае іх учынкі аморальнымі, але яны апіраюцца на грамадзкую думку свае клясы, ведаючы, што яна гэтыя ўчынкі моральна ўхваліць. І калі яны здолеюць ухіліцца кары законаў, то іх сумненьне будзе чыстае, іх моральны прынцып ня толькі ня будзе прышчэмлены, але наадварот, атрымае самае вялікае задаваленьне. Ён і зрабіў тое, што добра, тое, што карысна іх клясе, тое, чаго ад іх вымагала клясавая солідарнасьць, што высока-моральна...

Пяройдзема-ж да больш падрабязнага азнаямленьня з тым, што прадстаўляе сабою наша мораль, як яна складаецца і разьвіваецца.

„Дасягнуўшы поўнага разьвіцьця ў некаторых бліскучых прадстаўнікоў пароды, іншыя пачуцьці сьлепяць нас, прымушаюць забываць тое, што яны—нішто іншае, як разьвіцьцё зьявішчаў сьвядомасьці, даволі пашыраных сярод жывёл“ [1]). Гэтыя словы выдатнага француcкага антрополёга добра прыпамятаць, калі пачынаеш гутарку аб моралі. Бо мораль вякамі монополізавалася чалавекам. Ён пагардна абвяшчаў сябе адзіным у жывёльным сьвеце насіцелем моральнага пачатку і на гэтай аснове самапраконана пакладаў мяжу паміж сабою і ўсёй рэштай жывёльнага сьвету [2]). Аднак, кола ўласьнікаў моральнага пачуцьця часта звужалася такім чынам, што яно ахоплівала толькі так званую культурную, цывілізаваную частку чалавецтва, някультурная-ж і нецывілізаваная частка яго перакідалася „на другі бераг“, дзе знаходзіліся ўсе ніжэйшыя пароды жывёл. Падобна гэтым ніжэйшым пародам, нявольнікі, дзікуны, адсталыя

[1]) Шарль Летурно. Соцыолёгія па даных этнографіі. СПБ 1896, стар. 254.

[2]) Папа Пій IX у свой час нават выдаў дэкрэт, што ў жывёл няма душы, а таму чалавек з боку адносін да іх ня зьвязаны ніякім моральным законам. Мэтэмпсыхозыстыя (прыхільнікі погляду аб перасяленьні душ) у свой час вылічалі, што іскра боская раней, чым перайсьці ў чалавека, павінна прайсьці цераз 8.400.000 жывых істот.

расы ды інш. таксама абвяшчаліся натуральна чужымі моральнаму пачуцьцю. У іх душах ня цьмее „іскра боская“, ім няпрыступны моральны пачатак, ім незразумела міласьцівасьць, справядлівасьць, самаахвяраваньне, пакора, абавязак, шляхецтва і рэшта добрачыннасьцяй— яны „амаральны“.

Навука, аднак, ужо даўно адабрала ў чалавека той „патэнт“ на мораль, які ён заносіста выбраў для сябе. Яшчэ францускія матэрыялістыя пачалі сьціраць дэмаркацыйную лінію, якая адлучала „цара прыроды“—„моральнага чалавека“ ад „амаральных“ жывёл. На працягу наступнага сталецьця гэта лінія была бяз знаку зьнішчана аб'яднанымі намаганьнямі прыродазнаўчых і соцыяльных навук. „Асьлепленая сваім блескам“ чалавецкая парода навучылася пазіраць на сябе больш цьвяроза і разумець, што моральны пачатак ясна адбіты па ўсім жывёльным сьвеце, што чалавек тут, як і ў іншых галінах, не ўтварае, паводле слоў Гольбаха, свайго царства ў вялікім царстве прыроды“... У наш час прадстаўнік навукі, які паважае сябе, не дазволіць сьцьвярджаць, што толькі чалавеку ўласьціва мораль, так думаць можа, як кажа Шарль Летурно, толькі бадзяжны мэтафізык.

Карані чалавецкай моралі тыя самыя, як і карані жывёльнай моралі наагул.

Ва ўмовах існаваньня пэўных жывёльных аб'яднаньняў член аб'яднаньня прывучаецца да таго, каб зьвязваць сваё асабістае дабро з дабром таго колектыву, да якога ён належыць, каб рашчыняць сваё „я“ ў „мы“, каб падпарадкаваць свой эгоістычны пачатак колектывістычнаму. Цэлы шэраг жывёльных парод можа існаваць толькі аб'яднаючыся ў колектывы: жыць аднаму, аднаму змагацца за сваё існаваньне, значыць, для члена такога колектыву быць ахвяраваным на пагібель. Пачынаючы пчоламі і мурашкамі і канчаючы птушкамі і малпамі, цэлы шэраг жывёльных відаў аб'яднаецца ў групы. Гэтае аб'яднаньне зьяўляецца вынікам абароннай рэакцыі, якая прымушае жывёлу ў зносінах з падобнымі да сябе шукаць ратунку сабе ад ціску варожых ёй сіл прыроды. Так ствараюцца організаваныя формы жывёльнага супольнага жыцьця, пачынаючы сям'ёй і канчаючы вельмі складанымі і шырокімі відавымі аб'яднаньнямі. Адразу за сям'ёй—невялікім суграмадзтвам, якое мае за мэту выгадаваць дзяцей, пачынаюць узнікаць больш шырокія жывёльныя аб'яднаньні, удзельнікі якіх сумесна змагаюцца за сваё існаваньне з іншымі відамі жывёльнага сьвету, са стыхіямі прыроды. Сям'я зьяўляецца тэй першастковай грамадзкай ячэйкай, у якой жывёла прывучаецца стрымліваць свой эгоістычны інстынкт, дзе з гэтым інстынктам ідзе ў конфлікт і часта перамагае яго інстынкт альтруістычны. На глебе агрэсыўных рэакцый самец абараняе сваю саміцу, разам з ёю і дзяцей; у адносінах да апошніх у яго выпрацоўваецца ўмоўная сувязь. Сям'я культывуе бацькаўскі інстынкт, а гэты інстынкт—ужо вялізны крок па шляху асіленьня эгоіс-

тычнага пачатку альтруістычным, рашчыненьня „я“ ў „мы“. Якія перамогі атрымлівае альтруістычны інстынкт бацькі над сябялюбствам—красамоўна сьведчаць шматлікія дасьледцы жывёльнай грамадзкасьці.

У Бразыліі Спікс бачыў саміцу-малпу, якая, будучы паранена з агнястрэльнай стрэльбы, сабрала свае апошнія сілы, каб закінуць сваё дзіця на суседнія галіны; потым, па выкананьні гэтага абавязку мацеры, яна звалілася з дрэва і памерла.

У 1828 г. амэрыканскі капітан Голь меў выпадак наглядаць падобны факт на берагох Суматры:

„Першым стрэлам, кажа ён, быў паранен вялікі палец на назе мацеры, якая пры гэтым страшэнна зараўла. Потым, падняўшы магчыма вышэй сваімі даўгімі рукамі дзіця, яна закінула яго на верхнія галіны, якія здаваліся вельмі слабымі, каб падтрымаць яе самую... З гэтай мінуты бедная матка, як відаць, зусім забыла аб уласным існаваньні і думала выключна аб сваім дзіцяці. Кідаючы часамі погляд на верхавіну дрэва, яна паказам рукі пераконвала яго хутчэй ратавацца і нібы паказвала яму шлях, па якім яно павінна было йсьці, каб, пераскакваючы з галіны на галіну, дабрацца да цёмных і няпрыступных частак лесу“...

Дасьледца палярных краёў, Гейз, адзначае трагічную сьмерць белай мядзьведзіцы, запаляванай зграяй эскімоскіх сабак і трыма паляўнічымі. Жывёла, выключна заклапочаная аховай свайго дзіцяці, якое было з ёй, бадай не звярачала ўвагі на сваю абарону: „Яшчэ адзін раз удалося мядзьведзіцы прыкрыць сваім целам зусім змардаваную маленькую істоту, кроў якой цякла з усіх бакоў“. Потым мядзьведзіца была ранена пяцьма стрэламі. „Хоць і вельмі высіленая стратай крыві, яна тым ня менш не адмовілася ад барацьбы і, напрудзіўшы апошнія сілы, яшчэ раз прымусіла сваіх ворагаў хутка адступаць, схаваўшы пад сабою дзіця, дзеля якога яна ахвяравала жыцьцё. Напалову задушанае эскімоскай сабакай, Карсуком, і зграяй другіх сабак, дзіця здохла каля ног мацеры; бачачы яго спруцянеўшым і нярухомым, мядзьведзіца ўсё забыла,—свае раны, небясьпеку, якая пагражала ёй, шалёную зграю, якая тузала яе без адпачынку, і пачала лізаць яго з палкай пяшчотай. Яна не давала веры, што яно памерла: яна спрабавала падняць дарагое дзіця і абсыпала яго пяшчотамі, каб заахвоціць да барацьбы; потым няшчасная матка, як відаць, зразумела, што яму болей не патрэбна яе абарона, і зьвярнулася да сваіх катаў з падвойнай заядласьцю. Яна ўпяршыню тады спрабавала вьіратавацца... але куля трапіла ёй у сьпінны хрыбет, і сьмяротна раненая жывёла ў сваю чаргу павалілася на паліты крывёю сьнег“.

Прыпамятаем, урэшце, незапомны вобраз, які даў Тургенеў у вадным вершы ў прозе.

„З высокай бярэзіны звалілася вераб'янятка, сабака ўгледзела і паволі набліжалася да яго, як раптам, сарваўшыся з бліжэйшага дрэва, стары, чорнагруды верабей каменем упаў перад самай яго мордай, увесь

натапыраны, з роспачлівым і балючым піскам скокнуў разы два ў кірунку зубастай разяўленай ляпы. Ён кінуўся ратаваць, ён засланіў сабой сваё дзіцё... але ўсё яго маленькае цела дрыжэла ад жаху, галасок адзічэў і ахрып, ён заміраў, ён ахвяраваў сабою. Якім вялікім цудзішчам павінна была здавацца яму сабака, і ўсё-ткі ён ня мог вытрымаць на сваёй высокай бясьпечнай галіне... Сіла, больш дужая, чым яго воля, кінула яго адтуль.

Так яскрава праяўляецца часамі альтруістычны інстынкт у жывёльным сьвеце, але гэта, зразумела, толькі першы крок па шляху да ўтварэньня інстынкту соцыяльнага (не здарма альтруізм называюць эгоізмам удваёх). Толькі па меры пашырэньня соцыяльнага кола, якое ахоплівае жыцьцё жывёлы, за межы сям'і альтруістычны інстынкт пачынае зьмяняцца ў соцыяльны.

Мы маем дасьледчы матэрыял, які не пакідае сумненьняў адносна таго, як моцна пануе ў жывёльным сьвеце грамадзкі пачатак і якавы вынікі такога панаваньня. Працы Эспінаса, Крапоткіна, Дарвіна, Брэма, Пэр'е, Гумбольдта ды інш. дасьледцаў даюць нам вялізны практычны матэрыял у зацьвярджэньне тэй акалічнасьці, што жыцьцё грамадамі не зьяўляецца выключэньнем у жывёльным сьвеце; яно, наадварот, зьяўляецца агульным правілам—законам прыроды і дасягае свайго паўнейшага разьвіцьця ў вышэйшых хрыбетных. Відаў, якія жывуць адзіночна або толькі невялікімі сем'ямі, вельмі мала. Мала таго, ёсьць падстава дапушчаць, што за невялікімі выключэньнямі ўсе тыя птушкі і тыя жывёлы, якія кормяць малаком, якія цяпер ня жывуць стадкамі або чародамі, жылі раней суграмадамі, пакуль род людзкі не расплодзіўся на земнай паверхні і не пачаў весьці супроць іх зьнішчальнай вайны, а таксама ня стаў зьнішчаць іх крыніц харчаваньня"*).

Якое значэньне грамадзкасьці ў жыцьці жывёл? Той самы Крапоткін, словы якога мы падавалі вышэй і выдатныя працы якога па дасьледзінах грамадзкасьці сярод жывёл, да рэчы сказаць, у нас яшчэ недахватна ацэньваюцца, наступным чынам адказвае на гэтае пытаньне:

„Жыцьцё суграмадамі дае магчымасьць самым слабым казюлькам, самым слабым птушкам і самым слабым сысуном абараняцца супроць нападаў самых жудасных драпежнікаў з сьвету птушак і жывёл або-ж ахоўваць сябе ад іх; яна забясьпечвае ім даўгі век; яна дае магчымасьць выгадаваць сваё патомства з найменшай непатрэбнай тратай энэргіі і падтрымліваць сваю колькасьць нават пры вельмі слабым расплоджаньні; яна дазваляе статкавым жывёлам рабіць перасяленьні і знаходзіць сабе новыя месцы для жыцьця. Таму, хоць і не прызнаючы цалкам, што сіла, хуткасьць, ахоўныя ахварбоўка, хітрыкі, трываласьць да холаду і голаду, што адзначаюць Дарвін і Уолес, сапраўды прадстаўляюць якасьці, якія робяць асобу або від найбольш дастасаваным пры нека-

*) П. А. Крапоткін. Узаемная дапамога, як фактар эволюцыі. 1907, ст. 48.

торых вядомых акалічнасьцях, мы разам з тым сьцьвярджаем, што таварыскасьць зьяўляецца самай вялізнай перавагай у барацьбе за існаваньне пры ўсякіх, якіх-бы то ні было прыродных акалічнасьцях. Тыя віды, якія воляй ці мімаволі адмаўляюцца ад яе, ахвяраваны на зьмiраньне ў той час як жывёлы, якія ўмеюць найлепшым чынам аб'яднацца, маюць самыя большыя шансы на выжываньне і далейшую эволюцыю".

„Найбольш дастасаванымі, найлепш дастасаванымі для барацьбы з усімі варожымі элемэнтамі зьяўляюцца найбольш таварыскія жывёлы. Значыцца, таварыскасьць можна прыняць галоўным фактарам эволюцыі як беспасрэдна, бо забясьпечвае дабрабыт віду, разам з памяншэньнем марнай траты энэргіі, так і ўскосна, бо ён спагадае росту разумовых здольнасьцяй*).

У якасьці члена грамадзтва, якое супроцьстаўлена ўсёй вакольнай прыродзе і другім відам, жывёла прывучаецца да супрацоўніцтва з другімі членамі грамадзтва, прасякаецца пачуцьцямі сымпатыі да іх, прывыкае рабіць ім паслугі і, у сваю чаргу, карыстаецца іх паслугамі, прывыкае адчуваць сябе часткай тэй або іншае грамадзкае ячэйкі. Так, жывёла паступова трапляе пад уладу грамадзкага інстынкту, які часамі дасягае сілы, каторы заглушае або, ва ўсякім выпадку, значна аслабляе эгоістычныя інстынкты самазахаваньня і распладжаньня. Такім чынам, пачынае культывавацца ўжывёльным сьвеце соцыяльны інстынкт, апошні-ж паступова вядзе да фармаваньня моральнага закону, што складаецца ў данай грамадзкай ячэйцы.

Аб тым, як магутна праяўляе сябе соцыяльны інстынкт у жывёльным сьвеце і як выразна праяўляецца ў ім моральны закон, сьведчаць названыя вышэй і другія аўторытэтныя дасьледцы грамадзкага жыцьця жывёл. Я падам толькі некаторыя характэрныя ў гэтых адносінах прыклады, запазычаныя ў Дарвіна, Крапоткіна, Летурно, Брэма, Эспінаса, Эванса.

Гэтыя прыклады могуць ілюстраваць сілу соцыяльнага інстынкту і ўладу моральнага закону ў жывёльным сьвеце.

„Калі трусы шчыпаюць разам траву за межамі сваіх нор, то старыя ў выпадку патрэбы даюць сыгнал, стукаючы аб зямлю заднімі лапамі; калі некаторыя маладыя і неспрактыкаваныя трусы ня слухаюць гэтай перасьцярогі, то старыя застаюцца на месцы, паўтараючы стуканьне і, такім чынам, вельмі рызыкуючы сабою дзеля грамадзкай бясьпекі".

Аднойчы ў час паляваньня ў Індыі два слані зваліліся ў яму, з якой аднаму з іх удалося вылезьці, пасьля чаго, замест таго, каб уцякаць, ён падаў свайму менш рухаваму таварышу выратавальны хобат. Гэты факт адбываўся на вачох шмат сьведак.

---

*) П. А. Крапоткін. Узаемная дапамога, як фактар эволюцыі, 1907, ст. 51—2.

У Абісыніі Брэм бачыў наступны факт: статак бабуінаў, на які напалі сабакі, пачаў уцякаць, прычым старыя самцы ахоўвалі адступленьне; але адзін малады шасьцімесячны бабуін ня мог пасьпець з усімі і, узабраўшыся на скалу, роспачліва прасіў аб дапамозе. Тады самы большы з самцоў асьцярожна спусьціўся з крутога груду, падышоў да пакінутага дзіцяці і ўрачыста павёў за сабою, трымаючы сабак на даволі вялікай адлегласьці.

„Шымпанзэ, гібоны, дрэўныя малпы Азіі і Афрыкі, макакі, мартышкі, усе, падобныя да сабак павіяны, мандрылы і ўсе дробныя ігрункі,—усім ім уласьліва таварыскасьць у вышэйшым стопні. Яны жывуць вялікімі статкамі і некаторыя злучаюцца нават па некалькі розных відаў. Большасьць з іх адчувае сябе няшчаснымі ў самоце. Заклічны гук кожнай малпы адразу зьбірае ўвесь статак і ўсе разам храбра адбіваюць напад бадай усіх драпежных жывёл і птушак. Нават арлы не адважваюцца нападаць на малпаў. Нашыя палі яны заўсёды рабуюць статкамі, прычым старыя бяруць на сябе клопаты аб бясьпецы грамадзтва. Маленькія ці-ці, дзяціныя тварыкі якіх так зьдзівілі Гумбольдта, абнімаюць і абараняюць адно другога ад дажджу, абкручваючы хвасты навокал шыі сяброў, якія дрыжаць з холаду. Некаторыя віды з надзвычайнай клапатлівасьцю адносяцца да сваіх раненых таварышоў і ў час адступленьня ніколі ня кідаюць раненага, пакуль не пераканаюцца, што ён памёр і што яны ня ў сілах вярнуць яму жыцьцё. Адзін уладар галубоў меў звычку карміць іх блізка сьвірну, прычым іншы раз ня толькі кураняты і вераб'і дзяўблі ежу, але таксама і пацукі. Аднойчы ён заўважыў, як стары пацук, набраўшы поўнае загуб'е зярнят, некалькі разоў бегаў за сьвіран і кожны раз зварачаўся за новым запасам. Аказалася, што там сядзеў кульгавы голуб, якому пацук і прыносіў ежу.

Уласьнік аднаго гароду пачаў заўважаць таемнае зьнікненьне морквы з кошыка і запытаў гародніка, што гэта значыць. Той адказаў, што ня ведае, але абяцаў прыпільнаваць злодзея. Схаваўшыся за плотам, ён хутка ўгледзеў, як з хаты вышаў сабака, хапіў зубамі моркву і занёс аднаму з коняй, што стаялі ў стайні, каторы на вялікае задаваленьне прыяцеля, што віляў увесь час хвастом, пачаў яе есьці. Гароднік узлаваўся, хапіў палку і нарыхтаваўся адлупцаваць злодзея за яго надмерную і крыху эксцэнтрычную вялікадушнасьць, але ўласьнік стрымаў яго і пачаў сачыць за сабакам, які бегаў на гарод і цягаў моркву, пакуль кошык не апаражніўся. Дзіўна пры гэтым яшчэ тое, што сабака ні разу не паглядзеў на каня, які стаяў у суседнім стойле і з вялікай-бы асалодай падзяліў ласунак з сваім сябрам.

Нават гэтых невялікіх прыкладаў даволі, здаецца мне, каб мы мелі падставы падпісацца пад словамі Дарвіна, які сказаў, што, „апрача каханьня і сымпатыі, жывёлы праяўляюць яшчэ і іншыя ўласьцівасьці, якія

стаяць у зьвязку з соцыяльнымі інстынктамі—у чалавека мы назвалі-б гэтыя ўласьцівасьці моральнымі"...

„Калі мы бачым,—скажам разам з Крапоткіным,—што дзесяткі тысяч розных водных птушак лятуць вялікімі статкамі з далёкага поўдню, каб віць гнёзды на схілах „птушыных гор", на беразе Ледаватага акіяну і жывуць тут, бяз звадкі паміж сабою з-за лепшых месц; што статкі пеліканаў згодна жывуць адно каля аднаго на беразе мора, прычым кожны статак трымаецца сваёй часткі мора для лоўлі рыбы; што тысячы відаў птушак і сысуноў тым або іншым чынам даходзяць да якойсьці згоды наконт сваіх раёнаў прахарчаваньня, сваіх месц для віцьця гнёздаў, сваіх месц для начлегаў, сваіх паляўнічых раёнаў, не ваюючы паміж сабою, калі мы бачым, урэшце, што маладзенькая птушка, якая ўкрала некалькі саломінак або галінак з чужога гнязда, падпадае за гэта нападу сваіх таварышоў, то мы заўважаем ужо ў жыцьці грамадзкіх жывёл пачатак і нават разьвіцьцё пачуцьця роўнапраўнасьці і справядлівасьці.

І, урэшце, пасуваючыся ў кожнай клясе жывёл да вышэйшых прадстаўнікоў гэтых кляс (мурашак, вос і пчол—у казюлек; жураўлёў і папугаяў сярод птушак; вышэйшых жвачных малпаў і, урэшце, чалавеку сярод сысуноў), мы знаходзім, што ўтоесамленьне асобы з інтарэсамі свае групы, а часамі нават і самаахвяраваньне дзеля групы растуць па меры таго, як мы пераходзім ад ніжэйшых прадстаўнікоў кожнай клясы да вышэйшых,—у чым, зразумела, нельга ня бачыць паказаньня на натуральнае пахаджэньне ня толькі пачатку этыкі, але і вышэйшых этычных пачуцьцяў *).

У жывёлы ў процэсе зносін і сужыцьця з падобнымі да сябе выпрацоўваецца магутны інстынкт, які тармозіць яе эгоістычныя імкненьні, накіраваныя да падпарадкаваньня і выкарыстаньня другога, і які культывуе імкненьне да ўзаемадзеяньня з членамі данага суграмадзтва, да ўзаемадапамогі, да ўзгадненьня сваіх індывідуальных імкненьняў з інтарэсамі колектыву. Такім чынам, у процэсе зносін і супрацоўніцтва сярод жывёл паступова складаюцца прывычкі, налогі, якія вядуць да ўтварэньня ўмоўных сувязяў. Гэтыя ўмоўныя сувязі ўкараняюць у жывёльнае суграмадзтва пэўныя ўнутрывідавыя нормы павядзеньня, ствараюць той моральны закон, на парушэньне якога рэагуе ўсё суграмадзтва.

Мы падавалі вышэй паказаньні Крапоткіна аб птушцы, якая ўкрала з чужога гнязда некалькі саломінак і на якую за гэта напалі члены статка—яна парушыла моральныя нормы статка. Прыкладаў падобнай абароны жывёльным колектывам моральнага закону, які выпрацаваўся ў ім, шмат. Эванс заўважвае адносна гракоў, варон, жураўлёў, фламінгаў, вераб'ёў ды іншых птушак, а таксама шмат якіх статковых чатырохногіх, што ўсе яны бясспрэчна маюць жывое пачуцьцё дазвольнага і не

*) Эванс. Эволюцыйная этыка і псыхолёгія жывёл. Пер. з ангельскае Е. Арлова. СПБ, 1899, стар. 148.

дазвольнага і ўсе яны гатовы адразу-ж пакараць свайго члена за праступак, які ганьбуе або робіць шкоду грамадзе. Той самы дасьледца падае некаторыя характэрныя з гэтага боку выпадкі. Вось для прыкладу адзін з іх.

„Уласьнік аднаго дому каля Бэрліну знашоў у жураўліным гнязьдзе, зьвітым на коміне, яйка. Ён падлажыў замест яго гусінае, з якога ў патрэбны час вышла гусяня, замест жураўляняці. Самец прышоў у вялікі непакой і, урэшце, паляцеў; саміца-ж засталася ў гнязьдзе, даглядаючы дзіця ўсё роўна, як сваё. На раніцу 4-га дня самец зьвярнуўся, а з ім разам каля пяцьсот жураўлёў, якія адразу-ж наладзілі на суседнім полі сход. Было выказана некалькі прамоў, прычым кожны прамоўца займаў тое самае месца, якое займаў яго папярэднік. Гэтыя дэбаты і абмеркаваньні цягнуліся да поўдня, пасьля чаго сход раптам закрыўся і ўсе жураўлі кінуліся на няшчасную саміцу і гуся, забілі абодвых, зьнішчыўшы апаганенае гняздо нашчэнт, паляцелі і з тых часоў больш не паказваліся.

Значыцца, у шэрагу жывёльных відаў мы знаходзім ясна выражанае моральнае пачуцьцё, наглядаем сыстэму моральных норм, якая склалася моцна.

Карані чалавецкай маралі тыя самыя, як і ва ўсім жывёльным сьвеце. „На ўсіх ступенях разьвіцьця чалавека,—кажа Крапоткін,—мы знаходзім таварыскасьць і пачуцьцё статковасьці, а ў асобных людзей ёсьць пры гэтым яшчэ гатоўнасьць памагчы другім, часамі нават рызыкуючы сваім жыцьцём. А дзеля таго, што такія рысы дапамагаюць падтрыманьню і разьвіцьцю грамадзкага жыцьця, якое, у сваю чаргу, забясьпечвае жыцьцё і дабрабыт усіх, то такія якасьці з самых даўнейшых часоў прызнаваліся ў чалавецкіх грамадзтвах ня толькі жаданымі, але нават абавязковымі“.

У працэсе патрэбных зносін з падобнымі да сябе першабытны чалавек, як і кожная іншая грамадзкая жывёла, прывучаецца падпарадкаваць сваё „я“ інтарэсам колектыву, у яго ствараюцца ўмоўныя сувязі на глебе супрацоўніцтва з членамі свайго суграмадзтва на глебе абмену паслугамі. Соцыяльны інстынкт першабытнага чалавека ўтвараецца такім самым чынам, як і ў другіх жывёльных відаў. Першабытная мараль чалавецкага роду адпавядае маралі шымпанзэ,—заўважвае Летурно. Але разьвіваецца гэты інстынкт ужо іншымі шляхамі—ён трансформуецца ў моральныя нормы пад ціскам усіх тых акалічнасьцяй, якія прымушаюць нас вылучаць чалавека ад другіх жывёльных відаў, як адзіную грамадзкую жывёлу, якая вытварае прылады вытворчасьці.

У сваім месцы мы ўжо высьвятлялі выключнае значэньне гэтага акту. Мы вызначылі тады, што, дзякуючы актыўнаму і тэхналёгічнаму дастасаваньню да прыроды, чалавек павялічвае ізолявальную сілу абкружаючых яго штучных абставін, мы бачылі, што ўвесь наш інтэлект абавязан сваім разьвіцьцём трудавому працэсу, які зьдзяйсьняецца за дапамогай

штучных прылад, што, дзякуючы гэтаму процэсу, нявыразныя гукі жывёлы зьмяніліся ў магутную чалавецкую мову, што, дзякуючы яму, чалавек выпрацаваў сьвядомыя адносіны да абкружаючага сьвету.

Без належнай ацэнкі гэтага факту мы не зразумеем і эволюцыі чалавецкай моралі, якая прашла вялізны гістарычны шлях ад прымітыўных рэакцый альтруістычнага тыпу да самых складаных крытычных сыстэм.

Таварыскасьць зьяўляецца маткай соцыяльнага інстынкту ўсіх жывёльных відаў, у тым ліку і чалавека. Працоўнае супрацоўніцтва людзей, якія карыстаюцца штучнымі прыладамі працы, відазьмяняе гэты інстынкт, у шмат разоў узмацняючы яго, надаючы яму новы размах, нараджаючы новыя, невядомыя рэшце жывёльнага сьвету фактары яго разьвіцьця.

Налічнасьць у распараджэньні чалавека такога способу зносін, як мова, робіць вялізны ўплыў на разьвіцьцё яго соцыяльнага інстынкту. Мова дапамагае ўзаемаадносінам і, значыцца, узмацненьню сымпатый, палягчае працоўнае супрацоўніцтва і ўзаемадапамогу, дае магчымасьць перадаваць ад пакаленьня к пакаленьню прывычкі, якія склаліся ў даных абставінах, жадаючы, такім чынам, зрабіць правілы павядзеньня традыцыйнымі. Традыцыя, якая замацоўвае агульнапрынятыя ў даным побыце формы павядзеньня і якая перадае іх ад пакаленьня к пакаленьню, паступова абкружае іх вянком сьвятасьці, зьмяняе іх у наказы, з формаў павядзеньня робіць іх нормамі павядзеньня.

Аб моралі можна сьмела сказаць словамі Мэфістофеля, што яе

Законы и права наследное именье,
Как старую болезнь с собой,
Несет одно другому поколенье,
Адна страна стране другой.

Калі традыцыя ў жывёльным сьвеце абумоўліваецца толькі перайманьнасьцю, то ў чалавецкім грамадзтве ў яе ўтварэньні першарадную ролю грае мова, гутарка. Наказ, які перадаецца старэйшымі малодшым, пакаленьнем пакаленьню, родам роду, прывучае членаў грамадзтва лічыць усё карыснае колектыву, што ўмацоўвае яго магутнасьць, дапамагае яго барацьбе за існаваньне, патрэбным і добрым, прыкладным і, значыцца, тым, што вызначае правілы павядзеньня. Гэтак, мова йграе важнейшую ролю ва ўтварэньні і формаваньні чалавецкай моралі.

Разьвіцьцё вытворчых сіл, якое зьмяняе адносіны чалавека да прыроды, вядзе да зьмены ўсяго яго быту і ўмоў яго барацьбы за існаваньне. Адносіны паміж жывёльным сьветам і прыродай не зьмяняюцца ад пакаленьня ў пакаленьне. Жывёльны быт моцны, яму невядома дынамічнасьць чалавецкага грамадзтва. Ня цяжка зразумець, якія гэта мае вынікі для формаваньня моральных прынцыпаў. У жывёл мы тут спатыкаемся з панаваньнем статыкі, у людзей—з рэзка адбітай дынамікай. У жывёлы соцыяльны інстынкт не зьмяняецца ад эпохі да эпохі, у чалавека

гэта зьмена ідзе надзвычайна далёка. І вось чаму да ўсёй нашай маралі цалкам можна ўжыць словы Дмонт-дэ-Вайе: „Няма нічога, што насіла-б у вадным якім-небудзь месцы такі моцны, бясспрэчны і азначаны характар, што супроцьлеглае не магло знайсьці такой самай упартай абароны ў другім“.

Дасьледцы вызначаюць прысутнасьць у цэлага шэрагу жывёл строгага моногамічнага прынцыпу. Моногамія зьяўляецца ў канарэек, некаторых пород качак, буслоў ды іншых птушак сьвятым моральным правілам, якое старанна ахоўваецца. Гэтае правіла непарушна і нязьменна на працягу эпох. Качка-мандрын—строгі моногамісты цяпер, як і тры тысячы год таму назад. У жывёльных колах адносна якой хаця моральнай нормы можна сказаць, што „так было, так будзе“. Эпохі тут ня робяць зьмен. Ня тое ў чалавецкім грамадзтве. Адносна апошняга можна пэўна зацьвярджаць, што яно ня знае адвечных і якія раз на заўсёды вызначаюцца моральных прынцыпаў. Моральны закон чалавецтва таксама зьмяняецца, як зьмяняецца ўвесь грамадзкі ўклад, як дынамічны ўвесь грамадзкі быт, які бесьперастанку зьмяняецца з ростам вытворчых сіл. Сягоньня моральны прынцып—моногамія, учора і пазаўчора—полігамія, поліандрыя, дзесяткі іншых шлюбных форм, якія асьвечвала для свае эпохі сучасная мараль. І праўда была аднаго з лепшых дасьледцаў формаў шлюбу, калі той сказаў, што „чалавек можа, па крайняй меры, на розных ступенях разьвіцьця, жыць бадай ва ўсіх мысьлімых формах шлюбу*). Моральнай зьяўляецца тая форма шлюбу, якая адпавядае грамадзкім адносінам эпохі. Умовы часу і месца сьцьвярджаюць, як моральную, тую шлюбную форму, якая знаходзіцца ў сугучнасьці з гэтымі ўмовамі. І таму шлюбная форма, якая сьцьвярджаецца моральна, зьмяняецца разам з усім грамадзкім ладам.

З гэтага боку нашыя моральныя нормы, якія тычацца шлюбу, падзяляюць, зразумела, лёс усіх наагул моральных норм, усёй маралі, якая формуецца і відазьмяняецца пад ціскам экономічнай патрэбы.

Такога роду трансформацыю маралі мы можам наглядаць на лёсах якога хаця моральнага прынцыпу.

Ці ёсьць сярод гэтых прынцыпаў яшчэ адзін такі агульнапрызнаны, агульнаабавязковы і нязьменны, як прынцып, які пануе нават сярод некаторых пород драпежных птушак—„ня еш падобнага да сябе“. Гісторыя разьвявае гэтыя ілюзіі і красамоўна апавядае аб маралі, якая дазваляла чалавеку есьці чалавека. Моральны кодэкс першабытнага чалавека не паўстае супроць людаедзтва. Канібалізм—стадыя, цераз якую прашла большасьць першабытных пляменьняў. Рэлігійныя звычаі шмат якіх цывілізаваных народаў сучаснасьці выразна хаваюць сымболічныя сьляды людаедзтва. Дасьледзіны жыцьця першабытных народаў і назіраньні

*) Д-р Ф. Мюлер-Ліэр. Форма шлюбу, сям'і і сваяўства. Пер. І. Степанова. Выд. Даупе. М. 1913 г., ст. 53.

над жыцьцём дзікуноў, якія мелі месца ў XVII і XIX в. в., паказваюць, як шырака было распаўсюджана сярод іх людаедзтва і як яно ўжывалася з цэлым шэрагам моральных норм, якія ўласна кіравалі павядзеньнем першабытнага чалавека ў розных галінах яго ўчынкаў. „Канібалізм або людаедзтва,—пісаў Ліпэрт у сваёй клясычнай працы па гісторыі культуры,—яшчэ ў наш час існуе ў шмат якіх куткох земнае кулі, і тыя пляменьні, якія захавалі гэты старажытны барбарскі звычай, у адносінах жыцьцёвай энэргіі зусім не стаяць ніжэй усіх іншых пляменьняў. Мяркуючы па сьлядох, якія засталіся, звычай гэты калісь быў пашыраны бадай па ўсёй зямлі. Вышэйшага разьвіцьця дасяг ён у старажытнай Мэксыцы, існуючы там побач з параўнаўча высока разьвітай культурай“*).

Вось маляўнічыя факты з гэтай галіны, запазычаныя мною ў Карля Летурно:

„У Віці (выспы Мэлязынійскага архіпэлягу) забойства і канібалізм былі ня толькі зусім звычайным зьявішчам, але нават і карысталіся вельмі вялікай павагай. Тут да чалавека адносіліся з тым большай павагай, чым часьцей ён абліваў свае рукі чалавецкай крывёй і наядаўся чалавецкага мяса. Правадыр племені Ракі-ра, вялікі Ра-Ундр-Ундр, гардзіўся тым, што зьеў 900 чалавек, зьеў у поўным сэнсе слова адзін, не дапусьціўшы нікога да ўдзелу у сваёй ядзе.

Адзін віціец, Лоці, пазьней усмажыў сваю жонку на агні, які прымусіў раскласьці яе самую, і потым ён падзяліў яе на часткі і зьеў: усё гэта зрабіў ён бяз жаднай нянавісьці або гневу, выключна толькі дзеля таго, каб набыць вядомасьць, высунуцца з натоўпу. Любоў да славы, якую звычайна так пыхліва ўсхваляюць у Эўропе панэгірыстыя гэрояў, вельмі разьвітая паводле слоў Прычарда ў віційцаў; але там яна падае на долю вялікіх забойцаў і людаедаў. Сярод іх чалавек, які не забіў і ня зьеў ніводнага ворага, выклікаў да сябе вялікую ганьбу; такім людзям пагражала нават зьняважлівая кара: іх засуджвалі і прымушалі біць па гразі ганебнай паліцай, бо яны ня здолелі скарыстаць яе для сапраўднай справы.

Тых-жа з пераможных, якіх не маглі з прычыны сытасьці зьядаць на месцы, захоўвалі проста на запас для будучых баляў. З гэтай мэтай іх адкормлівалі і елі па меры патрэбы. Віці чалавецкае мяса цанілася вельмі высока. Некаторыя гастрономы знарок давалі яму пратухаць. На мясцовай мове яно насіла назву „доіннай сьвіньні“ і існавала правіла, паводле якога страва з чалавецкага мяса павінна была абавязкова фігураваць на ўрачыстых балёх: гэта была самая далікатная ежа, бо, жадаючы пахваліць якую-небудзь страву, гаварылі: „Яна далікатная, як мяса мёртвага чалавека“.

Падобныя-ж, хоць крыху менш утончаныя звычаі спатыкаем мы і ў Новай Калядоніі, бо племя, якое насяляе яе, стаяла на больш нізкім

*) Ліпэрт. Гісторыя культуры. Пер. пад рэд. Д. Коробчевского, СПБ, 1902 г. ст. 371.

стопні разумовага разьвіцьця. Жаданьне паесьці чалавецкага мяса складала самую звычайную прычыну для ўзьнікненьня вайны між асобнымі родамі. „Ужо даўно,—гаварылі часамі правадыры,—мы ня елі мяса, пойдзем за ім“. Рока паведамляе, што перад выхадам у паход часамі можна было чуць нешта падобнае на людаедзкую песьню,—наступны дыялёг паміж правадыром і жаўнерамі:—Нападзем мы на ворагаў?—Але.—Ці дужыя яны?—Не.—Ці храбрыя яны?—Не.—Заб‘ём мы іх?—Але.—Зьямо мы іх?—Але.—Бітва звычайна спынялася пасьля таго, як некалькі чалавек было забіта.

У Новай Калядоніі панаваў ня выключна адзін вайсковы канібалізм; там мела месца таксама людаедзтва ўнутрырадавое.

Адзін прадбачлівы правадыр, напрыклад, забіваў час-ад-часу каго-небудзь з сваіх падданых і саліў яго, каб мець штодзень страву з мяса. Другі, які набыў легендарную вядомасьць, вялікі Буарат, часта дазваляў сабе, разам з сваім сямействам, ласавацца мясам сваіх падданых, якія належалі да ніжэйшай класы. Новакалядонская грамадзкая думка ані не засуджвала такога царскага ўчынку, і Буарат пакінуў па сабе выдатную славу: „Вялікі правадыр Буарат, слаўны ўладар Буарат“, казалі аб ім яшчэ нязьедзеныя падданыя. Нават бацькаўскае каханьне і тое спынялася перад такой нязвычайнай славаю. Адзін бацька, новакалядонец, спакойна апавядаў, што яго дзіця зьеў цар, які, гаварыў ён, быў вялікім правадыром.

Адным словам, на выспах Фіджы і ў Новай Калядоні, чужаземец, чалавек з другога племя, разглядаўся, як зьвер, на якога можна было паляваць, а жанчыны, дзеці і ніжэйшыя прадстаўнікі свайго племя часта замянялі забойную жывёлу.

На Вогненнай Зямлі таксама, як і ў Аўстраліі і ў шмат іншых месцах, жанчына прадстаўляе сабою нешта накшталт жывога запасу мяса. Фіцрой быў сьведкай, як прынясьлі ў ахвяру адну бабульку ў час голаду. Яе прымусілі дыхаць дымам ад агню, раскладзенага з зялёнага гальля, і яна задушылася. Адказ, які атрымаў на гэты конт ангельскі падарожнік, вельмі цікавы: ён паказвае бяз жаднага сумненьня поўную нявіннасьць і адсутнасьць жадных хістаньняў у час зьдзяйсьненьня ў першабытных краінах падобных, жахлівых для нас дзеяньняў.

„Чаму,—запытаў Фіцрой,—ня прыносіце вы лепей у ахвяру вашых сабак?“ „Сабака ловіць *ЯПО*“, г.-зн. коціка, вельмі спакойна адказалі тубыльцы.

Новазэляндцы зьядалі нявольнікаў, звычайна маладых людзей і мужчын і жанчын, якіх з гэтай мэтай папярэдня выкормлівалі, як у Віці. Такія выпадкі хатняга людаедзтва часьцей за ўсё адбываліся з прычын якога-небудзь сьвята, калі мелася на ўвазе зрабіць пашану блізкім ці сябром. Часамі выбіралі для гэтага каханую нявольніцу, маладзенькую

дзяўчынку, якую называлі звычайна якім-небудзь пяшчотным імем. Такім чынам, новазэляндцы выказвалі сваю шчырую павагу да госьця.

Сумленьне новазэляндцаў ані не абуралася падобнымі ўчынкамі; ім здавалася, калі яны ядуць чалавека, яны робяць зусім звычайную простую справу. Чаму-ж і ня есьці людзей,—казалі яны Марздэну. Вялікая рыба есьць, бач, маленькую, хоць належыць часамі да аднаго з ёю віду.

А вось і поэтычны твор, запісаны ў сярэдзіне XVIII веку адным францускім афіцэрам і які абмалёўвае сапраўдны выпадак. Верш называецца Ці-хі-ху (асабісты ўспамінак). У ім апавядаецца аб адным ваяўнічым і мужным чалавеку.

Ён быў маім т а й о; я прывык
Браць яго з сабою ў сваіх бадзяньнях па лясох,
І калі дарога была доўгая або цяжкая,
Я садзіўся, як ён хацеў, яму на сьпіну або на шыю,
Калі поўдзень напальваў морскі бераг сваім полымем,
Я заходзіў у яго халупу і быў, як дома;
Ён аддаваў мне сваё ложка, сваю цыноўку і жонку
Ды ішоў спаць пад цень кустоў.
Але аднойчы мне давялося паехаць на суседні востраў,
Каб ратаваць захоплены віхурай карабель;
Я зьвярнуўся цераз тыдзень назад
І пачаў шукаць свайго т а й о; але цар яго зьеў.
Вялікі жрэц сказаў цару: „Калі старасьць
І хваробы, што зьнясіляюць цябе, прымушаюць пахмурнець твой шляхетны твар,
То зьеш жаўнера,—яго сіла, гнуткасьць
І храбрая душа пяройдзе тады ў тваё цела“.
І, жадаючы скарыстаць моладасьць і сілу майго тайо,
Цар яго зьеў на вялікай талерцы з кары,
Прыпраўленага як сьлед і надзяванага пататамі.

Дасьледцы ня выказваюць сумненьня, што падобнага роду звычаі ўласьцівы на пэўным стопні разьвіцьця бадай якому хаця племені. Ці значыць гэта, што мы будзем прызнаваць кожнае племя, якое практыкуе людаедзтва, бязьмежна-эгоістычным, амаральным, для якога моральны канон—чужы. Гэта было-б самай вялікай памылкай, хоць-бы ў моц частай наяўнасьці ў тых самых пляменьняў, што канібальствуюць, пэўных моральных норм у галіне, прыкладна, родавых адносін, дапамогі, што робіцца таварышом, недатыркальнасьці маемасьці, якая належыць другому і г. д. Усё гэта пераконвае нас у тым, што мы маем пры людаедзтве справу не з амаральнасьцю, а з пэўнага роду маральлю, якая для нас таксама чужая і далёкая, як чужыя і далёкія тыя ўмовы, у якіх яна разьвівалася. Але для тых умоў яна была натуральная і законная.

Ужо Фрыдрых Энгельс паказаў на тыя ўмовы, якія штурхалі першабытнага чалавека на шлях людаедзтва; гэтыя ўмовы, паводле яго думкі, ствараліся адсутнасьцю ў гэтага чалавека сталых крыніц харчаваньня. Найбольш аўторытэтныя дасьледцы даюць узьнікненьню людаедзтва тожсамае тлумачэньне. „Голад, недахоп дзічыны і наогул мяса“, кажа проф. Д. С. Анучын—„вось, як відаць, прычыны людаедзтва ў пешчарэсаў Вогненнай Зямлі, у жыхароў некаторых выспаў Полінэзіі, у Бразыліі... месцамі, у вядомы час году насяленьне (напрыклад, першабытныя дзікуны Аўстраліі) прымушаны наогул галадаваць, і тады, асабліва-ж, калі адшуканьне дзічыны прыводзіць да бойкі з другім племем, то забытыя і захопленыя ў палон ворагі лёгка могуць быць ужыты на ежу“... Людаедзтва асабліва трымаецца там,—сьведчыць Летурно,—дзе простая патрэба існаваньня наводзіць на яго, іменна: на маленькіх выспах, дзе адчуваецца недахват ежы, у Новай Зэляндыі, дзе няма вялікіх сысуноў, апрача сабакі, дзе расьліннае царства беднае на плады, якія маюць у сабе даволі крухмальных рэчаў. Таму тут людаедзтва ўзьнікае бадай з сілай няўхільнай патрэбы“.

*(Канец будзе)*

# БЕЛАРУСКАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ Ў ГІСТАРЫЧНЫМ АСПЭКЦЕ

**З. Жылуновіч**

Апошнімі часамі з боку Савецкае ўлады ды Комуністычнае партыі зьвернута значная ўвага да інтэлігенцыі. Жыцьцё высунула на паверх патрэбу яснага вызначэньня адносін інтэлігенцыі да сучаснага стану, да працы ў галінах культурна-грамадзкае апініі, да поўнага прызнаньня з яе боку дыктатуры пролетарыяту і тых мэтаў ды ідэалаў, якія нясе гэта дыктатура.

Умацаваньне работніцка-сялянскага ўраду, посьпехі яго працы ва ўсіх галінах дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва настойна патрабуюць для далейшага разьвіцьця заваёў Кастрычнікавай рэволюцыі цеснага супрацоўніцтва ўсіх тых катэгорый грамадзянства, якім гэта рэволюцыя дала і ў далейшым абяцае ахоўваць шырокую мажлівасьць здавальненьня іх матэрыяльных і духоўных запатрабаваньняў. А што вялікай часткі нацыянальнае інтэлігенцыі, дробна-буржуазным слаём (серадняком) сялянства і нават значнай катэгорыі рамесьніцтва політыка Савецкае ўлады дала шмат пераваг параўнаўча з дарэволюцыйным часам, аб гэтым не даводзіцца спрачацца, і гэта не павінны ня прызнаць адзначаныя катэгорыі грамадзянства. Тым болей і паўней, панашаму, уконтактаваны многія дамаганьні інтэлігенцыі, асабліва ў галіне яе нацыянальных імкненьняў. Гэты факт стаў агульнавядомым і атрымаў для сябе падтрыманьне рэчаіснасьцю жыцьця.

Дык чаму-ж усё-ткі патрабавалася паднімаць пытаньне аб інтэлігенцыі ў паласу гэткае сытуацыі?

А прычынаю гэтаму паслужыў той факт, што частка інтэлігенцыі, улічваючы многія дадатныя для сябе моманты ў заваёвах рэволюцыі, ня хоча, аднак, пагадзіцца з тым фактам, што ёй ня дадзена кіраўнічая роля ў політычна-дзяржаўным жыцьці. Не разьбіраючыся належна ў тым, якую ролю прызначае ёй гісторыя ў міжклясавых суадносінах, інтэлігенцыя лічыць сябе, чамусьці, асобным цэлым, абранай катэгорыі людзьмі, якія павінны мець калі і не кіраўнічую скрыпку ў дзяржаўным організьме, то, па крайняй меры, быць роўнаю з пануючай клясай.

Тая роля, якую інтэлігенцыя цалкам прысвойвае сабе, але якую яна адыгрывала, як опозыцыйная грамада ў часы самаўладзтва, дзякуючы падпіханьню яе на гэта з боку працоўных, вылучае зданны орэоль вялікага „подвижника и заступника страждущих“. Верхавенства-ж рабочых і сялян, хоць і сапраўдных будаўнікоў жыцьця, але нядаўна яшчэ людзей

апошняй ступені ў соцыяльных усходах, у воку інтэлігенцыі ніякавата, нячэмна да таго, што ўсё іншае, здабытае імі, памяншае сваю вартасьць, сілу і значаньне.

Вось чаму мы ёсьць сьведкамі тым зьявам, якія гавораць нам аб сапраўды існуючых сярод некаторай часткі беларускае інтэлігенцыі нядобраякасных ападкаў у настроях. Нельга адказваць таму факту, што каламутнасьці гэтых ападкаў у значнай меры надае тактыка старога й новага чынавенства розных нацый, якое ў змаганьні з беларусізацыяй і цалкам з нацыянальнаю політыкай Савецкае ўлады ня спыняецца перад рознымі ўжо знаёмымі нам агіднымі выбрыкамі супроць гэтае політыкі.

У цягу будаўніцтва нацыянальнае справы першага дарэволюцый нага пэрыоду асабліва даўся ў знак беларускай інтэлігенцыі нясупынны, інсынуацыйна-провокацыйны напад на яе першага выданьня, яшчэ не адноўленага, расійскіх чыноўнікаў, а таксама і польскіх патрыотаў. Адрыжкі таго часу ў нашай рэчаіснасьці—вядома прыкрае зьявішча. Але некаторая частка інтэлігенцыі ня хоча ўлічыць таго, што з гэтаю прыкрасьцю ня так лёгка справіцца. А што з ёю Савецкая ўлада рашуча расправляецца і будзе расправляцца—гэта не адны словы. Трэба-ж улічаць тыя ўмовы гістарычнага мінулага, якія вякамі працавалі не на карысьць беларускага працоўнага народу. Вяковы тэрмін гвалтоўнага зьнішчэньня нацыянальнага жыцьця не загойваецца дзесяткам год хоць і настойнае працы. Літва ці Латвія, захаваўшыя куды больш сваю самабытнасьць, колькі часу змагаліся з царскім насьледзьдзем, пакуль патроху (яшчэ далёка ня зусім) пачалі яго зьнішчаць. Для беларускага савецкага ўраду тутака праца шмат цяжэйшая. Але зразумець гэтага якраз і ня хоча адмечаная частка інтэлігенцыі. Чаму-ж яна гэткая няўмольная? Што ёй надае падобную ганарлівасьць і ці мае яна ў сваім мінулым гістарычнае (хоць-бы!) апраўданьне гэтай ганарлівасьці? Адкуль і што яна набылася ў яе і пры якіх умовах прасякла гэту частку інтэлігенцыі? А мо' гэта ёсьць натуральная якасьць, для ўсяе беларускае інтэлігенцыі падмацаваная соцыяльна-клясавымі момантамі разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху, ці гэта частковы нагон чужога, бакавога ў процэсе гэтага разьвіцьця? Калі апошняе, дык тады наколькі гэта якасьць глыбока сядзіць у вагульнай сям'і беларускай інтэлігенцыі і якую пэрыфэрыю яе займае?

Вось пытаньні, якія павінны быць асабліва цікавымі ў наш час і для высьвятленьня якіх мы хочам зрабіць экскурс у гісторыю. Панашаму, ужо ёсьць на гэта падстава і ёсьць досыць матэрыяльнага скарбу, каб яго скарыстаць дзеля нашай працы.

Каб дасканала адказаць на пастаўленыя пытаньні, трэба азірнуцца назад у мінулае гісторыі разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху і прасачыць, з якіх слаёў грамадзянства надыходзіла ў яго інтэлігенцыя, ці аднастайны быў яе склад, якую ролю кожная катэгорыя гэтае інтэлігенцыі адыгрывала, якія мэты спаганяла і, нарэшце, на якой па соцыяль-

ным складзе частцы інтэлігенцыі, галоўным чынам, беларускі нацыянальны рух грунтаваўся. Побач з гэтым, важна ўлічыць і тыя інтарэсы ды мотывы, якія ўвесь час кіравалі беларускаю інтэлігенцыяй у яе працы.

Дык вось, калі крануць гісторыю інтэлігенцыі спачатку дзевятнаццатага стагодзьдзя, то мы ўбачым, што ў той час, час фактычнага станаўленьня беларускага нацыянальнага пытаньня на цьвёрдую глебу, інтэлігенцыя, надышоўшая ў гэту справу, была інтэлігенцыяй шляхецкай, дробна-буржуазнай. Выхаваньне яна атрымала ў польскай культуры, у польскіх клерыкальна-арыстократычных абставінах. Але, з аднаго боку, пад уплывам ідэй францускае рэволюцыі, з другога боку, дзякуючы экономічна-матэрыяльнаму стану, які больш падбліжаў дробную шляхту да сялянства, ніж да магнацтва, паступовая частка шляхецкае інтэлігенцыі зацікавілася беларускаю справаю і стала ёю займацца. Ды наогул цяжкі экономічны стан беларускага сялянства, яго нацыянальная прыгнечанасьць, яго някультурнасьць не маглі ня ўплываць на гарачых романтыкаў нават і з буйнае буржуазіі. Дзякуючы паказаным прычынам, у польскай пісьменнасьці сталі зьяўляцца артыкулы на беларускія тэмы, а пасьля тыя-ж польскія пісьменьнікі часткаю пачалі пісаць і пабеларуску. На беларускай мове зьявілася „Энэіда навыварат“, „Тарас на Парнасе“, цэлы шэраг орыгінальных твораў. Пісьменьнікі Я. Баршчэўскі, В. Рыпінскі, Т. Манькоўскі і інш. адцягнуліся ад польскае літаратуры і заняліся беларуска-літаратурнай чыннасьцю. Я. Чачот стаў зьбіраць беларускую народную творчасьць. Іхняя праца падала на добрую глебу, знаходзячы сабе моцную падтрымку ў шырокіх колах тагачаснае інтэлігенцыі. Пазьней крыху А. Дарэўскі-Вярыга, В. Каратынскі і В. Дунін-Марцінкевіч—асабліва апошні—яшчэ болей паглыбілі зацікаўленасьць шляхецкае інтэлігенцыі беларускаю справаю, аддаючы ў сваёй літаратурнай працы большую ўвагу пісьму пабеларуску. Але, пішучы аб Беларусі, цікавячыся народным бытам, яго творчасьцю, як памянёныя пісьменьнікі, гэтак і ўся інтэлігенцыя мала цікавіліся соцыяльнымі ўмовамі жыцьця беларускага сялянства. Як-ні-як, а экономічны стан шляхты, яе прывілеі ў дзяржаўным жыцьці, яе культурны ўзровень, не давалі хоць і лепшым яе прадстаўніком цалкам аддацца на ўслужэньне народу, кінуўшы свае клясавыя імкненьні. І зацікаўленьне беларускім рухам дробна-шляхетныя інтэлігенты абварачалі часта ў дылетанцтва, у лепшым выпадку, у романтычныя мары. „Яны (тагачасныя пісьменьнікі, якія і складалі актыў інтэлігенцыі) пісалі дзеля задаваленьня свайго сэрца, свайго романтычнага пачуцьця, у лепшым выпадку, ставячы сабе некаторыя заданьні ў кірунку паляпшэньня долі народу, зьмякчэньня панскіх адносін да мужыкоў і разьвіцьця краёвае культуры“ *).

Але і самых выпадкаў, калі „ставіліся заданьні аб паляпшэньні долі народу“, было зусім мала; больш на гэта налёг толькі В. Дунін-Марцін-

*) М. Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. Стар. 160.

кевіч. Усё-ж і апошні бачыў палепшаньне долі беларускага селяніна не ў экономічным, політычным і нацыянальным вызваленьні, а ў паводзінах яго, у пабудаваньні хатняга быту селяніна і інш.

В. Дунін-Марцінкевіч быў лібэралам-народнікам, але сваё народніцтва тапіў у панскім сантымэнтальным лібэралізьме. Сам сябе ён лічыў „дударом простага народу", нават выпадкова падглядаў соцыяльную несправядлівасьць, якая давіла беларускае сялянства, а ня толькі зжыць гэту несправядлівасьць адпаведнымі мэтодамі не парадзіў, а нават не адмячаў яе ні ў сваіх творах, ні ў сваіх гутарках.

У сваім артыкуле т. У. Ігнатоўскі*) ўпапад характарызуе соцыяльны бок асобы В. Дунін-Марцінкевіча гэткімі словамі: „Як лібэрал-шляхціц, В. Дунін-Марцінкевіч лічыць, што паміж прыгоньнікам панам і запрыгоненым селянінам соцыяльнае прорвы няма. Ёсьць толькі яма, якую магчыма запоўніць аднымі моральнымі сродкамі. Трэба толькі, каб пан шанаваў і любіў селяніна і клапаціўся аб яго дабрабыце. Селянін у вадказ на такія да яго адносіны павінен „хваліць бога, шчыра працаваць, любіць добрых паноў, маўляў, родных бацькоў". Само сабою зразумела, што В. Дунін-Марцінкевіч адбіваў погляды цэлае катэгорыі тагачаснае беларускае інтэлігенцыі. Да беларускага селяніна яна была ня блізка.

Іначай глядзелі на сялянскую справу рэдкія ў той час сялянскія інтэлігенты, прадстаўніком якіх быў у той час П. Бахрым. Як пахаджэнец з сялян, П. Бахрым займаўся пісаньнем твораў аб сялянскім быце і яго хваробах. Апроч пісаньня, ён нават прыняў удзел у паўстаньні сялян, якое было ў яго часы (у 1850 г.) у яго мястэчку Крошыне на Навагрудчыне. За гэта ён быў здадзены ў салдаты. Як бачым, П. Бахрым мог-бы лічыцца папярэднікам тэй асноўнай грамадкі інтэлігенцыі, якая вышла на сцэну пасьля 1905 г. Аднак, яго зьявішча ў беларускім руху таго часу не адзначае характэрнасьці і ёсьць фактам адзіным. Вось чаму для пасьлядоўнасьці ў гістарычным зьвязку разьвіцьця ідэй трэба лічыць яго пераймальнікам толькі К. Каліноўскага з некаторымі ўдзельнікамі тае справы, якую яны вялі.

К. Каліноўскі хоць і ня вышаў з таго стану, з якога вышаў П. Бахрым, усё-ж ён сумеў падлавіць ідэі, што хвалявалі П. Бахрыма, паглыбіць іх і папробаваць правясьці ў жыцьцё ўжо не праз паўстаньне мяшчан аднаго мястэчка, а праз краёвае паўстаньне.

Бязумоўна, што пакаленьне беларускае інтэлігенцыі, у васяродку якога стаіць Ф. Багушэвіч, таксама для сваёй працы атрымала багата натхненьня ў ідэях К. Каліноўскага. Пакуль няма ўказаньняў гісторыі на тое, як Ф. Багушэвіч і яго адначасьнікі непасрэдна ўбіралі ў сябе веяньні 63 году, але лёгічна неадмоўна, што гэткае здарэньне, як паўстаньне 63 году, не абмінула і не магло абмінуць ніводнага, нават больш-менш сьвядомага чалавека. Тым болей Ф. Багушэвіч ня мог ня быць захоп-

*) „Маладняк" № 12(3). У. Ігнатоўскі. Увагі да вынікнаваньня беларускага руху.

леным ідэямі паўстаньня, як ідэямі вызваленьня айчыны. Поэтычная душа яго ды ўзрост (яму было ў час паўстаньня 22 гады) маглі толькі спрыяць гэтаму.

Таму мы й бачым, што Ф. Багушэвіч сваю беларускую чыннасьць абагаціў соцыяльнымі мотывамі, што беларуская інтэлігенцыя яго часу цікавілася соцыяльным пытаньнем ня менш, чым нацыянальным. Уся літаратурная творчасьць Ф. Багушэвіча прасякнута гэтага зьместу мотывамі. Стан беларускага сялянства займае поэту вельмі крэпка, і ён у сваіх творах аддае яму галоўную ўвагу.

Аднак, і Ф. Багушэвіч не паказаў дарогі, ідучы якою можна зьняць соцыяльны прыгон з плеч сялянства. У яго творах не знайсьці прызыву да вызваленьня, хоць-бы ў сымболічным выглядзе ці ў алегорычных сказах. Вядома, цяжкія цэнзурныя ўмовы панаваўшай рэакцыі не дазволілі-б угледзець сьвет гэткім творам. Але дагэтуль ня знойдзена яго хоць-бы ненадрукаваных твораў бадзёрага характару. У гэтым сэнсе гэроічнасьць расійскіх народавольцаў не знашла ў сабе столькі сілы, каб уплыць на Ф. Багушэвіча, каб разарваць рэштку сантымэнтальнасьці, набытае ў абставінах шляхецкае псыхолёгіі. Дзякуючы гэтаму, Ф. Багушэвіч сілу протэсту супроць соцыяльнага няладу і політычна-нацыянальнага прыгону ўлажыў у выкупленьне адмоўных бакоў сялянскага жыцьця. Ён выключна праз сілу абурэньня думаў падняць пачуцьцё помсты, таксама, як выключна гарачым патэтычным воклічам да любасьці, да захаваньня свае беларускае мовы—ён падгострываў нацыянальны момант у сваёй чыннасьці.

Гэткім чынам, Ф. Багушэвіч і сучасная яму беларуская інтэлігенцыя ў лепшым выпадку была толькі народніцкай. Рэволюцыйнай адзнакі яна не насіла, і калі шчырэй аддавалася беларускай нацыянальнай справе, то гэта было таму, што ўмовы часу не маглі абмежавацца заданьнямі папярэдняга пакаленьня. Шляхецкае-ж пахаджэньне яе ўсё яшчэ давала сябе адчуваць, не дазваляючы канчаткова зьліцца з гушчамі і поўнасьцю адбіць іх жаданьні. Загэтым і Багушэвічава пакаленьне беларускае інтэлігенцыі зьяўляецца ня больш ня менш, як папраўленым з боку дэмократызму выданьнем тае-ж дробна-шляхецкае інтэлігенцыі. У гэтае інтэлігенцыі не знашлося нават і гэтулькі радыкалізму, каб усвоіць цалкам ідэі К. Каліноўскага. І толькі круцей павярнула да гэтага інтэлігенцыя 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Гэтая апошняя ў большасьці сваёй паходзіла таксама або ад заможнага сялянства і толькі частка надыходзіла з так званых розначынцаў. Па профэсіі кадры яе напаўняла студэнцтва, галоўным чынам, Пецярбурскага, Маскоўскага і Юр'еўскага унівэрсытэтаў, Александрыйскага сельска-гаспадарчага інстытуту і інш., профэсарства, журналістыя, дактары, агрономы. З пасланцоў сялянства былі адзінкі, якія не характарызавалі эпохі і ня мелі заметнага ўплыву на агульную масу.

Але справа ў тым, што інтэлігенцыя гэтага часу жыла ў іншых умовах, чым пакаленьне Ф. Багушэвіча. У краі адзначаўся ўзрост прамысловасьці, ішло павялічэньне колькасьці рабочае клясы, нараджэньне марксыцкіх груповак, а пасьля (у 1896 г.) залажылася і РС-ДРП. Ды, нагул, рэакцыя, што наступіла пасьля разгрому народавольцаў, стала радзець, пачалося агульнае палітычнае ажыўленьне. Пад націскам рабочага руху, які ў гэты час ішоў на ўздым ды пашырэньне, буржуазныя ды дробна-буржуазныя слаі паглыблялі сваю опозыцыйнасьць да пануючага ладу і бралі нахіл улева. Студэнцтва йшло ў соцыялістычныя партыі і заўжды солідарызавалася з рэволюцыйнымі выступленьнямі рабочых. Вось чаму мы бачым, што першую нацыянальна-соцыялістычную беларускую партыю (Беларускую Соцыялістычную Грамаду (раней Беларускую Рэволюцыйную Грамаду) у значнай меры папаўнялі прадстаўнікі студэнцкай інтэлігенцыі. Аднак, некаторая частка інтэлігенцыі аставалася ўбаку ад соцыялістычнага руху, шкадуючы расставацца з сваімі клясавымі прывілеямі. Вось мы й бачым, што трэцяе пакаленьне беларускіх пісьменьнікаў, так званыя дзевяцідзесятнікі, выразна разьмяжоўваюцца па сваіх соцыяльных адзнаках на дзьве групы, згодна таму падзелу, які справодзіў і нарадзіўшую іх інтэлігенцыю. Калі Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), У. Ластоўскі ды інш. прадстаўлялі ўсё тую-ж шляхецка-буржуазную галіну апошняе, то К. Каганец і Цётка (А. Пашкевіч) ужо даюць нам песьняроў соцыялістычнага адбітку. Бадай што яны фактычна ёсьць першыя закладальнікі тае грунтоўнае ў беларускім нацыянальна-культурным руху асярэдзіны дзеячоў, якія пранясьлі на сабе ўсю цяжар часоў замацаваньня ды аформленьня беларускае справы. І Карусь Каганец і Цётка зьвянчалі ў сваёй чыннасьці ліру поэты з мячом барацьбіта рэволюцыянэра, гэтым пераняўшы спадчыну К. Каліноўскага. Абое з іх належалі да актыўных сяброў соцыялістычных партый, абое цярпелі ад рэпрэсый за гэту сваю чыннасьць.

Гэткім чынам, буржуазныя адзнакі беларускае інтэлігенцыі 90-х гадоў XIX стагодзьдзя зьмякчаліся, выціраліся, а то і гінулі зусім. У скутку праз соцыялістычныя партыі выхавалася новая беларуская інтэлігенцыя, якая ўжо цалкам прыняла на сябе справу вырашэньня нацыянальнага руху ў яго складанасьці з соцыялістычных пытаньняў і пытаньняў політычных. Выразных гістарычных традыцый у гэтае інтэлігенцыі ня было, таксама слабымі былі й тыя мотывы, якія-б надавалі ёй гонар пахаджэньня, саслоўную гордасьць ды інш. Што аставалася ад гэтага—нішчылася ў цягу партыйнае працы. Праўда, ня ўся і гэтага гатунку інтэлігенцыя захоўвала ўвесь час аднакавасьць у сваім настроі. Вялікая яе частка, выходзячы са стану студэнцтва, тупіла свой радыкалізм ды рэволюцыйнасьць, нажываючы новыя буржуазныя асабістасьці і ўсвойныя ім пагляды ды чыннасьці... Дазволіла-б гісторыя выключна гэтага роду інтэлігенцы ўручыць беларускі рух на доўгі час, магчыма, што ён усё-ж меў-бы до-

сыць густы адслоек буржуазнасьці і даваў-бы повад для незразумелага погляду на гістарычную ролю беларускага нацыянальнага руху.

Але гэтага ня здарылася. Гістарычны ход разьвіцьця грамадзкасьці прывёў да таго, што пераважнасьць працы ў беларускім нацыянальным руху пасьля рэволюцыі 1905 году засталася на плячох навейшае ўжо чыста народнае, рамесьніцкае ды сялянскае, інтэлігенцыі. Толькі невялікая колькасьць розначыннае інтэлігенцыі 90-х г. г. засталася вернаю народнай справе. І гэта колькасьць мусіла, вядома, урэшце парваць сваю сувязь з асяродкам, з якога вышла.

Рэволюцыя 1905 году ўзьняла сялянска-работніцкія гушчы, разварушыла іх і адслаіла з іх буйныя кадры інтэлігенцыі, уцягнуўшы яе ў працу на ніве нацыянальна-соцыяльнага адраджэньня Беларусі. Кіраўніца ў той час беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху, Беларуская Соцыялістычная Грамада, у значнай меры папоўнілася яе прадстаўнікамі, як настаўнікі-паштавікі, чыгуначнікі, пацягнуўшы за сабою рабочых ды сялян. Вось гэта эпоха і замацавала базу беларускаму руху, аформіўшы яго, як рух працоўных гушчаў, як нацыянальна-рэволюцыйны рух.

1905 год наогул пераламаў сваімі падзеямі хронолёгічную пасрэднасьць у складаньні многіх ідэй і ў эволюцыі клясавага напластаваньня. Тое сталася і ў адносінах гістарычнага разьвіцьця беларускае інтэлігенцыі. Кадры новых прыходцаў у беларускую справу з гушчы сялян ды рамесьнікаў унясьлі ў яе свае, адпавядаючыя соцыяльнаму стану пераважнай большасьці беларускага народу мэтоды і характар. Яны-ж, гэтыя прыходцы, будучы „сольлю свае зямлі“, таксама і ў гісторыю інтэлігенцыі прынесьлі корэктыў, які цалкам зьмяніў яе клясавую структуру. Згодна гэтаму корэктыву, шворанам, асяродкам, асноўным рухачом інтэлігенцкае думкі і працы надалей стала выключна інтэлігенцыя работніцка-сялянская. Яна пераняла пасьля 1905-1906 г. г. на свае плечы цалкам беларускую справу, і яна пачала пісаць яго гісторыю і разам гісторыю сваю.

Дзякуючы гэтаму зьявішчу, мы бачым, што політычны бок беларускага нацыянальнага руху даў вынікі ў выглядзе гостра-рэволюцыйных лёзунгаў Беларускае Соцыялістычнае Грамады, як прызыў да ўзброенага паўстаньня, бойкот Дзяржаўнае Думы, цалкам соцыял-дэмократычную програму-мінімум. У галіне-ж культурнай паўстала новая, прасякнутая соцыяльнымі, нават пролетарскімі ідэямі, беларуская літаратура. Таксама зьнізу, з гушчаў новае працоўнае інтэлігенцыі ўзрос тэатр. Тут ужо працы буржуазнай інтэлігенцыі амаль што ня было. Яе ласкаю не карміліся. „Наша Ніва“, вакол якое гуртаваўся беларускі рух, знаходзілася пад непасрэдным уплывам працоўнае інтэлігенцыі, запаўнялася яе матэрыялам, распаўсюджвалася ёю, яе сіламі падтрымлівалася. І вось таму, што народная інтэлігенцыя рашуча адціскала ад беларускае справы ўсе дробнабуржуазныя ідэі, апошнія пачалі концэнтравацца ў асобны асяродак. Не-

вялікая лічба буржуазна-шляхецкай інтэлігенцыі, якая ўсё-ж існавала і нават мела тэндэнцыю пашырацца, у 1910 г. была заснавана новая штотыднёвая газэта. Газэта ў процівагу „Нашай Ніве“ ставіла сваёю мэтаю абарону хрысьціянска-нацыянальна-дэмократычнага напрамку ў беларускім руху. Аднак, праца грамадкі з „Крыніцы“*) ў той час ня мела значнага посьпеху: занадта слаба была тая пэрыфэрыя, на якую разьлічвалі натхніцелі гэтых ідэй. І іх роля заключалася ў тым, каб абараняць да лепшых часоў прынцыпы свайго навучаньня.

У гэткім покаце ішло разьвіцьцё беларускае нацыянальнае справы працягам восемнаццаці год. Паступовы рост і ўзмацненьне народнае інтэлігенцыі адбываліся ўвесь час. Дробна-шляхецкая-ж інтэлігенцыя ў адносінах колькасьці мала падавалася наперад. Такім чынам, беларускі рух натуральна гартаваўся пад сьцягам працоўна-соцыялістычных прынцыпаў. Яго нясупынна папаўнялі сьвежыя маладыя сілы, якія пасылалі ад сябе працоўныя гушчы. У іх вачавідкі раставалі прадстаўнікі буржуазнае інтэлігенцыі і нават студэнцтва. Апошняга толькі лічаныя адзінкі, групуючыся ў Пецярбурзе пры выдавецтве „Загляне сонца і ў наша ваконца“, не парывалі з беларускім нацыянальным рухам.

Пры гэткай сытуацыі падасьпела лютаўская рэволюцыя 1917 году. У адчыненыя ёю вароты беларуская працоўная інтэлігенцыя ўвашла сама сабою. Перад ёю аднэй паўстала заданьне: захапіць у сфэру беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху абуджаныя рэволюцыяй шырокія сялянскія, рабочыя і салдацкія гушчы. Да гэтых гушчаў яна і зьвярнулася. Камітэты Беларускае Соцыялістычнае Грамады (Менскі, Пецярбурскі, Маскоўскі) зразу вышлі на вуліцу з сваімі лёзунгамі і кінулі іх ў працоўныя масы. Апошнія дружна адгукнуліся на прызывы БСГ. У хуткім часе організацыі гэтае партыі пашлі расьці за кошт рабочых, сялян і асабліва салдат. На ўсіх фронтах залажыліся партыйныя камітэты Беларускай Соцыялістычнай Грамады. К лету 1917 г. вагромністы размах беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху цалкам падпаў пад яе ўплыў. Абраны на зьезьдзе ў сакавіку (25) гэтага году Беларускі нацыянальны камітэт з надворнага боку як-бы на нейкі час злучыў беларускую інтэлігенцыю пад лёзунгам „нацыянальных імкненьняў“. У яго склад былі ўведзены прадстаўнікі ўсіх напрамкаў у беларускім руху. Але на другі дзень пасьля выбараў камітэту праца кожнае партыі пашла паасобку. Праўда, у камітэце астаўся прэзыдыум, які праз старшыню камітэту стараўся насаджваць і пашыраць нацыянальна-дэмократычныя думкі, насьледаваныя ад гуртка пры „Крыніцы“ і яго пасьлядоўцаў у выглядзе нацыянальна-дэмократычных аб‘яднаньняў, якія паўсталі з часам лютаўскай рэволюцыі, але яго працы ані не давала разгарнуцца праца соцыялістычных беларускіх партый, як БСГ і БСДПб,

*) „Крыніца“—газэта, якая выходзіла ў Вільні і якую выдавалі беларускія дзеячы буржуазна-шляхецкае ахварбоўкі.

заснаваная ўлетку (чэрвень месяц) у Пецярбургу. У ліпні месяцы (8) пад націскам гэтых партый нацыянальны камітэт быў перайменаваны ў Раду беларускіх організацый і партый; Рада амаль ня цалкам была складзена з грамадаў, дапусьціўшых у яе для проформы па адным прадстаўніку ад трох іншых груповак (беларуская партыя народных соцыялістых, дэмократычная партыя і непартыйныя). Далей ва ўсіх політычных выступленьнях як беларускага характару, гэтак і агульнарасійскага, беларускі нацыянальна рэволюцыйны рух прадстаўляла выключна Беларуская Соцыялістычная Грамада, якая к гэтаму часу складалася з працоўнае інтэлігенцыі, з сялян, з рабочых ды з салдат. Невялікая колькасьць буржуазнае інтэлігенцыі цацкалася з сваімі лёзунгамі ў вузкім коле сваіх прыхільнікаў, зусім ня маючы ўплыву на разьвіцьцё беларускага руху. Мажліва, што пайдзі разьвіцьцё здарэньняў іншым напрамкам, чым той, які прыназначыўся яму лютаўскай рэволюцыяй, буржуазная галіна беларускай інтэлігенцыі варылася-б у ціхім стаўку сваіх аджыўшых плянаў ды намераў. Але, як то ні дзіўна, паглыбленьне клясавага змаганьня чым далей ад лютага, тым болей паспрыяла будучай беларускай эміграншчыне. І вось чаму: паглыбленьне клясавага змаганьня дыктавала кожнай соцыялістычнай партыі паўней адмежавацца ад таго наслою чужых элемэнтаў, якія да іх прыстаў у час лютаўскіх падзей. Тады нейкая частка буржуазнае інтэлігенцыі, нявыясьненых політычных поглядаў, болей прадстаўнікі многалікіх аб'яднаньняў „трудавое інтэлігенцыі", „радыкалаў", „коопэратараў" і інш. па пахаджэньні беларусаў, рашылі забыць мінулае і сталі перакідацца ў беларускі лягер. Пад нацыянальным сьцягам было шмат лягчэй захаваць сваё крэдо, падкрэсьліць свой радыкалізм нацыянальнымі лёзунгамі.

Ужо к часу ліпнёўскіх дзён (5—7 ліпня 1917 г. [1]) у Пецярбурзе беларускія соцыялістычныя колы пачулі выразны напор супроць сваіх лёзунгаў з боку новага, дагэтуль нязначнага павею буржуазна-шляхецкага з прымесьсю вобласьніцка-русыфікатарскага псэўдо-дэмократызму. Страляніна на Неўскім хутка адбілася спачуваньнем Кераншчыне ў сэрцах розных радаўцаў, аўтономістых, вобласьнікаў ды інш. У вадзін кашэль пачалі сплятацца рознастайныя колеры буржуазнай адшчапеншчыны, перабіраючы ў сваіх брудных руках пытаньні беларускае справы. Трохі пазьней з іх вызначыўся адзіны фронт, увабраўшы ў сябе ад чорнасотніцкіх „Саюзу беларускага народу" ў Віцебску, „Саюзу беларускай дэмократыі" ў Гомлі, праз бясколерныя „Народную Грамаду" ў Маскве ды Калузе, і „Беларусаў аўтономістых" у Туркестане[2]), ажно да беларускіх прадстаўнікоў першага зьезду сялянскіх дэпутатаў, эсэраў і меншавікоў, організаваных пасьля ў „беларускі вобласны камітэт". Гэты фронт быў

[1]) У гэтыя дні адбылося ў Пецярбурзе паўстаньне бальшавікоў.

[2]) Програмы гэтых організацый адмечаны мною ў артыкуле „Люты—Кастрычнік у беларускім нацыянальным руху", зборнік „Беларусь", выданьне БССР, Менск, 1924 г.

накіраваны супроць беларускіх соцыялістычных партый і іх дамаганьняў і разам з тым супроць лёзунгаў рэволюцыі, няўхільна вёўшай да Кастрычніка.

Сіла гэтага фронту расла працягам да Карнілаўскага мецяжу, пасьля якога абарвалася і на нейкі зусім кароткі час супынілася ў сваім росьце, асабліва за кошт махратых чорнасотнікаў. Аднак, яго напору з самага пачатку даваўся належны адбой.

Гэтак Беларуская Соцыялістычная Грамада ўжо ў ліпні (8—10) 1917 г. на першым зьезьдзе прадстаўнікоў беларускіх організацый і партый вымушана была даць рашучае сражэньне насядаючай на працоўныя колы буржуазнай контр-рэволюцыі. На гэтым зьезьдзе БСГ узурпіравала ўладу, скончыўшы зьезд згодна патрабаваньням свае тактыкі. На першай-жа Сэсіі выбранай зьездам Рады „непаразуменьні“ зашлі яшчэ глыбей, вызначыўшы вельмі выразна клясавую варожасьць між лявіцай і правіцай беларускага руху. Якраз гэта пара супала з часам Карнілаўскага выступленьня, абвастрыўшага клясавыя супярэчнасьці ў Расійскай рэволюцыі і разам з гэтым даўшага крэпкі штурхач буржуазіі да зьбіраньня сваіх сіл. Пад нацыянальным сьцягам гэта зьбіраньне буржуазных сіл у значнай меры выявілася к верасьню месяцу. А ў пачатку кастрычніка правы, буржуазны элемэнт, меў досі вялікі ўплыў у Менскіх беларускіх цэнтральных установах, як беларуская Рада і часовая вайсковая Рада. Пад іх націскам на другой Сэсіі Рады (з 15 па 24 кастрычніка) 1917 г. Бел. Соц. Грамада мусіла вылучыць з сябе правыя элемэнты і перадаць іх варожаму лягеру. Дзякуючы гэтаму-ж і ў Выканаўчы Камітэт Вялікае Беларускае Рады (ІІ-я Сэсія ўвяла гэту назву для цэнтральнай беларускай установы) папалі элемэнты амаль ня цалкам буржуазна-дэмократычнага складу думкі, нават (што асабліва характэрна) ня ведаўшыя беларускае мовы. Пасяджэньні Выканаўчага Камітэту ішлі на расійскай мове, што нават выклікала гэткія словы ў газэце „Вольная Беларусь“ (№ 28—ад 8-XI): „На пасяджэньні 31 кастрычніка,—пісала яна,—усе даклады, якія чыталіся, і ўсе прамовы, якія гаварыліся, у большасьці вяліся на расійскай мове. За вылучэньнем 3-4 сяброў камітэту ніхто пабеларуску гаварыць ня ўмее. Трэба думаць, што гэта зьявішча выпадковае і з часам беларуская мова запануе там, дзе яна павінна горда зычэць і красавацца. Людзі, стаўшыя на чале беларускага руху, павінны навучыцца чытаць, пісаць і гаварыць пабеларуску“.

Але людзі, „стаўшыя на чале беларускага руху“, бач, папаўшыя ў Выканаўчы Камітэт Вялікае Беларускае Рады, ня толькі ня ведалі беларускае мовы, а і не хацелі яе ведаць і нават рэдактара „Вольнае Беларусі“ Я. Лёсіка не ўвялі ў Выканаўчы Камітэт Рады... Яшчэ цікавей было тое, што „кіраўнікі беларускага руху“ з Выканаўчага Камітэту Рады ўпікалі „Вольную Беларусь“ за „сэпаратызм“.

„Адзін з сяброў Камітэту,—піша аўтар памянёнага артыкулу [1]),— дык нават вышукаў у нашым артыкуле [2]) „сэпаратызм“, знашоўшы яго ў выразе „паднявольнае суседзтва з Масквою“. Разьвіваючы сваю думку, ён, паміж іншым, зазначыў, што Беларусь заўсёды жыла паднявольным жыцьцём: то пад Маскоўшчынай, то пад Польшчай (!), і тут нічога ганебнага няма, а калі паднявольнае жыцьцё з Маскоўшчынаю падкрэсьліваюць, дык тут ужо сэпаратызм“.

Як мы бачым, дык нават тыя, хто раней адмяжоўваўся ад гэткіх элемэнтаў у нацыянальнай галіне, роднячыся ў дамаганьнях соцыяльнага характару, мусіў адмячаць прыкры факт наплыву ў Кастрычнікаўскія дні ў беларускі рух чужога яму, выпадковага элемэнту.

Ды ня дзіва, бо для гэтага элемэнту тады яшчэ знаходзілася глеба вясьці сваю працу. Галоўным чынам таму, што ў гэты час уся буржуазія аглядалася на нацыянальныя ўскраіны быўшае Расіі, думаючы, што бальшавікі апараца на вырашэньні нацыянальнага пытаньня, а яна, буржуазія, яго выкарыстае дзеля свае мэты. Таму та і абвяшчэньне Фінляндыі незалежнаю краінаю з боку Савецкае ўлады тлумачылася буржуазіяй, як перамога яе фінляндзкае сяброўкі над бальшавікамі. Авантура-ж Пятлюры падмацоўвала гэту думку. Загэтым выходзіла тое, што розныя буржуазна-авантурныя элемэнты пільна сачылі за разгарненьнем беларускага руху, галоўным чынам, у арміі і спрытна адшуківалі ў ім кропкі апоры для сябе. У організаваную ў кастрычніку месяцы Часовую Цэнтральную Вайсковую Раду былі пераведзены імі генэрал Кандратовіч, ген. Алясееў, чыноўнік Аляксюк, некаторыя „дэмократы“ афіцэры, як кап. Адамовіч, Ярушэвіч, Язавітаў і інш. У франтовых радох адшуківаліся надзейныя людзі, якіх, аднак, цяжка было знайсьці сярод лева-соцыялістычных радных, запаўняўшых франтовыя беларускія організацыі. Узмацніўшыся ў Менскіх беларускіх організацыях яшчэ і таму, што беларускія лева-соцыялістычныя партыі, маючы пераважнасьць свае базы ў сталіцах, як Масква, Пецярбург, ды ў іншых небеларускіх гарадох (Пскоў, Адэса, Яраслаў) і ня могучы праз гэта перакінуць належных сіл і ўвагі ў Менск, „выпадковыя“ разам з правымі і са шчырымі павялі ва ўсю дэмократычна-буржуазную агітацыю.

Офіцыйны орган Цэнтральнае Вайсковае Рады, газэта „Беларуская Рада“ пісала ў перадавой ад 30 лістапада: „Мы хочам мець і будзем мець Беларускі Ўстаноўчы Сойм“, а за гэтым—„Няхай жыве Ўсерасійскі Ўстаноўчы Сойм! Няхай жыве і наш Беларускі Ўстаноўчы Сойм!“ Гэта

---

[1]) Рэч ідзе аб артыкуле ў № 27 „Вольнае Беларусі“—„Вялікая Беларуская Рада“. Аўтар гэтага артыкулу акрэсьлівае значэньне Рады і спыняецца на выпадковых элемэнтах, якія ў той час уліліся ў беларускі рух.

[2]) „Вольная Беларусь“ №—28 за 1917 г. 8 лістапада. Смутны. У Выканаўчым Камітэце“.

ў часы, калі фактычна ідэя ўстаноўчага сойму была ўжо мёртвай, уступіўшы месца ідэі Саветаў.

Радаўцы з цэнтральнае вайсковае рады добра разьбіраліся ў абставінах. Савецкі прынцып улады гаварыў аб дыктатуры пролетарыяту, а ім трэба было аб'яднаць усіх беларусаў вакол агульнага імкненьня захаваць заваёваную свабоду і зямлю... і абараніць родную краіну, каб не парваць яе на часткі ў сварках спрэчках партый[1]).

Вакол гэтых лёзунгаў Цэнтральнае Вайсковае Рады і Вялікае Беларускае Рады паступова нарастала ўсё большае ды большае кола адмечанага выпадковага элемэнту, які хутка прыстасоўваўся да мясцовасьці, пераймаючы ідэі буржуазнай часткі беларускае інтэлігенцыі. Сіла ды ўплыў гэтага элемэнту адметна расьлі, абвострываючы разыходжаньне і сутычкі з леваю рэволюцыйна-социялістычнаю часткаю беларускага руху.

К часу, калі паўстала думка склікаць Усебеларускі зьезд, прыблізна ў другой палове лістапада 1917 г., у гэтым лягеры вызначылася яшчэ большае ажыўленьне, якое закончылася сяброўскім яднаньнем нацыянал-дэмократаў са шчырых з эсэрамі-русыфікатарамі. Справа пачалася так: застаўшыся пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі на другім баку барыкады, Беларускі Вобласны Камітэт пры Ўсерасійскім Зьезьдзе Сялянскіх Дэпутатаў, намерыўся перанясьці сваю чыннасьць з Пецярбургу ў Беларусь. Дзеля гэтага аднačасова з Беларускай Вялікай Радай ён рашыў ад сябе склікаць Усебеларускі Зьезд у Рагачове. Але, паспрачаўшыся нейкі час з Бел. Радаю, Вобласны Камітэт пагадзіўся з ёю на думцы склікаць зьезд у Менску 15 сьнежня. І вось, стаючы на пункце погляду „неотделимости Белоруссии от России“ [2]) зусім не з-за мотываў захаваньня еднасьці рэволюцыйных сіл, вобласьнікі, амаль ня ўсе эсэры правага крыла, паехалі ў Менск „вырашаць“ беларускае пытаньне. У нутры сваім усе яны, як адзін, былі заядлымі ворагамі беларускае культуры, беларускае мовы, усяго, што аддавала хоць маленькім дапамінаньнем таго што Беларусь ёсьць нешта асобнае ад Расіі цара ды Керанскага. З пачатку лютаўскае рэволюцыі ажно да рэволюцыі Кастрычнікавае дзеячы Вобласнага Камітэту ў Пецярбурзе і на мясцох заядла змагаліся з „панскімі агентамі“, як яны да гэтага празывалі са слоў Каранкевіча, Палонскага, Бялынецкага-Бірулі ды іншых усіх беларускіх дзеячоў. Тым ня меней усё гэта забылася к восені 1917 г., і шчырыя прыхільнікі непадзельнасьці Расіі згаварыліся з Вялікаю Беларускаю Радаю і Цэнтральнаю Вайсковаю Радаю ды сумесна склікалі ў сьнежні месяцы Ўсебеларускі зьезд. Болей таго, на самым зьезьдзе яны, прыехаўшы бараніць Беларусь ад полонофілаў, „якія рашылі выкарыстаць момант, каб абвясьціць незалежную Беларускую Рэспубліку, а ў выпадку патрэбы заключыць вунію з Польшчаю, ці траякі паўднёва-славянскі саюз з Украіны,

[1]) „Беларуская Рада“ № 3 за 1917 г. 30 лістапада. Артыкул Р. А. „Наша задача“.
[2]) Цытую ў выкладзе Е. Канчара „Белорусский вопрос“.

Польшчы, Беларусі“ *), зрабілі свой саюз з тымі-ж полонофіламі ды блізкімі ім і згуртавалі крэпкую нацыянал-расійска-польска-дэмакратычную правіцу.

Гэта правіца, у якую ўваходзіла шмат так званых соцыялістых (эсэры, правыя грамадаўцы, беларускія народныя соцыялісты ды інш.), вуснамі яе прадстаўнікоў далікатна празывалася часткаю соцыялістых, „выпадкова аддзеленых“ на зьезьдзе ад другое палавіны. Аднак, гэта „выпадковасьць“ заставіла правіцу сур'ёзна задумацца. У № 9 за 5 сьнежня газэты „Беларуская Рада“ гэтай выпадкавасьці пасьвечана перадавіца за подпісам П. Бадуновай. У перадавіцы, пасьля некалькіх уступных слоў аб непадзельнасьці фронту беларускіх соцыялістых, аўтар піша: „Падзел соцыялістых на два лягеры, які выявіўся на зьезьдзе, тлумачыцца выключна заблытанасьцю ды складанасьцю цяперашняга палітычнага моманту, незнаёмствам многіх прыехаўшых на зьезд з програмаю ды тактыкаю Беларускае Соцыялістычнае Грамады, гэтае старое партыі беларускага працоўнага народу, *а таксама часткаю з прычыны агітацыі асобных людзей* (курсіў мой. З. Ж.). Аўтар так суцяшаў сябе: „Але няхай дачасна ня радуюцца ворагі беларускага пролетарыяту; тактычны падзел, які адбыўся на зьезьдзе, яшчэ не абасабляе адзінага беларускага соцыялістычнага фронту. Хутка ўсе беларускія соцыялістыя пераканаюцца, што падзел іх зусім лішні (!) і, апроч радасьці дзеля ворага, не прынясе ніякае карысьці“.

Для „Беларускае Рады“ і паніклых аўтараў яе перадавіц падзел быў „зусім лішнім“, нечым нязначным. З-за туману нацыянальнага энтузыязму, падгушчанага буржуазным дэмократызмам, правадыры правых соцыялістых, заблытаўшыся ў шэрагах нацыянал-дэмократаў рознае ахварбоўкі, не хацелі прыдаваць належнае сур'ёзнасьці падзелу зьезду надвое і не хацелі прынцыпова падыходзіць да сапраўды сур'ёзных і прынцыповых пытаньняў, якія гэты падзел выклікалі.

„Уся розьніца паміж двума бакамі,—піша далей аўтар памянёнай перадавіцы,—як высьвяецца, заключаецца ў тым, што адны прапануюць організаваць уладу ў Беларусі толькі праз беларускія саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, для чаго, па іх думцы, патрэбна разьехацца на месцы, стварыць там Саветы і толькі тады склікаць праз гэтыя Саветы краёвы зьезд.

Другія настойваюць на тым, каб краёвую ўладу выдзяліў цяперашні зьезд“.

Выходзіць па аўтару, што розьніца між савецкаю сыстэмаю ўлады і сыстэмаю агульна-нацыянальнага характару—зусім невялікая, і падзел соцыялістых на зьезьдзе быў выпадковы... Зразумела, што гэта было далёка ад выпадковасьці. Удзельнікі зьезду, складаючыся з клясава-розна-

*) „Беларуская Рада“ № 3 за 1917 г. 30 лістапада. Артыкул Р. А. „Наша Задача“.

стайных элемэнтаў і падзяліўшыся на дзьве часткі, на працягу ўсяго зьезду складалі два варожых лягеры.

Правіца няшчадна змагалася з лявіцаю і, дзякуючы сваёй пераважнасьці, прадыктавала вось якія пастановы*): „Баючыся монархічнае рэстаўрацыі ў Беларусі, 1-шы Ўсебеларускі зьезд лічыць неабходным падкрэсьліць, што ў Беларусі ад гэтага часу замацоўваецца „дэмократычны рэспубліканскі лад“. „Гэта яшчэ не азначала,—піша Е. Канчар,—што Ўсебеларускі Зьезд абвяшчае Беларускую Рэспубліку. Гутарка йшла аб замацаваньні, аб зацьверджаньні таго дэмократычнага рэспубліканскага ладу, які існаваў у той час і ў Расіі (?) і ў Беларусі (?). І далей: „1-шы Ўсебеларускі зьезд прадбачыў „мажлівасьць падзелу і адыходу ад Расійскае Дэмократычнае Фэдэратыўнае Рэспублікі“ роднага краю—Беларусі, загэтым падкрэсьліў аб сваім праве на самавызначэньне“ Самавызначэньне Беларусі разумелася як рада часовая, якая павінна існаваць да скліканьня Беларускага ўстаноўчага збору“.

Гэта асабліва характэрна, бо „заснавацелі першага зьезду не баяліся ўстаноўчага збору, таму што агульнае, простае, роўнае і патаемнае галасаваньне ў Беларусі павінна было замацаваць *панаваньне беларускага сялянства*“. (Курсіў аўтара).

Вось гэтая ідэя панаваньня сялянства, спусьціўшы два месяцы пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі, прадэмонстраваная ў савецкай краіне, ясна казала аб мэтодах „беларускае“ Вандэі. Якое-ж дзіва, што „сялянскія“ інтэлігенты з вобласнага камітэту ды частка правых соцыялістых з беларускіх соцыялістычных партый сышліся з тымі буржуазна-дэмократычнымі адколкамі, якія к гэтаму часу назьбіраліся вакол беларускіх нацыянальных організацый! Было-б дзіва, каб гэтага факту ня трапілася...

На шкоду, канчатак зьезду якраз падмацаваў на нейкі час позыцыю гэтае антынатуральнае коаліцыі і нават часова згладзіў гострасьць левае опозыцыі. Рада старэйшын зьезду, у якую папалі і прадстаўнікі левых (Хатэнка, Я. Лагун, Ф. Шантыр, М. Шыла і інш.), абвясьціла сябе радаю зьезду і выдала некалькі процісавецкіх адозваў да жыхарства Беларусі. Аднак, у 20-х лічбах сьнежня большасьць сяброў Рады зьезду, у іх ліку ўсе прадстаўнікі лявіцы, разьехаліся з Менску, а астаткі рады цягнулі сякую-такую працу легальна і нелегальна.

Гэткім чынам, хаўрус вобласьнікаў з буржуазнай часткай беларускай інтэлігенцыі адыграў першую патрэбную сабе антысавецкую акцыю. Але гэта зусім не казала за тое, што момант, акрэсьлены Ўсебеларускім зьездам 14 сьнежня 1917 году гістарычна, ці фактычна апраўдаў правыя тэндэнцыі ў беларускім руху. Нічога падобнага. Удзел у Радзе зьезду прадстаўнікоў ад лявіцы быў выбухам хвілёвага нездаваленьня роспускам зьезду. Уся-ж гушча, якая стаяла за лявіцаю і якая складалася з рабо-

*) Е. Канчар. „Белорусский вопрос“.

чых, сялян ды левае працоўнае інтэлігенцыі, ня меўшай мажлівасьці быць поўна прадстаўленаю на зьезьдзе, зразу акрэсьліла да яго свой крытычны погляд. Фінал зьезду мала непакоіў гэту частку беларускае гушчы. Наадварот, яна ўлічыла ўсе скуткі зьезду і хутка пачала выраўняць сваю лінію водлуг лініі Комуністычнае партыі.

На працягу ж двух месяцаў, з 17/XII—17 г. па 18/II—17 г. паралельна з працаю Рады зьезду адбывалася консолідацыя беларускіх лева-соцыялістычных сіл. К канцу лютага месяца 18 г. гэта праца нашла сваё выйсьце ў двух напрамках—партыйным і савецкім, цэнтрамі якіх сталі Беларускі Нацыянальны Камітэт і камітэты Бел. Соц. Дэм. партыі бальшавікоў ды левага крыла Беларускае Соцыялістычнае Грамады. Зьяднаўшыся вакол гэтых цэнтраў, беларуская працоўная інтэлігенцыя помеж з беларускімі рабочымі ды сялянамі рашуча павяла працу на падставе савецкіх прынцыпаў экономічна-культурнага адраджэньня беларускага працоўнага народу і дзяржаўнага адбудаваньня Беларусі. Гэта праца ў сваім скутку прывяла ў канцы 1918 г. да заснаваньня Беларускае Незалежнае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі.

Іначай пашло далейшае разьвіцьцё правай часткі інтэлігенцыі, якая гуртавалася вакол Часовае Рады Зьезду. 25-га лютага 1918 году ў Менск прышлі немцы. Савецкае войска мусіла ачысьціць Беларусь 19-га лютага. Гэткім чынам, паміма клясава-ідэолёгічнае мяжы, між двума часткамі беларускае інтэлігенцыі лягла яшчэ і мяжа географічная. На захад ад мяжы, пад нямецкай окупацыяй правіца беларускае інтэлігэнцыі знашла сабе патрэбнае месца, абкапалася вакол і пачала сваю працу. Мэтоды гэтае працы яна так тлумачыла ў газэце „Беларускі Шлях“ (№ 1 ад 8 сакавіка): „Так ясна пачаўшыся, расійская рэволюцыя завяла народ у цемру, у жах перад народнымі момантамі (!), ашукаўшы яго пекнымі абяцанкамі. З гэтага цяжкага стану мы павінны ратаваць народ наш. Павінны забыўшыся на ўсе ўразы, якімі ён, пад'южываны нясумленнымі праварамі, закідаў нас, пайсьці ізноў да яго і быць з ім... Мусім сабрацца і, злажыўшы разам свае сілы, узяцца за працу, ня трацячы часу, бо цяпер „прабава—сьмерці падобна“.

Беражучы час, Рада зьезду зразу-ж, 21 лютага, склала народны сакратарыят, які выдаў дзьве „ўстаноўныя граматы“ да народаў Беларусі. 19 сакавіка адбылося першае пасяджэньне Рады зьезду. На гэтым пасяджэньні былі ўжо прадстаўнікі гарадоў, земстваў і нацыянальных меншасьцяй. 24 сакавіка Рада трэцяю ўстаноўнаю граматаю абвясьціла Беларускую Народную Рэспубліку. Гэткім чынам была адчынена новая шырокая мажлівасьць далейшага папаўненьня чужымі элемэнтамі правіцы беларускага руху. Ужо земствы і гарады, а таксама і нацыянальныя меншасьці здорава разбавілі гурток непартыйных і правых радаўцаў. На 27 чал. сяброў Рады зьезду былі ўведзены 35 чал. рознастайнае, часта варожае беларускому руху, але роўна буржуазнае інтэлігенцыі.

Гэтак на асноўнае ядро сябраў Рады зьезду ў 27 чал. у большасьці махрастае правіцы было дададзена 20 прадстаўнікоў гарадоў ды земстваў і 15 прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяй. Сярод апошніх былі папы, абшарнікі, гандляры, якім Рада давала слушнае месца для разгарненьня свае супроцьрэволюцыйнае чыннасьці. Нацыянальныя пытаньні беларускага руху іх мала цікавілі. Затое іх настрой няўхільна цягнуў радаўцаў у бок паправеньня. Вось як пісала аб гэтай Радзе газэта П. Аляксюка „Беларускі Шлях“: „Патрэбен некаторы час, каб фізыономія Рады прыняла ясную форму. Цэнтр і левае крыло ўзаемна прыстасуюцца: у нацыянальнай політыцы ў іх будзе мала розьніцы, у соцыяльных справах—больш“ *).

У далейшым на агеньчыкі Рады яшчэ болей стала зьбірацца з усіх канцоў Расіі „беларускіх інтэлігентаў і дзеячоў“. „Беларуская колёнія“ паступова расла, размнажалася і няўхільна „бялела“. Хутка была наладжана сувязь між Радаю і пятлюраўцамі, а далей—між Радаю і Скарападзкім. Між акупанцкаю ўладаю і Сакратарыятам таксама адбываліся зносіны. І, нарэшце, 25 красавіка Рада Беларускае Народнае Рэспублікі дашла да кайзэрскай асобы.

Гэту працу Рады Беларускай Народнай Рэспублікі зразу-ж падтрымала абраная ў студзені 1918 г. Віленская Беларуская Рада. Склад апошняе за малым выключэньнем прадстаўляў тую-ж соцыяльную катэгорыю людзей, што і склад Менскае Рады. Асабовасьць была ў нацыянальным абліччы радных: у Менску пераважалі расійскага выхаваньня беларускія дэмократы, у Вільні—дэмократы польскага выхаваньня.

Гэтак пад сьцягам Бел. Нар. Рэспублікі нарастала практыка дзяржаўнае працы правае столкі беларускае інтэлігенцыі, крэпла думка і ўпэўненасьць у яе гістарычныя мэты. Добра, што сам беларускі працоўны народ быў у баку, не перашкодзіў гэтай гульні „сваіх політыкаў“ і, пакуль сядзеў ген. Фалькенгайн, не патрабаваў адчоту. Ад яго (беларускага працоўнага народу) імя ішлі перагаворы, назначаліся прадстаўніцтвы ў розных краёх і дзяржавах. Адным словам, адыгрываўся пролёг наступнае дзеі, якую хацелі бачыць і бачылі ў марах сваіх інтэлігенты—народныя рэспубліканцы. Ніводзін з іх не дапушчаў і думкі, што ўся іх гульня ў вышэйшую політыку ня мае пад сабою жаднага грунту. Усё-ж гэты грунт яны тужыліся абмацаць. Мацалі і самаўцяшалі сябе зданнымі надзеямі: а ну-ж, а ну ж бальшавікі праваляцца і іх, блудачоў, беларускі народ стрэне з радасным воклічам: „Прыходзьце да нас кіраваць і валадаць“.

З гэтымі думкамі, прыемнымі, казытнымі, захапіла гэтых політыкаў нямецкая рэволюцыя і сьледам абвяшчэньне самім беларускім працоўным народам Беларускае незалежнае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі 1-га студзеня 1919 г. Здавалася-б, гэта здарэньне магло-б атрэзьвіць найболей заядлых народных дэмократаў. Але на тое яны і ёсьць дэмокра-

*) „Беларускі Шлях“ № 19 за 15/VII 1918 г.

тамі, каб са сваім дэмократызмам не здавацца народнай волі, волі сялян ды рабочых. Выходзячы з гэтага, „урадавая“ інтэлігенцыя з усімі ўстановамі Бел. Нар. Рэспублікі перабралася тады ў Коўну, каб адтуль „правіць і валадаць“. І ў марах гэтае праўнасьці забывала, што з гэтага часу пачыналася яе трагедыя эміграцкага жыцьця.

„Братняя Літва“ прытуліла ў сябе выгнаньнікаў, дала ім сякуютакую падмогу, каб перажыць цяжкі час. Вышла, што гэты час цёгся нядоўга.

Якраз лёс пасьпяшыў яшчэ раз абнадзеіць дэмакратаў-інтэлігентаў,— на гэты раз ужо праз польскую авантуру. Паход Пілсудзкага і захапленьне ім Заходняе Беларусі адчыніў новыя небасхілы для беларускіх народных рэспубліканцаў. Іх погляды павярнуліся да Варшавы. Грошы на Вайсковую раду, на газэту ды інш. цягнулі іх туды магнэсам. „Гісторыя,—думалі яны,—працуе для нас. Мы павінны абараніць Беларусь“. Ад каго, думаеце, бараніць? Вядома, ад бальшавікоў, ад тых, з кім ішла лепшая частка інтэлігенцыі, у чый бок прагліва глядзелі змучаныя польскаю нядоляю беларускія працоўныя гушчы.

„Беларускае войска,—пісаў офіцыёз Рады,—організуецца для барацьбы з Маскоўскім бальшавізмам, які, прыкрываючыся чырвоным, павабным для працоўнага народу, сьцягам, хоча панаваць над нашай зямлёю, як панавалі раней Маскоўскія цары“*).

Але другі раз ізноў абарона беларускага працаўніка адбылася праз яго самога з дапамогаю свае працоўнае інтэлігенцыі рабочых ды сялян братніх савецкіх рэспублік. Польская окупацыя была зьмецена, а на яе месца была адноўлена Беларуская Савецкая Рэспубліка. Гэта была другая навука беларускай буржуазнай інтэлігенцыі.

І яна не магла не зрабіць належнага ўражаньня ў беларускім эміграцкім лягеры. Уражаньне атрымалася досі моцнае, ажно правіца падзялілася на часткі. З гэтых частак адна нашла выгадным застацца ў Савецкай Беларусі, зрабіўшыся ўнутранымі эмігрантамі, другая, больш упартая,—абгрунтавалася ў Літве, заключыўшы з яе ўладаю саюз 12 лістапада 1920 г. Трэцяя-ж, якую складалі самыя махратыя авантурнікі, паспрабавала выкарыстаць акцыю Балаховіча і Савінкава. Яны таксама паднялі былі ў тым жа годзе восеньню з ускоснаю дапамогаю ковенцаў Слуцкае паўстаньне. Шэраг гэтых акцый у лягеры беларускае інтэлігенцкае эміграцыі склаў падрахунак мядовага тэрміну іх антысавецкай беларускай апініі.

З 1921 году пачаўся новы тэрмін ападу хваль, перагляду мэтодаў працы і некаторага прытупленьня варожасьці да Саветаў.

Рыскае замірэньне, якое прабавала выкарыстаць так званае правіцельства Бел. Нар. Рэспублікі (прысутнічаў у Рызе старшыня ўраду

*) „Беларусь“ № 31 за 26/XI 1919 г.; перадавіца.

У. Ластоўскі) скончылася бяз уплыву з яго боку. Дзякуючы замірэньню, Заходняя Беларусь ачулася ў руках Польшчы; Літва была аддзеленай ад Савецкае Беларусі і, сконцэнтраваўшы сваю ўвагу на варожасьці да палякаў, пачала ў гэту варожасьць уцягваць і беларускую эміграцыю. Адгарадзіўшыся высокаю сьцяною ад беларускае глебы, інтэлігенты-эмігранты з БНР мусілі далучыцца да літвінаў.

Аднак, прыязьнь між гэтымі дзьвюма „дзяржавамі" нядоўга цягнулася: седзячы ў адным месцы — трудна ўладзіць, і працу з аднаго месца, з Коўны беларуская эміграцыя стала закідаць у розныя краі: у Чэхію, Нямеччыну, Латвію, Эстонію. Гэта адбівалася на працы і на самым настроі яе ўдзельнікаў. Перад няяснаю пэрспэктываю пачаліся ў лягеры эміграцыі нялады. Яшчэ ў 1919 годзе вынікла непаразуменьне між Віленскімі беларускімі дзеячамі і дзеячамі з ураду Бел. Нар. Рэспублікі. Гэта непаразуменьне ўсё ўзмацнялася, адбіваючыся на цэльнасьці працы. Апроч гэтага, рабіла нядобры ўплыў на больш сумленных эмігрантаў і авантура П. Аляксюка ды Адамовіча з К-°, якія аддаліся цалкам польскаму ўраду і перашкаджалі працы хоць і буржуазным беларускім інтэлігентам з эміграцыі. Але горай усяго—чым далей, тым болей давала сябе чуць недастача сродкаў. Сваімі грашыма эмігранты былі небагатыя, Літва давала мала, узяць ня было дзе. Гэтыя абставіны адпіхалі многіх ад актыўнае чыннасьці. Многіх застаўлялі думаць аб пераезьдзе да сваіх ворагаў-бальшавікоў. Як-ні-як, а тыя з іх (эмігрантаў) сяброў, што засталіся ў Менску, жылі нядрэнна і нават пачыналі прымаць удзел у культурнай працы. Праўда, поўнага настрою менскіх сяброў нельга было ўлавіць, седзячы за рубяжом. Іхняе нездавальненьне савецкім ладам і іхняе зацягненьне працаю Бел. Нар. Рэспублікі, якая воддальлю здавалася досыць імпозантнай, заграніцай было невядома. І вось асобныя прадстаўнікі эміграцыі ўжо з 22 году пачалі перабірацца ў Савецкую Беларусь. Больш упартыя аставаліся.

Але і тыя, што заставаліся за рубяжом, цягнулі сваю непачэсную працу, і тыя, што вярталіся „блуднымі сынамі", і тыя, што былі дома ў эміграцыі,—не хацелі, не зважаючы ні на вошта, кідаць свае думкі, сваіх самаўпэўненьняў, што яны—усё, што бяз іх беларускае пытаньне ня вырашыцца.

На тое, што ў Савецкай Беларусі адбываўся агромністы процэс творчага культурнага, экономічнага ды дзяржаўнага будаўніцтва,—яны не зважалі. Заплюшчвалі вочы на нясупыннае разьвіцьцё літаратуры, тэатру, выдавецкае справы, на пашырэньне беларусізацыі школ і дзяржаўных установ. Але яны выразна сачылі за пытаньнем аб пашырэньні Беларусі. Бачачы апошнюю ў складзе аднэй Меншчыны, эміграцыя старалася падкрэсьліць нясур'ёзнасьць падыходу Савецкае ўлады да ўсёй справы вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Эміграцыя думала, што ўся гутарка бальшавікоў зводзіцца да поліатываў, да паказнога. І яна

лічыла патрэбным аставацца на пункце погляду змаганьня супроціў Менску, змаганьня за дэмократычныя мары.

Якраз у 1924 годзе адбыўся акт узбуйненьня Савецкае Беларусі. Да Меншчыны была далучана Магілеўшчына, Віцебшчына. Размах працы пашырыўся. Адчыніліся шырокія мажлівасьці для далейшага разьвіцьця беларускае культуры, да выяўленьня шырокіх пластоў народнае савецкае інтэлігенцыі. Адпаведна гэтаму шпарка йшло аформленьне новае савецкае беларускае інтэлігенцыі. Сотні вучнёўскае моладзі, студэнцтва, настаўніцтва, атрымаўшы выхаваньне ў абставінах шпаркага разьвіцьця беларускае працоўнае культуры, захапляліся ёю і папаўнялі шэрагі яе прыхільнікаў. З усіх канцоў Саюзу накіравалі ў Савецкую Беларусь беларусы-комуністыя, савецкія працаўнікі.

Гэта, з аднаго боку, падмывала глебу пад нагамі эміграцыі, з другога боку,—яе біла і нясупыннае ўзмацненьне Савецкага Саюзу і яго прызнаньне большасьцю буржуазных дзяржаў. Чужаземная буржуазія кідала цягацца з эміграцыяй—не хацела слухаць баек ды хлусьні аб нятрываласьці Савецкіх Рэспублік і, нарэшце, кончыла ўсякія гутаркі аб грашовай дапамозе; тым болей, што буржуазіі кожнае краіны хапала свайго клопату, каб нясупынна цешыцца з эміграцкаю назолаю.

Да пералічаных труднасьцяй для беларускае эміграцыі дадалося яшчэ адно—гэта разрыў саюзу між Бел. Нар. Рэспублікаю і Літвою. Гэткім чынам, закалыхалася апошняя падпорка пад матэрыяльнаю базаю беларускае эміграцыі. Як-ні-як, а Літва сягды-тады перакідала патрошку для свайго саюзьніка, кожны раз разьлічваючы вярнуць свае страты ўдвойчы. Але час ішоў, а страты на саюзьнікаў аставаліся стратамі—і толькі. Тады Літоўскі ўрад, аглядаючыся на ўрады польскі ды латыскі, рашыў самому ня цешыцца з Беларускаю Народнай Рэспублікай ды яе грамадзянамі і адказаў ім у дапамозе. Чаму-ж Літве аставацца пазадзе?

У Польшчы здарэньні разьвіваліся ў іншым напрамку, таксама рэзка адмоўна ў іх адносінах да беларускай інтэлігенцыі. Сама гэта інтэлігенцыя ў Польшчы складалася з некалькіх рознастайных пластоў. Побач з эміграцкаю яе часткаю нясупынна нараджалася інтэлігенцыя сялянская, якая аформлялася пад уплывам вострага соцыяльнага змаганьня. Хоць удзелу ў здарэньнях грамадзянскае вайны часоў Кастрычнікавае Рэволюцыі яна ня прымала і савецкаю па колу беларускага руху ня была; хоць яна ўвашла ў яго рэчышча тады, калі гэта рэчышча дало рукавы ў розных напрамках, усё-ж гэтая частка інтэлігенцыі па сваёй клясавай істоце нясупынна хіліла ўлева, спачуваючы не эміграншчыне, а савецкім ідэям. Эміграцкая-ж напластоўка беларускае інтэлігенцыі ў Польшчы сваёю чаргою яшчэ з 1920 году падзялілася на два лягэры: незалежнікаў—прыхільнікаў Бел. Нар. Рэспублікі і махрастых—польскіх прыслугачоў. Народна-рэспубліканцы з самага пачатку захап-

леньня Польшчаю Віленшчыны ўжо папалі ў няміласьць польскага ўраду. Ніякіх намёкаў на гутарку з імі польскі ўрад у той час не рабіў. Болей таго, ужо ўлетку 21 г. каля двух дзесяткаў дзеячоў былі высланы ў Літву. Аб грашох на дапамогу не магло быць жаднае гутаркі пры гэткіх умовах. Уся беларуская праца, якая йшла ад Беларускага нацыянальнага Камітэту, вакол якога гуртаваліся народна-рэспубліканцы,—нішчылася. Школы зачыняліся, газэты конфіскаваліся і таксама зачыняліся. Дзеля таго, каб паралюшаваць беларускую дзейнасьць, офэнзыва пачала выкарыстоўваць чарнасотніцка-авантурніцкую частку эміграцыі на чале з Аляксюком, д-рам Паўлюкевічам, кам. Адамовічам ды інш. з провакацыйнымі мэтамі.

Гэта прычына ды яшчэ тое, што паміж лідэрам віленскае часткі народных рэспубліканцаў А. Луцкевічам і старшынёю Рады міністраў БНР У. Ластоўскім яшчэ з 1917 г. ішлі непаразуменьні,—заставіла эміграцыю ў Польшчы фактычна з 21-22 г. г. адрозьніць сваю орыентацыю ад орыентацыі асяродку беларускае эміграцыі, які знаходзіўся ў Коўне. Заходняя Беларусь чым далей, тым вастрэй выпірала свае асабовыя моманты, да якіх мусіў Віленскі Беларускі Камітэт зварочваць сваю ўвагу. Гэтыя моманты адцягалі думку камітэтчыкаў—народных-рэспубліканцаў ад раздумаў ды гутарак над замацаваньнем ідэй 25 сакавіка 1918 году. Трэ' было прыслухоўвацца да хвалюючых паўстаньняў беларускіх сялянскіх гушчаў, за якімі выразна цягнула і сялянская інтэлігенцыя, або ісьці ўлева, або сыходзіць з дарогі. Яны выбралі першае і хутка пачалі зьмяняць свае тычкі. Выбары ў польскі сойм у 1923 г. і посьпех нацыянальнага сьпіску, па якім прашло ў сойм 12 беларусаў,—урэшце зьмяніла тактыку беларускае інтэлігенцыі ў Польшчы*). І вось, дзякуючы гэтаму, у Заходняй Беларусі пачалася амаль што не самастойная праца, зусім асабовая ад працы беларускае эміграцыі ў іншых мясцох. У працэсе гэтае працы пастунова вынікла выразная орыентацыя на ўсход. Пад уплывам яе многія эміграпты вярнуліся ў Савецкую Беларусь, іншыя, што засталіся, таксама канчаткова расквіталіся з ужыўнаю ім эміграцкаю псыхолёгіяй.

Асаблівыя ўмовы ў пачатку беларускае эміграцыі ў Латвіі, нарэшце, таксама скончыліся навучальным для яе здарэньнем. Латыская буржуазія, як і польская, убачыла ў нацыянальнай рабоце беларусаў непажаданыя для сябе вынікі. Як-ні-як, а той прытулак і тыя грошы, якія латыскі ўрад асьмеліўся спачатку даваць беларускім эмігрантам, выклікаў узрост сэпаратыскага беларускага руху. У гэтым для латыскага ўраду выглянула небясьпека. Каб яе абмінуць ці хоць-бы спаралюшаваць, быў учынены вядомы разгром беларусаў ў 1924 г. Разгром выказаўся ў арыш-

*) У тэрмінах „эміграцкая інтэлігенцыя“ намі разумеецца толькі тая з яе, якая нічога супольнага ня мела з авантурніцкай шайкай д-ра Паўлюкевіча. Аб'яднаныя ім элемэнты, выпадкова замешаныя ў беларускую справу, фактычна ёсьць польскае організацыі.

це і судзе над некалькімі дзеячамі з эмігрантаў. У скутку—паварот ня толькі поглядаў і думак, а і саміх эмігрантаў у Беларусь.

Аставалася адна Чэха-Славакія, дзе яшчэ найболей актыўнай часткі эміграцыі, пры гэтым суйздром адарванае ад беларускай глебы, удавалася так-сяк туліцца. Чэха-славацкая буржуазія, у адлічча ад буржуазіі іншых дзяржаў, задалася мэтаю стаць ахоўніцаю зруйнаваных жыцьцём ідэй эсэраўска-кадэцкага дэмократызму. Выходзячы з гэтага, яна ахвотна прытуляла да сябе ўсё тое, што вымятала работніцка-сялянская рука з абшару зруйнаванае Расіі. Гэткім чынам, у Чэха-Славаччыне залажыўся сапраўдны лягер розтанацыянальнае, а асабліва славянскае белагвардзейшчыны. Расійскія эсэры, як сябры чэскае буржуазіі па змаганьні з расійскімі рабочымі ды сялянамі, кадэты—прыяцелі Масарыка ды Крамаржа, чорнасотнікі ад Струвэ да Лаппа, як рэшткі насіцеляў поўславянскае вялікадзяржаўнае думкі; побач—украінская Рада аб'яднаным фронтам ад прынца Васіля Вышыванага да эсэраў з Шапавалам ды Ігнатам Латоцкім,—усе былі прытулены „ў гасьціннай“ суседкі; за кампанію з „братамі па крыві“ апынуліся там і беларускія блудачы. З багатага сталу дапамогі гэтай шайцы белагвардзейцаў даставала сёе-тое і беларуская эміграцыя. Праз гэта апошняй удалося там сяк-так абмацавацца і зрабіць сваю часовую базу. Вакол гэтае базы ізноў сталі зьбірацца ўсякія адкіды з агульнае эміграцыі, якія ніколі нічога ніякага ня мелі з Беларусьсю (організатары беларускіх сокалаў ды інш.). Гэткія элемэнты сьцягаліся з усіх краін, чуючы хоць мізэрную мажлівасьць перахапіць кавалак згубленага хлеба. Ідэёва яны заставаліся тымі-ж ворагамі шчырых і ад думак нацыянальнага адраджэньня, хоць і ў форме буржуазнай, былі далёка. Але народна-рэспубліканцы ня цураліся і іх, галоўным чынам, напіраючы, вядома, на беларускае студэнцтва.

Выхоўваючы кадры працаўнікоў для „новае“ Расіі, Чэха-Славацкая буржуазія паклапацілася выхаваць гэткіх-жа працаўнікоў і для „новае“ Беларусі. З гэтай мэтаю ў сваіх унівэрсытэтах яна дала некалькі дзесяткаў месцаў са стыпэндыямі і для ўраду „Беларускае Народнае Рэспублікі“. Гэты ўрад выкарыстаў цяжкі стан беларускае моладзі ў Заходняй Беларусі, якая ня можа знайсьці жаднае мажлівасьці дастаць вышэйшую асьвету, і стаў пасылаць яе ў Чэха-Славакію. Адначасова ў шэрагі гэтага студэнцтва ўлілося і некалькі сяброў беларускае рады на чале з Грыбам, Мамонькам ды інш. Гэткім чынам, склаліся зусім дадатныя ўмовы для апрацоўкі беларускай моладзі ў патрэбным для эміграцыі напрамку. З другога боку, было лёгка даказаць наогул аб працы, якая ня спыняецца, і праз гэта патрабуе грошы... Чэха-Славацкая буржуазія грошы пакрысе перакідала і гэтым падпірала абставіны для далейшае працы эміграцыі...

Аднак, і на гэтым фронце бясьпека трывала нядоўга. Клясава-палітычная дыфэрэнцыяцыя, чапіўшы расійскае ды украінскае студэнцтва, не

абмінула і беларускага. Ужо ў 1924 годзе ў Празе была заложана арганізацыя беларускага паступовага студэнцтва. Апошняе востра выступіла супроць нацыянал-дэмакратычнай ды эсэраўска-шовіністычнай агітацыі. Грунт пад эміграцыяй пачаў калыхацца, апора—слабець. Да гэтага шчодрасьць Чэха-Славацкае буржуазіі няўхільна астывала, ажно найупарцейшым эміграцкім дзеячом выглянула сустрэч поўная небясьпека... Губіўся ўсякі сэнс да далейшае акцыі супроць савецкага напрамку. Нарэшце, пад восень 1925 году эволюцыя ўлева беларускае інтэлігенцыі ў Заходняй Беларусі скончылася заснаваньнем пасламі сойму беларускае работніцка-сялянскае грамады.

Гэтым здарэньнем гісторыя засьведчыла непарушнасьць соцыяльнага разьвіцьця беларускага руху водлуг запатрабаваньняў Кастрычнікавае рэволюцыі. Таксама гэта здарэньне асудзіла і буржуазна-дэмократычны адколак у беларускай інтэлігенцыі, які выключна папаўняў эміграцыю, і абраны гэтай эміграцыяй шлях, і праробленую ёю працу. Гэта здарэньне, нарэшце, дапамагло найболей далёкаглядным эміграцкім дзеячом прааналізаваць сытуацыю, азірнуцца навакол і сказаць аман над далейшаю сваёй эміграцкай чыннасьцю. У верасьні месяцы 1925 году для абгавору складзенага стану была склікана беларуская зарубежная нарада ў Бэрліне. На гэтай нарадзе большасьцю галасоў была вынесена пастанова аб ліквідацыі ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і аб прызнаньні адзіным беларускім цэнтрам—Менску.

Бэрлінскаю нарадаю як-бы засуцэліўся кругабег у гісторыі дробнабуржуазнае часткі беларускае інтэлігенцыі. Нарада амаль ня цалкам зьнішчыла эміграцкую супроцьсавецкую акцыю. Толькі мізэрныя астаткі эміграцыі пазаставаліся ў Коўне (У. Ластоўскі, Дуж-Душэўскі і інш.), у Празе Чэскай (Захарка, Крычэўскі, Грыб і інш.) і ў Вільні („Сялянскі Саюз“ Ярэміча ды Рагулі з газэтаю „Сялянская Доля“).

Але, калі фізычна ў значнай меры ліквідавалася акцыя беларускае эміграцыі, то ці значыць гэта, што эміграцкая беларуская інтэлігенцыя, якая зараз працуе ў Савецкай Беларусі, супыніліся на думцы: пазбыцца манлівых лятуценьняў, асуджаных жыцьцём, прызнаць гістарычную неабходнасьць Савецкае ўлады і самаахвярна, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, як правадыра рабочых ды сялян, працаваць над экономічным, культурным ды дзяржаўным жыцьцём Савецкае Беларусі? Ці прызнала яна сябе пераможнай і абанкрутаваўшай? Ці сапраўды ў яе выглядзе выключна Менск ёсьць адзіным беларускім культурным цэнтрам? Ці можа гэта знадворнае прымірэньне, а ў рэчаіснасьці частка беларускае інтэлігенцыі духова жыве ў эміграцыі і дагэтуль?

Гэтыя пытаньні ўсё-ж асталіся мала выясьненымі ў скутку тых спрэчак і гутарак, якія прашлі ў нядаўнім мінулым. Высьветліць іх зараз поўнасьцю не даецца мажлівасьці і нам. Прычынаю гэтаму тое, што дыскусіі мінулае зімы, якімі яны гарачымі ні былі, усё-ж далі мала ма-

тэрыялу, каб можна было па ім судзіць канчаткова. Аднак, і тыя прамовы, якія чуліся з вуснаў некаторых прадстаўнікоў інтэлігенцыі на гэтых дыскусіях, і тыя рэдкія выступленьні ў друку, што з гэтае прычыны адмеціла мінулая зіма, лістападаўшчына і шэраг дробных фактаў, якія зьвязаны з агульным комплексам грамадзкага жыцьця, гавораць за тое, што ідэі эміграншчыны, ідэі нацыянал-дэмакратызму ня чужы некаторай частцы беларускай інтэлігенцыі і дагэтуль. Іншая справа, як вяліка гэтая частка інтэлігенцыі і як глыбока сядзяць у ёй гэтыя ідэі. Калі абапірацца на об'ектыўныя моманты, то трэба прызнаць, што беларуская эміграцкая інтэлігенцыя ў тэй яе частцы, якая вярнулася з-за рубяжу, напэўна не магла канчаткова аформіць свой сьветапогляд. Мінулае, што набылося ею ў процэсе папярэдняга разьвіцьця здарэньняў, пакінула ў ёй глыбокі сьлед; трэба шмат часу, пакуль яго загладзіць. Гэтая частка інтэлігенцыі, панашаму, можа казаць аб перамене тычак пастолькі, паколькі „Менск зьяўляецца адзіным беларускім культурным цэнтрам". Тая-ж, другая частка інтэлігенцкай правіцы, якая эміграцыю перажывала дома, у Беларусі, і папаўнялася перасяленцамі з іншых частак Саюзу, хоць і не перажыла жорсткіх умоў блуканьня за рубяжом, таксама магла захаваць мясьціну ў сваім нутры для нездаволенасьці вакольнымі абставінамі ў жыцьці. Штырхачом для гэтага быў цэлы шэраг прычын. Першая—гэта пераважнасьць у ёй элементау дробна-буржуазнага пахаджэньня і таго-ж дробна-буржуазнага выхаваньня, у многіх выпадках далёка ня ў духу беларускасьці. Далей, само становішча яе, як перанёсшай ролю палітычнага ворага рабочых ды сялян. Таксама мела ўплыў і тая ўпартасьць, з якою русыфікатарская інтэлігенцыя вяла ў першыя гады існаваньня Савецкае Беларусі змаганьне супроціў беларускае культуры. Але вянком усяго, бязумоўна, служыць каставы эгоізм, набыты працягам гістарычнага жыцьця інтэлігенцыі ва ўмовах буржуазнага ладу і прыўноска яго з боку ў беларускі нацыянальны рух.

Усё гэта пакуль трымае некаторую колькасьць беларускае інтэлігенцыі воддалі ад поўнага прызнаньня ёю кіраўніцтва рабочых і сялян. І ўсё гэта застаўляе выпіхаць лёзунгі супрацоўніцтва з Комуністычнай партыяй „на роўных пачатках".

„Трэба, каб беларуская інтэлігенцыя ў Беларусі мела магчымасьць уявіць сваю ініцыятыву і ўзяць адказнасьць за сваю працу перад будучынай" *).

Вось гэткія думкі можна чуць з боку прадстаўнікоў памянёнае інтэлігенцыі; яны выказваліся ў друку, паўтараліся пасьля і ў дыскусіі аб шляхох беларускае інтэлігенцыі і, бязумоўна, муляюцца ў яе галовах увесь час. „Мець мажлівасьць уявіць сваю інцыятыву"—трэба разумець у сэнсе падзелу ўлады між работнікамі ды сялянамі пад кіраўніцтвам Кому-

*) „Савецкая Беларусь" ад 21 кастрычніка 1925 г. № 239. „Шляхі беларускае інтэлігенцыі"—П. Трамповіч.

ністычнае партыі і непартыйнаю, клясава-народнаю соцыяльна і палітычна рознастайнаю інтэлігенцыяй. Бяз гэтага яна, гэта інтэлігенцыя, ня можа знайсьці свайго месца, забыўшы, што сама сабою, як нешта цэлае, асобнае, нідзе і ніколі (апроч розных радаў, ды што) ня мела, выпіханае ёю „мажлівасьці ўявіць ініцыятыву“. Падаўшыся самаабману, эміграцкая інтэлігенцыя, ці, згодна тэрмінолёгіі С. П. Трамповіча, тая інтэлігенцыя, якая, „кахаючы свой народ, ня верыла ў яго сілы“ і разумела дзяржаўную ды гаспадарчую незалежнасьць скуткам „сваіх стараньняў і працы“, дагэтуль ня можа яго пазбыцца.

Фактычна і зараз тая часьціна інтэлігенцыі, якая, згодна таму-ж С. П. Трамповічу, ня ведала настрою народу, ня ведала яго імкненьня перш-на-перш атрымаць соцыяльную свабоду, ня ведала ўсяе сілы народнага гневу і ненавісьці як да польскага пана, гэтак і да расійскага „барына“ і чыноўніка,—ня стала на шлях рэволюцыі—бач, інтэлігенцыя эміграцкая ці народна-рэспубліканская (ад БНР) ніяк ня можа ўразумець, чаму беларуская справа ня лічыцца яе справаю і не аддадзена ёй для кіраўніцтва. Аб тым, да чаго прыводзіць гэткае кіраўніцтва (згодна фактам) і куды яно вядзе—яна думаць ня хоча, а калі й думае—то пра сябе...

Вопыт не пераканаў яе эміграцкае акцыі ў адмоўнасьці і нягрунтоўнасьці „мажлівасьці ўяўляць сваю ініцыятыву“. Ёй думаецца, што гэта выпадкам пaперашкодзілі канчатковаму ажыцьцяўленьню яе лятуценьняў, а глеба для іх... ёсьць...

На гэту-ж думку апіраюцца і рэшткі тэй інтэлігенцыі, якая засталася за рубяжом. Заядлыя, блудзячы (тэрмін эміграцкі), верацЬ і, верачы, гукаюць, што Савецкая Беларусь гіне і што іх пазвала „провидение“ яе вызваліць... На іх мове гэта завецца змаганьнем за незалежнасьць, а сапраўды—гэта ёсьць барацьба супроціў рэволюцыі Кастрычніка, супроціў рэчаіснае незалежнасьці рабочых ды сялян. Зразумела, што ў гэтым ёсьць вялікая доля інтэлігенцкае панікласьці, але побач з гэтым шмат і зларадніцтва. Дарэмна С. П. Трамповіч кажа, што „беларуская інтэлігенцыя ні пры якіх умовах у сваёй масе ня можа стаць прыгоншчыкам“. Гэткім чынам, трэба сказаць адно, што манлівыя надзеі, якія грунтуюцца на нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі, якая ў сваю чаргу апіраецца на дробна-буржуазную клясавасьць акрэсьленае часткі беларускае інтэлігенцыі, яшчэ цалкам ня выветрыліся з галоў гэтае інтэлігенцыі. Але кола апошняе зусім ня шырокае. Паступова яно звужваецца і ў працягу некаторага часу сыйдзе на няма нішто.

Рост маладое савецкае інтэлігенцыі ідзе шпаркім тэмпам. Цяжар культурнае працы, якую ўвесь час гарда нясла працоўная большасьць беларускае інтэлігенцыі з часоў 1905 г., няўхільна астаецца на яе плячох. Мацнее ды крэпне беларуская дзяржаўнасьць, экономічны дабрабыт, культурнае будаўніцтва, якім падставу дала Кастрычнікавая рэволюцыя і ў

якой эмігранцкая інтэлігенцыя ніколі ня ўдзельнічала. Поруч з гэтым, усё меншымі робяцца памеры стараньняў і працы апошняй. Таксама рашучая політыка Савецкай улады ў нацыянальным пытаньні дашчэнту зьнішчае ўсякія спробы да культывіраваньня антыбеларускай русыфікатарскай акцыі. І, працуючы ў гэткіх умовах, ахоўнікі нацыянал-дэмакратычных поглядаў сярод беларускай інтэлігенцыі вырадзяцца ціха і бязбольна, не парушаючы цьвёрдае акрэсьленае гістарычнаю неабходнасьцю хады беларускага соцыяльнага ды культурна-нацыянальнага адраджэньня пад сьцягам Савецкае ўлады.

# ЧОРНЫЯ

*З цыклю па нацыянальна-вызваленчым руху ў коленіях і поўколеніях*

**Л. Каган**

З усіх прыгнечаных колёніяльных народнасьцяй сьвету нэгры, можна гэта напэўна сказаць, народнасьць найбольш бясправўная. Справа ў тым, што тут да моманту звычайнай капіталістычнай эксплёатацыі і колёніяльнага рабаваньня далучаецца яшчэ момант спэцыфічна-расавага ўціску: як і трыста-чатырыста год назад нэгр ня толькі ў дзікай Афрыцы, але і ў „культурнай“ Амэрыцы—істота ніжэйшага парадку. У прасьледваньні нэгра і яго лінчаваньні часта прымае ўдзел і белы яго брат па капіталістычнаму ўціску—гэткія вынікі погляду, які на працягу вякоў пасьлядоўна прышчапляўся белымі „цывілізатарамі“, што нэгры ніжэйшая раса, якая хавае ў сабе ўсе магчымыя заганы і хваробы, што пра збліжэньне з імі, чалавецкія да іх адносіны ня можа быць і гутаркі.

Шматмільённае нэгрыцянскае насяленьне ўсяго сьвету падзяляецца на дзьве няроўныя па колькасьці часткі—большую афрыканскую і меншую амэрыканскую. Пазнаёмімся з кожнай з іх паасобна.

Сякія-такія весткі пра жыцьцё і быт афрыканскага нэгра намі ўжо падаваліся ў артыкуле аб Паўночнай Афрыцы *). У гэтым нарысе мы іх крыху папоўнім і пастараемся даць агульны малюнак жыцьця й барацьбы тубыльнага насяленьня Чорнага Контынэнту.

Пранікненьне эўропэйцаў у Афрыку належыць да XV веку. Першымі тут зьяўляюцца португальцы, а за імі ўжо ідуць колёнізатары гішпанскія, ангельскія, голяндзкія, францускія. Апошнімі зьяўляюцца на Чорным сухазем'і швэды, датчане і прусы.

Які тавар раней за ўсе іншыя вабіць эўропэйца ў гэтай багацейшай з краін сьвету? „Чорнае дрэва“—так самых тубыльцаў, іх целы за выносьлівасьць і крэпасьць назвалі эўропэйцы. Яшчэ ў 1442 годзе нейкі португальскі марак захапіў на заходнім беразе Афрыкі ў палон некалькі тубыльцаў—тады-ж і ўзьнікла думка аб магчымасьці выкарыстаньня нэграў заграніцай, як рабочай сілы. У Лагосе, у Паўднёвай Португаліі, быў заснаваны першы нявольніцкі рынак, які ў кароткі час набыў сусьветную вядомасьць, бо вялікі запыт на нэгра-нявольніка пачала прад'яўляць,

*) Гл. арт. „Алжыр, Мароко, Туніс“, „Полымя“, 1926, № 4.

апрача Эўропы, яшчэ й Амэрыка. Ужо ў першыя дзесяцігодзьдзі пасьля вынаходу апошняй было знойдзена золата на высьпе Гаіці—тубыльцы Гаіці для здабываньня золата не падыходзілі, і ў Амэрыку рухнулі караблі, трумы якіх былі туга набіты „чорным дрэвам".

У XVI сталецьці запыт на „чорную" рабочую сілу пачалі прадяўляць цукравыя і кофэйныя плянтацыі Вэст-Індыі—тады на сцэне нявольніцкага гандлю побач з португальцамі зьяўляюцца ангельцы. Іх першы карабель, які заняўся спэцыяльна перавозкай нэграў, насіў прозьвішча „Езус" (!). Ангельцы гандлю чорнаскурымі надалі вялізарны па тых часох размах. Па даных аднаго аўтара за адно толькі сталецьце 1666—1776 яны з брытанскіх, францускіх і гішпанскіх колёній прывезьлі ў Амэрыку 300.000 нявольнікаў. Асяродкам гэтага гандлю зрабіўся Ліварпуль. За дзесяцігодзьдзе 1783—1793 з Лівэрпулю ў амэрыканскія колёніі адпраўлена было 921 карабель з 303 тысячамі нявольнікаў. На долю гандляроў ад гэтай опэрацыі дасталося чыстага прыбытку больш за 1.200.000 ф. ст. у год, плюс яшчэ прыбытак ад баваўняна-папяровых тавараў, на каторыя абменьвалі ў Амэрыцы чорнаскурых.

Цікавая рыса—белыя палявалі на нявольнікаў „з боскай дапамогай". Вось словы з пісьма аднаго паляўнічага на нявольнікаў: „І, урэшце, наш гасподзь бог, які адплачвае за кожную добрую справу, захацеў, каб за пакуту, якую давялося ім перацярпець, служачы яму, яны ў той дзень атрымалі перамогу над сваімі ворагамі, і гэта было ў нагароду за ўсю іх працу і страты, і вось яны ўзялі ў палон 105 нэграў, мужчын, жанчын і дзяцей, ня лічачы забітых і памершых ад ран. І калі бойка скончылася, усе выхвалялі бога за яго вялікія міласьці. Ён паказаў ім, што захацеў дараваць ім гэту перамогу, прычым яны самі пацярпелі вельмі нязначную страту" *).

У сучасны момант гандлю нявольнікамі няма ні ў Эўропе, ні ў Амэрыцы. Але, крыху ў іншай форме, ён яшчэ існуе і нават красуе ў апошнія дзесяцігодзьдзі ў самой Афрыцы. Справа ў тым, што вываз „чорнага дрэва" за акіян зьмяніўся прымацоўваньнем яго да пэўнага месцу контынэнту. Так, у бэльгійскім Конго (і ў шэрагу іншых колёній эўропэйцаў у Афрыцы практыкуецца тое самае) нэграў прымушаюць дастаўляць дзяржаве пэўную колькасьць каўчуку, сланёвай касьці і г. д. Пэўным натуральным падаткам абкладаецца кожная вёска. І бяда тэй вёсцы, якая сваіх павіннасьцяй цалком ня выконвае: яе чакаюць бясприкладныя зьверствы—падпал, рабаваньне, гвалтаваньне. „Уся гэта высока-культурная дзейнасьць караля Леопольда прывяла к таму, што, дзякуючы ўціску з боку цывілізатараў, нэгры паступова зварачаюцца ў першабытнае становішча і робяцца жывёламі. Ні пад'ёму матэрыяльнага, ні пад'ёму моральнага—такі ўжо вынік гэтай цывілізатарскай дзейнасьці, якая штурхае

*) І. Амтэр. „Сусьветны вызваленчы рух нэграў".

цэлую расу к выраджэньню і пагібелі", піша быўшы судзьдзя ў бэльгійскім Конго Лефран у сваёй кнізе „Чорная Афрыка" [1]).

Паляць, выразаюць, засякаюць да сьмерці „чорную скаціну" не адны толькі бэльгійцы. Ня лепшыя за іх французы ў сваім Конго, ня лепшыя за французаў культуртрэгеры немцы. Іменна апошнія даводзяць у сваіх пісаньнях пра Афрыку, што на Чорным Контынэнце, дзе хатнюю жывёлу здабыць надзвычайна цяжка, гэту апошнюю павінны заступаць нэгры. І, урэшце, горш бадай за ўсё жывецца нэграм у брытанскай Паўднёвай Афрыцы, дзе пераможцы ангельцы і пераможаныя буры канчаткова адны з другімі пагадзіліся на грунце захаваньня нявольніцтва і зьвярынай палітыкі адносна нэграў.

Мотыў зьверстваў, вядома,—экономічны. З моманту, як спыніўся гандаль нявольнікамі і вываз нэграў у Амэрыку, афрыканскі контынэнт набывае вялізарнае значэньне, як пастаўшчык розных „экзотычных" тавараў: какао, кофэ, дыямэнтаў, сланёвай касьці. Калі ў 1820 годзе замежны гандаль Афрыкі (ня лічачы „чорнага дрэва") быў роўны 40 міл. фр., то ён у 1872 г. ўжо дасяг 368 міл. фр., 1885 г.—975 міл. фр., 1897 г.—$2^1/_2$ мільярдаў франкаў. У 1900-м годзе замежны гандаль Афрыкі, выключаючы міжземнаморскія краіны Афрыкі—Трыполі, Марока, Алжыр, Туніс і Эгіпэт, перавышаў 3 мільярды франкаў.

Зьяўляюцца вялізарныя чыгуначныя проекты адносна Афрыкі. Справа ў тым, што вялізарнае Чорнае сухазем'е з паверхняй у 530 т. кв. міль ня мае выгадных унутраных водных шляхоў: яго рэчкі ў парогах і ў большасьці выпадкаў нявыгадны для плаваньня. Такім чынам—у Афрыцы рэйкі адзіны комунікацыйны шлях паміж living рознымі краінамі, адзіны сродак эўропэйскага ўкараненьня ў Чорнае сухазем'е. Вось чаму імпэрыялістычныя дзяржавы надаюць такое вялікае значэньне чыгункам у Афрыцы, вось чаму „самая афрыканская палітыка абмяжоўваецца проектамі рэйкавых шляхоў і барацьбой за гэтыя шляхі" [2]).

Тут, між іншым, яшчэ адзін вельмі важны момант, якога нельга абмінуць: з разьвіцьцём фінансавага капіталізму колёніі робяцца ня столькі месцам, адкуль грошы выцягваюцца, колькі месцам, куды грошы ўкладаюцца; у гэтых адносінах афрыканскія колёніі зьяўляюцца найбольш тыповымі, і тут грошы ўкладаюцца перш за ўсё ў чыгуначнае будаўніцтва.

Важнейшыя чыгуначныя проекты, ажыцьцяўленьне каторых ужо пачыналі?

Перш за ўсё самы вялізны—брытанскі. Паводле яго, на Афрыку накідаецца жалезны вялікабрытанскі крыж—адна перакладзіна з поўначы на

[1]) Выняткі ўзяты з кнігі Паўловіча: „Барацьба за Азію і Афрыку", т. III.

[2]) W. Caudwell. „Za politique gènèrale europienue en Afrique"—выняткі з Паўловіча—з вышэй пададзенай працы.

поўдзень, ад Каіру да Капштадту, даўжынёй 10 тысяч клм., другая—з ўсходу на захад, ад Пэпры да Лёгіна—Бай, даўжынёй 4.000 клм.

Французы супроць проекту ангельскіх мэталюргістых выставілі свой проект, аўтарам якога зьяўляецца будаўнік парыскага мэтраполітэну Анры Бэртэлё. Паводле гэтага проекту, трансафрыканскі рэйкавы шлях павінен быў пачацца ў Алжыры, перацяць усю Сахару і Конго, прайсьці цераз багатую на медзь афрыканскую краіну Катангу і, злучыўшыся з ангельскім рэйкавым шляхам, дайсьці да Капштадту—канцовага паўднёвага пункту Афрыкі. Не адставалі і немцы: так, у вадным толькі Камэруне, г.-зн. у сваіх заходніх афрыканскіх колёніях, Нямеччына затраціла ў 1909—11 г. г. 18 міл. марак на чыгункі. У 1913 жа годзе бюджэткамісія нямецкага рэйхстагу прыняла надзвычайны выдатак у 17 мільёнаў марак на пабудову чыгунак ва Ўсходнай Афрыцы.

Ясная справа—ажыцьцяўленьне проектаў чыгуначнага будаўніцтва сустракаецца з патрэбнасьцю перакроіць географічную карту Афрыкі, і, у значнай меры, імпэрыялістычная вайна 1914—18 г. г. прысьвечана была барацьбе за Афрыку, за яе перадзел.

У пачатку гэтага сталецьця на афрыканскім контынэнце існавалі поўнезалежныя Аранжавая рэспубліка Трансвааль, Мароко, Абісінія, Лібэрыя, Трыполітанія—усяго плошчай 3$^{1}/_{2}$ мільёны квад. клм. і насяленьнем 14 міл. душ. Рэшта-ж Афрыкі плошчай 27 міл. кв. клм. з насяленьнем 130 міл. душ разьмяркоўвалася наступным чынам:

| | Кв. клм. | лік. нас. |
|---|---|---|
| Англія . . | 9.535.000 | 58 міл. |
| Францыя . . | 7.700.000 | 27 „ |
| Бэльгія . . | 2.240.000 | 25 „ |
| Нямеччына . . | 2.500.000 | 11 „ |
| Португалія . . | 2.200.000 | 4$^{1}/_{2}$ „ |
| Італія . . | 2.060.000 | 1 м. 800 т. |
| Гішпанія . . | 550.000 | — 450 „ |

Такім чынам, у пачатку мінулага сталецьця з усяе афрыканскае тэрыторыі плошчай у 30 міл. кв. клм. з насяленьнем у 140 міл. душ прыблізна дзесятая частка была не занята эўропэйцамі, а вялізарныя абшары знаходзіліся ў руках слабых дзяржаў, як Італія, Гішпанія, Португалія, Бэльгія. Ясная справа, падобнае становішча не задавальняла буйных капіталістычных акул, і ў выніку вайны Афрыка рэзка зьмяняе сваё географічнае аблічча. Вэрсальскі дагавор аддаў Англіі каля 2 міл. кв. клм. нямецкіх зямель у Афрыцы, і ў сучасны момант афрыканская Брытанія займае плошчу звыш 11$^{1}/_{2}$ міл. кв. клм. з 60 міл. насяленьня; Францыя-ж атрымала пасьля далучэньня большай часткі колёній немцаў у Того і Камэруне „дадатную плошчу“ ў 2 міл. 300 тыс. кв. клм., і яе ўладаньні ў Афрыцы цяпер складаюць 10 міл. кв. клм. з насяленьнем у 40 міл. душ. Калі паглядзець на сучасную карту Афрыкі, ствараецца

ўражаньне, што яна ўся належыць ангельцам і французам. Толькі ў цэнтральнай яе частцы адзінока маячыць у ангельска-францускім абкружэньні Бэльгійскае Конго, ды на ўсходнім куце контынэнту прытулілася поўнезалежная Абісінія. Уладаньні-ж Італіі, Гішпаніі і Португаліі настолькі дробныя ў параўнаньні з ангельска-францускімі, што здаюцца маленькімі плямкамі на вялізарным Чорным Контынэнце*).

Такім чынам, мы высьветлілі ў асноўным, што вабіла і вабіць капіталістычных драпежнікаў на чорнае сухазем'е, давялі, што нэгру аднолькава дрэнна і ў брытанскай Паўднёвай Афрыцы, і ў французкім і бэльгійскім Конго. Але ўсё-ж, эксплёатацыя і зьдзекі ў тэй ці іншай колёніі эўропэйцаў маюць сваю гісторыю і свой спэцыфічны couleur locale. І тое і другое надзвычайна цікава, і мы пастараемся сьцісла азнаёміцца з гісторыяй укараненьня і спосабамі эксплёатацыі ў розных раёнах Афрыкі.

Пачнем з бэльгійскага Конго. Яго плошча 1 мільён кв. міль. Яно ў 95 разоў больш за Бэльгію. У 1908 г. ў бэльгійскім Конго жыло ад 20 да 40 міл. нэграў. У 1911-м годзе нэграў тут засталося толькі $8^1/_2$ міл. чалавек!

Заўладала „вольнай дзяржавай Конго“ (так Конго называлася доўгі час і пасьля яго захопу бэльгійцамі) Бэльгія яшчэ ў 1884-м годзе.

Першым крокам караля Леопольда было абвяшчэньне ўсіх „вакантных“ земель уласнасьцю дзяржавы. А дзякуючы таму, што такая зямля складала 0,9 усяе тэрыторыі, то фактычна гэта мера азначала амаль поўную экспропрыяцыю зямлі ў тубыльцаў.

Так зрабіў кароль Леопольд у адносінах да чорнаскурых тубыльцаў Конго, да рэчы сказаць, самых разьвітых прадстаўнікоў гэтай расы наогул: бэльгійцы засталі ў Конго росквіт земляробства і гандлю. У конгаўцаў былі грамадзкія плянтацыі маісу, табакі, бананаў і гародніны. Моцна разьвіта была ў конгаўцаў гадоўля жывёлы. Экспропрыяцыя земель не дала насяленьню магчымасьці прадаўжаць займацца гадоўляй жывёлы або земляробствам.

У гэты час (першае дзесяцігодзьдзе XX веку) надзвычайна падняўся на сусьветным рынку запыт на смолку і сланёвую косьць. Тады абвяшчаецца другая „ласка“ колёнізатараў: выдаецца ў 1908 г. закон, паводле якога тубыльцам забараняецца прадаваць эўропэйцам сланёвую косьць. Абрабаваных тубыльцаў зганяюць разам і прымушаюць зьбіраць смолку для сваіх дазорцаў. Каб пазбавіцца ад сваіх чорных нявольнікоў, бэльгійцы і самі зьнішчаюць цэлыя пляменьні і даручаюць рабіць тое-ж падкупленым чорнаскурым правадыром. Вельмі часта жанчыны і дзеці з цэлых вёсак браліся ў палон і трымаліся ў якасьці заложнікаў, пакуль мужчыны не зьбяруць і не здадуць дазорцам прызначаную колькасьць смолкі.

*) Гл. карту Афрыкі пасьля Вэрсалю. Паўловіч—„Барацьба за Азію і Афрыку“. стар. 137.

Тыя з пляменьняў, якія прадаўжалі займацца земляробствам або рыбацтвам, павінны былі плаціць вялікі падатак, які йшоў на ўтрыманьне арміі заваявальнікаў і на харч заложнікам. Колькасьць смолкі, якую павінны былі дастаўляць пляменьні Конго, звычайна была такая вялікая, што ў тубыльцаў увесь час ішоў на зьбіраньне яе, і палі запушчаліся. Існаваў катэгорычны загад—гнаць тубыльцаў з палёў, калі яны яшчэ ня выканалі „смолкавага заданьня“. Калі дадаць да ўсяго сказанага, што дазорцам збор смолкі даваўся на водкуп, нам зразумела будзе пагаворка ў Конга—„смолка—сьмерць“.

Зразумела, такая палітыка не магла не азлабляць тубыльцаў Конго, і бэльгійцам прыходзілася за чатыры дзесяцігодзьдзі свайго ўладаньня гэтай колёніяй прыдушваць не адно паўстаньне чорнаскурых.

На шчасьце эўропэйцаў, прыдушэньне падобных паўстаньняў не складае нічога цяжкога—настолькі непараўнана вышэй тэхнічныя магчымасьці „цывілізаваных“ уладароў нявольнікамі.

Становішча ва француcкім Конго, як дзьве кроплі вады, падобна да становішча ў бэльгійскім Конго. І тут за тубыльцамі толькі 0,1 частка зямлі; і тут у руках эўропэйцаў вялізарная колёнія, якая вабіць пераважна сваімі смолкавымі дрэвамі.

Цяпер пра брытанскую Паўднёвую Афрыку. Сюды ўваходзяць—Саюз Паўднёвай Афрыкі, Паўднёвая Радэзія, Базатуланд, Свазіланд і Бэчуакаланд. Усяго брытанскія ўладаньні ахопліваюць тэрыторыю ў 1 міл. кв. міль з насяленьнем у 8 міл. 800 тыс. чалавек. Гэта насяленьне, за выключэньнем $1^1/_2$ міл. эўропэйцаў, пераважна чорнае. Адных толькі нэграў банту тут $6^1/_2$ мільёнаў.

Эўропэйцы засталі ў банту племявую сыстэму кіраваньня і арэнды зямлі. І, як заўсёды і ўсюды, у колёніях заваявальнікі пачалі ўсімі спосабамі зьнішчаць колектыўнае зямляўладаньне і культаваць індывідуальнае. Вынік такой палітыкі—разьня, войны, поўнае зьнішчэньне дзесяткаў пляменьняў. Як прыклад адкрытага ашукваньня чорных, падамо хоць бы такі выпадак. Вядомы брытанскі зубр Сэсіль Родэ разам з некалькімі іншымі асобамі прымусіў у 1888 годзе правадыра Марабэлу падпісаць дакумант, зьмест каторага гэтаму царку быў зусім незразумелы. Гэтым дакумантам Марабэла перадаваў права на эксплёатацыю ўсяго натуральнага багацьця сваёй краіны за пэнсію ў 100 ф. у месяц, 1.000 стрэльбаў і 100.000 патронаў. А потым, каб рэалізаваць правы, якія даваў ёй гэты дакумант, кампанія, за дапамогай брытанскіх войск, вырэзвала цэлыя пляменьні, зьнішчала вёскі з твару зямлі. Ад насяленьня ў некалькі мільёнаў чалавек засталося ўсяго 700 тысяч, якія здаліся і зрабіліся нявольнікамі гэтай кампаніі. Спачатку іх зрабілі арандатарамі самых дрэнных зямель, потым, калі яны канчаткова пролетарызаваліся, пагналі ў рудні, не выключаючы й хлопчыкаў 12-13 год.

Паўднёва-Афрыканскі Саюз захапіў у тубыльцаў 250 міл. акраў лепшай зямлі і перадаў яе 1½ мільёнам белых, пакінуўшы 4½ міл. чорных 36 міл. балоцістай зямлі.

У Радэзіі ўсе 90 міл. акраў наяўнай зямлі конфіскавалі для белых.

Калі прыняць пад увагу вялікую плоднасьць нэграў (насельніцтва тут павялічваецца ў два разы ў трыццаць год), няўхільнасьць сур'ёзных конфліктаў у Брыт. Афрыцы зробіцца для нас відавочнай.

Нямецкая Паўднёва-Заходняя Афрыка. Тут прусакі мелі справу з ваяўнічымі чэрэро і готэнтотамі, якія любяць волю. Вось чаму там вельмі доўга пасьля захопу гэтай краіны нямецкім капіталам ішла ўпартая вайна, зьнішчальная вайна ў літаральным сэнсе слова. Адных толькі чэрэро загінула 80.000. Мала таго, каб аслабіць ворага, немцы справацавалі вайну паміж чэрэро і готэнтотамі, схіляючыся на бок то тых, то другіх. Мораль немца колёністага характарызуецца прынцыпам: „Чэрэро павінны працаваць без аплаты, толькі за харч".

Політыкай зьвярынага зьнішчэньня нямецкі капіталізм к моманту пачатку вайны дамагаўся поўнага „спакою" ў сваёй частцы Афрыкі, і „замiраныя" (ці надоўга?) перадалі свае колёніі пераможным супраціўнікам.

Урэшце, Португалія, якая ўладае ў Афрыцы Атоляй і выспамі, на якіх апрацоўваюцца кававыя плянтацыі. Дробная дзяржава, яна дакладна пераймае буйных драпежнікаў.

Спачатку—гандаль нявольнікамі, якім португальцы пачалі займацца яшчэ ў сярэдзіне XV сталецьця і які дасяг асаблівага росквіту ў XVIII сталецьці, калі португальцы вялі правільнае паляваньне на нэграў для дастаўкі іх на плянтацыі Бразіліі. Потым ужо ў мінулым сталецьці орыгінальны набор рабочых, які ня спыняўся да нашых часоў: провоцыруюцца войны паміж асобнымі пляменьнямі, потым палоньнікаў закоўваюць, накіроўваюць у бліжэйшыя камісарыяты і там прымушаюць падпісаць контракт на 5-10 год працы на плянтацыях выспы с. в. Фамы. Сьмяротнасьць тубыльцаў на гэтай высьпе страшэнная. З 40.000 рабочых на працягу аднаго толькі году тут памерла 4.000, а такіх выспаў з сілком законтрактаванымі рабочымі тут шмат.

Такое ў асноўным становішча 130 міл. чорнага насяленьня Афрыкі. Яно ня мае зусім ніякіх праў. Толькі 20 т. нэграў Паўднёва-Афрыканскага Саюзу маюць права голасу, уся ж рэшта гэтага права ня мае. Ёсьць і мізэрная падобнасьць прадстаўніцкіх нэгрыцянскіх устаноў у Брытанскай Афрыцы—толькі ў Брытанскай нешта падобнае да туніскага парляманту*)—фактычна-ж усім кіруюць нашы эўропэйцы.

Іменна гэты нялюдзкі ўціск белых захопнікаў організуе на барацьбу за незалежнасьць адсталыя патрыархальныя нэгрыцянскія пляменьні.

Але аб пэрспэктывах нэгрыцянскага руху—пасьля, калі пазнаёмімся з проблемай чорных у Амэрыцы.

*(Канец будзе)*

*) Гл. „Полымя" № 4 наш арт.: „Алжыр, Мароко, Туніс".

# ГРАМАДЗЯНСКІ КОДЭКС, СУДОВАЕ ЎГЛЕДЖАНЬНЕ І РЭВОЛЮЦЫЙНАЯ ЗАКОННАСЬЦЬ

**Проф. М. Грэдынгер**

Пытаньне аб тым, ці зьяўляецца Саюз ССР праўнаю дзяржаваю, ня выходзіць з радкоў агульнага і юрыдычнага друку Заходняе Эўропы. І зразумела чаму.

Калі ў нас існуюць і ўжываюцца моцныя гарантыі, якія забясьпечваюць грамадзянскія правы, тады чужаземцам і чужаземнаму капіталу нечага баяцца, уваходзячы з намі ў вядомыя маемасныя адносіны, і яны сьмела могуць давяраць нашым прадпрыемствам, могуць прымаць удзел у нашым грамадзянскім звароце. Проблема, якая так хвалюе чужаземцаў, покуль што не атрымала за рубяжом пэўнае і катэгорычнае разьвязкі. У той час, як адны ўпэўнены і другіх стараюцца ўпэўніць у тым, што Савецкая Расія, як яны ўпарта не перастаюць называць нашу краіну, зрабілася праўнаю дзяржаваю, другія, наадварот, з ня меншаю старанасьцю адмаўляюцца ад гэтага.

А пытаньне само па сабе настолькі актуальнае, так многабакова і практычна важнае, што варта таго, каб на ім спыніцца.

Дзеля гэтага мы паслухаем і тую і другую старану, прыхільнікаў і супраціўнікаў праўнае прыроды савецкае дзяржавы, і прааналізуем довады, якія высоўваюцца імі.

Пачнем з паходу, пачатага нядаўна на старонках „DJZ“ расійскім прысяжным павераным Рабіновічам“, як аўтар сам сябе рэкомэндуе*). Яго разважаньні надзвычайна характэрныя дзеля таго, што яны выяўляюць сабою квінтэсэнцыю тых супярэчаньняў, якія звычайна прыводзяць злосьнікі савецкага ладу. Даўшы поўную волю свайму жалю з прычыны таго, што Г. К. не дазваляе судовага разьбіраньня спрэчак па грамадзянскіх адносінах, узьнікшых да Кастрычнікавае рэволюцыі, наш аўтар асабіста, але і вельмі ненавукова, называе раней набытыя паказанага моманту маемасныя правы „jura naturalia“. Але пад натуральным правам грэцкія і рымскія стоікі разумелі злучнасьць прадпісаньняў рысаваўшагася ім вышэйшага розуму, закону прыроды. Ці гэта мае на ўвазе Рабіновіч, калі ўспамінае аб прэтэнзіях, вынікшых у гістарычным процэсе эксплёатацыі чалавека чалавекам? Ва ўсякім выпадку, зварачаючыся да

*) Гл. DZJ № 21, 1925 г., арт. Sowjetrussland als Rechtsstaat.

прызнаных савецкім законадаўствам маемасных праў, ён прыходзіць да самых няўцешных вывадаў як для себе, так і для сваіх кліэнтаў. Што маемасныя правы ў СССР ня могуць лічыцца ў выстарчальнай ступені гарантаванымі, у довад гэтага і іншыя рабілі адноску на артыкулы 1 і 4 нашага Грамадзянскага Кодэксу. З аднаго боку, законная абарона грамадзянскіх праў устанаўляецца толькі пад умоваю ажыцьцяўленьня іх у вадпаведнасьці з соцыяльна-гаспадарчым прызначэньнем гэтых праў, а з другога боку, яны наогул даюцца толькі ў мэтах разьвіцьця вытворчых сіл краіны. І наш аўтар з асабліваю заядласьцю імкнецца пры дапамозе прыведзеных артыкулаў давесьці, што ў нас маемасныя правы юрыдычнаю гарантыяю не карыстаюцца. Арт. 1 Г. К., па яго словах, перш-наперш не азначае толькі абарону шыканы, як мысьліць, напрыклад, нямецкі комэнтатар савецкага грамадзянскага права Фрэйд[1]); дзейнасьць гэтага артыкулу значна шырэйшая: яна ўпоўнаважвае судзьзю па яго самавольству ўмешвацца ў любое грамадзянскае права. Не дарма-ж Стучка называе артыкул 1-шы „Дамоклявым мечам“, які вісіць над усім Грамадзянскім Кодэксам, а народны камісар юстыцыі РСФСР Курскі перасьцерагае ад таго, каб прыдаваць гэтаму артыкулу толькі значэньне забароны злоўжываньня правам[2]). Але ня менш грозным Дамоклевым мечам зьяўляецца арт. 4 Г. К., які напамінае, што грамадзянская правадзольнасьць даецца грамадзянам выключна дзеля дасягненьня разьвіцьця вытворчых сіл дзяржавы. Калі верыць Рабіновічу, то практыка нібы даводзіць, што гэты закон дае правамоцтвы судзьдзі зусім ня лічыцца са ўсімі ўстаноўленымі формальнасьцямі і пабочнымі азначэньнямі зьдзелкі, калі справа йдзе толькі аб інтарэсах якое-небудзь рабочае або пролетарскае дзяржавы. Ніжэй мы давядзем, што аўтар памыляецца па меншай меры добрасумленна. Але ў яго руках ёсьць яшчэ адзін козыр, які павінен, па яго думцы, у васнове парушыць уяўленьне аб Саюзе ССР, як аб праўнай дзяржаве. Гэта артыкулы 2 і 254 Г.П.К., якія даюць прокурору права пачаць справу або ўвайсьці ў яе, а таксама апротэставаць рашэньне нават па скончанай грамадзянскай справе, калі гэтага вымагае абарона інтарэсаў рабоча-сялянскае дзяржавы і працоўных мас.

Няўжо—выклікае Рабіновіч—усё гэта можна злучыць з разуменьнем аб праўнай дзяржаве?

Аднак, ня трэба забываць, што з пункту погляду дыялектычнага матэрыялізму ні ў якую эпоху гісторыі чалавецтва не магло існаваць грамадзянскае права бяз сувязі з інтарэсамі пануючае клясы. Савецкае законадаўства толькі заяўляе аб гэтым голасна, што і адбілася ў Г.П.К. і Г.К.

Але зьвернемся да прадстаўнікоў другога напрамку. Яны, калі і не падняліся да поўнага разуменьня таго вялікага зрушэньня і глыбокага

[1]) Dr. Heinrich Freund. Das Zivilrecht Sowjetrusslands. 1924.

[2]) П. И. Стучка. Классовое государство и гражданское право. 1925. стр. 68.

соцыяльнага перавароту, які прывёў да ўтварэньня Савецкага Саюзу, то прынамсі сіляцца неатуманенымі вачыма і цьвяроза глядзець на рэальную сапраўднасьць.

Перамена курсу ў экономічнай політыцы, пад уплывам Леніна агалошаная на зьезьдзе партыі ў сакавіку 1921 г., пацягнула за сабою радыкальныя зьмены ў законадаўстве савецкіх рэспублік. І ці магло-б здарыцца іначай, калі, як вядома, законадаўства толькі выяўляе і заносіць у протокол вымаганьні экономічных адносін [1])? Новая экономічная політыка выклікала да жыцьця два выдатных акты ўраду: рэзолюцыю IX Зьезду Саветаў і пастанову III Сэсіі ЎЦВК IX скліканьня за 22 мая 1922 г.

Рэзолюцыя IX Зьезду належыць да ліку такіх выключна важных політычных актаў, якія адзначаюць наступленьне новай эпохі ў гісторыі краіны [2]). Асяродак цяжару гэтага акту красамоўна выяўлены ў наступным урачыстым яго заяўленьні: „Новые формы отношений, созданные в процессе революции и на почве проводимой властью экономической политики, должны получить свое выражение в законе и защиту в судебном порядке. Для разрешения всякого рода конфликтов в области имущественных отношений должны быть установлены твердые гражданские нормы. Граждане и корпорации, вступившие в договорные отношения с государственными органами, должны получить уверенность, что их права будут охранены“.

Таксама-ж выдатна паказаная пастанова ЎЦВК, якая ўстанаўляе наступныя асноўныя падставы для рэгуляваньня ўзаемаадносін юрыдычных і фізычных асоб [3]). „В целях установления точных взаимоотношений государственных органов с об'единениями и частными лицами, которые принимают участие в развитии производительных сил страны, а также взаимоотношений частных лиц и их об'единений между собою и в целях предоставления вытекающих отсюда правовых гарантий, небходимых для осуществления имущественных прав граждан РСФСР и иностранцев, ВЦИК постановляет: 1) предоставить всем гражданам, не ограниченным в установленном законом порядке в своей правоспособности, право на территории РСФСР и союзных договорных с нею советских республик организовать промышленные и торговые предприятия и заниматься дозволенными законом профессиями и промыслами с соблюдением всех постановлений, регулирующих промышленную и торговую деятельность и охраняющих труд; 2) предоставить всем гражданам, не ограниченным в установленном законом порядке в своей правоспособности (перечисляемые далее в декрете) имущественные права и защиту их судами“. Буй-

[1]) Маркс. Нищета философии, ст. 75.

[2]) Агалошана ў „Известиях“ № 296 за 31-XII-1921 г. С.У. № 4—1922 г.

[3]) Агалошана ў „Известиях“ № 134 за 18-VI-1922 г. С.У. № 36—1922 г.

нымі рысамі пасьля гэтага адзначаюцца ў гэтай пастанове ўсе тыя правы якія, у выкананьне пункту VI пастановы, болей дэтальна распрацаваны ў Грамадзянскім Кодэксе. Але пры гэтым нельга прайсьці моўчкі міма аднэй надзвычайна важнай акалічнасьці. Трэба асабліва падкрэсьліць агалошаны ў прыведзенай пастанове ЎЦВК прынцып, па якому судоваю абаронаю карыстаюцца ўсякага роду не забароненыя законам дагаворы [1]). А таму пералік такіх не забароненых дагавораў, які знаходзіцца ў пастанове, зьяўляецца толькі прыкладавым, але зусім не вычарпаючым. З прычыны-ж цеснай, арганічнай сувязі пастановы ЎЦВК за 22 мая 1922 г. з выданым на яго аснове Грамадзянскім Кодэксам не павінна быць дапушчана сумненьня ў тым, што судоваю абаронаю карыстаюцца і такія дагаворныя адносіны, якія не знашлі тэкстуальнага адбітку ў Г.К., але, ня маючы сваім прадметам выключных з прыватнага звароту гаспадарчых каштоўнасьцяй і не зьўляючыся па другіх падставах заганнымі, могуць лёгічна ўмясьціцца ў рамках гэтага кодэксу.

Аднак, ортодоксальная думка з падобным вывадам ня згодна; яна моцна верыць у правіла: чаго не напісана пяром, таго наогул няма на сьвеце.

Але як-жа ўзгодніць з такім палажэньнем асноўнае правіла, агалошанае ў паказанай пастанове ЎЦВК аб асноўных прыватных маемасных правох? Адхіліць гэта супярэчаньне больш ці менш прыймальным чынам не ўдаецца.

Адылі і гэтым часамі не саромеюцца, тлумачачы, што названая пастанова ЎЦВК мела толькі дэкларацыйнае значэньне. Ці ня гэтакае, як, напрыклад, кастрычнікавы маніфэст царскага часу аб увядзеньні констытуцыйнага ладу? Але-ж пры савецкіх умовах так разважаць нядобра.

Апрача гэтага, калі прыняць за звонкую монэту адхіляемае тут тлумачэньне, то гэта значыла-б гвалтаваць жыцьцё, ставіць перапоны свабоднаму разьвіцьцю вытворчых сіл, для якога пералік дагавораў, якія знайшлі спэцыяльную норміроўку ў Гр. Код., аказваецца вельмі цесным і зусім невыстарчальным. Так, напр., тысячамі і болей заключаліся, выконваліся і судовым парадкам абараняліся ў нас камісіённыя зьдзелкі, хаця болей чым цяжка было-б знайсьці для іх дакладную рэглямантацыю ў Г. К.[2]). Або возьмем гэтак шырака практыкуемы ў банках гарантыйны крэдыт, для нармаваньня якога Г.К. у сваіх артыкулах 236 і наступных дае толькі слабы поліатыў. Не гаворыцца ні слова ў Г.К. таксама і аб позыцыі, якая памінаецца ў пастанове ЎЦВК, хаця яна ня чужая нашаму быту і з пазыкаю юрыдычна не супадае[3]).

[1]) Гл. паказ. пастанову, отдел „Б", ст. 7.

[2]) Гл. „Еж. Сов. Юст." № 6—1926 г. арт. Линде. Договоры комиссии.

[3]) Проф. И. Б Новицкий. Заем. 1922 г., ст. 5-6.

Ці-ж адмаўляць гэтым усім дагаворным адносінам у абароне на судзе? Зразумела, не. Дрэнную ўслугу зрабілі-б мы грамадзянскаму звароту ў савецкай дзяржаве, калі-б так асабіста тлумачылі праўныя гарантыі, устаноўленыя для абароны маемасных праў. Хаця ў нас прыватнаправўныя, аснованыя на дагаворных падставах, адносіны ў вядомых выпадках не дапушчаюць прынцыпу дыапозытыўнасьці і не аддадзены пад аўтономію ўладароў грамадзянскіх праў, а падлягаюць нормам прымусовым, аднак, пазбаўленьне пералічаных і цэлага шэрагу іншых адносін судовае абароны было-б усё роўна, што рух назад, і васкрасіла-б проблему бязыменных дагавораў, так хваляваўшых клясычную юрыспрудэнцыю.

Дзеля разьвязаньня пытаньня аб тым, ці зьяўляецца Саюз ССР праўнаю дзяржаваю, трэба наперад разабрацца ў характэрных для праўнае дзяржавы момантах. Ведаючы гэтыя крытэрыі, можна будзе дасьледваць, ці адпавядае ім пераходны лад, які ўсталяваўся ў нас і, у залежнасьці ад вынікаў праверкі, даць дакладны адказ на паднятае пытаньне.

Так званая праўная дзяржава дапушчае прысутнасьць наступных рэквізытаў: 1) агульна-абавязковасьць юрыдычных норм, па якіх суды прызваны вырашаць справы; 2) рацыянальнае судабудаўніцтва і адпаведную організацыю іншых органаў улады, а ў прыватнасьці адміністрацыйных устаноў і 3) правільнае выкананьне правасудзьдзя, аснованае на моцным, не дазваляючым сваявольства, парадку судаводзтва. Усе гэтыя вымаганьні ёсьць у савецкай дзяржаве, асабліва пачынаючы з пэрыоду буры і націску ў галіне законадаўства, г. зн. ад 1922 году, калі буйныя законадаўчыя акты, адзін за другім, цэлаю веранiцаю зьвязалі і суд, і другія дзяржаўныя органы, палажыўшы мяжу панаваўшай раней хістасьці і сваявольству. Цяпер ўсе ваганьні ў гэтых адносінах, як гавораць немцы, складаюць ужо „пункт погляду, над якім атрымана перамога“, а калі яшчэ хто-небудзь „порою ополчается против этого“, „видя в нем отход от славных революционных традиций“, то гэткія паводзіны, па словах т. Бухарына, сказаных ім на XIV зьезьдзе партыі, проста на проста „глупы“*).

Судом катэгорычна прадпісваецца вырашаць грамадзянскія справы на падставе дзеючых законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду, а таксама пастаноў мясцовых органаў улады (арт. 3 Г.П.К.). Толькі за недастачаю законаў і пастаноў суд абавязаны вырашыць справу, кіруючыся агульнымі падставамі савецкага законадаўства і агульнаю політыкаю Рабоча-Сялянскага Ўраду (арт. 4 Г.П.К.), чым рашуча абвяргаецца погляд тых, хто, ня будучы ў сілах адмовіцца ад эльдорадоваеннага комунізму, гатовы замяніць устаноўлены пролетарскаю ўладаю закон сваёю, на ўласны страх і рызыку для данага выпадку ўтворанаю, нормаю.

*) Гл. журнал „Революц. Законность“ № 3-4, 1926 г. Артыкул В. Антонова-Саратовского „Рев. законность и советское государство“.

Судовае ўгледжаньне ў гэткім разуменьні, зразумела, карэнным спосабам супярэчыць савецкаму законадаўству і рэволюцыйнай законнасьці. І не дарма Ленін стараўся прышчапіць грамадзянам, перш за ўсё, пашану да закону, як крыніцы права. Не дарма і па яго пачыну на шостым Усерасійскім надзвычайным зьезьдзе саветаў быў прыняты паказальны дэкрэт „о точном соблюдении законов“ [1]). Толькі ў стасунку да трэцяга з адзначаных вышэй постулятаў праўнае дзяржавы можа ўзьнікнуць сумненьне з прычыны адсутнасьці ў Грамадзянскім Кодэксе простага паказаньня на тое, што суд ня мае права адмовіцца вырашыць справу з поваду непаўнаты, недастачы або супярэчаньня закону. З факту адсутнасьці гэтакага правіла некаторыя схіляюцца зрабіць вывад, нібы любая справа можа быць адкладзена ад calendas graecas або зусім забыта, калі толькі начальства ня дасьць дырэктывы і не загадае яго разабраць. Але падобны вывад у васнове няправільны ня толькі ў стасунку да ЎССР, якая ад 30 ліпня 1924 г. мае ўласны Грамадзянска-Процэсуальны Кодэкс, які ва многіх адносінах выгодна адрозьніваецца ад РСФСР-скага Г.П.К.— нават пры недастачы проста выражанае забароны суд ня мае права адмовіцца ад вырашэньня справы з поваду непаўнаты або супярэчаньня закону (арт. 4, Гр. Код. УССР); суд нясе адказнасьць за маруднасьць, а тым болей за адмаўленьне ў правасудзьдзі [2]).

* * *

Калі Рабіновіч у арт. арт. 2 і 254 Г.П.К. угледжвае небясьпечнейшае арудзьдзе, якое хістае правапарадак і парушае свабоду (буржуазную, зразумела) грамадзянскага звароту, то другі аглядальнік савецкай рэчаіснасьці, д-р Энглендэр, ня так пахмурна глядзіць на гэтыя артыкулы. Пытаньне, па яго словах, складаецца з таго, як будзе фактычна ажыцьцяўляцца той корэктыў, які заключаецца ў іх і які можа з аднолькавым посьпехам ужывацца як да правядзеньня „справядлівае юстыцыі“, так і да палітычнага ўплыву на ход правасудзьдзя [3]). Хаця аўтар дадае для ўспакаеньня, што, судзячы па практыцы апошніх гадоў, вышэйшае судовае кіраўніцтва робіць уплыў у першым напрамку. А таму, гаворыць ён далей, трэба, „з ужываньнем зьмякчаючых (?) акалічнасьцяй“ прызнаць, што за апошнія тры гады адбылася асноўная ломка „ў Расіі“ і што процэс перавярненьня яе ў „дзяржаўна-капіталістычную праўную дзяржаву“ можа лічыцца закончаным. Калі-ж да гэтага дадаць, што большая часьць эўропэйскіх дзяржаў прызнала савецкі ўрад ня толькі дэ-факто, але і дэ-юрэ, то гэтым самым сказана, што руская саюзная дзяржава ёсьць дзяржава праўная.

---

[1]) Проф. В. И. Бошко. Очерки развития правовой мысли. 1925 г.. ст. 523.

[2]) На патрэбнасьць зьмены арт. 4 Г.П.К. для Беларусі я паказаў у спэцыяльным артыкуле, зьмешчаным у „Працах БДУ“ (1926 г.).

[3]) Dr. Engländer у „DJZ“ № 16-1925; арт. „Ist Russland ein Rechtstaat gewerden?“

Вернемся, аднак, да аналізу арт. арт. 1 і 4 Г.К. і арт. арт. 2 і 254 Г.П.К., якія выклікаюць так шмат тлумачэньняў і featнастайную інтэрпрэтацыю.

Арт. 1 Г.К.,—гэты, па трапным выразу П. І. Стучкі, „Дамоклов меч“, які вісіць над уладарамі грамадзянскіх праў,—звычайна прыводзіцца ў сувязь з арт. 4, так што разьвіцьцё вытворчых сіл краіны высоўваецца, як прадпасылка любога грамадзянскага права. Выходзячы з таго асноўнага палажэньня, што нашы грамадзянскія правы носяць публічна-праўны характар і што ўсё права, якое заключаецца ў Г. К., ёсьць, строга гаворачы, права публічнае з прымяненьнем да яго прыватнапраўных форм, выводзяць, што калі якая-небудзь зьдзелка ня мае сваёй непасрэднай і яўнай задачай падняцьце вытворчых сіл краіны, яна зьяўляецца па самай сутнасьці нікчэмнаю [1]). Такі вывад, зразумела, павінен прывесьці да падмены разуменьня суб'екта праў разуменьнем праўнай мэты, перавярнуць уладароў маемасных праў незалежна ад таго, ці будуць гэта асобы фізычныя або юрыдычныя,—у безасабовых выканаўцаў загадзя вызначаных урадам заданьняў, аб чым калісь так марыў вядомы нямецкі вучоны Шварц [2]). Але гэта ішло-б у разрэз з асновамі савецкага законадаўства і палітыкаю рабоча-сялянскага ўраду, бо нават дзяржаўныя прадпрыемствы, якія пераведзены на гаспадарчы разрахунак і не фінансуюцца ў сьметным парадку, карыстаюцца самастойнасьцю ў праўдзеньні сваіх опэрацый і свабодаю ўжываньня прыватна-гаспадарчых мэтодаў. Даведзенае-ж да крайнасьці і правадзімае да найменшых драбніц вымаганьне аб адпаведнасьці кожнае зьдзелкі соцыяльна-гаспадарчаму прызначэньню данага праву ўносіць вядомую неазначальнасьць і няўпэненасьць у грамадзянскі зварот, а часамі павінна выклікаць поўны застой, бязвольле і апатыю, зьяўляючыся тормазам для экономічнага і культурнага пасьпеху. Пазбаўлены канчатковага зьместу, паказаны артыкул можа толькі граць ролю вярхоўнага прынцыпу для судовай ацэнкі падлягаючых вырашэньню спрэчак аб грамадзянскім праве. Другімі словамі, гэты артыкул зьмяшчае ў сабе толькі агульную адноску на кіруючы прынцып, а конкрэтны зьмест павінен быць запазычаны з іншых юрыдычных норм. Ва многіх выпадках супярэчнае соцыяльна-экономічнаму прызначэньню правакарыстаньне ім выяўляецца з тых або іншых умоў дагавору. З другога-ж боку процісоцыяльнае карыстаньне правам можа і не знаходзіцца ў сувязі з дагаворам, а выявіцца ў шыкане, якая ў кожным выпадку зьяўляецца глебаю для ўзьнікненьня абавязнасьці, выцякаючай з факту ўтварэньня другому шкоды (арт. 403 Г.К.). Бо забарона карыстацца сваім правам з выключнаю мэтаю насаліць другому або зрабіць яму шкоду таксама зразумела, як забарона наўмысна парушаць чужое права. Вось

[1]) Dr. Engländer у „DJZ“ № 16-1925, арт. „Ist Russland ein Rechtstaat gewerden?“ стр. 24 і 29.

[2]) Schwarz. у Archiv für bürgerl. Recht, том 32 і 34. Тое самае—Duguit. Les transformations générales. 1912.

чаму зусім правы проф. І. А. Пакроўскі гаворачы, што „иначе можно было бы утверждать, что всякий убийца только пользуется своим правом на нож, всякий разрушитель чужого имущества своим правом на употребление своих рук. Шикана в этом смысле есть не что иное, как самый обыкновенный деликт“ [1]). Бясспрэчна, судзьдзя павінен перасякаць усякае злоўжываньне правам, якое ідзе ў разрэз з об'ектыўнаю мэтаю закону [2]). Але покуль няма іску, няма і суда, а ў гэтым сэнсе Кантаровіч не без падставы зазначае, што правіла арт. 1 Г.К. павінна знайсьці месца ў адміністрацыйным праве, у сыстэме-ж грамадзянскага права яно можа мець значэньне толькі кіруючага прынцыпу для судовага ўгледжаньня [3]). Толькі Грамадзянска-Процэсуальны Кодэкс уносіць вядомае дапаўненьне ў агульныя рамкі арт. 1 Г.К., дазваляючы прокурору ініцыятыву ў падняцьці грамадзянскіх праў для абароны інтарэсаў дзяржавы і працоўных мас. У гэтай ролі прокурора ў некаторым родзе аднавіўся „actio popularis“ (агульнанародны іск), з якім ён выступае, як захавальнік політыкі Рабоча-Сялянскага ўраду і абаронца пролетарыяту.

Быць можа, найболей слабым месцам у нашым грамадзянскім процэсе зьяўляецца арт. 254, які сустракае такую рэзкую крытыку ў чужаземнай літаратуры. Права протэсту на рашэньні па закончаных грамадзянскіх справах здаецца абсолютна недазволеным. Але калі ўнікнуць у сэнс і задачы дыктатуры пролетарыяту, а таксама ў прынцыпы нашага процэсу, то і гэта права зьявіцца толькі адным са зьвеньняў у доўгім ланцузе захадаў, якія выконваюць організатарскую ролю ў барацьбе дзяржаўнага капіталізму з прыватна-капіталістычнаю гаспадаркаю. Апрача гэтага, ня трэба яшчэ забываць, што накіроўваемыя прокуратураю ў Вярхоўны Суд протэсты павінны быць падрабязна мотываваны; а паколькі задачай пролетарскага суда служыць выясьненьне матэрыяльнай ісьціны, а ня толькі формальнай праўды (арт. 5 Г.П.К.), зьмешчанае ў арт. 254 правіла зьяўляецца натуральным працягам адзначаных прынцыпаў. Адно толькі, супроць чаго можна-б было пярэчыць, дык гэта тое, што протэст прокурора на рашэньні па закончаных грамадзянскіх справах ніякім тэрмінам не абмежаваны. Такое становішча хістае сталасьць і пэўнасьць маемасных адносін, а часамі можа зрабіць проблематычнаю самую дапамогу разьвіцьцю вытворчых сіл краіны. А што тычыцца наогул права апротэставаньня паказаных рашэньняў, якое здаецца вельмі расьцяжымым, дык, прынамсі, для РСФСР у гэтых адносінах ужо ўстаноўлены значны карэктыў. Пастановаю Наркамюсту за 25 лютага 1926 г. арт. 254 Г.П.К. мусіць быць тлумачаны ў тым сэнсе, што протэсты прокурора могуць прыносіцца толькі ў тых выпадках, калі дапушчанае судом парушэньне закону злучана з парушэньнем фіскальных інтарэсаў, інтарэсаў значных груп пра-

[1]) Проф. И. А. Покровский. Основные проблемы гражданского права. 1916. ст. 96.
[2]) Проф. А. Г. Гойхбар. Хозяйственные права. 1925. ст. 2.
[3]) Я. А. Канторович. Имущественные права граждан СССР. 1925 г., ст. 27.

цоўнага насяленьня або палітыкі дзяржаўнай улады. Тыя-ж протэсты, якія не зьмяшчаюць у сабе пералічаных мотываў, уперад будуць цэнтральнаю прокуратураю пакідацца бяз вынікаў [1]). Нельга сумнявацца ў тым, што і за межамі РСФСР прыведзенае разьясьненьне прынясе практычную карысьць.

* * *

Такім чынам, папрокі ў юрыдычнай незабясьпечанасьці нашага праварадку павінны быць самым рашучым чынам адкінуты, бо яны супярэчаць сапраўднасьці. Паласа ваеннага комунізму, выканаўшы свой абавязак, адышла ў гісторыю і ўступіла месца пэрыоду рэволюцыйнае законнасьці. Калі на першых парах соцыяльная рэволюцыя цалком захоплена была задачаю разбурыць стары сьвет з яго дзяржаўнаю машынаю, скінуць з сябе старога Адама і пабудаваць жыцьцё нанава,—дык у гэтую бурную эпоху ўзаемаадносіны грамадзян маглі разглядацца толькі праз прызму соцыяльнае рэволюцыі, праз рэволюцыйную правасьвядомасьць. Але ў гэтую эпоху яшчэ дазвалялася ўжываньне законаў скінутых урадаў, паколькі яны маглі быць узгоднены з мэтамі і задачамі рэволюцыі [2]). Хутка, аднак, зрабілася ясна, што падобнае „сядзеньне на двух крэслах" небясьпечна; тады раздаўся лёзунг абярнуцца тылам да ўсіх ранейшых законаў, як да не адпавядаўшых соцыялістычнай правасьвядомасьці. Але апошняе на словах лягчэй было зрабіць вярхоўным прынцыпам правасудзьдзя, чымся знайсьці „судзьдзяў гэрояў", якія, не ўпадаючы ў сваявольства, патрэбным чынам ажыцьцяўлялі-б загады соцыялістычнае правасьвядомасьці. Дзеля гэтага ўлада пасьпяшыла ўнесьці папраўку ў гэтае нявызначанае становішча, замяніўшы соцыялістычную правасьвядомасьць вымаганьнем рэволюцыйнае мэтазгоднасьці, якая павінна кіраваць правасудзьдзем. Аднак, і такі корэктыў усё яшчэ ня досыць вызначаны дзеля таго, каб увадзімае ім суб'ектыўна свабоднае ўгледжаньне судзьдзі не пераходзіла часамі ў сваявольства.

Толькі з таго часу, як агалошана была патрэбнасьць „обходного движения" і клясавая правасьвядомасьць пролетарыяту аформілася і акрышталізавалася ў кодэксах і іншых законапалажэньнях, савецкая законнасьць зьяўляецца ўпоўне забясьпечанаю. З гэтых часоў суб'ектывізм павінен быць выцесьнены з атрыбутаў пролетарскага правасудзьдзя, бо ўсякае праяўленьне ў дапушчальных законам межах судовага ўгледжаньня павінна быць апраўдана об'ектыўнымі данымі конкрэтнае справы, аперціся на непарушныя вывады лёгікі з азначаных законаў і адносін. Зразумела, што ўзмацненьне рэволюцыйнае законнасьці немажліва пры адсутнасьці стаячага на вышыні свайго закліку асабовага складу суда. Як немажліва здаволіцца дрэннымі музыкамі толькі па тым меркаваньні, што людзі яны добрыя і наогул вартыя, так, роўным чынам, нецярпімы

[1]) „Известия" № 156—1926 г. за 9/III.

[2]) СУ РСФСР № 4—1917 г.

невукі або бесшабашныя судзьдзі. Бо яны зьнішчаюць дасягненьні рэволюцыі, устаўляюць кіі ў калёсы паступоваму бадаўніцтву соцыялізму, значна аддаляючы апошнюю мэту, да якой, згодна дэклярацыі, імкнецца Саюз ССР.

„Мы—люди, строящие на научных основаниях социализм,—справядліва заўважвае Антонов-Саратовскі,—не можем гордиться невежеством. У нас должна быть жгучая боль за то, что мы не можем ускорить темп уничтожения всякого невежества до пределов скорости" *).

Вымаганьне ведаў, побач, канечна, са сьвядомымі адносінамі да мэт і задач Савецкага Саюзу і правільным разуменьнем політыкі дзяржаўнай улады, не азначае, аднак, звароту да культу судзьдзяў-гэрояў, вельмі рэдкіх нават у пэрыод найбольшага рэволюцыйнага размаху і пад'ёму. Але ўсякая спэцыяльнасьць патрабуе вядомае падрыхтоўкі, патрэбна яна і нашым судзьдзям, асабліва цяпер, калі рэволюцыйная правасьвядомасьць акрышталізавалася ў шматлікіх кодэксах.

*) Гл. журнал „Революционная Законность" № 3-4, 26 г., паказ. артыкул.

# К СТАЛЕЦЬЦЮ АД ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ П. В. ШЭЙНА

*(Біографія й працы)*

**С. Некрашэвіч**

Павел Васільлевіч Шэйн нарадзіўся ў г. Магілеве ў 1826 г. Па нацыянальнасьці ён быў яўрэй. Яго бацька быў заможным магілеўскім гандляром, які па сваіх гандлёвых справах часта бываў у Маскве. Тым ня менш у сямейным жыцьці Шэйнаў панавала такая-ж сьляпая рэлігійная рутына, як і ва ўсякай іншай таго часу провінцыяльнай яўрэйскай сям'і, і калі П. В. Шэйну ўдалося падняцца над тымі ўмовамі жыцьця, у якіх перабывала яго сям'я, і зрабіць слаўнае імя ў навуцы, то гэта здарылася ня дзякуючы сям'і і яе ўплыву, а цэламу шэрагу выпадковых здарэньняў.

Па яўрэйскаму звычаю П. В. Шэйн з 5 год ходзіць у хэдэр, дзе вучыцца чытаць і пісаць паяўрэйску. Але з шостага году ён пачынае хварэць. Дамашняе знахарскае лячэньне толькі пагаршае яго здароўе і робіць яго на ўсё жыцьцё калекай. У 13 год П. В. Шэйн хварэе на гарачку, пасьля якой зусім траціць здольнасьць руху. Праз поўгода ён трохі папраўляецца, аднак яго рукі і ногі застаюцца скручанымі, і хадзіць ён ня можа.

Хоць хвароба бадай з 6 год не пакідала Шэйна, аднак ён не пераставаў вывучаць яўрэйскую мову. У гэтым яму многа дапамагаў адзін асьвечаны рабін, які хадзіў да яго малодшага брата. Гэты рабін (Бэрлінэр), не абмяжоўваючыся вывучэньнем аднаго старога завету і талмуду, яшчэ добра вывучыў, па мэтоду нямецкіх, яўрэйскіх аўторытэтаў, старую яўрэйскую мову і яе граматыку. Заняцьці і, галоўным, чынам, размовы з рабінам значна пашыралі кругагляд маладога Шэйна і рабілі з яго ледзь не лібэрала ў сваёй сям'і. Апрача заняткаў па вывучэньні яўрэйскай мовы, Шэйн яшчэ дапамагае сваёй матцы ў рахункаводзтве.

Гэтак цягнулася калецкае жыцьцё маладога Шэйна да 18 год. У 1843 г. наступае ў яго жыцьці важная падзея, якая робіць уплыў на ўсё яго далейшае жыцьцё.

Бацька Шэйна, з прычыны выданьня закону аб забароне яўрэям пражываць у сталіцах, прымушаны быў спыніць свае гандлёвыя справы ў Маскве, што цяжка адбілася на матэрыяльным становішчы яго сям'і.

У Маскве, па новаму закону, маглі толькі жыць па поўгода купцы 1-ай і 2-ой гільдыі і прыпісаныя да іх у якасьці служкаў мяшчане. Паколькі бацька Шэйна да купцоў не належаў, а прыпіска яго, як мешчаніна, да купцоў каштавала вялікія грошы, ня менш, чым 200 руб. за кожную паездку, бацька Шэйна прыдумаў гэткую хітрасьць,—павязьці ў Маскву для лячэньня свайго хворага сына і знаходзіцца пры ім для гатаваньня стравы (кашэрнай); апошняе законам дазвалялася. П. В. Шэйна памясьцілі ў Нова-Кацярынінскую больніцу, дзе ён прабыў цэлых тры гады. У больніцы Шэйн ня толькі лячыўся, але й паглыбляў сваю асьвету. Ад аднаго контаніста з хрышчоных яўрэяў ён навучыўся гаварыць і чытаць па-руску, а дастаючы кнігі ад студэнтаў, што прыходзілі на практыку ў больніцу, ён з захапленьнем чытае Пушкіна й Жукоўскага. Пры дапамозе ордынатараў з немцаў ён навучаецца нямецкай літаратурнай мове і чытае ў орыгіналах лепшых нямецкіх поэтаў. Пераймаючы іх, ён нават сам складае вершы на яўрэйскай мове, у якіх апявае асьвету сярод яўрэяў. Наогул, у сэнсе асьветы больніца для Шэйна зьявілася добрай школай. Тут для яго адчыніўся новы сьвет ідэй, тутака ён упяршыню пазнаёміўся з тым высокім інтэлектуальным жыцьцём, якім у той час жыла інтэлігенцыя, што групавалася навакол больніцы й Унівэрсытэту; тутака-ж ён азнаёміўся і з хрысьціянамі ня як з *гоямі*, нячыстымі й варожымі да яўрэяў людзьмі, а як з добрымі таварышамі, што абкружалі яго цёплай ласкай і пільнай увагай, і якія не рабілі паміж сабой і ім аніякай розьніцы. Зразумела, што апошняе ў душы адзінокага маладога яўрэя, выхаванага ва ўмовах недаверлівасьці й падазронасьці да кожнага хрысьціяніна, мусіла зрабіць цэлы пераварот. У яго зьяўляецца рэлігійны індыфэрэнтызм, які дапамог яму рэзка парваць сувязь з вузкай рэлігійна-каставай яўрэйскай адасобленасьцю і накіраваць сваё жыцьцё на новы шлях.

Тымчасам лячэньне ў Нова-Кацярынінскай больніцы мела для Шэйна свае станоўчыя вынікі. Штрамайерава машына паступова расьцягвала яго скручаныя члены, і час выздараўленьня набліжаўся. Вядома, што пры лячэньні Шэйну прыходзілася цярпець пякельныя мукі, бо машына нават адзін раз парвала жылы, але да цярплівасьці ўжо даўно навык яго кволы організм. У 1846 г. Шэйн атрымаў магчымасьць пры дапамозе мыліц хадзіць. Трэба было выпісвацца з больніцы. А выпісаўшыся адтуль, ён траціў права на пражываньне ў Маскве і разам з гэтым мусіў пакінуць і тое блізкае да сябе кола знаёмых, якое зрабіла на яго сьветапогляды такі вялікі ўплыў. Тады Шэйн наважваецца на рашучую меру—пераход у хрысьціянства. Пад уплывам сваіх знаёмых лютаран ён прыймае лютаранства, а праз гэта, парваўшы сувязь з сям'ёй, пазбаўляецца, як адшчапенец і здраднік бацькавай веры, усякіх матэрыяльных сродкаў да жыцьця. Знаёмыя памясьцілі яго ў сірочае аддзяленьне школы пры лютаранскай царкве сьв. Міхала. Тут ён папаўняў

сваю асьвету, займаючыся, галоўным чынам, расійскаю моваю і літаратурай пад кіраўніцтвам выкладчыка расійскай мовы Ф. Б. Міллера. Заняцьці яго, як відаць, былі пасьпешнымі, бо праз два гады яму ўжо даручаюць занякі ў малодшай клясе з аплатай працы па 10 руб. у месяц. Кіраўнік яго заняткаў па літаратуры Ф. Б. Міллер, сам будучы поэтам-перакладчыкам, пазнаёміў яго з вузкім літаратурным гуртком, да якога належалі поэты Ф. Глінка, Міх. Дмітрыев, Раіч і мастакі Рабус, Рамазанов і іншыя. Сваіх новых сяброў па гуртку Шэйн задзіўляў глыбінёй мысьлі і сваёй навуковай цікавасьцю. Члены гуртка спачувалі Шэйну і перш за ўсё хацелі палепшыць яго матэрыяльнае становішча. Хутка пры дапамозе гуртка Шэйна запрашаюць у якасьці „дарэктара“ ў панскія сем'і, і ён з 1850 году пачынае вандраваць па Расіі. То ён 4 гады жыве ў сям'і Загряжскіх у г. Тарусу і на вёсцы, то мы яго бачым у сям'і Оленіных у Касімаўскім пав. Разанскай губ. Наездамі ён бывае ў Маскве і знаходзіць самы сардэчны прыём у Шэвыровых і Аксаковых. Жывучы на вёсках, Шэйн блізка знаёміцца з народам і яго творчасьцю, а бываючы ў славянафільскіх гуртках у Маскве, ён запальваецца яшчэ большай ахвотай зыйціся з народнай масай і вывучыць яе творчасьць. Пад уплывам кніг „Русской Беседы“, у якіх зьмешчана было некалькі народных былін, Шэйн канчаткова наважваецца прысьвяціць сваё жыцьцё зьбіраньню помнікаў народнай творчасьці. У Карсунскім пав. Сімбірскай губ., дзе ён быў дарэктарам у паноў Кроткавых, Шэйн пачынае па вёсках запісваць народныя песьні і хутка прывозіць у Маскву, у гурток Хомякова і Аксакова, невялікі зборнік былін і гістарычных песень, сабраных ім у Карсунскім пав. У 1859 г. гэта першая праца Шэйна была надрукавана профэсарам О. М. Бодянскім у „Чтениях в императорском обществе истории и древностей российских“. Ад гэтага часу аж да дня сьмерці Шэйн ні разу ня здрадзіў пастаўленай сабе задачы. Усюды, куды толькі ні закідаў яго лёс, ён перш за ўсё імкнуўся зблізіцца з народам, вывучыць яго абрады, забабоны, запісаць яго песьні, казкі, легенды, дасьледаваць яго духоўнае жыцьцё. На вёсках ён запісы рабіў ад сялян, у школах—ад вучняў, у гарадох—ад дворнікаў, кухарак, нянек. Пры гэтым трэба сказаць, што ён заўсёды так умеў сябе паставіць адносна тых асоб, аб якіх рабіў запісы, што яны яго не сароміліся і давалі патрэбны яму матэрыял. Любіў Шэйн рабіць нагляданьні і над жывою вялікарускаю народнай мовай. Свае на працягу многіх гадоў нагляданьні ён зьмесьціў, як дадатак да „Толкового Словаря“ Даля, у X т. „Сборника отделения русского языка и словесности Академии Наук“ (у 1873 г.).

Вельмі дапамагала Шэйну ў зьбіраньні этнографічнага матэрыялу і яго вандроўнае жыцьцё. Пасьля адчыненьня „васкрэсных“ школ у Маскве Шэйн зьяўляецца настаўнікам пісьменнасьці ў аднэй з іх. Адсюль ён хутка пераходзіць у Ясна-Палянскую школу ў маёнтку Льва Тол-

стога. Пражыўшы тут некаторы час, Шэйн паступае на дзяржаўную службу,—перш у якасьці настаўніка „уездного училища“, а пасьля „штатного смотрителя уездных училищ“ у Туле і Епіфані. Правандраваўшы доўгі час па Вялікаросіі, Шэйн пасьля пераходзіць на службу ў Беларусь, дзе ён на працягу 7 год служыць настаўнікам па нямецкай мове ў Віцебскай гімназіі. Тут ён ад сваёй прыслугі вывучае беларускую народную мову і робіць запісы беларускіх фольклёрных матэрыялаў; адначасна ён займаецца прыгатаваньнем да друку раней ім запісаных на працягу многіх гадоў вялікарускіх матэрыялаў. У 1870 г. зьяўляецца ў „Чтениях в Общ. ист. и древн. российскіх“ 1-ая частка вялікарускіх песень. Гэты зборнік (да 600 стар.) быў спагадна спатканы ў навуковай літаратуры і дадаў Шэйну яшчэ большай ахвоты да працы. Наступнай яго працай мусіла быць другая частка вялікарускага зборніку. Але гэтая частка замарудзілася з друкам і вышла ў сьвет толькі ў 1877 г.

Больш пашанцавала Шэйну з яго беларускімі матэрыяламі. Жывучы ў 70-х гадох у Віцебску, ён зьбірае да 1.000 нумароў беларускага фольклёрнага матэрыялу. Гэты матэрыял ім апрацоўваецца ў беларускі зборнік, які ён прадстаўляе ў 1873 г. ў „Этнографическое Отд. Русск. Географического Общества“. Азнаёміўшыся з працай Шэйна, „Русск. Географ. О-во“ прысудзіла зьбіральніку залатую мэдаль, а яго працу ў наступным 1874 г. надрукавала ў „Записках О-ва“ (у V т.) пад загалоўкам: „Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями, с приложением об'яснительного словаря и грамматических примечаний“ і, апрача таго, асобнай адбіткай. Беларускі зборнік па таму часу быў настолькі каштоўным, што Акадэмія Навук прысудзіла зьбіральніку Увараўскую прэмію. Праца Шэйна, па даручэньні Акадэміі Навук, была разгледжана проф. О. Ф. Міллерам, які ў сваёй рэцэнзіі аб зборніку кажа, што зборнік Шэйна зьяўляецца самым багатым з усіх беларускіх зборнікаў, што зьявіліся ў сьвет да гэтага часу. Апрача таго, кажа Міллер, Шэйн добра знаёмы з літаратурай прадмету і зрабіў, дзе патрэбна, зноскі і на другія зборнікі, між іншым, і на досыць рэдкія, выданыя палякамі; шмат чаго ён запазычыў для свайго зборніка і з розных малапашыраных мясцовых выданьняў. Матэрыял у зборніку разьмеркаваны ў бібліографічна-каляндарным парадку, у якім прадстаўляюцца падзеі чалавечага жыцьця, дзеля чаго ў зборніку перш ідуць калыскавыя й дзіцячыя песьні, далей калядныя, масьлянічныя, валачобныя і г. д.; канчаецца зборнік пахавальнымі песьнямі. Праца Шэйна, па словах Міллера, ня ёсьць просты збор сырога матэрыялу; апрача дадаткаў, пералічаных у загалоўку кнігі, у зборніку мы яшчэ знаходзім граматычныя ўвагі і зноскі на адпаведныя песьні ў іншых зборніках песень як расійскіх, гэтак і выданых заходнімі славянамі. На падставе прац па параўнаўчай мітолёгіі, зьбіральнік дае тлумачэньне некаторых абрадаў, забабон і інш. Пры параўнаньні зборніку Шэйна з аналёгіч-

нымі працамі Бессонова, О. Ф. Міллер працы Шэйна аддае перавагу. Рэцэнзэнт адзываецца аб Шэйне, як аб спрактыкаваным зьбіральніку, які ўжыў многа часу, працы й матэрыяльных сродкаў на вышукі песеннага матэрыялу. У заключэньні сваёй рэцэнзіі Міллер кажа: „Скромнасьць аўтара, які не абвяшчае аб сваіх заслугах, адсутнасьць у яго працы ўсяго паказнога, што-б кідалася ў вочы, памяркоўна-абмежаваныя ўвагі й тлумачэньні,—усё гэта не перашкаджае бачыць у яго адносна невялікім зборніку плод не малой і скорасьпелай працы, і што ў асобе Шэйна нельга не адмеціць прэміяй аднаго з тых дзеячоў, якім трэба йсьці на спатканьне, бо яны самі ня прывыклі аб сабе гаварыць“ *).

Першы беларускі зборнік Шэйна меў яшчэ большы посьпех, чым такі-ж яго вялікарускі зборнік. Беларускім зборнікам Шэйна пачалі карыстацца ня толькі філёлёгі й гісторыкі, але й дасьледчыкі звычаёвага права, чарпаючы з яго даныя для сваіх спэцыяльных досьледаў па розных пытаньнях. Разам з тым гэты зборнік выклікаў інтарэс сярод мясцовай беларускай інтэлігенцыі да зьбіраньня фольклёрнага матэрыялу і навуковага яго дасьледваньня. Аб шэйнаўскай школе этнографаў скажам посьле, а цяпер ня можам ня прывесьці ўспаміну акад. Е. Ф. Карскага, які ў чытаным ім 13 сакавіка гэтага году ў „Русск. Геогр. О-ве“ дакладзе па поваду сталецьця ад дня нараджэньня Шэйна гэтак гаворыць аб уплыве на яго дзейнасьць першага беларускага зборніку Шэйна: „У ім (зборніку) рашчынілася перада мной рознастайнае багацьце беларускага духа, якое канчаткова мяне захапіла і рашуча намеціла далейшую мэту маёй навуковай дзейнасьці“.

У той час, як першыя зборнікі—вялікарускі й беларускі—набылі Шэйну шырокую вядомасьць, ён зноў, пакінуўшы Віцебск, пачынае вандраваць па Вялікаросіі. Перш ён служыць настаўнікам гімназіі ў Шуі, пасьля—у Зарайску й Калузе. Адначасна з пэдагогічнай дзейнасьцю Шэйн не пакідае працы па зьбіраньні этнографічнага матэрыялу. Яго спрактыкаванасьць у гэтай справе была належна ацэнена і „Отделением русск. языка и словесности“ Акадэміі Навук. У 1877 гаду Шэйн быў камандыраваны ад „Отделения“ Акадэміяй Навук з субсыдыяй у 700 руб. на Беларусь для зьбіраньня матэрыялаў па беларускай мове й памятак народнай творчасьці. Гледзячы на сваю камандыроўку вельмі сумленна і не задавальняючыся здабытымі матэрыяламі, Шэйн пасьля яшчэ некалькі разоў на свой кошт наяжджаў у розныя куткі Беларусі,—перш ён езьдзіў улетку, у часы летняга адпачынку, а пасьля, калі ён у 1879 г. па сваёй хваравітасьці адмовіўся ад настаўніцкай працы,—і ў іншыя поры году. Свае паездкі Шэйн рабіў з экономіі ад 61 руб. штомесячнай настаўніцкай пэнсіі; падмогай толькі зьяўлялася льгота пры праездах па чыгунках, якую яму часамі выдавалі. „Нельга сабе ўявіць“, кажа яго біограф

*) Отчет о 18 присуждении наград гр. Уварова. 25 сентября 1875 г. СПБ.

В. Міллер, „каб дзе-небудзь навуковыя экспэдыцыі адбываліся гэтак дзёшава і прыносілі такія капітальныя рэзультаты“ [1]).

К пачатку 1884 г. была прыгатавана да друку 1-ая частка 1-га тому беларускіх матэрыялаў, сабраных Шэйнам у часы сваіх паездак на Беларусь. Якраз у гэтым годзе споўнілася 25 год ад пачатку зьбіральніцкай дзейнасьці Шэйна. У друку зьявіліся спагадныя для Шэйна водзывы, у газэце „Русскія Ведомости“ была надрукавана біографія П. В. Шэйна, напісаная В. Міллерам [2]) па хадайніцтву Этнографічнага Аддзелу „Р. Г. О-ва“ Шэйн быў абраны няпрыменным членам гэтага „Общества“. Апрача таго, за яго шматгадовую, вельмі карысную працу па зьбіраньні памятак народнай творчасьці „Русское Географ. О-во“ прысудзіла яму залатую мэдаль. Аб значэньні прац П. В. Шэйна гісторыка-філёлёгічным факультэтам Маскоўскага Унівэрсытэту была складзена ў Міністэрства Народнай Асьветы дакладная запіска, у якой між іншым заключалася і просьба аб павялічэньні Шэйну пэнсіі. Аналёгічнае хадайніцтва аб павялічэньні пэнсіі было зроблена і ад „Русск. Геогр. О-ва“; тым ня менш, ня гледзячы нават на спагаднасьць пытаньню самога міністра асьветы, справа аб павялічэньні пэнсіі ў „канцелярии его величества“ затармазілася, і Шэйн яшчэ колькі год прымушаны быў перабівацца, жывучы ўжо ў Пецярбургу, сваёй настаўніцкай пэнсіяй ды часовымі субсыдыямі ад Акадэміі Навук за працу па зьбіраньні картак для расійскага слоўніка. А тымчасам матэрыяльнае яго становішча было зусім кепскае, асабліва з 1888 года, калі ён ажаніўся. На сваю маленькую пэнсію ён мусіў утрымліваць жонку, а пасьля й дзіця ды, апрача гэтага, даваць невялікую дапамогу і сваім супрацоўнікам. Гэтак справа цягнулася да палавіны 1891 г., калі з „высочайшего соизволения“ Шэйну пэнсію падвоілі. Пасьля гэтага Шэйн некалькі гадоў жыў спакойным сямейным жыцьцём. Клапатлівая яго жонка (б. сястра міласэрдзя) абкружыла яго такой ласкай і доглядам, аб якіх ён ніколі і ня марыў. Таму й ня дзіва, што ў гэты час зьяўляюцца ў друку самыя каштоўныя працы Шэйна: пасьля выхаду ў сьвет у 1887 г. 1-ай ч. I тому „Материалов для изучения языка и быта населения Северо-Западного края“, у 1890 г. выходзіць другая частка I тому „Материалов“, а ў 1893 г.—т. II „Материалов“. У пачатку 1896 г. пачынае друкавацца яго вялікі зборнік „Великорусс“.

Захварэўшая ў 1896 г. жонка Шэйна ў лютым 1997 г. памерла. Ізноў семідзесяцігадовы Шэйн застаўся бабылём, ня маючы магчымасьці ўзяць на сябе выхаваньне сваёй дачкі, бо без староньняй помачы Шэйн і сам ня мог абыходзіцца; ён памясьціў яе ў інстытут, а сам зноў узяўся за працу. Толькі вялікая ідэя давясьці распачатую ім справу да канца адухаўляла яго і давала яму жыцьцёвую энэргію яшчэ на працягу некалькіх гадоў.

---

[1]) В. Миллер. „Памяти П. В. Шейна“. Этнографич. Обозр. 190) г. № 3.

[2]) Русския Ведомости № 290 за 1884 г.

Аднак, сьмерць жонкі так моцна ўзрушыла слабы організм Шэйна, што ён сам пачынае хварэць. Крыху ён папраўляе сваё надарванае ўпартай працай і няшчасьцямі здароўе ваннамі ў Дубэльне й Кэмэрне на Бальтыцкім моры, аднак, пры адсутнасьці сталага догляду і гэтае лячэньне мала яму дапамагае. Тым ня менш, прачуваючы блізкі канец свайго шматпакутнага жыцьця, ён сьпяшаецца дакончыць „Велікорусса" і падгатаваць да друку 3-ці том беларускіх „Материалов".

Але апошняй працы Шэйну не ўдалося пабачыць. Яшчэ ня зусім яна была падгатавана да друку, як сьмерць перарвала яго калецкае жыцьцё. Улетку 1900 г. ён, як і ў ранейшыя гады, паехаў лячыцца на Бальтыцкае мора. У Рызе яго застарэлая хвароба раптоўна абвастрылася і праз колькі дзён зьвяла яго ў дамавіну. Памёр ён пасьля цяжкіх мук у Рыскай гарадзкой больніцы 14 жніўня 1900 г. і, як лютаранін, пахаваны на нямецкіх могілках.

Такое было жыцьцё аднаго з першых і найбольш выдатнага беларускага этнографа. Хоць Шэйн займаўся зьбіраньнем і расійскага фольклёру, але яго заняткі вялікарускай этнографіяй у вапошнія 30 год былі справай хутчэй выпадковай; галоўную ўвагу ён зьвярнуў на этнографію беларускую" [1]). Ім сабрана й выпушчана ў сьвет 5 аб'ёмістых кніг па беларускай народнай творчасьці, агульным лікам 3.114 старонак: першы зборнік, выданы „Русск. Геграф. О-вом"—569 стар. і 4 кнігі „Материалов" 2.545 ст. Апошняя кніга „Материалов" (3-ці том) ужо вышла пасьля яго сьмерці ў 1902 г. пад рэдакцыяй Е. Ф. Карскага.

Водзывы аб беларускіх „Материалах" мы знаходзім у Е. Ф. Карскага ў журнале Міністэрства Нар. Асьветы [2]) і ў справаздачы аб прысуджэньні Шэйну Акадэміяй Навук прэміі Батюшкова [3]). Адмячаючы некаторыя хібы „Материалов", галоўным чынам, недакладнасьці з боку іх фонэтычнай транскрыпцыі (напісаньні *о* зам. *а*, няправільнае азначэньне гукаў *дз* і *ц*) і не агавораныя памылкі друку, а таксама паўтарэньне паруску аднаго й таго-ж сужэту і часамі непатрэбную рэдакцыю зьбіральніка, Г. Ф. Карскі, аднак, з навуковага боку працу Шэйна лічыць вельмі каштоўнай. Для лінгвістага „Материалы" Шэйна перш за ўсё каштоўны тым, што яны сабраны з усіх беларускіх губэрань і, апрача таго, заключаюць у сабе надта багаты матэрыял, па якім можна прасачыць асаблівасьці беларускіх народных гутарак. У сваіх вядомых „Белоруссах" Е. Ф. Карскі выкарыстаў матэрыялы Шэйна і ўсюды прыводзіць на іх зноскі. Ды ня толькі карыстаўся матэрыяламі Шэйна Е. Ф. Карскі. Карыстаўся імі і Шахматов, а яшчэ раней акад. Веселовскі, проф. Сумцов, проф. Соболевскі і шмат іншых. А колькі беларускіх лінгвістых яшчэ будзе імі карыстацца! Але працы Шэйна цікавы ня толькі для лінгвістага,

---

[1]) Е. Карский. „П. В. Шейн" (некролог). Русск. Филологич. Вестник. 1900 г. № 3 і 4.

[2]) Е. Карский. Журн. Мин. Нар. Просв.; октябрь 1887. ноябрь 1890 г. і апрель 1894 г.

[3]) Отчет о 1-ом присуждении премии Батюшкова. 1899. СПБ.

цікавы яны і для юрыстага і, галоўным чынам, для этнографа. У „Материалах“ Шэйна адбілася ўсё жыцьцё беларуса ад калыскі да магілы. Тут мы знаходзім песьні калыскавыя, дзіцячыя, вясельныя, калядныя, масьленічныя, валачобныя, траецкія, купальскія і г. д. аж да галашэньняў па нябожчыку; у „Материалах“ мы знаходзім казкі, забабоны, легенды, прыказкі, загадкі, расказы, лекі, апісаньне адзежы, стравы і да т. п. Е. Ф. Карскі ў вышэйпамянёнай справаздачы гэтак характарызуе „Материалы“: а) па багацтву свайго зьместу, асабліва ў адносінах да абрадавай поэзіі (Материалы) зьяўляюцца вышэй усіх аднайменных прац, якія да апошняга часу вышлі з друку; б) абрадавыя песьні маюць апісаньне самых абрадаў і іншых дзеяў, якія адбываюцца пры сьпяваньні. Да розных этнографічных матэрыялаў далучаюцца ў некаторых месцах вельмі каштоўныя ўвагі, якія падчас зьяўляюцца цэлым экскурсам у тую ці іншую гісторыка-літаратурную галіну. У розных месцах паказаны варыянты песень ці зроблены на іх зноскі; в) з сабранага этнографічнага матэрыялу зроблены строгі выбар і ўсяму дана належнае месца; усюды відаць рука спрактыкаванага зьбіральніка й рэдактара“.

Хоць з навуковага боку па таму часу праца Шэйна зроблена й добра, аднак, сам Шэйн ніколі ня лічыў сябе за вучонага. Ён любіў сябе называць чорнарабочым навукі. Але ў гэтага чорнарабочага праглядвала глыбокае чуцьцё філёлёга-дасьледчыка, тонкае спасьцераганьне фактаў жывой мовы і глыбокая цікавасьць да народнага слова. „Пра Шэйна“, кажа В. Міллер, „нават асобы, якія заўважвалі недахопы ў яго працах, могуць з пераконаньнем сказаць, што ён быў самым сумленным працаўнікам, як зьбіральнік і выдавец. Ня маючы навуковай падгатоўкі, ён быў знаўцам народнага слова й песьні, даражыў іх праўдзівасьцю і ўжываў усё ад яго залежнае, каб перадаць навуцы народны духоўны скарб ва ўсёй яго незачэпнасьці“ *).

Яшчэ большай трэба пранікнуцца пашанай да працы Шэйна, калі прыпомніць, у якіх цяжкіх умовах адбываўся ім збор народнай творчасьці. Ні матэрыяльных сродкаў, ні здароўя для гэтай працы ў Шэйна ня было. Як для калекі у поўным сэнсе гэтага слова (скручаныя рукі й ногі), для яго ўсякія пераезды былі надта цяжкія і страшэнна яго стамлялі. Сесьці на звычайны воз ці зьлезьці з яго або ўзыйсьці па лесьніцы для яго зьяўлялася досыць складанай процэдурай. Толькі дзякуючы вялікаму духу, што быў у яго кволым змалку дзён організьме, Шэйн змог перамагчы ўсе перашкоды, што былі на шляху яго цярністай зьбіральніцкай дзейнасьці, і давесьці распачатую ім справу да шчасьлівага канца.

Вядома, калі-б Шэйн запісваў толькі сам, то ён ніяк-бы ня мог сабраць такога мноства фольклёрнага матэрыялу, які мы знаходзім у яго працах. Тым больш, што сваімі пакручанымі пальцамі Шэйн мог пісаць

*) В. Миллер. „Памяти П. В. Шейна“.

толькі паціху. Шэйн, як і большасьць іншых тагачасных этнографаў, самым шырокім шляхам карыстаўся супрацоўнікамі. Вышукаць надзейных супрацоўнікаў, прыцягнуць іх да працы і атрымаць ад іх патрэбны матэрыял—вось што заўсёды, ледзь не да магілы, турбавала Шэйна. Калі ранейшыя супрацоўнікі пераставалі дастаўляць патрэбны яму матэрыял, ён вышукоўвае новых, складае для іх асобную програму для зьбіраньня народнай творчасьці і праз гэта выклікае да пытаньняў этнографіі шырокую зацікаўленасьць сярод мясцовай беларускай інтэлігенцыі. Калі ў яго для зборніку не хапае тых ці іншых матэрыялаў, ён піша сваім прыяцелям і знаёмым, просячы іх раздабыць патрэбны яму матэрыял. Але паслухаем, што гаворыць аб гэтым сам Шэйн. У лісьце да профэсара Е. Ф. Карскага ад 4 красавіка 1888 г. ён піша: „...Для часьці, што знаходзіцца ў друку, у мяне не хапае матэрыялаў. Ці ня можаце Вы, пры дапамозе лістоў, *вытрабаваць, вымаліць* ад надзейных людзей на Вашай радзіме некалькі апісаньняў патрэбных для мяне абрадаў... Дальш я-б Вас прасіў зрабіць спробу раздабыць нот да Вашых вясельных песень і некалькі рысункаў караваю... Другі том майго друкаванага зборніку зоймуць казкі і г. д... Шчырае дзякуй сказаў-бы я Вам, каб Вы знашлі магчымым прысладь некалькі даных па гэтай часьці...“*). У лісьце да таго-ж Е. Ф. Карскага ад 13 верасьня 1888 г. Шэйн піша: „...Спрабуйце зрабіць заклік сярод вучняў старэйшых кляс Вашай гімназіі й сэмінарыі аб жаданай дапамозе маёй справе... Ці не адшукаецца што-небудзь карыснае для маёй працы ў паперах нябожчыка Марцінкевіча? Адным словам: „толцыте!“... Трохі пазьней (26 кастрычніка таго-ж году) ён піша (Е. Ф. Карскаму): „...Вы зрабілі-б асабіста для мяне й навукі каштоўную заслугу, каб папрабавалі здабыць праз сваіх сваякоў і знаёмых у розных мясцох паўночна-заходняй краіны хоць некалькі нумароў названых памятак народнай творчасьці“.

Вышукаць карысных супрацоўнікаў было справай далёка ня лёгкай. З гэтай мэтай Шэйн разьяжджае па ўсёй Беларусі, заводзіць самыя шырокія знаёмствы, наведваецца да прадстаўнікоў вышэйшай улады на Беларусі, ня мінаючы нават архірэяў, і ўсюды просіць дапамогі распачатай ім справе. У большасьці ён атрымлівае абяцанкі ў дапамозе, але калі гэтыя абяцанкі не выпаўняюцца, Шэйн напамінае аб іх яшчэ і яшчэ. З лісту да Е. Ф. Карскага ад 15 лістапада 1889 г. відаць, як упарта стараўся Шэйн раздабыць патрэбныя для сябе матэрыялы: „...Мая апошняя паездка ў Вашу заходнюю краіну, апрача кучы найласкавейшых абяцанак і значнай шкоды для маіх тошчых фінансаў, нічога ня прынесла, не збагаціла маіх матэрыялаў ні адным фактам этнографічным... У Горадні я атрымаў самыя салодкія абяцанкі ад начальніка губэрні і ад ды-

*) Гэтая й наступныя выняткі з яшчэ недрукаваных лістоў Шэйна мною ўзяты з ласкавага дазволу акад. Е. Ф. Карскага, з яго рукапіснага дакладу аб Шэйне, зробленым 13 сакавіка г. г. ў „Русск. Географ О-ве“.

рэктара народных школ, але да гэтага часу яны яшчэ ня выпаўнены і, грэшны чалавек, думаю, што яны й выпаўнены ня будуць. Такія-ж рэзультаты майго падарожжа ў Віцебск і Кіеў... Я не магу пакінуць несправаванымі для дасягненьня маёй мэты ўсе магчымыя мне шляхі й сродкі, хоць-бы й ня зусім належным чынам. Вось чаму я, няшчасны жабрак, таўхаюся ва ўсе дзьверы замкнутых сэрц мясцовых патрыётаў і апякуноў асьветы на Беларусі... Каб Ваш папячыцель хоць напоўстолькі прыхільны быў да мяне, наскольки ён прыхіліўся да... Раманава, якому ён, па вялікай сваёй міласьці, бяз усякага страху перад сваім сумленьнем перадаў ва ўласнасьць усе накопленыя праз многа год у яго канцэлярыі этнографічныя матэрыялы, сабраныя па маіх програмах..., то бяспрэчна мая задача ўжо-б даўно скончылася жаданым посьпехам...“

Але ня толькі цяжка было для Шэйна зьбіраць фольклёрны матэрыял; ня меншай цяжкасьцю зьяўлялася рэдагаваньне матэрыялаў і чытаньне іх корэктуры. Пры адсутнасьці ў той час навукі *дыялектолёгіі* (гэтай навукай яшчэ толькі пачыналі займацца), а яшчэ больш ад адсутнасьці больш-менш солідных навуковых прац па беларускай мове (грунтоўныя працы Е. Карскага зьявіліся ўжо пазьней), рэдагаваньне й корэктаваньне матэрыялаў для Шэйна было вялікаю труднасьцю. Таму й ня дзіва, што Шэйн, выседжваючы доўгія вечары й ночы за чытаньнем корэктуры, мусіў пастаянна зварочвацца да спэцыялістага па беларускай мове проф. Е. Карскага, просячы яго то выясьніць тое ці іншае непаразуменьне, то прачытаць корэктуру, то зрабіць рэдакцыю матэрыялаў і да т. п. У сваіх лістох да Е. Карскага вось што ён піша (у лісьце ад 15 лістапада 1889 г.): „...Спадзяюся, Вы не растлумачыце ў дурны бок, што я спазьніўся са сваім адказам на Ваш добры, мілы ліст. Вы зразумееце, што прычынай гэтага было ня што іншае, як бясконцае, бяздушнае, прыгнятаючае мяне мэханічнае заняцьце па маёй „крохаборнай“ працы, якая праглынае ўвесь мой час, усе мае здольнасьці й сілы і, звыш таго, пазбаўляе мяне магчымасьці мысьліць і чытаць творы нашых клясычных пісьменьнікаў,—гэтак, напр., я яшчэ да гэтага часу ня чытаў ні „Войны и мира“ ні „Анны Карениной“ Толстога... Я столькі пішу лістоў, перапісваю розныя далёка не спажыўныя для розуму й сэрца матэрыялы, столькі сяджу без разгіну каля пісьменнага стала, што сам сабе дзіўлюся, як гэта я дасюль яшчэ ня здурнеў і ня страціў канчаткова здольнасьці мысьліць і гаварыць...“ У лісьце ад 3 сакавіка 1898 г. Шэйн піша: „...Гэтыя заняцьці (па ўпарадкаваньні корэктуры для двох зборнікаў) мяне з раніцы да позьняй ночы прыкоўваюць да пісьменнага стала і страшна стамляюць мае разумовыя й фізычныя сілы. У галаве ў мяне страшэнная пустата; я, здаецца, урэшце трачу здольнасьць мысьліць... Хіба-ж на Русі знойдзецца другі чалавек, што ўзяў-бы на сябе катаржную працу, на якую я сябе ахвяраваў ва ймя навукі? Хто-ж захавае для навукі тыя шматкаштоўныя даныя, зьбіраньню якіх я

прысьвяціў столькі год жыцьця шматпакутнага?“ У лісьце ад 7 кастрычніка 1899 г.: „...Хіба-ж калі які рэдактар сам асабіста столькі працаваў над пераробкай матэрыялаў сваіх супрацоўнікаў, як Ваш пакорны слуга? Затое-ж колькі часу, г. зн. колькі год жыцьця марна згубілі ў мяне гэтыя прыкрыя пераробкі“. У лісьце ад 15 сьнежня 1895 г.: „...Вельмі Вам удзячны за хуткі зварот корэктуры з папраўкамі... Шкода толькі, што Вы проста ня кажаце, ці варта ці не друкаваць гэты матэрыял“. У лісьце ад 28 сакавіка 1896 г.: „...Разам з гэтым лістом пасылаю да Вас выпраўленую корэктуру 9 аркушаў у цьвёрдай надзеі, што Вы не адмовіцеся якнебудзь паправіць, аднавіць, памагчымасьці, сэнс у тых радкох, пры якіх у Вас адмечана „зблытана“, „справіцца з рукапісам“, і безадкладна адаслаць мне назад. У лісьце ад 9 сакавіка 1899 г.: „...Вельмі Вам удзячны за пракорэктаваны Вамі аркуш, які я атрымаў у свой час. Цяпер разам з гэтым лістом надсылаю да Вас наступных поўаркуша для выпраўленьня“.

Значэньне прац П. В. Шэйна ў гісторыі беларускай этнографіі вельмі вялікае. Ён ня толькі даў капітальныя працы па беларускаму фольклёру, ён зрабіў для навукі яшчэ другую, ня менш важную заслугу: Шэйн утварыў на Беларусі шырокую зацікаўленасьць да зьбіраньня народнай творчасьці. Дзякуючы яго програмам і пастаяннай агітацыі за зьбіраньне беларускага фольклёру, зьнікаючая беларуская народная творчасьць пачынае запісвацца па ўсіх глухіх куткох Беларусі. Некаторыя з яго найбольш здольных супрацоўнікаў, распачаўшы працу па зьбіраньні народнай творчасьці па яго програмах, пасьля самастойна выступаюць з сабранымі імі матэрыяламі. Да іх належаць этнографы Раманаў, Нікіфароўскі, Радчанка, Багдановіч і інш. Зацікаўленасьць да зьбіраньня народнай творчасьці становіцца агульнай, і не бяз уплыву прац Шэйна распачынаюць сваю працу этнографы А. Сяржпутоўскі, Косіч, Сербаў і інш. Такім чынам, Шэйн утварыў цэлую школу беларускіх этнографаў і гэтым назаўсёды зрабіў вечным сваё імя ў гісторыі беларускай этнографіі.

Шэйн і сам адчуваў, чаму яго праца была такая цяжкая: яму першаму прышлося працярэбліваць шлях, і другому пакаленьню беларускіх этнографаў, што пазьней пачало зьбіраньне этнографічных матэрыялаў, працаваць было куды лягчэй. У сваім лісьце ад 25 сакавіка 1890 г. да Е. Ф. Карскага Шэйн піша: „... Новае пакаленьне зьбіральнікаў шчасьлівей мяне: той-жа лёс, які для мяне быў злоснай мачыхай, для іх—пяшчотная, клапатлівая матка, якая палягчае ім працу на кожным кроку і дапамагае ім зрабіць у год тое, на што мне патрабавалася-б дзесяткі гадоў...“

Працы Шэйна маюць значэньне ня толькі ў гісторыі беларускай і расійскай этнографіі. Яго працы адыгрывалі не малую ролю і ў беларускім культурна-нацыянальным адраджэньні. Бадай што ўсе першыя беларускія працаўнікі, якія распачыналі сваю працу па культурна-нацыя-

нальнаму адраджэньню Беларусі, знаёміліся з працамі Шэйна і знаходзілі ў іх патрэбны для сябе матэрыял для большага ўсьведамленьня ў нацыянальным пытаньні, для больш глыбокага азнаямленьня з беларускім народам, з яго мовай, звычаямі, духоўным жыцьцём. Вядома, напрыклад, што беларускі поэта М. Багдановіч, сын аднаго з лепшых супрацоўнікаў Шэйна А. Багдановіча, вывучыў беларускую мову галоўным чынам па „Материалах" Шэйна. Дый цяпер для азнаямленьня з жыцьцём вёскі нам яшчэ трэба заглядваць у працы Шэйна, бо ў яго працах усё жыцьцё беларускага працоўнага народу, ад калыскі да магілы, знашло свой адбітак

Вось чаму нам дорага памяць П. В. Шэйна. Вось чаму мы павінны быць знаёмы ня толькі з яго працамі, але й з шматпакутным жыцьцём гэтага сапраўды мучаніка навукі.

**Сьпіс прац П. В. Шэйна**

*(Паводле А. Е. Грузінскага)*

**1859 г.**

1. Русские народные былины и песни. Чтения в Общ. Истории и Древностей, кн. III, стр. 121—170.

**1867 г.**

2. Программа для собирания памятников народного творчества (напечатана для рассылки по Витебской губ.; позднее перепечатывалась с изменениями и дополнениями четыре раза).

**1868—1870 г. г.**

3. Русские народные песни, часть I. Чтения в Общ. Истории и Древностей 1868 г., кн. I. Песни детские, стр. I-II и 1—80.

4. *Тое-ж.* Песни хороводные. Чтения 1868 г., кн. II, стр. 1—IV и 81—244.

5. *Тое-ж.* Песни плясовые и беседные. Чтения 1867 г., кн. IV, стр. 245—388.

6. *Тое-ж.* Песни голосовые или протяжные. Чтения 1869 г., кн. I, стр. 389—464.

7. *Тое-ж.* Песни обрядные. Чтения 1869 г., кн. III, стр. 465—510.

8. *Тое-ж.* Песни свадебные. Чтения 1869 г., кн. IV, стр. 511—610.

9. *Тое-ж.* Песни свадебные и похоронные. Чтения 1870 г., кн. I, стр. 611—668.

10. Русские народные песни. М. 1870 г. (отдельно из „Чтений").

**1873 г.**

11. Белорусские народные песни (в Записках И. Географического Общества).

12. *Тое-ж.* Асобна з паметкай 1874 г.

13. Дополнения к Толковому Словарю Даля. Приложение 6-е к XXII т. Записок Акад. Наук, стр. 1—52.

**1877 г.**

14. Русские народные песни. Часть II. Песни былевые. Чтения, кн. III, стр. 1—132.

15. Обряд похоронных мух и др. насекомых. Труды Этногр. Отд., кн. IV.

**1884 г.**

16. О скороморошных песнях. Доклад, читанный в Заседании Этнограф. Отдела Русск. Географ. О-ва.

**1886 г.**

17. Приговоры и причеты о табаке. Труды Этногр. Отд., кн. VII.

**1887 г.**

18. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Том I, часть 1-ая. Бытовая и семейная жизнь белорусса в обрядах и песнях. СПБ. Изд. Академии Наук (№№ 11-12 сюды бадай зусім не папалі).

**1889 г.**

19. О собирании памятников народного творчества для издаваемого Академией Наук Белорусского Сборника Шейна. СПБ. I-VIII.

**1890 г.**

20. Материалы для изучения быта и языка русск. насел. Сев.-Зап. края. Том I, часть II. Обряды и обычаи погребальные и поминальные. СПБ. Изд. Академ. Наук.

21. Вильгельм Маннгардт (Из воспоминаний этнографа). Этнограф. Обозр. кн. VII, стр. 150—164.

**1893 г.**

22. Материалы для изуч. быта и языка русск. насел. Сев.-Зап. края. Том II. Сказки, анекдоты, легенды, предания, пословицы, загадки, приветствия, пожелания, ругань, заговоры, духовные стихи. СПБ. Изд. Академии Наук.

23. Из переписки с И. И. Манжурою. Этнограф. Обозр., кн. XIX, стр. 148—151.

**1894 г.**

24. Народная пародия на историческую песню. Этнограф. Обозр., кн. XX, стр. 129—131.

**1895 г.**

25. Еще о народных пародиях. Этногр. Обозр, кн. XXV.

26. Письмо к рэдактору „Живой Старины“ (о сбор. Кирш). Жив. Ст. I.

**1898 г.**

27. Великорусс в своих песнях, обрядах, обычаях, верованиях, сказках, легендах и т. п. Том I, выпуск 1-ый. СПБ. Изд. Академии Наук.

28. О собирании памятников народного творчества по Нижегородской губ. для издаваемого Акад. Наук. Великорусского сборника.

29. Женитьба „Комина“ и свечки. Этнограф. Обозр., кн. XXXVIII.

**1899 г.**

30. К вопросу об условных языках. Изв. Отдел. Русск. яз. Акад. Наук. Том IV, кн. 1-ая, стр. 277—300.

31. К диалектологии великорусских наречий. Извлечение из Самарского Сборника Садовникова, Варшава. Стр. 1—41.

**1900 г.**

32. О собирании памятников народн. творч. по Воронежской губ. для издав. Акад. Наук Великор. Сборн.

33. Народная песня и Пушкин. СПБ. 1—21.

34. Великорусс. Том I, вып. 2. Изд. Акад. Наук.

**1902 г.**

35. Материалы для изуч. быта и языка русск. насел. Сев.-Зап. края. Том III (з прадмовай Е. Карскага).

# СУЧАСНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ

**М. Шчакаціхін**

Мінулы год у адносінах да прасторавых мастацтваў меў да вядомай ступені справаздачны характар,—толькі ў гэтай галіне наглядалася пэўнае ажыўленьне, рабіліся першыя спробы сталае організацыі як дасьледчай, так і вытворчай працы ў даным напрамку, і, нарэшце, дэманстраваліся некаторыя вынікі і дасягненьні перад шырокімі коламі грамадзтва. У гэтым сэнсе ён адчыніў для нас першую магчымасьць самых агульных аглядаў і ацэнак, вартасьць якіх, аднак, ня столькі самастойная, колькі адносная, як аднаго з ліку спосабаў вызначэньня далейшых шляхоў і тых ці іншых конкрэтных чарговых задач. Нельга, зразумела, пераўялічваць рэальнага значэньня гэтага бягучага моманту ў мастацкім жыцьці Беларусі, калі цэлы шэраг чыста надворных спагадных абставін, як, напрыклад, організацыя Сэкцыі беларускага мастацтва пры Інбелкульце альбо адчыненьне ўсебеларускай мастацкай выстаўкі,—як быццам крыху ўзварушыў нярухомае „багно“ нашага вобразнага мастацтва і вывеў часова з становішча мёртвай роўнавагі некаторыя паасобныя творчыя адзінкі. У сучасны момант, усьлед за першым уздымам, які дасягнуў сваіх верхавін у дні „беларускага мастацкага сьвята“, г. зн. у цягу выстаўкі,—паднятае ім „хваляваньне“ пачынае паступова ўкладацца ў звычайныя штодзенныя берагі, і пачынаецца будзень чарговай, часта, можа, і няпрыкметнай працы, з якой формуецца і складаецца наша мастацкая культура.

Памянёныя намі здарэньні адыгралі, бясспрэчна, сваю належную ролю, і толькі цяпер іх значэньне можа быць як сьлед вызначана і ацэнена. Яны зьявіліся фактычна (і зьўяляюцца) тым першым этапам у культурным жыцьці Беларусі, калі пад вобразнае яе мастацтва пачала падводзіцца пэўная, няхай сабе яшчэ і ня надта цьвёрдая і моцная база, калі зрабіліся зусім актуальнымі зьняважаныя раней пытаньні аб ролі вобразнага мастацтва, як соцыяльнага і культурнага фактару,і аб прыцягненьні яго да ўдзелу ў нашым сучасным культурным будаўніцтве. З боку дзяржавы гэта зьвілася вынікам тэй агульнай політыкі, якая толькі ў самыя апошнія часы пачала праводзіцца ўва ўсім Савецкім Саюзе ў адносінах да мастацтва і мастацкай працы. „Разглядаючы мастацтва, як адзін з магутных сродкаў грамадзянска-культурнага выхаваньня мас,—зазначае, напр., рэзолюцыя 1-й Нарады па пытаньнях мастацка-політычна-

асьветнай працы, якая адбылася ў Маскве ў сьнежні мінулага году,— Савецкая ўлада, аднак, пазбаўлена была да апошняга часу магчымасьці аддаць належную ўвагу гэтай важнай галіне культурнага будаўніцтва. Але ў сучасны момант увага савецкай грамадзкасьці ўжо пачала скранацца ў бок мастацкага будаўніцтва“ *). На Беларусі, праўда, гэты ўхіл грамадзкага інтарэсу да пытаньняў мастацтва яшчэ не наглядаецца ў поўнай меры, але першай яго адзнакай зьявіліся дзяржаўныя мерапрыемствы, часткова якраз і накіраваныя для абуджэньня грамадзкай думкі ў патрэбным напрамку.

Усё гэта, аднак, у нашых рэальных умовах ускладняецца цэлым шэрагам адмоўных момантаў: распыленасьцю мастацкіх сіл, неўсталяванасьцю іх груповак, нарэшце, адсутнасьцю пэўнай традыцыі. Наша вобразнае мастацтва самым апошнім толькі цяпер пачынае афармляваць і выяўляць свой уласны твар, у той час, як тэатр, напрыклад, альбо літаратура могуць у сучасных умовах ужо ўмацоўваць толькі занятыя імі раней позыцыі. Розныя галіны беларускага мастацтва мелі розныя шляхі гістарычнага свайго разьвіцьця,—і гэта цяпер адбіваецца ў іх сучасных выяўленьнях. Уласна вобразнае мастацтва Беларусі мае найболей доўгую гісторыю, якую мы можам прасачыць, пачынаючы прынамсі з XII сталецьця ў архітэктуры, малярстве, разьбярстве і ў розных вытворчых мастацтвах; але гэтае рэзьвіцьцё старажытных формаў спынілася з канцом XVIII сталецьця, мастацтва вёскі застыла ў нязьменных формах бязьзьместавага орнамэнту; ранейшая традыцыя абарвалася, а новая доўгі час ня прыходзіць ёй на зьмену. Зусім інакш было хаця-б у літаратуры, якая пасьля свайго першага росквіту ў XVI сталецьці і далейшага заняпаду мела сваю эпоху „адраджэньня“, дзе ўтварылася нанова і сталая нацыянальная традыцыя, і адпаведная тэматыка, і пэўныя формальныя дасягненьні, што атрымаў у спадчыну Кастрычнік і, перарабіўшы, узбагаціўшы, мог скарыстаць у сучасных літаратурных плынях. Тое-ж самае „адраджэньне“ ўтварыла ледзь ня зусім нанова беларускі тэатр, дало асновы беларускае драматургіі, стварыла першых актораў. Але „адраджэньне“ зусім не кранула вобразных мастацтваў, ня выявіла аніводнага выдатнага маляра, разьбяра ці архітэктара,—можа таму, што для плястычнага афармленьня вобразаў патрэбны даўжэйшы час і болей спагадная атмосфэра, разам з большай умацаванасьцю і свабодай агульнай культуры, чаго ня было, зразумела, у часы царызму і русыфікацыі,— тады як літаратура і тэатр—мастацтвы болей беспасрэдныя і дынамічныя, ня зьвязаныя трудным для апрацоўкі, мала рухомым матэрыялам,—лягчэй маглі знайсьці сабе і глебу, і працаўнікоў, і спажыўцаў у варунках таго цяжкага і хмарнага часу. У кожным выпадку, к часу Кастрычніка беларускае вобразнае мастацтва было нейкай „tabula rasa“, дзе першыя

*) Советское искусство, № 2, Люты 1926 г., стар. 43.

абрысы будучых гмахаў толькі цяпер, яшчэ палахліва і асьцярожна пачынае выводзіць пасьлякастрычнікавая Савецкая Беларусь.

Такое становішча справы мае адначасна і дадатныя і адмоўныя бакі. Дадатныя таму, што ў такіх варунках можна лягчэй адразу ўзяць ідэолёгічна правільную лінію, ня трацячы часу на пераацэнку ранейшых каштоўнасьцяй і на прыстасаваньне, хаця-б частковае, старых формальных прыёмаў да адпаведных сучасных задач. Але яшчэ болей тут адмоўных бакоў з тэй прычыны, што, пачынаючы ўсю справу нанова, трэба нанова шукаць, а часамі і ўтвараць, належныя спэцыяльныя сілы, трэба займайца ў першую чаргу пропагандай і організацыяй, для чаго мы фактычна ня маем цалком адпаведных і спэцыяльна на гэта ўпоўнаважаных інстытуцый. У вапошнія часы гэтым часткова займалася Сэкцыя беларускага мастацтва пры Інбелкульце і Выставачны Камітэт; але апошні меў часовы характар, першая-ж ня мае магчымасьці аддаць гэтай справе занадта многа ўвагі,—папершае, таму, што яна мае, галоўным чынам, зусім іншыя, навукова-дасьледчыя заданьні, падругое—з прычыны таго, што ў кожнай організацыйнай справе настолькі шмат момантаў чыста адміністрацыйных, беспасрэдна (а ня толькі прынцыпова) кіраўнічых, што для належнага посьпеху яе канечне патрэбна мець вядомую „паўнату ўлады“, мець магчымасьць стала праводзіць пэўныя мерапрыемствы праз адпаведны выканаўчы апарат,—што, зразумела, ня можа ўваходзіць у сфэру дзейнасьці Інбелкульту, як навуковай інстытуцыі. У гэтым сэнсе, самае жыцьцё вымагае ў сучасны момант як найхутчэй разьвязаць уласна гэтае організацыйнае пытаньне ў агульна-дзяржаўным маштабе, і пры актыўным удзеле тых устаноў і асоб, якія павінны быць у гэтым перш за ўсё зацікаўлены. Па нашай думцы, тут, з аднаго боку, патрэбен нейкі цэнтральны орган для агульнага кіраваньня мастацкай справай у БССР з галоўнай увагай у бок рэгуляваньня мастацкай вытворчасьці і правядзеньня ў жыцьцё стройнай сыстэмы мастацкае асьветы і выхаваньня як агульнага, гэтак і спэцыяльнага; такі орган павінен быць утвораны пры Народным Камісарыяце Асьветы,—магчыма, зразумела, з наданьнем яму шырокіх функцый ня толькі ў адносінах да прасторавых мастацтваў, але таксама і да тэатру і музыкі. З другога боку, бясспрэчна, насьпела патрэба ў заснаваньні асобнага, пераважна ідэолёгічнага, а часткова вытворчага і профэсыйнага аб'яднаньня мастацкіх сіл Беларусі. Пасьля зачыненьня выстаўкі, калі пачаўся натуральны распад часова згуртаваных навакол яе мастакоў, пытаньне гэтае ўжо паўставала сярод некаторых найболей актыўных груп, галоўным чынам, менскіх мастацкіх працаўнікоў, але, на жаль, ня было праведзена ў жыцьцё і з цягам часу неяк заглухнула. Гэтыя групы выказвалі наогул правільныя думкі, што Беларусь павінна мець сваю ўласную асоцыяцыю мастакоў, анолёгічна таму, як РСФСР і УССР маюць свае: „Асоцыяцыю мастакоў рэволюцыйнае Расіі“ (АХРР) і „Асоцыяцыю мастакоў Чырвонае Украіны“ (АХЧУ). Але

яны ня здолелі знайсьці для гэтае мэты належных організацыйных шляхоў, і можа самі ня выявілі патрэбнай організацыйнай ініцыятывы. Жаданьне замацаваць гэтую асоцыяцыю пры Інбелкульце не магло сустрэць спагадных адносін з боку апошняга, пакольхі і наогул, і ў сэкцыі беларускага мастацтва прыватна ён лічыць цяпер патрэбным не павялічваць паасобныя галіны сваёй працы, але, наадварот: звужваць іх і паглыбляць у сэнсе навуковае распрацоўкі тых ці іншых пытаньняў і часам толькі чыста прынцыповага кіраўніцтва рознымі бакамі нашага культурнага жыцьця; канчаткова ўхіляючыся ад усякага беспасрэднага „адміністраваньня“, якое-б выходзіла па-за межы самое інстытуцыі, Інбелкульт ня лічыць з гэтай прычыны магчымым „абрастаць“ абы-якімі дадатковымі ўстановамі, таварыствамі і г. д., не зьвязанымі беспасрэдна з яго асноўнай структурай,—не адмаўляючыся, зразумела, ад супрацоўніцтва з такімі культурнымі групоўкамі, калі-б яны самастойна і незалежна ўзьніклі, у тых ці іншых галінах тэорытычнае ці практычнае дзейнасьці. Нам здавалася-б, што лепшым шляхам у даным выпадку і магла-б зьявіцца ўласна самастойная організацыя мастацкіх сіл, пабудаваная не на формальных адзнаках (для чаго ў Беларусі ў сучасны момант яшчэ няма рэальнага грунту), але на пэўных ідэёвых прынцыпах, як аб'яднаньне ўсіх тых практыкаў вобразнага мастацтва БССР, якія жадаюць у ім працаваць у напрамку мастацкага выяўленьня рэволюцыйнае сутнасьці нашае эпохі ў формах нацыянальнага мастацтва ў першую чаргу, г. зн. мастацтва беларускага, як асновы і мастацтва тых нацыянальных меншасьцяй, якія прымаюць актыўны ўдзел у нашым грамадзкім і культурным жыцьці. У далейшым можна было-б вызначыць і некаторыя іншыя, ужо формальныя мэты,—але толькі *пасьля* аб'яднаньня на цьвёрдым ідэолёгічным грунце зазначанага намі характару, пакольхі ў сучасны момант толькі *такое* аб'яднаньне мастацкіх сіл можа быць патрэбным у нашай культурнай працы, адпавядаць яе агульным задачам, і значыцца—зьявіцца мэтазгодным і жыцьцёвым. З'організаваўшыся самастойна, а можа з удзелам і дапамогаю саюзу працаўнікоў мастацтва (якому, здаецца нам, варта было-б зьвярнуць болей увагі ня толькі на працаўнікоў тэатру, але таксама і на мастакоў), гэтая асоцыяцыя, зразумела, павінна была-б устанавіць самую шчыльную сувязь з належнымі інстытуцыямі, у зносінах з якімі яна магла-б выступаць як пэўная профэсыянальна організаваная адзінка. Зносіны гэтыя выліліся-б у розныя формы, адпаведна рознаму характару нашых чарговых задач, прычым уласна тут выразна разьмежаваліся-б функцыі Сэкцыі беларускага мастацтва ІБК і кіраўнічага органу НКАсьветы ў сэнсе іх узаемаадносін як між сабою, так і з організаванымі і неорганізаванымі мастакамі і мастацкімі інстытуцыямі. Супольна з Наркамасьветы асоцыяцыя павяла-б далейшую організацыю выставак, чым Інбелкульт займацца болей ня будзе, паставіла-б на цьвёрды грунт організацыю самае мастацкае вытворчасьці, збыту, за-

казаў,—агулам кажучы, падвядзеньня належнае экономічнае базы пад мастацкую працу ў БССР, адшукала-б належныя матэрыяльныя сродкі для ўсебаковага азнаямленьня нашых мастакоў з тэй краінай, дзе яны працуюць і маюць працаваць у далейшым, што зьявілася-б першым крокам у справе патрэбнага іх перавыхаваньня ў пажаданым ідэолёгічна напрамку. Разам-жа з Сэкцыяй беларускага мастацтва, у першую чаргу, і шукаліся-б самыя шляхі гэтага перавыхаваньня, абгаварваліся тыя ці іншыя прынцыповыя пытаньні, датычныя напрамку і стылістычнага аформленьня вытворчае працы, закладаўся-б, нарэшце, фундамант для ўтварэньня пэўнага стылю ў выніках уважлівага вывучэньня адпаведных матэрыялаў і належнае іх пераапрацоўкі. У гэтым сэнсе Сэкцыі належала-б, зразумела, вядомая кіраўнічая роля ў адносінах да працы асоцыяцыі, якая, аднак, ніколі-б ня выходзіла з тэй ідэёвай, або тэорытычна-мастацкай сфэры, дзе замыкаецца фактычна компэтэнцыя Сэкцыі, зусім ня прызначанай для мэт беспасрэднага кіраваньня ўсёй мастацкай справай, што ёй часамі быццам імкнуліся навязаць. Самастойнае існаваньне асоцыяцыі мела-б і яшчэ адзін дадатны бок: яно забясьпечыла-б членам яе поўную свабоду абраньня свайго кіраўнічага і выканаўчага апарату, і незалежнасьць як у распараджэньні сваймі грашовымі сродкамі, так і ў організацыі, у выпадку магчымасьці і патрэбы, тых ці іншых дапаможных установ, накшталт, напр., студый, майстэрань і г. д. Адзін момант, праўда, тут застаецца спрэчным: гэта пытаньне аб тых матэрыяльных сродках, на якія такая асоцыяцыя павінна існаваць, і якіх яна, зразумела, ня можа мець адразу-ж пасьля свайго заснаваньня. Але ў гэтых адносінах няма ніякае розьніцы, ці будзе яна існаваць самастойна, ці не; было-б наіўна думаць, як спадзяваліся некаторыя аўтары першапачатковага проекту, што ў тым выпадку, калі-б асоцыяцыя была організавана пры Інбелкульце, яна магла-б атрымліваць належныя сродкі ад яго беспасрэдна, або наогул існаваць па яго каштарысах; цьвёрдыя каштарысы Інбелкульту ні ў якім разе не дапусьцілі-б магчымасьці ўключэньня ў іх каштарысаў падобнае, толькі часткова зьвязанае з Інбелкультам організацыі, і сродкі ўсё роўна прышлося-б шукаць у нейкіх іншых крыніцах. Да таго-ж мы ўпэўнены, што каб распачаць усю гэтую справу патрэбны параўнальна зусім нязначныя сродкі,—ня болей як на першапачатковае канцылярскае абсталяваньне,—якія маглі-б скласьціся з уступных сяброўскіх узносаў. У далейшым-жа, у залежнасьці ад актыўнасьці асоцыяцыі наогул і працаздольнасьці яе кіраўнікоў, магчыма было-б і шляхам дзяржаўных дотацый і пазык (пры ўмове, калі ня проста чакаць іх, але прыкласьці пэўную энэргію для іх атрыманьня), і шляхам організацыі тых ці іншых даходных прадпрыемстваў накшталт публічных дыспутаў і лекцый, маленькіх, тэхнічна танных выставак, вытворчых майстэрань і г. д.—па меры магчымасьці папоўніць скарбніцу асоцыяцыі і з цягам часу падвесьці пад яе сталую матэрыяльную базу.

Для ўсяго гэтага патрэбна, зразумела, вядомая, актыўнасьць і ініцыятыва з боку саміх мастацкіх працаўнікоў, якую, на жаль, яны пакуль што зусім яшчэ не выяўляюць, замкнуўшыся пасьля выстаўкі зноў кожны ў сваю ўласную майстэрню, у вузкі круг сваёй індывідуальнай творчасьці. У гэтым сэнсе надта небясьпечнымі здаюцца нам, паміж іншым, тыя настроі, што пануюць сярод некаторае часткі нашых мастакоў, якія скардзяцца толькі на цяжкія, неспагадныя ўмовы мастацкае працы на Беларусі, і ў той-жа час самі ня робяць аніводнага кроку для паляпшэньня гэтых умоў, чамусьці лічачы, што сама дзяржава па ўласнай ініцыятыве павінна клапаціцца аб іх, і ўскласьці на свае рамёна ўвесь цяжар організацыйнае працы. Небясьпечнымі,—мы кажам,—таму, што пры такіх адносінах з боку саміх зацікаўленых асоб уся гэтая справа яшчэ вельмі доўга можа не скрануцца з месца; таму, што для посьпеху яе патрэбна яшчэ і належная атмосфэра навокал, належная падрыхтоўка грамадзкае думкі ў адпаведных колах; атмосфэру-ж гэтую ня можа стварыць ніхто, апрача саміх мастакоў, пры абавязковай умове як найхутчэйшага выхаду іх на шырокі шлях грамадзкае працы, лепшай формай чаго магла-б зьявіцца актыўная і самастойная мастацкая асоцыяцыя. Яшчэ болей: трэба шчыра сказаць, што пакуль сярод мастакоў будзе заставацца тая замкнёнасьць і адасобленасьць адзін ад аднаго, якую мы часта наглядаем цяпер, пакуль сярод іх канчаткова ня зьнікнуць занадта частыя ў сучасны момант варожасьць і няпрыхільнасьць, пакуль у некаторых тэрыторыяльных і іншых групоўках ня будзе дашчэнту зьнішчана хваравітая, у горшым сэнсе гэтага слова провінцыяльная атмосфэра сварак, інтрыг і нуднае драбязьлівае барацьбы,—да тэй пары і нельга спадзявацца на асаблівую ўвагу да мастацкае працы з боку шырокіх колаў грамадзянства, а значыцца, і на стварэньне патрэбных для яе спагадных умоў. І ў гэтых адносінах для тых мастакоў, што працуюць цяпер на Беларусі, можа ўзьнікнуць яшчэ адна небясьпека: часова наогул у сувязі з гэтым пасьпешнае разьвіцьцё нашага вобразнага мастацтва можа спачатку затрымацца; але пазьней, калі жыцьцё высуне новыя мастацкія сілы, калі ўзрасьце і ўзмацнее наш мастацкі „маладняк“, адукаваны і выхаваны з раньніх год у прынцыпах шырокай савецкай грамадзкасьці,—тады ўласна гэтыя маладыя працаўнікі лёгка здолеюць выканаць тое, чаго ня здолелі старыя; для гэтых-жа „старых“ ужо не застаецца, аднак, ніякага месца ў далейшым поступе нашай мастацкай культуры; жыцьцё адсуне іх у бок, як сілы для нашага часу непатрэбныя. Усё, што мы кажам, гэта, зразумела, не пагроза і нават не перасьцярога: гэта проста констатаваньне факту, з якім мастакі нашы павінны лічыцца, каб тэрмінова зрабіць з яго належныя як вытворчыя, так і організацыйныя вывады.

Хацелася-б, аднак, спадзявацца, што ў самы бліжэйшы тэрмін, не пазьней наступнае восені, і бяз усякіх прыкрых перашкод, уся організацыйная частка справы будзе праведзена больш-менш згодна намечанаму

намі пляну (які дапушчае, зразумела, і некаторыя варыянты ў дэталях), пры актыўным удзеле зацікаўленых у гэтай справе асоб і інстытуцый. Але гэта зьявіцца адно толькі самым першым і найболей, можа, патрэбным крокам, пасьля чаго павінна пачацца ўжо сыстэматычная і пляновая праца па правядзеньні ў жыцьцё чарговых задач, якія з усёю вострасьцю ставяцца цяпер у галіне нашай мастацкай культуры. Бясспрэчна, і самае вызначэньне, а таксама практычнае зразуменьне гэтых задач зьяўляецца адным з найболей істотных і важных бакоў данае справы; для гэтага, аднак, мы ўжо маем досыць пэўных падстаў у мастацкай практыцы мінулых гадоў і, асабліва, апошняга году.

Перш за ўсё, тут трэба ў поўнай меры скарыстаць ўсе тыя даныя і матэрыялы, якія мы атрымалі ў выніках 1-й Усебеларускай мастацкай выстаўкі ў сэнсе выяўленьня нашых асноўных мастацкіх сіл і груповак. Трэба зазначыць, што ў гэтых адносінах выстаўка пакуль што яшчэ ня была належным чынам прааналізавана, і тыя нямногія заметкі, якія зьявіліся ў часе яе ў нашай пэрыодычнай прэсе[1]), далёка ня вычарпалі ўсяго яе рознастайнага зьместу і не зрабілі належных вывадаў з таго, наколькі яна задаволіла і выканала пастаўленыя ёй заданьні. Ня будучы вузка програмнай ні ў тэматычным, ні ў формальным сэнсе, што было-б немэтазгодным, а можа і немагчымым пры першай спробе, наша першая выстаўка ўсё-ж кіравалася пэўнымі мэтамі, якіх, па думцы організатараў, яна павінна была дасягнуць. Вызначаныя ў проспэкце выстаўкі мэты гэтыя формуляваліся наступным чынам: азнаёміць шырокія працоўныя масы БССР з творчасьцю мастакоў этнографічнае Беларусі як у галіне агульна-мастацкіх дасягненьняў, гэтак і ў галіне мастацкага выяўленьня нацыянальных асаблівасьцяй беларускае, яўрэйскае і польскае культуры, быту, гісторыі, рэволюцыйнага руху, прыроды і мастацкага стылю Беларусі; паказаць творчасьць і працу спэцыяльных мастацкіх устаноў БССР, а таксама самадзейных студый, гурткоў і клюбаў; паказаць у найлепшых прыкладах старажытнае беларускае мастацтва і старадаўняе польскае і яўрэйскае мастацтвы на Беларусі; нарэшце, аб'яднаць мастацкія творчыя сілы Беларусі для актыўнага ўдзелу ў справе будаваньня беларускай мастацкай культуры і распрацоўкі адпаведных нацыянальных стыляў у вытворча-прамысловым напрамку[2]). Тое-ж самае, толькі ў іншай, болей шырокай і практычнай формулёўцы было пастаўлена ў прадмове да каталёгу выстаўкі, калі самы зьмест яе і характар зрабіўся болей ясным: „Пры організацыі выстаўкі вызначыліся падвойныя задачы яе і мэты: з аднаго боку, выстаўка павінна паказаць шырокім працоўным масам БССР тыя фактычныя дасягненьні, якія мы ўжо маем у галіне прасторавых

[1]) У „Савецкай Беларусі“ ад 9 і 12 сьнежня 1925 г. і ў „Звезде“ ад 15 сьнежня 1925 году.

[2]) „І-я Ўсебеларуская Мастацкая Выстаўка ў Менску 15 кастрычніка—15 лістапада 1925 г.“, стар. 1.

мастацтваў, зьявіцца лепшым спосабам падрахунку нашых мастацкіх сіл і нават вядомай спробай для нашых мастацкіх інстытуцый і паасобных мастакоў, якая дазволіла-б конкрэтна выявіць тыя мастацкія групоўкі або напрамкі, на якія мы можам у далейшым абапірацца ў справе культурнага і соцыяльнага будаўніцтва Савецкае Беларусі. З другога боку, якраз Усебеларуская Мастацкая Выстаўка знойдзена была найлепшай організацыйнай формай для згуртаваньня і аб'яднаньня да сяго часу разрозьненых і распыленых мастацкіх сіл Беларусі, у мэтах накіраваць іх на пэўны рэволюцыйны шлях, выкарыстаць для адбудовы і адраджэньня беларускага мастацтва, прывабіць да актыўнага ўдзелу ў будаваньні соцыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме беларускай культуры, таксама як і іншых мясцовых культур" [1]).

Такім чынам, пры адчыненьні выстаўкі мелася на ўвазе, што сама па сабе яна павінна выконваць задачы дэмонстрацыі пэўных вынікаў мастацкае працы на Беларусі, а таксама быць сродкам для падрахунку беларускіх мастацкіх сіл; у той-жа час яна разглядалася, як першы крок да ўтварэньня нейкіх новых адносін паміж мастацкай вытворчасьцю і спажываньнем, у якіх чарговым запатрабаваньнем апошняга надавалася-б пэўная кіраўнічая роля ў сэнсе рэгуляваньня напрамку, абхвату і зьместу адпаведнае вытворчасьці. Памянёнае ў прадмове да каталёгу выстаўкі выяўленьне належных мастацкіх груповак зьяўлялася тут асабліва важнаю часткаю справы, якая зьвязвала між сабой абодва бакі пастаўленае задачы.

У адносінах да гэтых конкрэтных мэт і трэба ў першую чаргу разгледзець вынікі выстаўкі. Дадатныя яе рэзультаты ў першай частцы намечаных задач у вагульных рысах ужо былі сваячасна намі зазначаны ў іншым месцы [2]). Згуртаваўшы ў сабе працы 85 мастакоў у колькасьці больш за 1.100 экспонатаў, выстаўка ў першы раз дала нам магчымасьць скласьці сабе суцэльнае прадстаўленьне аб нашай мастацкай сучаснасьці ў сэнсе разьмеркаваньня нашых мастацкіх вытворчых сіл. Але гэтае разьмеркаваньне паказала: папершае, што ані ў самай Беларусі, ані сярод тых працаўнікоў у галіне вобразнага мастацтва, якія працуюць у іншых мясцох і зьвязаны з ёй або паходжэньнем, або пэўным нахілам адпаведнае зацікаўленасьці,—мы ня маем досыць значнага ліку высокакваліфікаваных мастакоў, якія зьяўляліся на выстаўцы толькі адзінкамі сярод агульнае, напалову аматарскае, масы; падругое, што сярод гэтых мастацкіх сіл амаль што зусім няма ніякіх пэўных і выразных груповак у сэнсе формальных напрамкаў; патрэцяе, нарэшце, што праца ўсіх гэтых мастакоў мае пераважна індывідуалістычны характар, што за малымі выняткамі выстаўка зусім ня выявіла ніякіх мастацкіх аб'яднаньняў у відзе студый, гурткоў і г. д.

---

1) Каталёг 1-й Усебеларускай Мастацкай Выстаўкі. Менск 1925 г. Стар. 1-2.

2) „Падрахунак мастацкіх сіл" у „Савецкай Беларусі" ад 9 сьнежня 1925 г.

З першым фактам—нязначным лікам кваліфікаваных мастакоў—прыходзіцца, зразумела, у сучасны момант толькі лічыцца, маючы на ўвазе патрэбу паклапаціцца ў далейшым аб утварэньні належных умоў для падрыхтоўкі такіх кваліфікаваных працаўнікоў,—бяз усякай магчымасьці ў бліжэйшы час зьмяніць тут што-небудзь к лепшаму. Другая з нашых уваг патрабуе вядомага тлумачэньня: кажучы аб адсутнасьці выразных формальных груповак, мы зусім не адмаўляемся ад тэй павярхоўнай клясыфікацыі нашых мастацкіх сіл, якая была намі зроблена ў вышэйпамянёным артыкуле, дзе мы вызначалі, што сярод удзельнікаў выстаўкі выявіліся тры паасобныя напрамкі: натуралістычны, стылізацыйны і дэкорацыйны; але мы павінны падкрэсьліць, што гэты падзел зьяўляецца толькі самым агульным, па некаторых асноўных адзнаках у манеры творчасьці розных мастакоў, якія, аднак, занадта адрозьніваюцца адзін ад аднаго і ў тэхніцы, і ў прыёмах, і нават, належачы да аднаго агульнага напрамку, не ўтвараюць усё-ж упоўне суцэльных груп і не зьяўляюцца супольнымі прадстаўнікамі пэўных „школ“, ані ў шырокім, ані нават у болей вузкім сэнсе. Часткова ў сувязі з гэтым знаходзіцца і адсутнасьць абыякіх аб‘яднаньняў, паколькі для іх пакуль што няма грунту ў належнай супольнасьці мастацкіх ці ідэйных інтарэсаў.

Працуючы паасобку, замкнёна, у атмосфэры, дзе да апошняга часу зусім ня было належнага творчага „абмену“, нашыя мастакі звычайна ішлі кожны сваім уласным шляхам, прычым, зразумела, гэтыя шляхі далёка не заўсёды супадалі з тымі шляхамі, якія ў сучасных умовах былі-б пажаданымі для нашага мастацтва. Мастацкая творчасьць пакуль што ня мела глебы ў нашым грамадзкім жыцьці,—і гэта не магло не адбіцца ў яе характары, які і ў формальных, і ў тэматычных адносінах далёка не цалкам можа нас задаволіць. Найболей спрэчным зьяўляецца пытаньне аб формальных ухілах, якое ня раз ужо ставілася ў апошнія часы і якое цяжэй за ўсё для разьвязаньня. Вядомая „стракатасьць“ такіх ухілаў на выстаўцы, праўда, ня ёсьць адмоўная рыса, паколькі сучасныя запатрабаваньні да мастацтва бываюць часта занадта рознастайнымі і рознабокімі, каб можна было іх задаволіць у межах якой-небудзь аднэй формальнай школы. Але ў далейшым, бясспрэчна, патрэбна болей выразнае разьмежаваньне і ўтварэньне болей уроўнаважаных узаемаадносін паміж гэтых паасобных ухілаў. З ліку адзначаных намі вышэй напрамкаў у сучасным нашым мастацтве найболей пашыраны натуралістычныя або рэалістычныя тэндэнцыі. Адносна іх сустракаюцца розныя погляды: шырокім колам малападрыхтаваных гледачоў толькі натуралізм наогул і падабаецца, паколькі ён адзін зьяўляецца для іх цалкам зразумелым; усё-ж іншае ў мастацтве лічыцца непатрэбным „штукарствам“ і сустракае самыя няпрыхільныя адносіны. Другія падыходзяць да натуралізму болей крытычна і з вядомай падазронасьцю; аддаючы яму належную даніну ў сэнсе тэхнічных дасягненьняў, яны, аднак,

лічаць яго занадта застарэлым напрамкам, і ў імя „новага мастацтва“ патрабуюць значнага перагляду яго асноўных позыцый; паколькі першы падыход—чыста „абывацельскі“, настолькі другі, звычайна, вузка-эстэтычны. Процілеглы яму ў прынцыпе, але часам аднолькавы па выніках,— гэта погляд, што рэалізм і натуралізм, паколькі сфэрай яго зьяўляецца амаль выключна станковае малярства, ня мае грунту ў нашай новай грамадзкасьці, дзе не павінна быць месца для „самамэтных“ вытвораў мастацтва. Па нашай думцы, аднак, з усімі гэтымі поглядамі нельга цалкам згадзіцца. І перш за ўсё таму, што тут нельга пакідаць бяз увагі тэй пэўнай „мэтавай установкі“, якой, згодна нашых поглядаў, павінна кіравацца ў сучасны момант усякая мастацкая дзейнасьць. Не выпадае, зразумела, прызнаваць толькі натуралізм і з мяшчанскай пагардай ганіць усе іншыя напрамкі ў мастацтве, кіруючыся прынцыпам: „Я гэтага не разумею, значыцца—гэта дрэнна“. Але трэба лічыцца з агульнай зразумеласьцю натуралізму і рэалізму ў адносінах да грамадзкай ролі мастацтва. Калі мы кажам, што праз мастацтва можна і трэба рабіць пэўны ідэёвы ўплыў на шырокія масы, дык трэба часткова лічыцца і з сучасным мастацкім узроўнем іх, каб мець магчымасьць абраць для іх у мастацтве як мага болей зразумелую мову. У гэтым сэнсе ўласна рэалізм можа зрабіць нам вялікія паслугі, зьяўляючыся тэй першай формай, у якой мастацтва лягчэй за ўсё падыходзіць да непадрыхтаваных мас. У далейшым, зразумела, магчыма і пажадана вядомае эстэтычнае іх выхаваньне, у выніках якога і іншыя, болей складаныя, мастацкія формы таксама зробяцца зразумелымі, але роля рэалізму для першага кроку павінна быць належным чынам ацэнена. Гэтая роля тым болей яшчэ заслугоўвае ўвагі, што пэўная тэматыка (момант надзвычайна важны, аб чым гутарка будзе ніжэй) часта патрабуе ўласна рэалістычнага выражэньня, якое адно і можа быць мэтазгодным. Пры такой пастаноўцы пытаньня чыста мастацкая, эстэтычная ацэнка адыходзіць, зразумела, на другі плян,—але няхай прабачаць нам „чыстыя эстэтыкі“, калі мы прымушаны адмовіцца ад іх пункту погляду, як ад занадта вузкага і, часткова, антысоцыяльнага. Застаецца яшчэ адно: гэта жах перад „станкавізмам“, што выявіўся ў нас, напрыклад, у ваднэй з рэцэнзій на выстаўку, дзе аўтар, што захаваў сваё імя пад псэўдонімам „Агледача“ *), нават утоесаміў яго з прынцыпам „мастацтва для мастацтва“; гэтага жаху мы ніякім чынам не падзяляем: папершае таму, што станкавізм па істоце сваёй ня мае, зразумела, нічога супольнага з эстэтызмам; „мастацтва для мастацтва“ можа быць, прыкладам, і дэкорацыйнае малярства; таксама станковая карціна можа мець пэўныя соцыяльныя мэты, бо справа тут ня ў форме, а ў зьмесьце. Падругое, сучасныя ўмовы нашага соцыяльнага жыцьця зусім не пазбаўляюць станковае малярства яго належнага месца; нашы сучасныя грамадзкія памяшканьні: тэатры, клюбы

*) „Усебеларуская мастацкая выстаўка“ ў газ. „Звезда“ ад 15-XII-25.

і г. д. яшчэ не дасягнулі тых формаў, дзе былі-б абавязкова патрэбны монумэнтальныя дэкорацыйныя аздобы, і да вядомага часу станковыя карціны могуць яшчэ граць у іх адпаведную ролю. Патрэцяе, нарэшце, нельга забывацца на тое новае значэньне, якое набылі ў нашай сучаснасьці музэі: з „могілак мастацтва" яны зрабіліся месцамі адукацыі і выхаваньня шырокіх працоўных мас, дзе нават спэцыяльна напісаная для музэю карціна (што раней здавалася сьмешным) можа адыграць сваю ролю і дасягнуць пастаўленае мэты.

Такім чынам, наогул мы лічым, што існаваньне ў нашым сучасным мастацтве натуралістычных і рэалістычных напрамкаў зьяўляецца ўпоўне мэтазгодным і побач з іншымі ўхіламі можа быць выкарыстана для тых соцыяльных задач, якія пастаўлены цяпер перад мастацкай вытворчасьцю. Нельга толькі перагібаць кій у іншы бок—і ў гэтым сэнсе занадта значная перавага гэтых напрамкаў сярод беларускіх мастацкіх сіл, разам з ухілам ад мастацкага рэалізму ў бок сухога „ілюзыёнізму", што выявіла наша выстаўка,—ня ёсьць нормальнае зьявішча і сьведчыць аб пэўнай аднабокасьці, мо' нават адсталасьці нашай мастацкай масы, і патрабуе ўвагі да іншых болей слабых месцаў нашага мастацкага фронту.

Сучасныя задачы мастацтва не абмяжоўваюцца простым ідэолёгічным узьдзеяньнем на гледача: ёсьць і другія бакі, якія вымагаюцца мэтамі конкрэтнага набліжэньня мастацтва да нашага штодзеннага жыцьця, сталага прасякненьня гэтага жыцьця належнымі мастацкімі элемэнтамі, агульнае падвышэньне сярэдняга ўзроўню нашай мастацкай культуры. Раней „народ" задавальняўся прымітыўнымі мастацкімі формамі; вышэйшыя формы мастацтва ішлі на службу да пануючых кляс; апошнія-ж дзесяцілецьці буржуазнага ладу прывялі ў заняпад нават і народнае мастацтва шляхам пашырэньня мільёнаў аднальковых штампаваных продуктаў фабрычнае вытворчасьці, гэтых гнусных фальсыфікатаў, сурагатаў мастацтва, якія падмянялі ў быту сапраўдныя мастацкія вытворы і паступова скажалі і зьнішчалі густ сваіх шматлічных спажыўцаў. У выніках атрымаліся ўсе тыя мастацкія недарэчнасьці, якія мы бачым ледзь ня ў кожнай рабочай, мяшчанскай, інтэлігенцкай і часам нават у сялянскай сям'і: бясстыльная і нязручная мэбля, прыкрытыя шпалеры і пасуда „з кветкамі", жалкія олеографіі, або „адкрыткі" на сьценах, для „аздобы",—уся тая маса прадметаў штодзеннага ўжытку з патугамі на мастацкасьць, якая часта і нявыгадна, і некарысна ў практычным сэнсе, і заўсёды шкодна ў сэнсе культурным, бо яна прыніжае густ, пазбаўляе яго належных добрых крытэрыяў, цягне ў багно мяшчанскага ідэалу „прыгожасьці" з ружовымі фіранкамі і гераньню на вокнах. З гэтай спадчынай мінулага наша сучаснае мастацтва павінна весьці рашучую барацьбу,—і гэтым абумоўлены пэўныя спэцыфічныя яго нахілы, увазе да якіх належыць досыць значная роля ў агульнай сыстэме нашага мастацкага будаўніцтва. Для посьпеху такой барацьбы нам па-

трэбна сталае і моцнае дэкорацыйнае мастацтва, а таксама пляновая організацыя мастацкай вытворчасьці „прыкладнога“ характару, чаго, на жаль, мы пакуль што зусім ня маем. У гэтых адносінах вынікі выстаўкі можна лічыць надзвычайна слабымі; аддзел прыкладнога мастацтва зьявіўся там адным з найменей цікаўных; у вагульным-жа аддзеле адны толькі экспонаты Беларускага Мастацкага Тэхнікуму выявілі пэўнае імкненьне да дэкорацыйнага ўхілу, прычым, аднак, трэба прыкласьці яшчэ вялікую працу, каб з гэтага ўхілу зрабіць нешта большае, як толькі чарговую вучэбную спробу. Праўда, да апошняга часу тэхнікум, ня гледзячы на ўсё жаданьне, ня меў магчымасьці з прычыны об'ектыўных ўмоў адчыніць пры сабе належныя майстэрні, каб даць адпаведны выхад сваёй дэкорацыйна-стылізацыйнай тэндэнцыі ў формах скончанай мастацкай вытворчасьці; цяпер такія майстэрні, пачынаючы з кэрамічнай, паступова організуюцца, і можна спадзявацца, што ў бліжэйшы час праца іх ужо выявіць тыя ці іншыя вынікі. Але на гэтым, зразумела, нельга яшчэ спыніцца: трэба выкарыстаць шырэй усе тыя мастацкія сілы, якія здольны да вытворчае працы. Якім шляхам і ў які спосаб—гэта справа ўжо адміністрацыйнага парадку, у якой могуць і павінны быць зацікаўлены самыя розныя інстытуцыі. Але трэба, па нашай думцы, з аднаго боку, як-небудзь падтрымаць чыста-народную сялянскую вытворчасьць, асабліва ў ткацтве, дзе пры належнай ініцыятыве, з боку, напрыклад, Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, магчыма было-б утварыць некалькі ўзорных асяродкаў вытворчасьці, знайсьці рынак збыту для вырабаў і організаваць справу мастацкага абмену паміж саматужнікамі і спэцыялістымі мастакамі, у мэтах тэхнічнага паляпшэньня хатніх вырабаў і лепшага прасякненьня нашага стылізаванага мастацтва чыстымі народнымі элемэнтамі. З другога боку, насьпела самая пільная патрэба неяк перагледзець працу некаторых нашых установ, якія па самым характары сваёй дзейнасьці систэматычна карыстаюцца адпаведнымі мастацкімі вырабамі, але, ня гледзячы на вялікае сваё дзяржаўнае і соцыяльнае значэньне, зьяўляюцца часта надта далёкі і ў гэтых адносінах ад дасканаласьці. З ліку такіх установ у першую чаргу трэба назваць нашыя тэатры, асабліва Акадэмічны, якому варта было-б зьвярнуць болей ўвагі на справу надворнага аформленьня сваіх пастановак і ўвесьці больш разнастайнасьці ў свае дэкорацыі, вопраткі і бутафорыю, што магчыма толькі шляхам прыцягненьня да гэтае працы большай колькасьці розных мастацкіх сіл. На другім месцы можна паставіць Дзяржаўнае Выдавецтва, якое да апошніх часоў звычайна карыстаецца паслугамі найменей талентных і найменей кваліфікаваных мастацкіх рамесьнікаў, што часта псуе найлепшыя яго выданьні самымі няўдалымі вокладкамі ці і люстрацыямі,— у той час, як сярод нашых мастакоў ёсьць вельмі здольныя і культурныя графікі, працы якіх можна было-б з значным посьпехам скарыстаць для належнай стылёвай аздобы нашых кніжак. Патрэцяе, нарэшце, час ужо

паставіць пытаньне аб тым, каб у тэй ці іншай меры прасунуць вядомую „мастацкасьць“ у некаторыя вырабы нашае прамысловасьці. Маючы на ўвазе гэтую мэту, камісія беларускага стылю пры Сэкцыі беларускага мастацтва ІБК ужо распрацавала проект цэлага шэрагу конкурсаў на ўзоры стылёвае мэблі, шпалер, начыньняў, тканін і г. д., правядзеньне якіх належнымі гаспадарчымі органамі магло-б значна пасунуць гэтую справу наперад, паколькі з боку вытворчых установ, як гэта нам добра вядома, ня сустрэлася-б ніякіх перашкод да ўвядзеньня новых рысункаў, а ў некаторых выпадках, як, напр., у шпалернай вытворчасьці, што нам казалі беспасрэдна на фабрыцы, такое мерапрыемства лічылася-б нават надзвычайна пажаданым. У даных адносінах патрэбна толькі ўзаемная ўвага паміж мастацкіх і гаспадарчых працаўнікоў, утварэньне належных умоў да працы першых і зацікаўленасьць апошніх ў пытанньнях культурнага характару. Само сабой зразумела, што з боку мастакоў патрэбна яшчэ і належная ўвага да самага гэтага дэкарацыйна-практычнага напрамку працы, каб выправіць выяўлены выстаўкай пэўны недахоп у даным стасунку.

Апроч пытаньня аб формальных напрамках, ня меншае значэньне маюць пытаньні адпаведнае тэматыкі. У сэнсе сужэтаў і тэм наша вобразнае мастацтва ў сучасны момант далёка яшчэ не дасягнула ўзроўню нашых запатрабаваньняў, і уласна гэты бок справы патрабуе тэрміновага перагляду. Асноўныя прынцыпы тут можна намеціць згодна нашых агульных мэт. Вышэй мы казалі аб абавязковай патрэбе зразумеласьці „мастацкай мовы“ для тых шырокіх мас, якія наша мастацтва павінна мець об'ектам свайго ўзьдзеяньня. Але гэтая зразумеласьць павінна быць і формальнай і тэматычнай. Трэба наблізіць тэматыку вобразнага мастацтва да яго гледача, і ў той-жа час надаць ёй тую рознастайнасьць, якая характэрна для яго сучасных інтарэсаў. У вагульных рысах гэта павінна выявіцца ў набліжэньні тэм да жыцьця, у мастацкім праламленьні рачаіснасьці з яе сапраўднымі рэальнымі суадносінамі. У сувязі з гэтым ставіцца і пытаньне аб нацыянальных кірунках мастацтва: паколькі мы кажам не аб адцягненым, але аб сапраўдным, рэальным жыцьці—пастолькі ў кожнай тэме ў тэй ці іншай меры павінна адбіцца пэўнае яе дачыненьне ўласна да нашай краіны як у вагульным сэнсе, так і ў адносінах да некаторых чыста-нацыянальных момантаў. На практыцы-ж гэта трэба паставіць сабе, як сьвядомую задачу, чаго да апошняга часу мы амаль што зусім ня бачым у творчасьці нашых мастакоў.

У іншым месцы мы ўжо мелі выпадак больш-менш падрабязна разгледзець тэматыку нашых выставачных экспонатаў уласна з такога спэцыяльнага пункту погляду *). Па колькасьці выявілася, што блізка палова зьмешчаных на выстаўцы прац у тэй ці іншай меры мела пэўнае дачы-

*) „Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве“ ў часоп. „Наш Край“, выд. ЦБ Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры, № 2-3 (5-6) за 1926 г.

неньне да Беларусі. Але трэба яшчэ раз асабліва падкрэсьліць, што ў большасьці выпадкаў дачыненьне гэтае зьяўлялася чыста выпадковым і ня было вынікам сьвядомага жаданьня аўтараў унесьці ў сваю творчасьць нацыянальныя элемэнты. Магчыма, што часткова гэта тлумачыцца тым, што ня ўсе нашы мастакі шчыльна зьвязаны з беларускай глебай, што для некаторых з іх ліку яна не зьяўляецца бацькаўшчынай, але толькі месцам болей ці меней часовай працы, у якой яны яшчэ не зразумелі ўсіх тых асаблівасьцяй нашага сучаснага культурнага будаўніцтва, якія вымагаюць рашуча адмовіцца ад ранейшых поглядаў і спосабаў падыходу да нашай краіны. У кожным выпадку, аднак, на выстаўцы мы надта мала бачылі такіх прац, якія сьведчылі-б аб наўмысным набліжэньні да беларускіх тэм, і якаснае разьмеркаваньне датычных Беларусі экспонатаў далёка не задавальняла патрэбы ў гэтых адносінах. Перавага пэйзажаў, а таксама беларускіх ды яўрэйскіх тыпаў, як мы ўжо зазначалі, у большай частцы была абумоўлена толькі самым фактам працы данага мастака на Беларусі, з прычыны чаго ён проста браў пэўную натуру, якую лягчэй за ўсё можна было знайсьці, без асаблівае цікавасьці ўласна да гэтай натуры, што абіралася зусім выпадкова; зусім таксама ён працаваў-бы і ў кожнай іншай краіне, калі-б іначай скла́ліся самыя ўмовы яго жыцьця: таксама на першым пляне ў яго былі-б толькі вытворчыя інтарэсы, незалежна ад самае тэмы. Можна сьмела сказаць, што ледзь ня большасьць нашых мастакоў зусім не адчувае сябе мастакамі Беларусі,—за выняткам, можа, некаторых маладзейшых адзінак, больш менш ужо выхаваных у атмосфэры нацыянальнай культуры,—што накладае, зразумела, пэўны адбітак і на самую творчасьць іх, у сваёй істоце яшчэ канчаткова ня зьвязаную з умовамі нашага сучаснага жыцьця. У справе належнага перавыхаваньня мастакоў уласна ў гэтым пункце адчыняецца самае шырокае поле працы ў напрамку „беларусізацыі“ нашых мастацкіх сіл у самым шырокім сэнсе,—дый ня толькі беларусізацыі, але і належнае нацыяналізацыі ў галіне іншых мясцовых культур, паколькі ўсё, што мы вызначаем адносна мастакоў беларускіх, цалкам можа быць дапасавана таксама, напрыклад, і да мастакоў яўрэйскіх, якія ў большасьці зусім ужо ня маюць ніякага нацыянальнага аблічча. З гэтай патрэбы ў нацыянальным мастацтве, якую для сучаснага моманту мы асабліва падкрэсьліваем, зусім ня вынікае, зразумела, што трэба канчаткова адмовіцца ад распрацоўкі шырокіх, інтэрнацыянальных тэм агульнага значэньня,—але трэба тут ведаць меру і час, не забывацца на тое, што ўва ўсіх галінах толькі шляхам глыбокага і напруджанага самастойнага разьвіцьця беларуская культура паступова выходзіць на шырокую сусьветную арэну, а таксама і на тое, што ў кожным мастацтве наогул вялікія творы сусьветнага значэньня зьяўляюцца раз у эпоху і ў выніках доўгай і сур'ёзнай падрыхтоўчай працы, дзе нельга абмежавацца (што мы бачым у большасьці нашых мастакоў) толькі пэйзажамі, натурмортамі ці портрэ-

тамі, якія да таго-ж досыць рэдка пераходзяць за межы больш-менш скончаных і распрацаваных эскізаў. Такая эпоха,—мы ў гэтым упэўнены,—рана ці позна прыдзе таксама і для Беларусі; але цяпер чакаць яе яшчэ рана, і нам патрэбны доўгія гады больш скромнай і няпрыкметнай, можа, працы, праведзенай, аднак, у такім разрэзе, які забясьпечыў-бы нам магчымасьць хаця-б павольнага і паступовага, але сапраўднага мастацкага росквіту. І першы, канечне патрэбны крок, на гэтым шляху мы бачым у нацыянальным мастацтве, якое болей за ўсё дае магчымасьць належным чынам разгарнуць і выявіць творчыя сілы кожнага народу.

Нацыянальны кірунак у мастацтве, у першую чаргу, можа даць цэлы шэраг вельмі цікаўных сужэтаў, у якіх выяўляецца агульнае аблічча краіны з самых розных бакоў і пунктаў гледжаньня. Тут, зразумела, справа ня ў вузкім этнографізьме, але ў шырокім разуменьні нацыянальных момантаў, з якіх усё, што варта ўвагі, павінна быць скарыстана ў мастацкай тэматыцы. Некаторыя спробы, зробленыя ўжо ў гэтым сэнсе нашымі мастакамі, засьведчылі, што ў даных адносінах можна дасягнуць надзвычайна каштоўных вынікаў, калі толькі пасіліць сьвядомую зацікаўленасьць у галіне такіх сужэтаў, распрацоўка якіх пакуль што зьяўляецца ў нашым мастацтве яшчэ выпадковай. Тут трэба аддаць належную ўвагу і беларускай гісторыі, і беларускаму рэвалюцыйнаму руху, і тэмам, узятым на сужэты з беларускай народнай творчасьці,—адным словам, усім тым тэмам, якія меней за ўсё яшчэ сустракаюцца цяпер у нашым мастацтве, ня гледзячы на сваю бясспрэчную вартасьць. Бяз гэтых тэм, а можа яшчэ і шэрагу іншых, наша нацыянальнае мастацтва нельга вывесьці з яго ранейшае вузкае сфэры на болей ці меней шырокі шлях, і нельга спадзявацца на яго шпаркі поступ наперад. Нас ня зьдзіўляе, аднак, адсутнасьць падобнай тэматыкі ў нашай сучаснай мастацкай творчасьці, і ў гэтым сэнсе мы ня маем падстаў, каб рабіць абы якія закіды нашым мастаком: апрацоўка складаных закончаных тэм патрабуе шмат часу, патрабуе спакойнай, уважлівай працы пры належнай агульнай забясьпечанасьці і адпаведнай падрыхтаванасьці; у гэтых адносінах яшчэ ня было і няма спагадных умоў, і толькі з цягам часу можна разьлічваць на паступовае іх утварэньне ў сувязі з няўхільным прогрэсыўным палепшаньнем экономічнага дабрабыту і падвышэньнем культурнага ўзроўню нашае рэспублікі.

Але тэматыка—гэта толькі першы крок, і толькі аднэй адпаведнай тэматыкай нацыянальнае мастацтва, зразумела, не абмяжоўваецца. Калі ў чыста мастацкіх адносінах, пры самых нават шырокіх і match розностайных тэмах, мы будзем плесьціся недзе ў хвасьце за чужымі і застарэлымі цячэньнямі і кірункамі,—дык адносная вартасьць нашага мастацтва будзе зусім нявысокай. А небясьпека гэтага ў сучасны момант ёсьць, чаго не выпадае хаваць ад сябе і задавальняцца існуючым становішчам; прычына яе—у тэй-жа, зазначанай намі з самага пачатку, адсутнасьці традыцый,

у неўсталяванасьці мастацкіх сіл, у нявысокім агульным узроўні мастацкае культуры краіны, якую мы атрымалі ў спадчыну ад старога ладу. З гэтым, зразумела, трэба лічыцца; але калі вышэй мы казалі, што для сучаснага моманту найболей адпаведнымі і карыснымі зьяўляюцца напрамкі рэалістычныя і дэкарацыйна-практычныя, дык з гэтага зусім ня вынікае, быццам мастацкі рэалізм павінен абмяжоўвацца сухім „ілюзыёнізмам“, а практычна-вытворчыя ўхілы выліўвацца выключна ў формы орнамэнтальнай стылізацыі. У першым—нашым мастацкім працаўнікам трэба ісьці і цягнуць за сабой гледача к формам вышэйшай „мастацкай культуры“, якая хаця і разьвіваецца ў нашы часы амаль што выключна пад сьцягам рэалізму (пасьля нядаўных экскурсаў у „лявізну“), але далёка ўжо адышла ад прымітыўных мастацкіх ілюзій у бок глыбейшага і дакладнейшага вырашэньня цэлага шэрагу формальных, колёрыстычных і композыцыйных задач. Час ужо скончыць працаваць „пад старынку“ (ня гледзячы нават на тое, што гэта і падабаецца неспрактыкаванаму спажыўцу, якога цікавіць і задавальняе *толькі* адзін сюжэт), і нельга абмінаць апошніх формальных дасягненьняў агульна-эўропэйскага мастацтва, бяз уплыву якіх нам усё роўна не абыйсьціся. На прыкладзе маскоўскага АХРР'у мы ясна бачылі ў апошнія часы, як дорага каштуе выключнае захапленьне аднэй тэматыкай, і якія нязначныя ў мастацкім і нават у грамадзкім сэнсе вынікі дала-б праца гэтае асоцыяцыі, калі-б у вапошнія часы яна не пачала паступова здаваць адну за аднэй ранейшыя свае позыцыі і ўзбагачаць свой склад цэлым шэрагам болей моцных у формальным і тэхнічным сэнсе сіл. Урокі гэтае практыкі трэба скарыстаць, каб адразу-ж унікнуць аналёгічных памылак і з самага пачатку злучыць пэўны тэматычны ўхіл з належным багацьцем формальных яго выяўленьняў і вышынёй чыста тэхнічнага майстэрства. Трэба шчыра сказаць, што ледзь ня ўсім нашым мастаком,—якія часта лічаць сябе без належных на то падстаў зусім закончанымі і ўдасканаленымі майстрамі,—прыдзецца тут, забыўшыся на гонар, шмат у чым папрацаваць над сабой і нават падвучыцца; асабліва-ж на гэты бок справы трэба зьвярнуць увагу пры падрыхтоўцы нашых маладых мастацкіх сіл.

Разам з тым, трэба падбаць, каб гэты процэс адбыўся па лініі ўтварэньня сваёй уласнай, беларускай малярскай культуры, якая-б здолела ў форме і тэхніцы выявіць сваё, асаблівае аблічча беларускай мастацкай творчасьці, паралельна і адначасна з тым, як агульныя асаблівасьці нашае рэчаіснасьці будуць адбіты ў адпаведных тэмах. Лінію гэтую, зразумела, нельга вызначыць апрыорным парадкам, нельга зазначыць заранёй характэрныя рысы будучай „беларускай школы“, паскольку тут мала магчыма беспасрэдная пераймальнасьць традыцыі ад шэрагу старажытных малярскіх школ Беларусі, узоры якіх, можа, і будуць часткова скарыстаны, але ў такой пераапрацоўцы, якая зьявіцца абумоўленай узьдзеяньнем шмат якіх новых, і ня зусім яшчэ ясна ў сучасны момант сфармаваных фактараў.

З пэўнасьцю, аднак, можна сказаць ужо і цяпер, што асабліва важнае значэньне тут будзе мець агульнае пытаньне аб *стылі* ў самым шырокім сэнсе гэтага слова і ў прыстасаваньні яго роўным чынам як да сужэтных вытвораў станковага малярства, гэтах і да рознастайных вырабаў дэкорацыйнага, прыкладнога мастацтва.

Паняцьце „беларускага стылю“ ў мастацтве можа мець самыя розныя значэньні, адпаведна таму, як розныя значэньні надаюцца ў сучасным мастацтвазнаўстве паняцьцю стылю наогул. Але паняцьце гэтае, пакуль што, занадта звужвалася ў нашай практыцы, з наданьнем яму пэўнага спэцыфічнага характару ў пераважным, калі ня выключным абмежаваньні сфэраю народнага орнамэнту. Выразным прыкладам такога звужваньня для самых апошніх часоў зьяўляюцца спробы распрацоўкі беларускага стылю ў працах Беларускага Мастацкага Тэхнікуму, дзе ў пераважнай большасьці мы бачым толькі перакомпаноўкі народных вышывак, тканін і вопратак, і часам старажытных орнамэнтных мотываў. Зразумела, народнае орнамэнтальнае мастацтва таксама трэба скарыстаць,—але абмежаваць гэтым свае заданьні і бачыць ў гэтым асноўны стрыжань мастацтва „беларускасьці“—гэта то-ж самае, што ставіць усё разьвіцьцё беларускага тэатральнага мастацтва пад традыцыйны знак лявоніхі, супроць чаго ў апошнія часы так слушна выступіў З. Жылуновіч. Наш час патрабуе болей глыбокіх і болей шырокіх падыходаў, стыль патрабуе адзнак болей высокага культурнага значэньня, і гэтыя адзнакі трэба шукаць і ў нашым напоўзабытым мінулым, і асабліва ў нашым яскравым „сёньня“, дзе грунтоўна відазьмяніліся нядаўныя суадносіны Беларусі і беларускай культуры з культурамі іншых, нават вышэйшых па стопні свайго разьвіцьця краін. Гістарычнае становішча Беларусі, як мяжы паміж Усходам і Захадам, і яе сучасная роля ізноў-жа ў якасьці рубяжа паміж свабодным Соцыялістычным Союзам і прыгнечанай „старой Эўропай“—вось тыя асноўныя моманты, якія вызначалі раней і вызначаюць цяпер тыповыя асаблівасьці нашай краіны, стракатасьць яе нацыянальнага складу і культурных форм бытаваньня, самаўласьцівасьць яе надворнага і нутранога аблічча, якая адрозьнівае яе ад суседніх з ёю краін. Ва ўсім гэтым ёсьць пэўныя прадпасылкі таксама і для ўзьнікненьня пэўных уласных стылістычных ухілаў у розных галінах мастацкае творчасьці, якая выпінае ў шэрагу розных формальных выяўленьняў складаных экономічных і грамадзкіх суадносін. У кожным выпадку, старое мастацтва Беларусі выразна адбівала ў сабе ўсе яе асаблівасьці, як агульнага, так і частковага характару,—і няма, здаецца нам, падстаў думаць, каб гэта ня здолела зрабіць наша мастацтва сучаснае і наступных часоў. Калі мы кажам аб стылі, мы ўласна і маем на ўвазе такое шырокае і рознабокае выяўленьне ўва ўсіх складаных элемэнтах вобразнага мастацтва—г. зн., і ўтэматыцы, і ў надворным афармленьні, і ў тэхнічных прыёмах—найболей істотных, тыповых рыс і ўласьцівасьцяй беларускай

краіны, беларускага народу і яго сучаснага жыцьця. У такім разуменьні стыль, зразумела, не супадае з „стылізацыяй“, і гэтай апошнай адводзіцца далёка ня значнае месца ў агульным абхваце ўсяе мастацкае працы, хаця за ёй і застаецца вядомае значэньне ў галіне апрацоўкі *орнамэнтальнага* стылю, патрэбнага нам у мастацтве прыкладнога характару. На першы плян, аднак, высоўваецца болей шырокая мэта, якая падначальвае сабе ўсе іншыя,—мэта прасякненьня ўсяго мастацтва цалком такою дозай нацыянальных элемэнтаў, якая забясьпечыла-б яго ахварбоўку ў нейкі суцэльны і самастойны „мастацкі колёрыт“.

Ці маем мы для гэтага рэальныя магчымасьці? Нам здаецца, што маем. Але ці здолеюць гэта зрабіць тыя мастацкія сілы, якія выявіліся на Беларусі да апошніх часоў? На гэтае пытаньне, у кожным выпадку ў сучасны момант, нельга адказаць упоўне ўпэўнена: усё залежыць ад шэрагу як об‘ектыўных, так і суб‘ектыўных прычын, улічыць якія даволі цяжка. Для большасьці нашых мастацкіх працаўнікоў у першую чаргу патрэбна грунтоўнае перавыхаваньне, ня столькі ў мастацкіх, колькі ў грамадзянскіх і нацыянальных адносінах, але ці пойдуць яны на гэтае перавыхаваньне—далёка яшчэ невядома. Падругое, як мы ўжо зазначалі, для ўсёй мастацкай працы ў Беларусі патрэбна болей цьвёрдая глеба і болей цёплая грамадзкая атмосфэра; першае можа быць дасягнута толькі шляхам адпаведных экономічных і гаспадарчых мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб утварыць спагадныя ўмовы належнае ўроўнаважнасьці паміж мастацкай продукцыяй і попытам ня яе з боку, галоўным чынам, дзяржаўных спажыўцаў; для другога патрэбна сталая сыстэма мастацкага выхаваньня і адукацыі, правядзеньне якой, разам з тым, спрыяла-б таксама і сваячаснаму выяўленьню і скарыстаньню тых маладых мастацкіх сіл, якія ў сучасных умовах нярэдка або гінуць зусім для мастацтва, або гінуць для Беларусі. Тое, што ў гэтых адносінах мы маем цяпер, далёка не задавальняе патрэбы: адзіны мастацкі тэхнікум, г. зн. спэцыяльная сярэдняя школа на ўсю Беларусь, ня мае магчымасьці ані прыняць да сябе ўсю тую моладзь, якой спэцыяльная мастацкая адукацыя была-б патрэбна, ані забясьпечыць для гэтае моладзі вышэйшай мастацкай кваліфікацыі. У выніках—частка можа і здольных асоб зусім пазбаўляецца магчымасьці мастацкае адукацыі і абірае сабе іншыя спэцыяльнасьці,—другая-ж частка ўцякае з Беларусі ў вышэйшыя мастацкія школы РСФСР, канчае іх і астаецца для працы за межамі свае краіны. Гэтае становішча патрабуе грунтоўнае відазьмены. З аднаго боку, трэба ўзмацніць агульнае мастацкае выхаваньне ў сыстэме нашае народнае асьветы, пачынаючы з ніжэйшых груп сямігодак і канчаючы пэдагогічнымі і індустрыяльнымі тэхнікумамі, прычым не абмяжоўваць яго толькі традыцыйнымі лекцыямі „рысаваньня“, але ўвесьці таксама заняткі па прыкладным мастацтве і агульнае азнаямленьне з асноўнымі момантамі гісторыі мастацтва. З другога боку, трэба паступова пабудаваць хаця-б невялічкую сетку спэцы-

яльных мастацкіх школ, пачынаючы з ніжэйшых школ у раёнах і сярэдніх (тэхнікумаў) у акруговых цэнтрах, і канчаючы вышэйшай школай—інстытутам—у Менску, якую трэба забясьпечыць добра спрактыкаванымі і высокакваліфікаванымі кіраўнікамі. Пры такой пастаноўцы справы можна разьлічваць на паступовую падрыхтоўку належнае колькасьці сваіх уласных мастацкіх працаўнікоў, сіламі якіх можна будзе і наогул пасунуць наперад вобразнае мастацтва Беларусі, і ўтварыць у шырокіх масах беларускага насельніцтва тыя сьвядомыя і паважныя адносіны да мастацтва, якія грунтуюцца на глыбокім разуменьні яго актуальнага, жыцьцёвага значэньня, і яго выдатнае соцыяльнае і культурнае ролі. Апошнюю справу, аднак, ня варта цалкам адкладаць „на пасьля", і трэба ўжо цяпер прыняць меры, каб унесьці ў гэтым сэнсе пэўнае ажыўленьне ў наша грамадзкае жыцьцё. Пашырэньне мастацкіх гурткоў пры клюбах (якіх у сучасны момант мы амаль што зусім ня маем), пасіленьне, у меры магчымасьці, мастацкага выхаваньня ў нашых школах, унясеньне сапраўдных мастацкіх элемэнтаў у формы надворнага выяўленьня грамадзкага жыцьця—прыкладам, у аформленьне рэволюцыйных сьвят,—вось тыя першыя шляхі, якія магчыма выкарыстаць для абуджэньня належнай мастацкай сьвядомасьці мас, што зьявіцца і першым крокам у справе закладкі таго фундаманту, на якім збудуецца потым гмах нашага новага мастацтва.

Усё гэта, зразумела, справа не аднаго дня і нават не аднаго году. Як адна з вышэйшых культурных форм, мастацтва наогул разьвіваецца вельмі павольна, і няма штучных сродкаў, каб падштурхнуць гэты процэс. Нас ня зьдзіўляе таму, што да апошняга часу мы яшчэ ня маем у гэтых адносінах асабліва выдатных вынікаў, і што намечаны намі агляд сучаснага мастацтва Беларусі зьвярнуўся хутчэй у шэраг прогнозаў, ніж у падрахунак зробленых дасягненьняў. Для сучаснага моманту гэта зусім натуральна, хоць мы і пэўны, што ў далейшым мы яшчэ будзем сьведкамі паступовага поступу нашага мастацтва наперад, да поўнага ўсебаковага росквіту, які, аднак, можа зьявіцца вынікам толькі сьвядомага і правільна накіраванага ўзбуджэньня шырокай масавай творчай актыўнасьці.

# НА ПЕРАГІБЕ

**Мікола Крывіч**

*(Увагі да другой квадры роману Ц. Гартнага „Сокі Цаліны“—„На перагібе“)*

Першая квадра роману „Сокі цаліны“ вышла ў сьвет яшчэ ў 1922 г. („Бацькава воля“).

І толькі сёлета з вялікім, як бачым, спазьненьнем, праз чатыры гады з хвастком выходзіць у сьвет другая квадра роману „На перагібе“.

Зусім незразумела, чаму так спазьніўся выхад кнігі. Думаецца, што тутака менш за ўсё вінаваты сам аўтар, а сваячаснаму друку нашай, пакуль што ўсё яшчэ небагатай па колькасьці бэлетрыстыкі, шкодзяць умовы друкарскае тэхнікі...

Але, згодна прыказцы,—„лепш позна, чымся ніколі“.

Хаця выдадзеная і з вялікім спазьненьнем, другая квадра роману значна падвышае ўдзельную вагу беларускага краснага пісьменства дзён рэволюцыі.

Маецца пэўная рацыя, каб надаваць асаблівага значэньня роману Ц. Гартнага цалкам, а другой яго часьціне—паасобку.

Праўда, ня можна, і я ня буду адмаўляць таго, што першая часьціна роману мела пэўныя недахопы з літаратурнага погляду, і недахопы выяўляюцца і ў другой часьціне.

Пачынаю з гэтых недахопаў.

Сюды належыць, напершае, *расьцягненасьць* выкладу. Аўтар уладае непараўнальным майстэрствам разжвякваць да апошняй драбінкі паасобныя нават нязначныя эпізоды аповесьці. Часам ён тупаецца на месцы і, замест кароткага сьціслага абрысу, пушчаецца ў доўгія размовы, апісваючы, як селі ды паўсталі, пакладаліся на ложак ды прачнуліся, як ёлі ды пілі гэроі яго апавяданьняў, як ехалі коні, як выглядала мясцовасьць і г. д. Такія размовы бязьлітасны да чытэльніка і яны, бязумоўна, шкодны для самага роману. Самы пачатак—па нашаму—няўдалы. „Ах, як пераменчыва жыцьцё! Як выпадкова і мімалётна ў ім шчасьце! Выбухне нечакана, расквітнее на момант кветкаю прыгожаю, абмые цябе сваім вадырам, распаліць надзею, расшавеліць думкі, а потым... як са стромага берагу ў глыбокую яму, возьме й неміласэрна сапхне ў цяжкае балючае бязьвер‘е... Ты мігам падаеш у бяздоньне на цьвёрды, сыры, смуродны глей“... І гэтак на працягу амаль што цэлых дзьвюх старонак.

Падругое, пэўным недахопам роману зьяўляецца мова аўтара. У розьніцу ад іншых нашых пісьменьнікаў, гэта—вельмі цяжкая, пэрыодычная мова. Багата ў ёй слуцкіх паветалізмаў і часам яўных русызмаў. У другой часьціне роману можна заўважыць у параўнаньні з першай пэўны поступ наперад, але й тут шурпатасьцяй багата.

Аднак, тыя недахопы, што паказаны, маюць зусім ня істотнае значэньне для агульнай ацэнкі роману.

Ня можна судзіць за іх строга аўтара.

Папершае, адносна расьцягненасьці. Гэта, на вялікі жаль, агульная адзнака нашых больш-менш значных літаратурных твораў. Тупаньне на месцы мы знойдзем і ў іншых нашых прозаікаў. Расьцягненасьць ёсьць і ў выдатнейшым пакуль-што нашым поэтычным творы—поэме „Новая Зямля“ Як. Коласа. Аднаўляць гэты факт можна толькі зачыняючы вочы на недахопы нашых літаратурных твораў.

Падругое, адносна мовы. Цяпер, калі толькі формуецца нашая літаратурная мова, ставіць якія-небудзь строгія вымаганьні адносна стылю й мовы аўтара ня можна. Наадварот, будзе вельмі хібным, калі будзем вымагаць ад нашых бэлетрыстых, каб яны прытрымліваліся пэўнага стылёвага ўзору, напр., узору нашага сынтаксыстага Яз. Лёсіка (або ляксычнага ўзору слоўніка М. Байкова і М. Гарэцкага). Такая тэндэнцыя ёсьць у нашых пісьменьнікаў, асабліва ў маладшых. Але яна больш шкодна, чымся карысна. Ня можна падмяняць жывую народную гутарку нашай штучнай літаратурнай, да пэўнай ступені адцягненай ад жыцьця і вымушанай, мовай. Я лічу, напр., бязумоўна штучным, што ў Якуба Коласа і курскія сяляне, і прокурор царскай службы, і папы, і ўрадоўцы гутараць паміж сабою паводле сынтаксу Яз. Лёсіка. Тое самае бачым у апавяданьнях Зарэцкага. З гэтага пагляду куды больш каштоўнай зьяўляецца комэдыя Ян. Купалы „Тутэйшыя“, дзе пэўныя пэрсонажы гавораць на натуральнай для іх мяшанай мове. Адно ясна й вельмі пажадана, каб нашыя бэлетрыстыя трымаліся як можна бліжэй да народнай гутаркі, нават з яе паветалізмамі й дыялекталёгічнымі асаблівасьцямі. Калі-ж адцягнуцца ад пэўных шурпатасьцяй мовы ўласных разважаньняў аўтара нашага роману ад няроўнасьцяй яго асабістага стылю, дык можна палічыць нават за дадатны бок блізкасьць размоўнай гутаркі апавяданьняў да жывой народнай капыльскай гутаркі. Тутака, кажам, ня шкодны й паветалізмы. Наадварот, дзякуючы ім, мова аўтара набывае сакавітыя жыцьцёвыя хварбы. Ня зусім натуральна толькі, што ў другой квадры латыску Вільгэльміну аўтар вымушае гутарыць з Рыгорам на добрай беларускай мове (а, пэўна, яна гутарыла з ім на латыска-нямецка-рускім жаргоне).

Пераходзім да дадатных бакоў роману.

Галоўны дадатны бок твору Ц. Гартнага—гэта монумэнтальнасьць пабудовы й шырыня сужэту роману. Наша літаратура наогул не багата монумэнтальнымі творамі. Кароткія вершы й поэмы, кароткія апавяданьні,—

вось што ў большасьці мы маем да нашага часу. Каб ня быць галаслоўным, даю факты. У Якуба Коласа—пакуль што—адно грунтоўнае апавяданьне,—аповесьць „У Палескай глушы“. У М. Гарэцкага—адно,—„Дзьве душы“. У іншых прозаікаў, як напр., у Зьм. Бядулі,—ніводнага. Ня буду гаварыць аб малодшых пісьменьніках. Пакуль што нічога монумэнтальнага імі ня дана. Некаторым выключэньнем можа зьявіцца аповесьць Зарэцкага „Голы зьвер“, але ў канцы-канцоў гэта—не аповесьць, а апавяданьне звычайнага тыпу. Чым вытлумачыць гэтую зьяву ў галіне нашага прыгожага пісьменства? Думаецца, што тут пэўную ролю йграе традыцыя. Першыя беларускія часопісі, як напр., „Наша Ніва“ і „Наша Доля“ ўжо з прычыны матэрыяльных абставін не маглі друкаваць больш-менш вялізных твораў. І першыя беларускія выдавецтвы прымушаны былі абмяжоўвацца выпускам кароценькіх брошурак. Пісьменьнікі, якія вырасьлі на глебе „Нашае Нівы“, яшчэ й цяпер знаходзяцца пад уплывам мінулага. Адсюль апавяданьні, я-б казаў, фэльетоннага тыпу... Але гэта—яшчэ нішто. Шкада—тое, што да традыцыі далучаецца лена й расхлябанасьць, якія наглядаюцца цяпер наогул у галінах нашае вытворчасьці. „Абы як“, „абы што“, балазе скарб-бацька ўсё сьцерпіць,—гэтыя тэндэнцыі даюць сябе знаць і ў літаратурнай галіне. Адсюль, у нас друкуецца залішне ўсякай непатрэбшчыны, усякай дробязі, якой у іншыя часы належала-б месца не на старонках друку, а ў кошыку рэдактара. Асабліва шмат дробязі даюць маладыя пісьменьнікі... Аднак, трэба памятаць, што ня дробязь, а солідныя творы ствараюць сабою літаратуру, што яны, гэтыя творы ўвойдуць у гісторыю літаратуры. Сапраўды, спрабуйце адкінуць ад расійскай літаратуры романы Тургенева, Дастаеўскага, Толстога,—і тады што застанецца? У галіне нашай маладой беларускай літаратуры „Сокі цаліны“ маюць вялізнае значэньне ўжо таму, што гэта—пакуль што адзіночны сапраўды монумэнтальны твор у нашай прозе. У гэтым сэнсе роман Ц. Гартнага можна сьмела паставіць на адну дошку з нашым пакуль што адзіночным монумэнтальным поэтычным творам—поэмай Якуба Коласа „Новая Зямля“. Вялікая заслуга Цішкі Гартнага, што ён не паленаваўся напісаць роман у некалькіх квадрах у наш час вялікай плыўкасьці жыцьця.

Рэалізм—гэта другая вельмі дадатная адзнака роману. У гэтых адносінах наш пісьменьнік пераймае традыцыі найлепшых расійскіх романістых, пераймае й нават паглыбляе іх. Некаторыя месцы ў сэнсе рэалізму стаяць непараўнальна высака. Бяру, напр., з першай часьціны другое квадры:

— „Дакончыла зябліць?—ня гледзячы на дачку, чарствым тонам запытаў Мікола, калі Зося вылезла з-за стала і пашла ў сенцы.

— Дакончыла,—скорамоўна, ціхім голасам адказала Зося на парозе, ня думаючы і ня цікавячыся, да толку гэта ці не, пачулі яе бацькі ці не пачулі, здаволіў іх яе адказ ці не. І пераступіла парог у сенцы,

дзе было цёмна й халаднавата. Падышла да ложка й па раз палажанаму парадку прынялася слаць пасьцель, сьпяшаючыся й забываючыся, што робіць. Паслаўшы—паціху пачала разьдзявацца: перш скінула кофту, злажыла яе, падвесіла на сьпінцы ложка, пасьля крыху пастаяла, падумала й зьняла спадніцу; здымаючы, прытуліла рукою сарочку ў стане і раптам пачула лёгкую вільгаць. Жах прабег па ўсёй яе постаці і гостраю калючкаю кальнуў у сэрца... „Ах“, сьціснуўшы зубы, у роспачы прашаптала Зося і ў нейкім дзікім пудзе ўскочыла на ложак, утулілася з галавою ў падушку й мо' з поўгадзіны перасыпала ўчуты ў Лужкох сьмех: „Хе-хе-хе! Хі-і-ха-ха! Га-а-га-га! Хе-хе-хе! Хі-і-ха-ха! Хе-хе-хе!“

Лёгкая вільгаць—гэта рэальны вынік родавых зносін Зосі з Рыгорам у Лужкох.

А на другі дзень было вось што:

„Зося саскачыла з ложка й выбегла на палойку праменьня, якое ўлівалася праз ваконца. Выбегла й стала, як статуя, выпрастаўшыся і ўстраміўшы ў ваконца вочы. Пастаяла, паглядзела. Пасьля адняла погляд і правяла ім па сваёй пастаці. Пацешылася бялізной рук, зірнула на грудзі, здаволена ўсьміхнулася. Далей прыгнулася, каб праверыць і ногі. І вось толькі каўзануў яе ўзрок паўздоўж кашулі, як мігам спыніўся на цёмна-рудай пляме ў поясе, якая выразна выдзялялася на белым полі кашулі. Зося ажно зжахнулася, мігам адняла погляд і хутка адскочыла ў бок ад сьвятла. У галаву стукнула пужлівая думка: „Як-жа будзе захаваць гэта ад мацеры? Што-ж будзе, калі яна ўгледзіць? Ой, што будзе?! Зося хапілася за галаў“...

Вось—сапраўды рэальныя вобразы з натуры? І гэта ёсьць ня той „блудлівы“ рэалізм, які даны ў расійскай літаратуры Арцыбашавым, а сапраўды пролетарскі рэалізм, які бярэ рэчы такімі, як яны ёсьць.

Так наш пісьменнік выяўляе сабою праўдзівага рэалістага, які значна ўзвышаецца над умоўнасьцямі мяшчанскай літаратуры.

Пераходзячы цяпер да ўнутранога боку роману, да яго зьместу, трэба адзначыць яго адпаведнасьць беларускай прадрэволюцыйнай рэчавістасьці і адпаведнасьці вытрыманьням нашай сучаснасьці.

Нібы-та аўтар ставіць сваёй задачай паказаць, як плыла рэволюцыйная хваля на Беларусь.

Першая квадра роману мела на ўвазе Беларусь такою, якой яна была ў эпоху пасьля першай Кастрычнікавай рэволюцыі ад 1905 г., г. зн. дробна-буржуазную Беларусь мяшчан і сялян з іх дробнымі мяшчанскімі інтарэсамі.

Такім дробна-буржуазным і малюецца ў першай квадры роману жыцьцё выведзеных тутака пэрсонажаў.

Сілцы—мястэчка, дзе разьвінаюцца здарэньні першае квадры,—зусім дробна-буржуазнае панства.

„У Сілцох самыя маленькія здарэньні, як вясельле, радзіны, нават асьвячэньне хаты, ці другія дробныя папойкі, былі нейкімі асобнымі навінамі, аб якіх стараліся праведаць усе мяшчане і аб якіх гутаркі знаходзіліся на цэлыя тыдні. У такім ціхім стаячым жыцьці, якое панавала ў Сілцох, і ня дзіва, што ўсякая муха—заваруха; кожнаму надазаляе аднакавасьць да ачамернасьці, набівае адваротную аскому й нават стамляе душэўна. Хоць малейшая іначнасьць вее чымсі новым, хоць трошкі ды бурнейшым. Вось і ня дзіва, што ўсе, хто толькі ўбачыў ідучых к Прыдатным сватоў, настолькі цікавіўся імі, быццам тыя сваты йшлі к яму“.

І здарэньне, з якога пачынаецца роман і аб чым ідзе мова ў першай частцы—зусім маленькае, зусім прасякнутае дробна-буржуазным духам здарэньне. Гэта—ня зусім удалае каханьне сялянскай паненкі Зосі Прыдатнай да хлопца Рыгора Нязвычнага.

Зося, яе бацькі, жаніх Васіль Бераг, гэта усё—дарэволыцыйныя тыпы. Над Зосяй вісіць цяжкая бацькава воля, і яна не знаходзіць у сабе адвагі, нават аддаўшыся Рыгору, уцякаць разам з ім з Сілцоў.

Рысы новага настрою відаць часткова ў сілцоўскай моладзі, але ўласьне яны яскрава выяўляюцца толькі ў аднаго Рыгора.

Рыгор меў ад роду непакорную душу і прагу да свабоды. Яшчэ восемнаццаці гадоў ён перасварыўся з сваім „гаспадаром“ і не захацеў быць простым батраком. Ня слухаючы сваёй маткі Стэпы, ён адважыўся адправіцца ў гарады шукаць спраў якіх-кольвек на заводзе, ці дзе на фабрыцы; у час жыцьця ў горадзе—Рызе, начытаўшыся газэт і брошур, шмат чаго ўзнаў і стаў сьвядомым чалавекам.

Нядзіўна, што Рыгор ня мог заставацца на доўгі час у Сілцох.

„Я-ж кажу, за вошта мне ўчапіцца дома?—пытаецца ён у свайго сябра Сёмкі па дарозе да чугункі.—Пасьвіць каровы? Ці да Бэркі шкляра за балагола? Ці да Загуцкага ў двор за парабка? Ведаеш сам, што кожнаму чалавеку хочацца і лепшых умоў жыцьця, і большай незалежнасьці. А ў горадзе, больш-менш, я гэтага дабіўся. І цяпер, як-ні-як, цягне мяне ў горад некая сіла, хаценьне як найглыбей пазнацца з яго жыцьцём, дастаць тыя веды, без якіх мы толькі напалавіну людзі, а напалавіну пакорлівыя нявольнікі... Покорлівыя, маўклівыя, якія ня ведаюць, у які бок павярнуцца, каб аслабіць сваю няволю, ня ведаюць, якім парадкам ударыць па моцным ланцугу прыгону. Ня толькі жыць, а і змагацца, браток, трэба ўмець... А гэта толькі і можна ў горадзе... Ужо, вось пабыўшы каля двух гадоў, у горадзе я чую сябе зусім ня тым Рыгорам, што спакойна выслухоўваў Бэркавы сваркі, што прыслухоўваўся Глякоўскіх перасудаў і думаў: а мо' што ёсьць у нашых парадках сьвятое і супроць іх—ні мы, ні гу. Я цяпер, дружышча, выпатрашыў з сэрца малейшыя адзнакі пакоры перад моцнымі, да каплі зьнішчыў веру ў мірнае паляпшэньне нашага жыцьця і стаў заядлым, неўтамімым змаганьнікам. Горад уліў ў

мяне гарт, сілу, а завод засталіў маю душу... Мне намерна падабаецца гарадзкі шум, рух, натоўп разьюшаных грамад“.

У гэтую атмосфэру гарадзкога шуму й гоману, у натаўп разьюшаных гарадзкіх грамад, у буйны фабрычны асяродак разам з Рыгорам і пераносіць нас другая квадра.

Канва роману нібыта перагінаецца. Падеі, датычныя да галоўнага гэроя роману, Рыгора Нязвычнага, разгортваюцца ў Рызе, а Сілцы праходзяць перад намі спадарож, паколькі Рыгорам зачэплена судзьбіна Зосі.

Хронолёгічна другая квадра аддзяляецца ад першай зусім нязначна.

Агульны дух эпохі нібыта выяўляецца ў словах Сёмкі да вясковага падбухторшчыка Сруля.

— Братка, Сруль! Хто яго ведае, ці дачакаем мы таго часу... Бачыш, прыкмет пакуль жадных. *Дзевяцьсот пяты год адышоў далёка, а новага нічога ня відаць.* Тымчасам абцугі ўсё цясьней сьціскаюцца“

Аднак, гэтак здавалася толькі вяскоўцу Сёмцы. У рэчаіснасьці, ужо пачалі расьціскацца абцугі, і другая квадра роману проста адчыняе перад намі паласу „перагібу“ грамадзкага жыцьця.

Рыга, куды прыехаў Рыгор, ужо знаходзілася ў гэтай паласе.

На другі дзень пасьля свайго прыезду Рыгор на фабрыцы, дзе ён працаваў, даведваецца ад латыша Караля аб забастоўцы перапёкаў: забаставалі і трымаюцца цьвёрда і ўпарта.

Рыгор зьдзівіўся і паглядзеў Каралю ў вочы.

— Ласьне перапёкі забаставалі?

— Бастуюць, ужо колькі часу, амаль ня тыдзень. Кажуць, арыштоўваюць іх, ловяць па горадзе і за горадам на сабраньнях, а яны стойка трымаюцца на сваім, ані кроку назад“...

Сам Рыгор быў зацягнены ходам здарэньняў.

Праз некалькі дзён мы бачым яго на сходцы фабрычных работнікаў, як агітатара...

Рыгор не прыслухоўваўся: паправіўшыся на месцы, ён ціхутка скашлянуў і павёў прамову. „Таварышы! Надышоў момант!“—усе замаўчалі. Выразныя, зычныя, як удары молата, стройна адно за другім паліліся палкія словы над галовамі рабочых ва ўсе куткі дзядзінцу. Зьліваліся ў адточаныя сказы, нямудрыя, але адпаведныя настрою, блізкія разуменьню, бяз лішніх уставак, без пераказаў, з прыціскамі, з перагібамі ў голасе.

„Таварышы! Ізноў мы вымушаны прыняць бойку ад нашага ворага. Ізноў нам суджана праверыць свае сілы й паказаць нашым прыгнятацелям, колькі і што мы можам зрабіць дзеля свайго вызваленьня. Таварышы! Нам няма чаго губіць, апроч сваіх ланцугоў!

Мы ня так даўно протэставалі супраць Ленскае бойні. А пасьля— выказвалі свой протэст першага мая...

Далей Рыгор захапіў гісторыю матроскіх бунтаў, сучасныя забастоўк і ў розных канцох краю, настрой заграні́чных рабочых. І закончыў прызывам

„Дык сьмела на змаганьне...“

А потым і натуральны вынік з гэтага выступленьня: праз некалькі дзён Рыгор—пад арыштам у вастрозе.

У эпоху Ленскага расстрэлу, напярэдадні сусьветнай вайны, небясьпечна было выступаць з рэволюцыйнымі прамовамі.

Але пярэдадні другой рэволюцыі ўжо адчуваліся,—адчуваліся нават у Сілцох, якія ў першай квадры роману яшчэ нічым не выяўлялі свайго рэволюцыйнага нахілу. Хваля рэволюцыі, якая пачыналася ў буйных фабрычных асяродках, як Рыга і Піцер, паволі далівалася да дробных беларускіх мястэчак і, папершае, залівала бядняцкую й серадняцкую моладзь, сустракаючы адпор з боку кулацкіх элемэнтаў мястэчка, тыпамі якіх зьяўляюцца бацькі Зосі Прыдатнай, яе жаніх Васіль Бераг, сват Дзямян і, разумеецца, старшыня.

Незадоўга да вясельля ў Берагавай хаце аднаго вечару жукацела сьвятло ды ішла гучная гутарка: была невялічкая, зусім выпадковая суседзкая бяседа. Гутарылі Хлёр, Дзямян, старшыня Андрэй і маці Васіля, Тадося. Старшыні вельмі імпанавала агульная ўвага прысутных і ён, што называецца, расчуліўся.

— А думаеце, мужчыны, не вялікая заслуга ў выхаваньні Васіля за Хлёрам? Памойму, каб ня Хлёр, то Тадосі-б вельмі цяжка было справіцца з гэтым. І будзьце пэўны, Васіль даўно круціўся-б з гэтымі басякамі-дэмократамі; а можа-б, к гэтаму часу і сядзеў-бы дзе. Цяпер дужа неспакойны час, скрутны, так што вельмі цяжка абмінуць, каб не папасьці ў яго вадакрут. Вы паглядзеце!—старшыня ўвашоў у амплёб,—колькі вы налічыце ў Сілцох, ды нават ва ўсёй воласьці, гэткіх людзей, як Васіль? Нават мужчыны—і тыя, на іх цураха, многа дзе забаламучаны дэмократствам—не кажу ўжо аб моладзі...

— Вядома, вядома, вядома...—не астаўся ў даўгу Апанас Хрыпак,—з дзяцьмі цяпер, як са шклечкам, трэба абыходзіцца: так і сачы за імі, каб ня выпусьціць з рук. У мяне, праўда, іх няма, але ўжо лепш ня мець, як мець распусных ды зьвіхнутых з пуціны. Ці-ж добра бацьку, калі яго дзіця ўлада арыштоўвае ды саджае ў вастрог або ссылае? А гэткіх цяпер процьма па ўсім краі. Ды навошта далёка шукаць, калі вось, пад бокам, колькі хоць такіх: Сёмка Хведараў, Янка Прохараў, Пятрусь Зьмітраў, процьма жыдкоў... Як паветра якое—гэта дэмакрацтва. Вунь і ўчора, расказвалі, дык чалавек пяць стражнікі прывялі з вёскі Тынак. І думаеце, што яны чаўплі? Сабралі нядзеляю сход мужыкоў і давай падʻюжваць: „Глядзеце, зямлі ў вас—курыцы ступіць, а пад бокам тысячы дзесяцін у паноў Высоцкіх. Адкуль яны набралі, як не паадбіралі ад вашых дзядоў, ад працоўнага народу...“ І іншага ўсяго мужыком, а тыя вазьмі і паслухай. Назаўтрае ранютка сабраліся грамадою і гайда ў панскі лес. Пашла павальная рубка. Іх прасіць, перасьцярагаць—

дзе там! Пакуль ня вытрабавалі стражнікаў... Вось як... ці праўда, ці не? Андрэй ведае...

— Вядома, ня хлусьба,—падмацаваў старшыня".

Гэтак бачым, што і да спакойных мяшчанскіх з знадворнага выгляду Сілцоў дахлынула хваля новай рэволюцыі. Роўналежна таму, як у Рызе закіпела бойка паміж работнікамі й фабрыкантамі, тутака на палёх Беларусі насьпявала соцыяльнае змаганьне паміж панамі й сялянамі, і найдалей паміж кулацкімі й бядняцкімі пластамі сялянскай цаліны.

Яна, гэтая *цаліна* вылучала з сабе жывыя рэволюцыйныя *сокі*, будучых барацьбітоў у эпоху другой ужо нашай Кастрычнікавай рэволюцыі.

У Сілцох ужо існавала актыўная соцыял-дэмократычная організацыя. Найлепшыя сілы вёскі з-пад падложжа насычалі акругу рэволюцыйнымі сокамі.

Найбольш актыўнымі ўдзельнікамі Сілцоўскай організацыі быў Сёмка Хведараў.

Калі ў першай квадры Сёмка фігуруе толькі як добры прыяцель Рыгора й „душа" сілцоўскай моладзі, дык другая квадра надае яму ролю, роўналежную ролі Рыгора.

„Сёмка пражыў і прадружыў з Рыгорам вясёлыя рэзвыя гады юнацтва: разам вучыліся ў дарэктара па хатах, разам рабілі й лыжы ды коўзаліся на іх; разам па чатыры гады пасьвілі каровы. Дружылі й тады, калі падрасьлі, і Сёмка стаў земляробам, а Рыгор астаўся служыць у балагольстве. Па адных зборнях хадзілі, браліся адзін за другога, калі хто хацеў аднаго з іх пакрыўдзіць. Самі ў дваіх дашлі да дэмократызма й адначасна Сідар Вузел упісаў іх у соцыял-дэмократычную організацыю".

Ёсьць пры тым даволі значная розьніца паміж Сёмкаю й Рыгорам.

Сёмка—чалавек сахі, які ня можа адарвацца ад сваіх родных палёў, які шчыра прывязаны да земляробскай гаспадаркі, а Рыгор едзе ў горад і думае пра сваю машыну, пра фабрыку, пра напільнік...

Рыгор—не гаспадар поля, не земляроб... Машыны, молат, абцугі—вось што прызначана яму. Аднаму—адно, другому—другое.

Чытаючы другую квадру роману, нібы-та навочна бачым у руках Рыгора молат, а ў Сёмкі—серп.

Калі аўтару роману ўдасца правесьці сынтэз гэтых двох сымболяў у вадным скрыжаваньні „*Серп і молат*", яго роман зьявіцца сапраўднай эпопэяй разьвіцьця рэволюцыйнага рабоча-сялянскага руху.

Што такі сынтэз будзе, гэта відаць ужо з другой квадры роману.

„— А нашых Сілцоў, як і ня было ўжо для цябе? Наведаўся раз і больш—бывайце здаровы назаўсёды?—гэтак пытаецца Сёмка ў свайго прыяцеля ў час паездкі да Лідзкага вакзалу.

— О, не! Кажу табе праўду, Сёмка, што мяне нішто не разлуча ні з Сілцамі, ні з вамі,—адказвае Рыгор.—У мяне горад ніколі не заглушыць патрэбы яднаньня з вёскаю, з полем, з лесам, з нівамі і з тымі людзьмі, што апрацоўваюць іх...“ (ст. 33).

Аднолькавы імкненьні абодвух галоўных гэрояў роману.

Аднолькавы й шляхі іх жыцьця: у той час, калі адбываецца арышт Рыгора ў Рызе, Сёмку арыштоўваюць стражнікі ў Сілцох.

На агульным фоне паглыбленьня й пашырэньня рэволюцыйнага змаганьня сялян і рабочых фабрыкі за сваё вызваленьне разгортваецца асабістае, інтымнае, казаў-бы я, жыцьцё гэрояў роману.

У Сёмкі яўна насьпявае роман з Волькаю, і напэўна Волька кончыць тым-жа, чым скончыла Зося, г. зн. аддасца Сёмцы, як Зося аддалася ў Лужкох Рыгору.

А Рыгор, аўладаўшы Зосяю, ужо на вакзале ў Лідзку захапляецца новаю дзяўчынаю, настаўніцай з Рыгі Ганнаю, якая на другі-ж дзень пасьля прыезду йдзе на кватэру да Рыгора й проста бяз жадных цырамоніяў аддаецца яму. А потым новае захапленьне работніцай Наталяй.

„Рыгору імпонавалі абставіны летняй ночы, перажытыя здарэньні; трымалася бадзёрасьць. Наталя—адна аднэю з ім—цягнула да сябе яго ўвагу, думкі, пляны; Наталя будзіла цэлы зьнізак мінулых перажываньняў, разгойдвала выабражэньне, паднімала ўспаміны. Вынікалі дробязі праведзеных ночаў з Зосяю, з Ганнаю. Колькі ўсё-ж-ткі давялося перажыць шчасьлівых момантаў! Як пекна абагачана яго жыцьцё прыгожымі вобразамі!“.

Гэтак, замест аднаго роману Рыгора з Зосяй, выходзяць цэлыя тры яго романы.

А што-ж Зося—першая каханка Рыгора?

Яна—замужка Васіля Берага. Але не пасьпела яшчэ адбыцца вясельле, як па ўсіх Сілцох распляліся пра яе чуткі аб каханьні з Рыгорам.

— „Дык кажаш Марцэля, гэта ўсё твой Юзік бачыў?“—смакавала кабеціна з Сілцоў, гутарачы аб Зосі з сваёй суседкай.

— Вось калі—пэўна. Ехаў так з Паплавоў і чамусьці намеркаваў на Лужкі. Угледзеў воз—што-ж? стаіць воз—няхай стаіць. Але пад‘ехаў гэта, кажа, якраз, глянуў, аж пад возам на поплаўцы... коўзаюцца адно на другім... Вось мой мудрагель як крыкнуў, як зарагатаў—ха-ха-ха!—дык і Рыгор, і Зося, як апараныя, паўзьнімаліся й барджэй паадварачваліся ўбок... Цікава, кажа, што бяссорамна й бясьпечна—вось-жа каля сьценкі... Да таго захапіліся, што не маглі стрымацца...“

Ясная справа, што гэтыя чуткі павінны былі дайсьці й да Васіля Берага, які зрабіўся законным мужам Зосі. Як вынік гэтага, жыцьцё Зосі з Васілём абярнулася для яе ў сапраўднае пекла.

Гэтак, у канцы другой квадры роману Сёмка Хведараў і Рыгор Нязвычны арыштаваны, Наталя таксама арыштавана і апынулася ў аднэй турме з Рыгорам.

Аўтар змог завязаць заблытаны клубок інтымных узаемаадносін гэрояў яго роману, і ён ставіць чытача прад пытаньнем: як разьвяжацца гэты клубок у далейшым працягу роману, ужо ў Пецярбурзе, на што напамінае самы канец?

Ставіць пытаньні, заінтрыгоўваць чытача складанай завязкай жыцьцёвых адносін, гэта—адзнака сапраўднага раманістага.

Думаецца, што кожны, хто прачытае другую квадру роману Цішкі Гартнага, будзе з нецярплівасьцю чакаць выхаду з друку трэцяй квадры.

Але зразумела, што толькі пасьля выхаду з друку апошняй вызначанай аўтарам квадры яго роман выявіцца ў сваёй праўдзівай істоце.

# СЁНЬНЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ФРАНЦЫІ *)

## П. Леанідовіч

Разгледзеўшы і азнаёміўшыся з літаратурнымі групоўкамі, якія прыматствуюць, у даны час, на рынку мастацкага посьпеху Францыі, нам мімаволі хочацца закончыць агляд гэтых груповак лаконічнай формулай па іх адрасу, формулай, якая нарадзілася ў нэтрах групы „Clarté“, групы комуністычнай, па духу служэньня грамадзтву, ня зьбітай, з пункту погляду формальнай мэтоды сваёй продукцыі і рэволюцыйнай па настроях.

Пісьменьнікі з „Clarté“ кажуць:

„Яны дасяглі нязвычайнага штукарства, але... яны пазбыты жаднага натхненьня“.

У даным выпадку „яны“—гэта ёсьць тыя самыя групоўкі, аб якіх мы гаварылі.

На чале „Clarté“ (у перакладзе „яснасьці“) ідэёва ўвесь час стаіць выдатны пісьменьнік Анры Барбюс. (Да гэтай групы далучыўся і пакойны Ан. Франс).

Група „Clarté“ аб'яднае мастакоў слова далёка не па прынцыпу прыналежнасьці іх да компартыі, як гэта стараецца намаляваць буржуазная крытыка, а наогул па мотывах іх эстэтычных і грамадзкіх нахілаў. Група „Clarté“ аб'яднае і выдае творы аўтараў, якія носяць у сабе калі не разьвязваньне проблем *колектывістычнага* быцьця, то пачаткі гэтых проблем, ва ўсякім выпадку.

„Clarté“, такім чынам, мэханічна зьяўляецца групоўкай полярнай па сваіх нахілах—„несьмяротным“, прустляндцам, правым сюррэалістым, клясыкам, нэоклясыкам і нават некаторым унамістым, падвойна згодніцкага ўхілу.

Сапраўды пералічаныя і ахарактарызаваныя намі, у мінулых нарысах, літгрупы Францыі ахоплены інтарэсам да распрацоўкі проблем *асобы*. „Clarté“ распрацоўвае проблемы *масавай* псыхікі, якая ўзрастае на глебе таго або іншага грамадзкага зьявішча. І—далей: эстэтычнаму самамілаваньню, інтэлігенцкаму самапорканьню—„кляртыстыя“ супроцьстаўляюць монолітную ідэю аб'яднаньня большасьці чалавецтва (а значыць, толькі працоўных) на пляцформе рашучай вызваленчай барацьбы ад уціску станавай і капіталістычнай зграі, барацьбы за права жыць поўным жыцьцём. Зразумела, пакуль кляртыстыя далёка яшчэ ня рупар працоў-

---

*) Гл. „Полымя“ №№ 3 і 4.

ных мас Францыі, але яны з посьпехам граюць ролю ўзбуджальнікаў соцыяльных інтарэсаў гэтых мас і гэта ў той час, калі ўсе іншыя групы граюць у руку кіруючай зграі і стараюцца адцягнуць увагу мас ад інтарэсаў грамадзкага і палітычнага жыцьця.

Кляртыстыя натуральна рэзка адрозьніваюцца і па манеры, і па стылі пісаньня ад усіх іншых груп Францыі. Для кляртыстых чужыя—разважнае штукарніцтва эстэтнага парадку, экспэрымэнтальныя экскурсіі ў галіне псыхолёгіі асобы ды інш. Голас „Clarté" больш просты, грубы, але больш магутны, чым галасы пісьменьнікаў-індывідуалістых. Творы кляртыстых у сваёй большасьці закранаюць незнаёмыя і прывычныя і непрадбачаныя тэмы. Калі-ж вы хоць-бы ў „Агні" Барбюса і адчуеце нейкі знаёмы мотыў зутнэрыянства, то і гэты мотыў (вы гэта павінны будзеце прызнаць) зусім інакш вырашаецца ў Барбюса, чым у Б. Зутнэра. Нагогул і цалком трэба сказаць, што кляртыстыя ідуць к таму, каб сьвет зрабіць сваёй хатай, у розьніцу ад іншых літгруповак Францыі, якія хочуць сваю хату зрабіць сьветам для іншых.

Можна яшчэ дадаць, што не выклікае сумленьня думка:—„Clarté" па шляху свайго разьвіцьця, к часу ўсталяваньня ў Францыі соцыялістычнага ладу зьменіцца ў прототып нашага пролеткульту.

Цяпер з боку чытача мела-б сэнс пытаньне:

Калі той, хто піша гэтыя радкі, кажа праўду, то сёньня літаратурнай Францыі малюецца ў наступным выглядзе: змагаюцца дзьве сілы. Сілы гэтыя змагаюцца за ўплыў у чытацкай Францыі. Адна з гэтых сіл дзейнічае на ўсталяваньне рэакцыйнасьці, у мастацкім і грамадзкім разуменьні гэтага слова (індывідуалістыя, усхваляльнікі душнай ночы, што навісла над буржуазнай сядзібай), другая сіла—гэта заклічнікі росквіту, дудары трывогі, фэйервэркеры бунту, кляртыстыя. Толькі дзьве сілы. Так?

Гэта і так, і ня так.

Гэта так, бо ўсе без выключэньня літгрупы, якія мы разгледзелі ў перчых разьдзелах нашага нарысу, змагаюцца з „Clarté" організавана. Існуе нейкі блёк ва ўсіх гэтых групоўках, калі пытаньне тычыцца паразуменьня за якой-небудзь прычыны з „Clarté". Блёк, які стаіць супроць пункту погляду да ўсяго таго, чаго-б „Clarté" ў даны момант не проклямавала. Тэпмэрамэнтнасьць кляртыстых, з другога боку, зварачае сваім ворагам іх нязгоднасьць толькі густа падперчанай выкрывальнымі матэрыяламі, памфлетычнымі закідамі ды інш. Атрымліваецца бачнасьць якойсьці сьмяротнай сутычкі двух фронтаў. Паўтараем, што здавалася-б гэта і так, гэта зн., што цяпер у Францыі сапраўды адбываецца загостраны процэс змаганьня толькі гэтых дзьвёх сіл, што паміж гэтымі сіламі няма ніякага злучэньня. Але гэта сапраўды і ня так, бо ўважнаму дасьледцы сучаснай францускай літаратуры кідаюцца ў вочы буйныя паросткі талентаў, якія ўсё з большым посьпехам ахопліваюць чытацкую

масу краю. Тут маюцца на ўвазе пісьменьнікі па большасьці бэлетрыстыя, якія пішуць кожны сам за сябе. Гэтыя пісьменьнікі не організаваны па прынцыпам ідэолёгічных мастацкіх канонаў у якую-небудзь пэўную групу, школу мастацкага ці грамадзкага парадку. Гэта пісьменьнікі, нават мы-б сказалі, і тэорытычна не афармленыя. Гэта проста таленавітыя эклектыкі, якія моцыянальна цалкам стаяць на позыцыях сьвядомасьці, што з пяром трэба абыходзіцца шчыра. Вот чаму ханжацкая мяшчанскасьць, якой прасякнуты побыт сучаснага абываталя, падвойная політыка кіруючай зграі, бяскрылы пафос, на палову безнадзейным пасэізмам у настроях пролетарыяту Францыі—усё гэта знаходзіць свой адбітак у творах гэтых пісьменьнікаў. Гэтай сваёй об'ектыўнасьцю раскіданыя іменьні Кэсэля і П. Ампа, П. Мілея і Макса Дэро ды інш. прыносяць вялізную карысьць справе правільнай і выразнай організацыі ў псыхіцы мас зьявішч сумнай рэчаіснасьці Францыі. Цяпер—у вобразе трапнасатырыстычнага памфлету, потым—у выглядзе выкрывальнага мастацкага фэльетону нраваў, тут як сумнае memento, там як магутны, тонка замаскаваны протэст супроць скалечаных зьявішч жыцьця, скрозь: у романах і аповесьцях, поэмах і сатырах, вы ловіце ў творах гэтых пісьменьнікаў ноткі протэстаў і сарказму, агульна кажучы,—незадавальненьне сучасным ладам свайго краю і абурэньне зьявішчамі, якія нараджае гэты лад.

Расійская літаратура, у эпоху соцыяльнай пераднавальніцы, у эпоху мяртвячай рэакцыі, налічвала некалькі пісьменьнікаў, якія таксама памагалі сваім таленавітым пяром чытацкай масе ў патрэбным разрэзе высьветліць сабе перспэктывы разьвіцьця вызваленчага руху і правільна ацэньваць зьявішча данага політычнага дня.

Гэтых пісьменьнікаў, мабыць, з большым правам мы маглі-б назваць „падарожнікамі“ нашай рэволюцыйнай літаратуры, чым тых, каго мы называем так цяпер. Сюды належаць імёны: А. Сьвірскога, Серафімовіча, Башкіна, Мельшіна, Под'ячега ды інш.

У Францыі сёньня наглядаецца аналёгічнае зьявішча. Гэты прамежны пласт пісьменьнікаў, аб якіх пішацца вышэй, пісьменьнікаў не аб'яднаных і не організаваных у строгія формы якой-небудзь школы, групы, кірунку, гэты пласт, які залёг паміж організаванымі кляртыстымі, з аднаго боку, і (імя ім легіон) рэштай літгруп Францыі, зьяўляецца (што мы констатуем з асаблівай радасьцю), зьяўляецца падарожніцкім пластом у лепшым сэнсе гэтага слова. На Францыю насуваецца рэволюцыя, якая ўжо з поўным правам будзе называцца Вялікай, рэволюцыя гэта вясслуе шляхам, вызначаным Леніным, і вось на карысьць яе набліжэньня працуюць зараз некалькі дзесяткаў мала ў нас вядомых мастакоў.

Хто гэтыя мастакі?

На якіх творах гэтых мастакоў больш яскрава за ўсё відаць праўдзівасьць аўтара гэтых радкоў?

Пачнем з Жозэ Жэрмэна і з Жан Жозэ Фрапа. Абодва яна бліскучыя сатырыкі на буржуазнае грамадзтва. З перакладу на расійскую мову кніжок гэтых пісьменьнікаў можна назваць першага—„Певень", другога „Сын пана Пуар'е".

Жозэ Жэрмэн, у романе „Певень", (перакл. Р. Калмэнс, прадмова Юр. Пацехіна, выдавецтва „Пучына", Масква, 26 г., стар. 152, ц. 75 к.), у вельмі вострых і панічных тонах малюе настрой, які ахапіў францускіх патрыётаў ад думкі, што нацыя зьмірае, што сьмяротнасьць у краі перавышае нараджальнасьць. Аўтар, зьдзекуючыся, прапануе ўраду нейкі проект. Ён навочна паказвае „карысьць" ад ажыцьцяўленьня мерапрыемства па стварэньню цэлага шэрагу злучных пунктаў не для жывёл, а для чалавецкага роду. Сужэт „Пеўня" наогул зводзіцца да наступнага: у вадным кутку зьвярнуў на сябе ўвагу сваёй родавай магутнасьцю і ўсла-віўся вытворчымі здольнасьцямі (у самым фрывольным сэнсе гэтага слова) нехта Майер. Яму няма куды дзець сваю родавую энэргію. Мэру гэтага кутка, які жадаў выслужыцца перад начальствам, бліснула думка скарыстаць гэтага хлапца Майера. Ён адкрывае да Майера падарожніцтва ўдоў і перасьпелых дзяўчат, няплодных жонак і дзяўчат-няўдачніц. Майер іх апладатварае з энэргіяй, вартай лепшага ўжытку. Па ўсёй Францыі ўсхвалена імя акругі, куды рэзыдэнцыя гэтага няўтомнага кабеля ўнесена, у парадку адміністрацыйнага падзелу. Майеру сыплюцца нагароды, Майер гэрой дня стыхіі разбэшчаньня, якая разбушавалася, зьяўляецца ўжо гэроем эпохі, які ратуе сваю прыгожую Францыю ад „фізычнага, моральнага і разумовага выраджэньня на глебе алькоголю, пранцаў і сухотаў".

Жэрмэн, каб надаць свайму хісткаму фэльетону характар пэўнай грунтоўнасьці, уквеціў фабулістычныя палажэньні—пакутамі гэроя на глебе раньняй слабасьці, змардаванасьці ад надмернай вытворчай нагрузкі, незадавальненьня вынікамі сваёй працы (як на злосьць раджаліся дзяўчынкі і т. п.).

Памфлет ад гэтага нічога ня траціць у сэнсе свайго назначэньня.

Чытачу ясна, што аўтар пападае проста ў мэту.

Сапраўды, сучасная Францыя ня мае людзей розуму, правадыроў, здольных вывесьці, што заблудзілася, авечку з тупіка. Усе меры, каб падняць прэстыж, які падае, удалыя!

Можа што-небудзь выйдзе з случных пунктаў? У Францыі яшчэ набярэцца сотня-другая Майераў...

Зразумела, падказвае аўтар у сваім паміжрадкоўі—для Францыі нічога з гэтага ня выйдзе. „Выйдзе" толькі для мэра, ён атрымае ў пятліцу помпэзны „pour la meritè".

*Жан Жозэ Фрапа.* Яго вядомы роман: „Сын пана Пуар'е" (Дзярж. Выд., пер. Лёткавай, Ленінград, 26 г., 180 ст., ц. 1 р. 20 к.).

„Сын пана Пуар'е" з шматлікіх сем'яў Францыі, якія носяць гэтае вельмі пашыранае прозьвішча, Пуар'е.

Фрапа малюе ў простых і нават грубаватых абрысах выварат тых колаў, якія Жозэ Жэрмэн паказвае тварам. У Жэрмэна ўсё знадворна прыкрыта гіронічнымі пышнымі ў сваім „шляхецтве" і шляхетнымі ў сваёй „пышнасьці" лёзунгамі аб вялікасьці радзімы, з яе мэсыянскім прызначэньнем і г. д. У Фрапа паказана, каму і для чаго служаць гэтыя лёзунгі. Гэтыя лёзунгі служаць мноству Пуар'е Францыі для ўмелага за чужы кошт і безбалезнага праходжэньня калючага жыцьцёвага шляху Сын п.. Пуар'е, гэрой роману, ціхавая падліза „скромна і з посьпехам" канчае вучобу, „трапна і вёртка" выкручваецца ад вайсковай службы, „паволі, але верна" пакарае сэрца дачкі вядомага банкоўцы, і... у выніку робіцца „прадаўцом славы", адным з гэрояў, што нядаўна зашумавала, комэдыі Паньола, тае самае назвы. Але гэтага аўтар не дагаварвае, аб гэтым прапануецца чытачу дагадацца.

Заслуга Фрапа, зразумела, ня толькі ў тым, што ён умела і дэталізавана распрацоўвае галоўных пэрсонажаў свайго роману (на гэта ёсьць у Францыі шмат мастакоў). Заслуга Фрапа ў тым, што ён, мусіць, другім пасьля Золя, так яскрава і выразна абмаляваў фон, на якім гэтыя пэрсонажы дзейнічаюць, побыт, жыцьцё, характары і пабудовы буржуазных колаў цалкам. Батальныя, шырокія малюнкі Фрапа дапраўды надзвычайныя. З іх выпірае ва ўсёй сваёй подласьці дзялецкі сьвет, пабудованы на драпежніцкіх, эгоістычных інтарэсах, сьвет зграі арыстократыі і капіталістычнай інтэлігенцыі, што з тлустасьці шалеюць.

Мы разгледзелі наўгад два романы найбольш паказальных, вострых памфлетыстых, двух найбольш едкіх сатырыкаў Францыі.

Іх наогул ня два, іх больш. Куды больш. Мы выбралі найбольш паказальных з іх. Мы павінны прызнаць, што Фрапа і Ж. Жэрмэн найбольш правільна адбіваюць быт сучаснай Францыі, што яны найбольш моцна бічуюць агідныя рысы падвойніцтва і подласьці грамадзтва, якое яшчэ сяк-так рэгулюе свой часовы паратунак ад банкроцтва, што насуваецца.

Як бачыць чытач, гэткая сучасная Францыя. Натуральна, у гэтай Францыі ёсьць толькі сучаснае. Будучыны няма. Які-ж, усё-ткі, нутраны сьвет гэтых людзей, няўжо няма ў ім месца палучыстага парадку, высокага значэньня? Няўжо сумленьне забыла дарогу да сэрца гэтых людзей?

Возьмем роман *Макса Дэро*: „Муж праведніцы" (Дзярж. Выд., 1926 г., ст. 188, ц. 1 р. 10 к.).

Калі Ж. Жэрмэн паказвае нам капіталістычны сьвет без пакут, пазбыты абыякіх захапляючых эмоцый, глыбокіх духоўных запытаў, то Дэро хоча нас пераканаць, што ў гэтага сьвету бываюць процэсы псыхічнага падзеньня і вышыні ўзьлёту.

Але паглядзеце, як сьмешны гэтыя эмоцыі, як мізэрны і ўбогі духоўны сьвет гэтага пласту грамады. Як непавабны выварат гэтага грамадзтва.

У сьціслых рысах зьмест роману „Муж праведніцы“ наступны: нехта Бросар, чый агульны выгляд характарызуецца формуляй Мольера „Мешчанін у шляхецтве“, абівае з сваіх ног пыл спэкуляцый і цёмных спраў, якія яму далі магутнасьць, тытул ды інш. Ён робіцца „сьвятым“. Яго вабяць неадчэпна вялікія ўчынкі аскетаў „сьв.“ пісьма. Ён увесь апанован ахвотай паслужыць богу рэшткай свайго жыцьця.

Тут аўтар, Дэро, паказвае з скульптурнай выразнасьцю, як асоба гэтага Бросара падзяляецца, як ён палавінкавы ў сваім „новым жыцьці“, як уся тая гідкасьць, якой было прасякнута яго мінулае, лякіруе паступова сваёй гнільлявай плеўкай і новыя яго настроі і яго новыя ўчынкі, і што самае каштоўнае ў абмалёўцы Бросара і Дэро, гэта, што аўтар паказвае дастасавальнае сумленьне гэтых шматлікіх Бросараў, г. зн. як яны выпраўдваюць свае старыя гіднасьці на новы лад. Яны незьмяняльныя гэтыя разбагацеўшыя Бросары, нават калі захворваюць „запытамі духу“, нават калі пачынаюць думаць аб чым-небудзь іншым, апрача біржы.

Крыху цяжкавата напісаны роман, але роман вельмі паказальны для характарыстыкі ўнутранога сьвету прагнілага буржуазнага грамадзтва і роман, які вельмі чульліва закранае цяпер сумленьне шматлікіх бросараў сучаснай Францыі. Хай чытач не падумае, што ў Дэро знак на сум з тэй прычыны, што Бросар профануе запаветы „добрай рэлігіі“. Некалькі майстроўскі паданых заўваг і ў гэтым-жа духу распрацаваных палажэньняў і даюць адчуваць, што ў даным выпадку Дэро прышлося рэлігію з яе ханжасьцю прыплесьці, як адзіны доказ таго, што толькі ў гэтай глупай абстракцы сучасны буржуа ў Францыі можа, ня здраджваючы сваім „сьвецкім“ прывычкам і налогам жыцьця, „сваю адукаванасьць паказаць“, г. зн. паказаць нейкую ўласьцівасьць пакутаваць і думаць.

Як на твор, у якім усе гэтыя Бросары, Майеры, Пуар‘е і да іх падобныя аб‘яднаны ў адзін пучок, у нейкі зьбіральны тып, можна яшчэ да сэрыі, што разглядаюцца намі цяпер, скажам так, выкрывальных романаў, аднесьці кніжкі *Р. Доржэлеса і Р. Жынью:* „Машына для спыненьня вайны“. (1926 г. Выд. „Сеятель“. 162 стар.) і Поль Вайян Куцюр‘е „У водпуску“ („Зіф“, 1926 г., стар. 78, ц. 45 к.).

Пакрыўджанасьць жанчыны, яе бяспраўнасьць перад тварам буржуазнага сьвету, нейкая соцыяльная бяспрытульнасьць жанчыны ў капіталістычных краінах, вельмі востра выяўлены ў романе *Эльзы Трыолє* „Ягадка“ („Круг“, 26 г., 172 стар., ц. 1 р. 50 к.).

Нараджаецца літаратура аб люмпэнпролетарыяце; цяпер у Францыі шумуе роман Морыса Жэневуа: „Raboliot“ (Трус) („Мысль“, 26 г., 271 ст., ц. 1 р. 50 к.). Роман, праўда, прасякнут двухсэнснай „мораляй“: выхад

засільля буржуазных законаў, якія перашкаджаюць вольнаму разьвіцьцю асобы, знаходзіцца ў помсьце складальнікам і абаронцам гэтага закону, прычым у помсьце, пабудаванай на разбоі, забойствах і браконьерстве. Жэневуа—папярэднік Арцыбашава для Францыі (які некалі так нашумаваў сваім „Шэвыровым“[1]).

Больш ня меней адкрыта кідае закід (больш рэзка, чым Дэро) ханжасьці, зграі чыноўнікаў і спэкулянтаў, што веруюць у бога, малады францускі бэлетрысты *Жан Жыроду*.

Можна было-б бясконца цягнуць сьпіс тае літаратуры, якая творыцца цяпер у Францыі і якая бясспрэчна зьяўляецца подарожніцкай справе „Clarte“. Аднак, ні месца, вызначанае гэтаму сьцісламу агляду, ні жаданьне палегчыць чытачу ўяўленьне аб сёньня літаратурнай Францыі, гэтага не дазваляюць.

Такім чынам, канчаючы мы можам намаляваць прыкладна наступную схэму пабудовы сучаснай францускай літаратуры.

Ёсьць арганізаваныя ў групы пісьменьнікі, якія ідуць на лейцах густаў і вымаганьняў заможнай клясы. Гэтыя групы, аформленыя арганізацыйна, намі пералічаны ў нарысе ў „Полымя“ №№ 3 і 4. Ёсьць „Clarte“—група, якая мала думае аб захопе ўплыву ў колах посьпеху і пашырэньня адзначаных вышэй літгруп. „Clarte“, як шчыт, стаіць толькі на варце абароны рабочых мас ад пранікненьня ў іх гушчу ўплываў папярэдніх груп. І, урэшце, як нейкі асяродак—безьліч мастакоў слова, якія свой талент і сілы аддаюць на служэньне грамадзтву ў духу і запаветах выкрывальных тэндэнцый літаратуры. Гэта мастакі падарожніцкага быту, некаторых з іх мы толькі што называлі.

Чытач мае права запытаць, няўжо-ж Францыя, якая здаўнага была слынная, як пастаўшчыца грывуазнага, бульварнага „мастацтва“ на рынак, цяпер здрадзіла і ўжо ўхілілася ад гэтых тэм, прабачайце за выраз. Нічуць. Ёсьць *Жозэф Жолінон*. Ён апісвае „Выпадак у Кропюскю“ („Время“, 26 г., ст. 140, ц. 1 р.), які зводзіцца к таму, што раўнівы мельнік забівае жандара, што ўкраў яго шчасьце. Падумаеш, „выпадак“! Але ў Францыі гэтымі мельнікамі толькі і жыве выабражэньне аўдавелых консьержак і мідынетак. Ёсьць *В. Гіспа і Ф. Мізор*, якія падносяць на самаасалоду ўлюбленым у экзотыку парыкмахерам з Менільмонтаня роман „Нягрыцянка ў купальні“ (гэта выдатна: у расійскім перакладзе гэты роман зьявіўся ў выданьні выдавецтва, якое мае пышлівы тытул: „Сучасныя проблемы“). Да слова сказаць, назва, якая так інтрыгуе мышыных жарэбчыкаў, ані не адпавядае зьместу. Увесь роман—з набору нейкіх „юродствующих“ пэрсонажаў, „што пракуюць об незразумелым“ (так і сказана ад аўтараў). Што-ж яшчэ? Ага, вось чуць не забылі: жывы *Анры дэ Рэньс* і нядаўна заявіў на радасьць уласьнікаў закрытых пансыё-

---

[1]) Жэневуа нядаўна атрымаў прэмію „Гонкура“.

наў, што ён „усё сваё жыцьцё ня быў пад атрутай сацыяльных забабонаў“ (?!). Гэткая поза, або надклясавасьць, зразумела, разьлічана на тое, што буржуазія адзначыць аўтара сваім пахвальным лістом. *П'ер Міль* кожны дзень выдае па вельмі добрым анэкдоце, але, на жаль, ніяк не навучыцца іх добра расказваць. Па крайней меры т-ва „Мысль“ за апошні месяц надрукавала яго: „Кайю і Цільлі“, „Барнова і некалькі жанчын“ (але-ж і назвы) і, урэшце, „Монарх“. *Рэнэ Буайлёў* (нядаўна памёр) кратае сэрцы монмарцкіх краўчых сэнтымэнтальнай аповесьцю „Лепшы сябра“.

І гэтак далей і таму падобнае... бясконца.

Жывы курылка. Ёсьць яшчэ порах гідкасьці ў арсэнале агіднасьці яе вялікасьці літаратуры Францыі. Але ён адсырэў, гэты порах, падмок. Не выклікае інтарэсаў да сябе ў публікі і зьмешваецца з пылам вякоў на полках кніжных магазынаў.

Калісьці хіба зойдзе ў магазын пан Бросар з роману Дэро, аб якім пісалася вышэй, і возьме блізкага сабе па духу Анры дэ Рэнье, або змардаваны агіднымі ўцехамі Майер з „Пеўня“ Жэрэ Жормэна перагартае для ўзбуджэньня „Нягрыцянку ў купальні“ і... толькі.

Зьявіся новы Поль дэ-Кок, магчыма, ён здабыў-бы сабе спагаднасьць у вялікага ліку паважанцаў, а ўсе гэтыя Гіспа, Мізоры, Жоліноны і Буайлёвы—занадта ўжо нікчэмныя.

Гэтым і тлумачыцца тое, што ў нашым нарысе мы іх паставілі на апошняе месца.

# ДА РЭФОРМЫ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Антон Лёсік**

**Язэп Лёсік**

Каб пашыраць граматнае пісьмо паміж працоўных мас, трэба ісьці па шляху спрашчэньня правапісу. У гэтым кірунку і трэ' рабіць „рэвізію", а ў гэтай справе—ужыць некаторую рэволюцыйнасьць, без чаго нельга зрабіць ніякай рашучай рэформы. Робячы рэформу, трэба мець на ўвазе такое правіла: калі ў якім-небудзь кірунку зроблены два крокі, то можна сьмела рабіць і трэці.

Спросьціць беларускі правапіс можна двума спосабамі: па 1-ае, устанавіць толькі па аднэй граматычнай форме ў тых выпадках, у якіх цяпер дапускаецца ў літаратурнай мове дзьве ці больш формы; другія формы трэба лічыць *за паветалізм.*

Па 2-ое, зьмяніць некаторыя правілы, з мэтаю зрабіць іх болей лёгкімі для ўжываньня, калі гэтая зьмена не супярэчыць прынцыпам беларускага правапісу.

Прымаючы пад увагу ўсё, што вышэй гаварылася, мы прапануем:

А. Устанавіць толькі па аднэй форме канчаткаў; дзеля гэтага выключыць:

I. а) *канчаткі дзеясловаў* 3-яй асобы адзін. ліку—*ець-эць* (нясець, пячэць), аставіць канчатак—*е-э: нясе, пячэ, чытае;*

б) канчатак 2-й асобы множн. ліку—*яцё-ацё* (несяцё, печацё, сядзіцё, крычыцё, аставіць канчатак—*яце-аце: несяце, печаце, сядзіце, крычыце;*

в) у II-ім спражэньні форму I-ай асобы множнага ліку—*ём-ом* (сядзём—сяджом, крычом. маўчом), аставіць толькі канчаткі—*ім-ым: сядзім, крычым, маўчым,* бо нельга дапускаць у літаратурнай мове зьмяшэньня форм I-га і II-га спражэньняў правільных дзеясловаў: формы I-га спражэньня—*ём-ом* у некаторых дыялектах зьявіліся ў формах другога спражэньня *па падабенстве* і трэба іх лічыць за няправільныя;

г) у загадным ладзе форму 1-ай асобы множнага ліку пад націскам на канчатку—*ема-эма* (нясема, бярэма), аставіць канчатак—*ем-эм: нясем, бярэм,* а пасьля зычнага—*ма: будзьма, кіньма.*

II. Канчаткі назоўнікаў і прыметнікаў жаночага роду ў прыладным склоне адзіночн. ліку—*аю-яю-ою-ёю*—ужываць на пісьме, а канчаткі—*ай-яй-ой-ёй*—толькі ў вымаўленьні.

III. Прызнаць *за паветалізмы* формы лічэбнікаў: „адзінанцаць“, „двананцаць“, „трынанцаць“ і г. д.

IV. Устанавіць, якія з розных форм лічыць за літаратурныя:

а) прыладны і месны склоны множнага ліку назоўнікаў: *плячо, вока* і *вуха (плечамі, плячмі, плячыма; на плечах, на плячох; вачмі, вачамі, вачыма; вушамі, вушыма, вушмі; у ваччу, у вушшу* [1]*)*;

б) прызнаць за літаратурную форму адно з двух скланеньняў лічэбніка „два“—„дзьве“ (Бач „Пачатковую граматыку“ Язэпа Лёсіка).

Б. *Зьмяніць некаторыя правілы:*

I. Нескладовае *й*, ў пісаць толькі ў закрытых складох пасьля галосных у сярэдзіне і на канцы слоў: *вайна, зайцы, мой, гай; конаўка, воўк, рабіў, хадзіў;* а калі гукі *і, у* стаяць асобна або спачатку слова, то заўсёды пісаць складовыя *і, у,* бо трэба ўзяць на ўвагу наступнае:

Па 1-ае, ёсьць шмат выключэньняў з правіла ўжываньня нескладовых *й, ў,* калі яны стаяць асобна ці на пачатку слова, напр.: а) у вершах гэтага правіла ня трымаюцца; б) *і* пад націскам і ў чужаземных словах ніколі не скарачаецца: *у іх, на ім, за імі; у імпэрыялістаў;* в) нельга скараціць *і* ў вымове тады, калі пасьля *і* стаяць два зычныя гукі: трудна вымавіць: „у ймгле“, „на йльнянішчы“, „сыпалася ймжака“, „у ймгліне“, „коні ймчацца“ і падобн.

Таксама ёсьць выпадкі, калі нельга скараціць асобнага *і.*

Гук *у,* калі стаіць спачатку слова, то а) не скарачаецца ў чужаземных словах і ў некаторых беларускіх: увага, угода, умова, урад, уціск, уклад, ухвала; б) у вершах пішуць вельмі часта нескладовае *у* там, дзе паводле правіла павінна быць складовае *у* і наадварот.

Па 2-ое, хоць выключэньняў з правіла ўжываньня нескладовага *ў* менш, чым з правіла ўжываньня нескладовага *й,* але было-б зусім непаступова і ня лёгічна ніколі не скарачаць асобнага і пачатковага ў слове *і*, а заўсёды скарачаць у такіх разох гук *у.*

Па 3-яе, хоць пасьле галосных у большасьці выпадкаў вымаўляюцца нескладовыя *й, ў,* але дзеля спрашчэньня правапісу на пісьме лепш гэтага не азначаць, бо ў беларускай мове ёсьць шмат фактаў, калі пішацца ня так, як вымаўляецца:

1) ненаціскное *е* вымаўляецца, як *я,* а на пісьме ў шмат якіх разох ставім *е* заместа такога *я:* а) пасьле націску ў аснове слоў: *вецер, жнівень, сіненькі;* б) у некаторых склонах назоўнікаў: *гаем, полем; лялек; нянек;* в) у канчатках прыметнікаў: *новае акно, сіняе мора; болей, далей; чуцен, відзен* і г) у формах дзеясловаў: чытае-чытаеш-чытаем-чытаеце-чытайце.

2) звонкія зычныя на канцы слоў ці перад глухімі вымаўляюцца, як глухія, а пішам у такіх разох звонкія, а ня глухія зычныя.

*Увага.* З гэтага правіла выходзіць: калі слова з пачатковым *і* злучаецца з прыстаўкаю, то пасьле галосных таксама пішацца *й,*

бо *і* стане ў сярэдзіне слова; напр.: у дзеясловах *ісьці, ішоў* з прыстаўкамі, што канчаюцца на галосны гук, пішацца *й: прыйсьці, зайду, прыйшоў, зайшоў*.

II. 1) Ня пісаць „ь“ паміж падвойнымі мяккімі зычнымі (жыцьцё, каменьне, гальлё), бо ён тут не патрэбен. Закон асыміляцыі гаворыць, што калі два зычныя стануць поплеч, то папярэдні прыпадабняецца да наступнага. Стала быць, і ў словах *жыццё, каменне, галлё, калоссе, граззю* і падоб. папярэдні зычны сам сабою будзе вымаўляцца мякка, як і наступны. Значыць, мяккі знак тут лішні.

2) На гэтай-жа падставе ня трэба пісаць „ь“ пасьля *з-с, ц-дз*, калі яны стаяць перад мяккімі зычнымі; тым больш, што гэтыя 2 пары зычных у некаторых дыялектах (на Магілеўшчыне, напр.) падлягаюць зьмякчэньню і перад *г-к-х*, што становіць для нашага правапісу выключэньне. Перастаўшы пісаць „ь“ пасьля гэтых зычных, мы тым самым збавімся ад выключэньня і прымірым ўсе дыялекты; тады будзе: *звер, снег, цвет, скінуць, зінуць* і г. далей.

III. *Месны склон назоўнікаў адзіночн. ліку.*

1. *Калі націск прыходзіцца на канчатак пры цьвёрдай аснове, то пісаць е-э:*

А. *Цьвёрдая аснова:* на стале, на вале, у млыне, у кажусе, граць на разе; у гнязьдзе, у сіле, на сяле, на гумне, на вясьле, пры цяпле, у вакне, на палатне, у харастве, на сукне, на жніве, аб пісьме; на вадзе, на страсе, на сасе, на назе, у галаве;

Ва ўсіх іншых разох пісаць *і-ы,* напр.:

1) *мяккая аснова:* на кані, на кавалі, аб авадні, на пні, на кісялі, у кулі, на агні, на ласі, аб салаўі, пры рублі, на вераб'і; на гальлі, на зямлі, на жняі, на ральлі;

2) *пасьля зацьвярдзелых зычных ы:* на нажы, на абручы, у двары, на тапары, у бары, пры Лукашы, на канцы, на купцы, у шалашы; на плячы, у дабры, на нутры; на гары, на дзяжы, на мяжы, на душы, пры дачцы, пры сястры, на зары.

2. *Калі няма націску на канчатку, то таксама пісаць і-ы.*

А. 1) *цьвёрдая аснова:* на дубі, на беразі, на парозі, у гаі, на Дунаі, на злодзеі; на балоці, у жыці, у залезі, на золаці, на калені, у каліві, у колі, на салі, на масьлі; у ямі, у хаці, на кнізі, на рабоці;

2) *мяккая аснова:* на камені, на мядзьведзі, на Антосі, на Міхасі, на вугалі; на столі, у кузьні, у лазьні, на яблыні, у малатарні, у жмені, на гаспадыні, на волі, на далоні, на Беларусі, у солі, аб восені; на вясельлі, пры спатканьні, у насеньні, на запытаньні.

Б. *Пасьля зацьвярдзелых зычных—ы:* пры Багдановічы, пры Грыгоры, на зайцы, на пальцы, на кітайцы, на немцы; на тапарышчы, на вогнішчы, на сонцы, на сэрцы, на моры.

3) *Калі мужч. і ніякі род канчаюцца на к, то ў месным склоне будзе у:* у Менску, у Слуцку, пры чалавеку, аб воўку, на воку, на веку.

IV. *Родны склон прыметнікаў адзіночнага ліку.*

Калі націск падае на канчатак, то пісаць *е;* а калі на канчатку няма націску, то пісаць *і:* свае, мае, твае, яе, усяе; аднае; але: якоі, усякаі, самаі, пятаі, шостаі, дзесятаі; харошаі, добраі, белаі, чорнаі, сіняі, летняі, зімняі.

*Увага.* Канчаткі *е, э, і* ў правілах II і III-ім больш адпавядаюць фонэтычнаму прынцыпу правапісу адносна галосных, чым канчаткі: на дубе, на беразе, на хаце, на балоце; добрае работы, новае хаты, сіняе паперы.

**Да аканьня ў беларускім правапісе**

Правілы ўжытку ненаціскнога *е*—самыя трудныя правілы беларускага правапісу; апроч таго, ужываньне ненаціскнога *е* і самае слабае месца ў беларускім правапісе, бо адносна гуку *е* закон аканьня праведзен не паступова: *аканьне на пісьме дапускаецца:*

1) перад націскам: бяда, сялянскі, вясёлы, бяруць, і *не дапускаецца* посьля націску: дзяцел, чэрвень, попел, човен, але: месяц, памяць, дзесяць, пояс.

2) *дапускаецца правапісам у канчатках некаторых склонаў:*

а) вішняю, воляю, доляю, песьняю, лазьняю, яблыняю; таксама: сіняю, летняю, зімняю, учарашняю;

б) абычаяў, гаяў, крыльляў, локцяў, коняй;

в) абычаям, гаям, крыльлям, локцям, коням;

г) абычаямі, гаямі, крыльлямі, локцямі, конямі;

д) на абычаях, у гаях, на крыльлях, на локцях, на конях і *не дапускаецца ў некаторых другіх склонах:*

а) жнеек, нянек, песен, лялек;

б) абычаем, гаем, жалем, полем; а таксама:

в) у некаторых формах прыметнікаў: далей, болей, лепей; чуцен, відзен.

Значыць, адносна ўжываньня галосных гукаў *е-я* фонэтычны прынцып правапісу зусім парушаецца, бо няма ніякай розьніцы ў вымаўленьні, напр., канчаткаў слоў: *доляй, воляй* і *далей, болей.*

На вялікі жаль, першы аўтар беларускага правапісу—*Тарашкевіч* не дае дакладнага аб'ясьненьня, чаму ён так агранічыў аканьне адносна гукаў *е-я; Тарашкевіч* толькі кажа: „Але аканьне агранічана некаторымі разамі, да чаго прымушае нас доўгая практыка нашага пісьменства“. (Бач „Беларускую граматыку для школ“ Тарашкевіча, „Ад аўтара“).

Такое агранічэньне аканьня прывяло да таго, што ў беларускім правапісе ёсьць некалькі правіл на тыя выпадкі, калі трэба пісаць *е*, (ненаціскное);—(бач вышэй, Б, I па 3-яе).

Непаступовасьць правядзеньня закону аканьня робіць правілы ўжываньня ненаціскнога *е* труднымі. У самым дзеле, наагул кажучы, калі граматнае пісьмо ня будзе аўтоматычным, то яго нельга назваць граматным; дайсьці-ж да аўтоматычнага ўжываньня ненаціскнога *е* вельмі трудна, бо часта шмат якія формы аднаго і таго-ж слова маюць *я* і толькі у вадной форме пішацца *е*, напр., у дзеясловах:

нясу-нясеш-нясе-нясём-нясуць; нясі-нясем-нясеце і несяце;

бяру-бярэш-бярэ-бяром-бяруць; бяры-бярэм-бярэце і бераце.

Ужываньне ненаціскнога *е* ў назоўніках і прыметніках яшчэ мае некаторае апраўданьне, бо, дзякуючы гэтаму, можна на пісьме адрозьніць такія формы, якія ў вымове не адрозьніваюцца, напр.:

а) у мужч. і ніякім родзе адзіночн. ліку *прыладны склон* ад давальн. множнага ліку: гаем, роем, полем, стварэньнем і гаям, роям, полям, стварэньням;

б) назоўны склон прыметнікаў ніякага роду ад жаночага: новае акно—новая кніга, сіняе мора—сіняя папера;

в) канчаткі назоўнікаў ад канчатак прыслоўяў: вішняй, доляй, воляй, і болей, далей, лепей.

Але гэтым кіравацца нельга, бо беларускі правапіс дапускае яшчэ больш выпадкаў, калі розныя граматычныя формы маюць аднолькавыя канчаткі, напр.:

а) канчаткі жаночага і ніякага роду назоўнікаў: вада, воўна, вішня, песьня і балота, мора, цяля, ягня;

б) прыладны скл. адзін. ліку і давальны множн. ў мужч. і ніякім родзе, калі націск бывае на адным і тым-жа складзе: з валом—к валом, з вераб‘ём—к вераб‘ём, за морам—к морам;

в) назоўны і вінавальны склон у большасьці назоўнікаў і прыметнікаў мужч. і ніякага роду;

г) назоўны і вінавальны склоны прыметнікаў у множным ліку: новыя сталы—новыя хаты—новыя вокна.

А ўжываньне ненаціскнога *е* ў канчатках дзеясловаў ня мае і такога апраўданьня, бо чаму ня пісаць у I-ым спражэньні: *думая, чытая, гуляя* заместа: *думае, чытае, гуляе?* альбо чаму ня пісаць: *думаяця, чытаяця, гуляяця,* заместа: *думаеце, чытаеце, гуляеце?*

Калі-б у дзеясловах I-га спражэньня заместа ненаціскнога *е* пісаць *я*, то была-б поўная адпаведнасьць паміж цьвёрдых і мяккіх канчаткаў:

| а) | б) | в) |
|---|---|---|
| думаю | кажу | думаю |
| думаяш | кажаш | думаеш |
| думая | кажа | думае |

| | | |
|---|---|---|
| думаям | кажам | думаем |
| думаяцэ | кажацэ | думаеце |
| думаюць | кажуць | думаюць. |

Цяпер у беларускім правапісе гэтай адпаведнасьці няма, што можна бачыць з параўнаньня стоўбікаў б) і в); напр.: канчаткі 2-ой асобы множнага ліку пад націскам: *яцэ-ацэ* (несяцэ—берацэ) а не пад націскам: *еце-аце* (чытаеце-кажаце).

У той час, як ёсьць поўная адпаведнасьць паміж цьвёрдых і мяккіх канчаткаў II-га спражэньня, напр., у тых-жа формах:

пад націскам: *іцэ-ыцэ* (сядзіцэ—маўчыцэ);
не пад націскам: *іце-ыце* (носіце—гаворыце).

Трэба прыйсьці да заключэньня, што Тарашкевіч устанавіў канчаткі дзеясловаў пад вялікім уплывам расійскае мовы: думае-(т), чытае-(т). Беларускія канчаткі дзеясловаў 2-ой ас. множ. ліку нічым ня розьняцца ад канчатак расійскіх дзеясловаў: думаеце, чытаеце, гуляеце. Выходзіць: што калі націск ня падае на канчатак дзеяслова, то ў беларускім правапісе фонэтычны прынцып адносна галосных гукаў зусім ня прыкладваецца.

Заместа *э* не пад націскам заўсёды чуваць і пішацца *а*, як у васнове слова, так і ў канчатках:

1) жэрдка—жардзей, кужэльны—кужаль, вячэрні—вечар, брэшуць—брахаць;

2. а) бліжэй, ніжэй, вышэй, але бліжай, ніжай, вышай; заместа: бліжэй, ніжэй, вышэй;

б) старэнькі, макрэнькі, але: добранькі, харошанькі, прыгожанькі, заместа: добрэнькі, харошэнькі, прыгожэнькі;

в) вучан, горак, смачан, чоран, заместа: вучэн, горэк, смачэн, чорэн, як: вінен, волен, годзен;

г) бярэ—бярэш, пячэ—пячэш, сячэ-сячэш, але: кажа—кажаш, можа—можаш, піша—пішаш, заместа: кажэ—кажэш, можэ—можэш, пішэ—пішэш.

*Калі заўсёды заместа ненаціскнога э чуваць і пішацца а, то павінна быць і такое правіла:* „заместа ненаціскнога *е* заўсёды чуваць і пішацца *я* як у васнове слова, так і ў канчатках“; гэтага патрабуе паступовасьць правапісу.

У сучасным беларускім правапісе ёсьць яшчэ і такая непаступовасьць: у некаторых канчатках пішацца ненаціскное *е* заместа *я*, што чуваць пры вымаўленьні (бач вышэй). Калі так зроблена ў правапісе адносна гука *е*, то трэ' было так зрабіць і адносна гука *э*: гэта значыць у тых разох, калі ў канчатках пішацца ненаціскное *е*, у вадпаведных канчатках трэба пісаць і ненаціскное *э*, напр.:

а) калі пішацца: старэнькі, макрэнькі, то пісаць і: добрэнькі, харошэнькі;

б) калі пішацца: вінен, волен, годзен, зроблен, то пісаць і: вучэн, горэк, скручэн, зьверчэн;

в) калі пісаць: бліжэй, вышэй, то пісаць і: бліжэй, вышэй;

г) калі пішацца: бярэ-бярэш, пячэ-пячэш, сячэ-сячэш, то трэба пісаць і: кажэ-кажэш, можэ-можэш, пішэ-пішэш; таксама і: берэце, печэце, сечэце, кажэце, можэце, пішэце, як: думаеце, гуляеце, чытаеце; у такіх разох была-б хоць некаторая адпаведнасьць у канчатках дзеясловаў, чаго ў сучасным беларускім правапісе няма (бач вышэй).

У пытаньні аканьня ў беларускім правапісе трэба зьвярнуць яшчэ ўвагу на адну акалічнасьць.

У расійскай мове ёсьць аканьне толькі ў вымаўленьні адносна гука *о*, але ў правапісе гэта аканьне не дапускаецца. Адносна гука *е* няма аканьня і ў вымаўленьні: расійцы гавораць і пішуць: беда, ведро, весна, лесных, вішней, волей, песней і др.

Беларуская мова ў гэтых адносінах болей паступова: аканьне адносна гука *о* ня толькі чуваць у вымаўленьні, але дапускаецца і на пісьме, апроч таго, у беларускай мове ўжываецца аканьне і адносна гука *е*, прычым у вымове гэта аканьне бывае поўнае, а ў правапісе, як азначалася вышэй, у вадных разох яно дапускаецца, а ў другіх не. Каб быць паступовым, трэба дапусьціць поўнасьцю аканьне адносна гука *е* і ў правапісе, што можна азначыць адным кароткім правілам:

„*У беларускай мове гукі о, е, чуваць і пішуцца толькі пад націскам; не пад націскам чуваць і пішацца а, я*“, і нідзе ня пісаць ненаціскнога *е*, бо гук *е* не пад націскам, хоць і няясны, а ўсё-ж такі бліжэй да *я*, чым да *е*; тады фонэтычны прынцып адносна галосных будзе праведзен у правапісе поўнасьцю, і аканьне можна назваць тады не „вялікім“, а „поўным“.

## КНІГАПІС

### Навуковыя падставы практычнага слоўніка

**М. Байкоў і М. Гарэцкі.** *Практычны расійска-беларускі слоўнік. Выданьне 2-е выпраўленае і дапоўненае, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, 1926 года. 190 старонак, прыблізна 20.000 слоў, цана 1 рубель.*

Кожная практычная справа павінна грунтавацца на навуковых падставах, інакш яна ня будзе адпавядаць вымаганьням сучаснасьці.

Кіруючыся гэтым прынцыпам, аўтары слоўніка ў прадмове закранулі пытаньне аб навуковых падставах сваё працы.

Галоўным прынцыпам для іх зьяўляецца неабходнасьць браць новыя словы разам з новымі паняцьцямі. Як думаюць аўтары, пэўная колькасьць запазычаных і штучна ўтвораных слоў павінна дзеля гэтага ўвайсьці ў жывую мову.

Усё залішняе, усё тое, што мае свае блізказначнікі ў жывой сялянскай гутарцы—зьнікне, а рэшта набудзе ў нас правы грамадзянства.

Трэба зазначыць, што аўтары зьяўляюцца прыхільнікамі сьвядомага перакладаньня чужых слоў на нашую мову, а не мэханічнага перапісваньня іх нашымі літарамі. У тых-жа выпадках, калі канечна трэба запазычыць чужое слова, аўтары надаюць яму беларускую ахварбоўку, праводзячы прынцып аканьня (што датычыцца ненаціскнога *о*).

Саўсім слушна адрозьніваюцца вузка-спэцыяльныя тэрміны ад бытавых, жыцьцёвых слоў. Толькі паступовы ход жыцьця, разьвіцьцё культуры будзе ўвадзіць у вагульнае карыстаньне ўсё новыя ды новыя масы паняцьцяў, а разам з імі й слоў, будзе ўзбагачаць наш розум і нашу мову. Таму пакуль што перавагу павінны мець простыя, жыцьцёвыя словы, хаця побач з імі мы знаходзім у нашай мове ўжо і шмат навуковых і, наогул кажучы, спэцыяльных (напрыклад, тэхнічных) тэрмінаў.

Азнаёміўшыся з прынцыпамі слоўніка, мы можам з імі згадзіцца. Гэтыя погляды саўсім правільныя, яны ні ў чым не пярэчаць вымаганьням сучаснага моманту і новае ідэолёгіі.

Пабачым цяпер, як ажыцьцяўляюцца замеры аўтараў.

Свой правапіс яны вытрымліваюць строга. Мы, прынамсі, не знашлі ані воднага адступленьня ад гэтых правіл.

Што датычыцца значэньня слоў, дык аўтары хацелі для кожнага расійскага выразу, калі ён мае толькі адзін сэнс, даць таксама толькі адзін яго беларускі роўназначнік. Але гэтае імкненьне да прастаты спакусіла іх у пэўных выпадках пакінуць бяз увагі некаторыя значэньні расійскіх слоў. Прывядзем прыклады: вертеп перакладзена „батлейка“, а як-жа будзе *вертеп разбойнікаў*? (Паміж іншым пад выразам *кукольный театр* мы ўжо не знаходзім „батлейкі“, а толькі „лялечны тэатр“). *Замак* перакладзена „палац“ (=расійскаму „дворец“). Ці сапраўды *тюремный замок*—астрожны палац? Слова „замак“ існавала ў старой беларускай мове і невядома, дзеля чаго цяпер трэба яго замяняць словам „палац“. *Компания* добра перакладаецца словам „хаўрус“, якога аднак-жа паміж

блізказначнікамі мы не знаходзім; *канун* ня толькі „перадсьвята“, але й наогул „пярэдадзень“; *мастер* ня толькі „майстар“, але ў пэўным адценьні сэнсу і „мастак“; *мокрота*— „харкавіньне“ толькі адносна аднаго гатунку флегмы, тады як другі— „соплі“, таму лепш было напісаць флегма (або хлегма згодна з нашым вымаўленьнем); *пассивный* — нядзейны,—гэта праўда, але ў граматыцы мы знаходзім і тэрмін „залежны“; *переборка*(=переезд на новую квартиру) „пярэбары“, але ёсьць і значэньне—перегородка, што панашаму будзе „сьценка“. *Повсеместность* ня толькі „пашыранасьць“, але таксама і „паўсюднасьць“. *Счастье* парасійску—ня толькі *удача* але і *не удача*: Такое уж мое счастье. Таму побач з *шчасьце* карысна было-б паставіць *доля*, бо гэтае апошняе слова можа мець у нас часам і нядобры сэнс. *Утверждение* ня толькі зацьвярджэньне, але таксама й выказваньне. *Хутор*—можна перакласьці і „хутар“ і „фальварак“; *цепенець*—ня толькі „дубець“, але й „дрантвець“; *чванство*—ня толькі „хванабэрыя“, але й „пыха“; *яма*— „яма“ (і „дол“), *юбка*—„спадніца“ (і „андарак“). Затое шмат слоў перакладзена вельмі ўдала: *алюміний*- гліняк, *анахронизм* — нясучаснасьць; *богатырь*—асілак, волат; *бухгалтер*— кнігавод, вахтаварта; *водоворот*—вір, *водоём*—вадазбор, *водоросль*—багавіньне, *волонтёр*—ахвотнік, *гуманность*— людзкасьць, *декаданс*—заняпад, *инициатор*—пачынальнік, *ирония*—высьмешка, *изваяние*—вылепак, *казна*— скарб, *какофония* — немілагучнасьць (*эвфония*—мілагучнасьць), *квасцы*—галун (тады *позумент*—толькі пазумэнт, а не галун; таксама, калі *замазка*— кіт, дык вялікая морская жывёліна павінна звацца *рыбазьвер*, каб ня было гомонімаў), *колония*—асада, *колонист*— асаднік, *корреспонденция*—допіс, *корреспондент*—дапішчык, *кочевать*—вандраваць, *ларёк*—яткі, *ларец*—скрыня, *негр*—мурын, *окаянный*—кляты, *откровение*—выяў,*отчаяние*—роспач, *панталоны*—нагавіцы (удалае слова, як і нямецкае Beinkleid), *паяц*—кумэднік, *парламент*—сойм, *сарказм*—злосьмех, *траур* — жалоба, *фрукты* — садовіна (таксама, як *овощи*—гароднiна), *хлопок*—баўна (гаворац і „бавоўна“, што складаецца з ба—як быццам, нібы-та+воўна) і інш.

Гэтыя й падобныя словы можна лічыць добрымі таму, што частка іх перакладзена саўсім згодна з складам адпаведных чужаземных выразаў, і ўсё-ткі яны не даўгія, даволі зграбныя і гучаць амаль што таксама, як нашыя ўласныя; другая-ж часта— гэта нашыя родныя словы, што маюць літаральна такі самы сэнс, як некаторыя чужаземныя. Мілагучнасьць, дапішчык, высьмешка і т. п.—гэта ўдалыя наватворы, а нагавіцы, сойм, садавіна і г. д.—гэта нашае даўнейшее багацьце, якое мы, зразумела, будзем ужываць ахвотней, чымся нейкія чужаземныя роўназначныя выразы.

Заслугаю ўкладальнікаў слоўніка зьяўляецца ня тое, што яны самі ўтварылі (і вельмі ўдала) некаторыя словы, але, пераважна—добры дабор гатовых матэрыялаў з розных крыніц. Яны выкарысталі выданьні навукова-тэрмінолёгічнае камісіі Інбелкульту, працы вайскова-тэрмінолёгічнае камісіі ды іншыя карысныя матэрыялы.

Часам залішняя асьцярожнасьць змушала іх пакідаць без перакладу расійскае слова. Так башлык (слова запазычнае расійцамі ў татараў) засталося без перакладу, хаця ў нас ёсьць „каптур“; таксама чужаземны, але даўно ўжо натуралізаваны выраз *неотлучный*—неадлучны, хаця можа было-б сказаць і „неадходны“.

Вельмі рэдка сустрачаецца блытаніна наняцьцяў. Напрыклад, *прелюбодей*—блуднік, *прелюбодейство* — блуд. *Прелюбодей* панашаму—чужаложнік, *прелюбодейство*, *прелюбодеяние*—чужаложства, гэта адносіцца да парушэньня шлюбу, тагды як неўпарадкаваныя зносіны паміж не сямейнымі

людзьмі могуць звацца распустаю (або, калі хочаце—блудам), а такія асобы завуцца ў маралістых распусьнікамі,-цамі (блуднікамі, блудніцамі). Таксама пераблыталіся паняцьці—расійскія *ростовщик* і *взяточник*. Першае перадаецца яшчэ словам *лихоимец*—пабеларуску квотнік, а адпаведная дзейнасьць—квотніцтва. Другое— хабарнік (дзейнасьць — хабарніцтва). Што гэта так, даводзіцца даўнейшым сэнсам слова ліхва—процант. Аўтары пераставілі першае тлумачэньне на месца другога ды. наадварот.

Расійскаму слову *олово* адпавядае нашае цына; выразу—*свинец*—нашае волава, *цинк* нашае цынк. Але ў слоўніку мы знаходзім і *волава* ў сэнсе цынк. Гэта, бязумоўна, няправільна. Нашыя катляры, бляхары, сьлесары ніколі такое блытаніны сабе не дазволяць.

Да недахопаў слоўніка належыць бясспрэчна і адсутнасьць націскаў. Ня толькі для іншых нацый, якія могуць карыстацца гэтым слоўнікам пры вывучэньні нашае мовы, але й для беларусаў націскі неабходны. Сапраўды, аўтар і аўтар, капаць і капаць і іншыя падобныя словы адрозьніваюцца **т о л ь к і** націскам. Што-ж рабіць у такіх выпадках чытачу?—Беспатрэбна напружваць увагу й мысьленьне,—ня інакш.

У правапісе аўтары, як вышэй сказана, зьяўляюцца ў пэўнай меры наватарамі. Гэта саўсім зразумела, бо, укладаючы слоўнік, якраз прыходзіцца вельмі часта сустрачацца з артографічнымі пытаньнямі.

Але апроч аканьня (няпоўнага) у чужаземных словах, іншых рэформаў яны не зрабілі. Вядома, што ў жывым нашым вымаўленьні ня існуе гук *ф*, які падмяняецца гукамі *хв*, *х* і *п*.

У іх ёсьць хвіга, хунт, але фабрыка, фэльчар і т. п. — непаступовасьць, бо ўсе гэтыя словы даўно натуралізаваны, і народ вымаўляе тут *хв*.

Яшчэ адно цікавае пытаньне: аўтары саўсім слушна пішуць эскадрыльля (як Натальля, параўнаць можна і Аксіньня, і Аўгіньня). Гэта вельмі добра, тым больш, што й француская мова, адкуль мы запазычалі гэтае слова і некаторыя яму падобныя, мае тут на пісьме падвойнае l escadrille. Звычайна-ж мы ня пішам падвойных зычных ў запазычаных словах. Калі мы цяпер дадамо такое абмежаваньне, што ll перадаецца праз *льль*, дык гэтым мы значна зьблізім напісаньне некаторых чужых слоў з правапісам нашых родных выразаў. Сапраўды, калі мы гэта прымем, дык тады таксама, як пішам, напрыклад, *льле*, *пальле* будзем пісаць *бальляда*, *фэльлетон*, *паштальлён* у поўнай згодзе ня толькі з нашаю фонэтыкаю, але й з францускаю графікаю ballade feuilleton, postillon. У слове ballade, аднак-жа, у французаў гук ня мяккі.

Вось, паміж іншым, да якіх пытаньняў вядзе нас гэты слоўнік.

Гэтая кніжка для кожнага пісьменнага чалавека зьяўляецца, бясспрэчна, неабходнаю. Вельмі багаты і сумленна апрацаваны ды добра разьмеркаваны матэрыял надае ёй вялікае значэньне, асабліва для ўрадоўцаў, вучняў, настаўнікаў і, наогул кажучы, дзелавых людзей. Яны тут знойдуць шмат чаго карыснага. Чакаем і новага яшчэ паўнейшага слоўніка—з націскамі ды, часткова, з прыкладамі, які рыхтуюць да друку С. Некрашэвіч і М. Байкоў. Гэта будзе яшчэ цікавейшая кніжка.

**Л. Цьвяткоў.**

**Максім Гарэцкі.**—*„На імпэрыялістычнай вайне". (Запіскі) ДВБ, Менск, ст. 185. Цана 1 рубель.*

Запіскі пачынаюцца з 1-га ліпня і канчаюцца 25-га кастрычніка 1914 г.—днём, калі пісьменнік быў паранены; самы канец запісак апісвае лекі ў шпіталі ды жыцьцё ў дому.

Аўтар запісак пашоў у вайсковую службу вольнапісаным у артылерыю і апынуўся на службе за тыдні два да пачатку вайны. Ён, значыцца, трапіў у вір, будучы з вайсковага боку зусім неадукаваным. У вайсковую „мудрасьць“ пачаў уваходзіць з дробязі: „сотні раз станавіўся „ува фрунт“ перад бярозавым калом замест начальніка, сотні раз казыраў—і ўсё было яшчэ нядобра, усё яшчэ ня ўмеў... чытаў нялюбыя статуты вайсковай службы“ ды „завучаў напамяць прозьвішчы ўсіх сваіх начальнікаў, ад вайсковага міністра да ўзводнага і аддзялённага“. Усяго і навукі! Таму поле нагляданьня пісьменьніка, нават як салдата артылерыстага, вельмі вузкае: ён ня ўсё бачыць, ня ўсё разумее, а што і бачыць, дык утароплена пазірае, бо бачыць „усё гэта першы раз у жыцьці“, як прызнаецца сам.

На шырыню поля нагляданьня зрабіла уплыў і тое, што ў той час аўтар толькі пачаў афармляцца як пісьменьнік (першыя яго творы вышлі ў 1914 г.). Да таго-ж ня ўсё залежыць ад пісьменьніка: „думкі і словы“ часамі бываюць „спаралізаваны... дзікім страшным гулам“, і прападае жаданьне апісваць“. Ды дзе-ж ты апішаш, як трэ“, калі „зямля стагнала, і ўсе мы, седзячы з боку, стагналі, або нямелі, закрыўшыся далонямі“, калі „гэта была жудасьць неапісальная“.

Трэба яшчэ сказаць, што запіскі ахопліваюць пэрыод, калі бадай усе давалі веры, што цераз месяц-другі вайне „капут“: „не ўпяршыню-ж капытам расійскіх коняй бразгаць падковамі па бруку ў Бэрліне“. Але жыцьцё паказала другое. Гэтае „месяц-другі“ былі момантамі, у які немцаў толькі намацвалі, калі на фронце цьмянасьць, шмат неспадзяванасьцяй, калі на ім трывожна, нясьмела, ліхаманкава, і гэта асабліва адбілася на запісах за ліпень-жнівень.

Аднак, ня гледзячы на ўсё паданае, „На імпэрыялістычнай вайне“ зьмяшчае шмат цікавага тыповага матэрыялу з вайсковага быту старой арміі, дзе ўсё „было паказённаму груба і неахайна“, дзе на чалавека фэльдфэбаль „стараўся не глядзець“, а камандзір дык і зусім не глядзеў. Гэтая манера не глядзець давала магчымасьць зьдзекавацца колькі і як хаця (ст. 9) над чалавекам. Выведзены тыпы афіцэраў — гэтых Пупскіх, Івановых, Сьмірновых з канечным чынам пры прозьвішчы; выведзены проста „сьціплыя мужычкі“—Паншыны, ды проста „землякі“ і выведзены жыхары фронту.

Дзе-ні-дзе паданы цікавыя малюнкі з бою. Так, цікавы малюнак адступленьня пяхоты: „Абстрэл быў гэткі нечаканы, што я ўталопіўся там, дзе стаяў... Гляджу: пяхота сыплецца уніз, як бульба, бразгае кацялкамі, куляецца з вінтоўкамі ў адстаўленай руцэ: скок! скок!—Хто куды, цераз плот, цераз канаву і навокал усяго хутару“.

Самы, бадай, удалы запіс—гэта запіс ад 17 кастрычніка, за чытаньнем яго шмат каго можа апанаваць жах. У гэты дзень батарэя праходзіла па высокім голым месцы, і... „толькі галава калёны ўзабралася на горку, гранаты, шрапнэлі, гкрах, бух... Батарэя рынулася наперад шалёным галёпам... У коняй грывы задраліся, а людзі абчапілі іх за шыі—і так шыбка-шыбка едуць... Кожнае арудзьдзе, кожная запрэжка, кожны чалавек ірваўся і пёр наперад сам-пасабе—галопам, скокам, наўскачка, рассыпаўшыся хто куды... А там збоку і ззаду, на гэтым проклятым перавале, які мы пераяжджалі, стаіць пад сьмерцю яшчэ адна батарэя,—якая ня ведаю. Чаго-ж яна стаіць? Занясло яе пылам-курам, і чорным дымам завалакло. Чаго яна стаіць? Жудасна глядзець, як яна там гіне. Відаць, яшчэ бегаюць, капашацца там людзюхны, а па іх усё: гкрэ-эх, дж-фю-юў. І раптам гэтая пабітая, памёршая батарэя загрукатала!.. Забліскалі стрэлы, цераз нашы галовы зашумела, паняслося тое, што яна

выстраліла. Батарэя бароніцца! Як радасны веснавы гром гручыць яна нам увушшу. Яна бароніць сваю пяхоту, дае магчымасьць заняць ёй выгадныя позыцыі. Бароніць, аддаючы сябе ў ахвяру".

У кароткім аглядзе нельга падаць цэлага малюнку, аднак і гэтыя выняткі ствараюць моцнае ўражаньне. Цікавы запіс і за 25 кастрычніка.

У запісках сям-там сустракаюцца настроі супроць вайны, жаданьне яе канца: „Калі ўжо яна кончыцца, зьвязаліся з дрэньню, трэба нам было лезьці за сэрбаў, яны там што году ваююць. Колькі нашага брата вышла на вайну, а што нам прыбавіцца: хоць па дзесяціне, ай што? Чаго не хапае багатым чарцям, што лезуць у вайну? Здаецца, і сыты і п'яны. З жыру шалеюць, сволачы, а ты за іх жыцьцём накладай.—Казаў разважна і самавіта і хлябаў гарачую сьпітую гарбату бомбандзір-наводчык Валодзін (кастраміч)".

Запіскі маюць значэньне з боку гісторыка-літаратурнага куды большае, чым з вайсковага. Яны дапамагаюць уразумець творчасьць пісьменьніка, паказваюць, чаму гэта яна больш круціцца каля „Досьвітак". Між іншым, запісы за верасень-кастрычнік паказваюць, што аўтар асвойтаўся з вайною, ён ўжо не закрываецца далонямі, таму апісвае больш поўна і дакладна і больш поэтычна.

Наогул кажучы, запіскі „На імпэрыялістычнай вайне", ня гледзячы нават на „шэрасьць" аўтара, ставяць у цікавай, новай для беларускай літаратуры форме (дзеньнік) перад чытачом пачатак старой вайны з усімі яе праявамі і жахамі. „Запіскі" даюць каштоўны як псыхолёгічны, так і гістарычны і бытавы матэрыял, чытаюцца лёгка, захапляюць, таму і прачытаюцца з здавальненьнем і карысьцю кожным чытачом.

**К. Гарабурда.**

3/VIII-26 г.

**М. Нікановіч. Золак. Апавяданьні. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1926. Стар. 141. Цана 75 к.**

Перад намі зборнік апавяданьняў пісьменьніка М. Нікановіча, пад назвай „Золак". Гэты першы зборнік маладога пачынаючага пісьменьніка ўключае ў сябе тры апавяданьні: „Адплаціў", „Вы зьверы", „У хвалях жыцьця", якія мы тут і пастараемся разгледзець.

Усе апавяданьні данага зборніку Нікановіча па сваіх сюжэтах амаль аднолькавы, адбіваюць яны часы цяжкай окупацыі палякамі Беларусі. У сваіх апавяданьнях пісьменьнік дае жудасныя вобразы белагвардзейскіх зьдзекаў над беларусам-селянінам і вобразы змаганьня з гэтымі белагвардзейскімі сіламі беларуса-партызана,— тэмы надзвычай балючыя, бо яшчэ так сьвежы ўспаміны аб тых пакутных днёх, калі руйнуючая рука драпежнікаў ня мела ніякае літасьці над працоўным народам і разам з усім скарбам і маемасьцю заганяла пакутны народ у пушчы і балоты, дзе ён шукаў ратунку ад няшчасьцяў.

У першым апавяданьні „Адплаціў" Нікановіч паказвае нам, як не сьцярпеў селянін Зьмітрок зьдзекаў над сабою і адплаціў белагвардзейцам за свае страты і пакуты. У другім апавяданьні „Вы зьверы" разгортваецца малюнак пакут селяніна, які не пасьпеў уцячы, як другія, у лес са сваім конікам, як яго з жонкаю каталі, і як ён разам з жонкай, замучаныя белагвардзейцамі, скончылі сваё жыцьцё, адзін —у абозе, а яна ад панскіх удараў—дома. І ў трэцім апавяданьні паказаны гэроі — партызаны, сярод якіх асабліва выдзяляецца атаман-дзяўчына Анэлька сваім гэройствам і адвагаю, што наводзіла жах на ўсіх панскіх служак.

Бязумоўна, малюнкі праўдзівыя. Пісьменьнік досыць добра адбіў у сваіх апавяданьнях тыя часы, але усёткі гэтыя апавяданьні не пакідаюць

належнага ўражаньня ў чытача. Кожнае з гэтых апавяданьняў не пазбаўлена элемэнтаў казачнага гэройства. Для прыкладу хоць-бы ўзяць гэроя апавяданьня „Вы зьверы“ Сяргея. Ён адзін з карабінкаю без патронаў наводзіць паніку на цэлы натоўп палякоў „і, перавярнуўшы карабін, бо патронаў ўжо ня было, Сяргей рынуўся ў натоўп палякоў... Як зьвер, крышыў направа і налева, дабіраючыся да паручніка“.

Прыходзіцца надта дзівіцца гэройству прыбітага селяніна-фурманшчыка, які адзін сярод добра ўзброеных белагвардзейцаў з пустою карабінкаю наводзіў такі жах на цэлы натоўп і дабіраўся да паручніка, якому раскрышыў прыкладам карабінкі галаву, нешта накшталт казачнага волата Бавы Каралевіча ды інш. Такі самы элемэнт казачнай гэроічнасьці паказаны пісьменьнікам і ў апавяданьні „У хвалях жыцьця“. Слабая вясковая дзяўчына Анэлька становіцца на чале партызанскага атраду і крышыць белагвардзейцаў, „як капусту,“ як кажа сам пісьменьнік, „і, не шкадуючы сябе, лезла у самае небясьпечнае месца, біла прыкладам карабінкі, страляла, грызла зубамі...“ Крыху, здаецца, не натуральна пры сучаснай вайсковай тэхніцы.

Такім чынам, апавяданьні, бязумоўна, цікавыя па свайму зьместу, але не пакідаюць належнага ўражаньня ў чытача і часамі нават выклікаюць ня к месцу сьмех.

Што датычыць да іх мастацкасьці, то тут трэба зазначыць, што пісьменьніку ў далейшым ня шкодзіла-б зьвярнуць больш увагі на гэты бок сваіх апавяданьняў, бо ў даным зборніку адчуваецца тое, што пісьменьнік залішне гоніцца за вобразамі, якія часамі падбірае вельмі не адпаведна зьместу і няўдала нанізвае адзін на другі, так што апавяданьні ня могуць задаволіць чытача сваёю мастацкасьцю. Да гэтага трэба дадаць і тое, што аўтар шмат ужывае не беларускіх слоў, але ўсё-ткі нельга сказаць, што апавяданьні М. Нікановіча нічога ня варты. Яны сваю цану маюць, і застаецца толькі пажадаць, каб пісьменьнік надалей больш працаваў над сваімі апавяданьнямі і паглыбляў іх як з боку зьместу, гэтак і з боку формы.

**П. Жарскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

— Вышаўшыя з „Маладняка“ пісьменьнікі прыняліся за організацыю новага аб‘яднаньня. Аб‘яднаньне мае выдаваць часопісь, якому намерваецца даць назву „Узвышша“.

— Сярод старых беларускіх пісьменьнікаў вынікла думка залажыць сваё асабовае аб‘яднаньне.

— Восеньню бягучага 1926 г. адбудзецца дваццацігодзьдзе літаратурнай творчасьці песьняра і пісьменьніка Якуба Коласа (Тараса Гушчы). У лістападзе месяцы 1906 г. ў „Нашай ніве“ быў зьмешчаны першы верш поэты.

— Цішка Гартны гатуе да друку чарговы збор апавяданьняў пад назваю „Крыжавыя дарогі“. Збор будзе набыты да друку Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам.

— М. Грамыка здаў Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву збор вершаў.

— Прыгатаваў да друку новы збор вершаў Алесь Гурло. Збор мае выдаць БДВ.

— Магілеўская філія „Маладняка“ організавала літаратурную консультацыю для поэтаў і пісьменьнікаў, якія пачынаюць пісаць. Консультацыя атрымлівае шмат цікавага матэрыялу з месц.

### Выдавецтва

— У палове жніўня вышаў з друку чарговы нумар 5 часопісі „Маладняк“.

— Вышлі з друку ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве палітпадручнікі: „Ленінізм“ Кержанцава і яго-ж „Старонкі з гісторыі РКП(б)“.

— Аршанская філія „Маладняка“ выдала чарговы 5 нумар свае часопісі.

— У Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве кончана друкам вялікая географічная карта Савецкай Беларусі. Карта напісана А. Смолічам і Азбукіным.

— У Беларускім аддзеле Дзяржаўнае бібліотэкі налічваецца 3.000 беларускіх кніжак. Гэта амаль ня ўсе кнігі, якія выданы за час беларускага друку.

— Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка рыхтуе да друку летапіс беларускіх кніг, якія вышлі за пэрыод 1917—1926 г. Летапіс прызначаецца для шырокага карыстаньня.

— Вайсковая Камісія ІБК выдае на беларускай мове „Часовы дысцыплінарны статут“ і „Часовы баявы статут“. Ёю-ж здадзены ў друк „Часовы стралковы статут“ і падрыхтавана да друку апісаньне кулямёту сыстэмы „Максім‘а“.

### Рознае

— У лістападзе месяцы гэтага году спаўняецца дваццаць год з часу выйсьця штотыднёвае беларускае газэты „Наша Ніва“. Супрацоўнікі газэты маюць адсьвяткаваць дваццацігодзьдзе гэтае даты наладжаньнем вечару ўспамінаў.

— 19 ліпня бягучага году мінула 75 год з дня нараджэньня вядомага беларускага поэты Янкі Лучыны (Івана Няслухоўскага). Поэта памёр у Менску ў 1897 г.

— Галоўная ўправа Соцыяльнага Выхаваньня Народнага Камісарыяту Асьветы ўтварыла камісію для выданьня дзіцячае літаратуры. У працу камісіі будуць уцягнуты маладнякоўцы і іншыя беларускія пісьменьнікі.

— Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва абвясьціла сьпіс тэм, ухваленых для популярнае сельска-гаспадарчае бібліотэкі. Намечана 15 розных тэм, якія будуць куплены ад аўтараў, каторыя напішуць на іх працу.

— У Слуцкай акрузе знойдзена біблія Мікалая Радзівіла, друкаваная ў Бярэсьці ў 1563 г. Біблія будзе перадана Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю.

— У мінулым жніўні месяцы адбывалася здымка фільмы „Сьвінапас“ у саўхозе Прылукі. Фільма пабудавана па аповесьці гэткае-ж назвы М. Чарота.

— Музычная падсэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры, па згодзе з галоўнаю ўправаю політасьветы, прыступіла да організацыі беларускага студыйнага хору. У будучыне гэты хор мае быць рэорганізаваны ў дзяржаўную капэллу.

— Вядомы яўрэйскі поэта І. Харык перакладае на яўрэйскую мову вершы беларускіх пісьменьнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота і інш. Пераклад будзе выданы групай поэтаў „Юнгер Арбэйтэр“.

— Т-ва „Украінскага мастацтва“ ў Львове (Галіцыя) зьвярнулася ў Інстытут Беларускае Культуры з просьбаю выслаць яму выданьні ІБК „Гісторыя Беларускага мастацтва“ і „Археолёгічная карта Беларусі“. Апроч таго, т-ва просіць высылаць яму ў абмен усе выданьні па мастацтву, археолёгіі і этнографіі Беларусі.

— Профэсар Сяржпутоўскі, вывучаючы ў Гомельшчыне, Арлоўшчыне і Браншчыне беларускую этнографію насельніцтва, выкрыў цікавую групу апошняга, якой у іншых частках Беларусі не сустракаецца. Гэтай групай зьяўляюцца казакі, якія ніколі ня былі пад прыгонам. Іх вельмі мала; яны гавораць пабеларуску.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА ЗА РУБЯЖОМ

**Беларуская прэса ў Польшчы**

У бягучы момант у Заходняй Беларусі выдаецца пяць газэт і дзьве часопісі. З газэт выходзяць гэткія: 1) „Беларуская Справа“, якая абслугоўвае партыйныя патрэбы „Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“, зьяўляючыся органам беларускіх левых соцыялістых; 2) „Бюлетэнь Соймавага Клюбу Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“—офіцыяльнае выданьне беларускіх паслоў у польскім сойме, з'арганізаваных у Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. У Бюлетэні, галоўным чынам, зьмяшчаюцца справаздачы аб выступленьнях, прамовах і інтэрпэляцыях гэтае фракцыі беларускіх паслоў; 3) „Сялянская Ніва“—партыйная газэта беларускага сялянскага саюзу; 4) „Białoruskaja Krynica“—партыйная газэта „Беларускай Хрысьціянска-Дэмократычнай партыі“ і 5) „Беларускае Слова“—газэта польскіх наймітаў-чорнасотнікаў Паўлюкевіча і Вярнікоўскага. З часопісяй гэта—„Маланка“—гумарыстычны штомесячнік радыкальна-соцыялістычнага кірунку, і „Студэнцкая Думка“—часопісь беларускага студэнцтва, што вучыцца ў Віленскім і іншых польскіх унівэрсытэтах.

— Латыскі Ўрад дазволіў аднавіць чыннасьць беларускага школьнага аддзелу пры міністэрстве асьветы. Аддзел прабыў зачыненым з часу вядомага беларускага процэсу ў 1924 г., паднятага латыскім урадам супроць беларускіх культурнікаў у Латвіі. Процэс, як вядома, закончыўся апраўданьнем падсудных. Часовым загадчыкам аддзелу назначаны гр. Г. Плыгаўка.

— Беларуская гімназія ў Радашковічах у гэтым годзе зрабіла выпуск 19 чалавек матурыстых.

— У Вільні Таварыства Беларускае школы адчыняе аднагадовыя беларускія настаўніцкія курсы.

— Рыскія беларускія настаўніцкія курсы абвясьцілі набор слухачоў на наступны навучальны год. На курсы прымаюцца выключна тыя, хто скончыў гімназію.

— Вядомым латыскім песьняром Янам Райнісам перакладзены з беларускае мовы на латыскую вершы супрацоўнікаў беларускае газэты ў Рызе „Голас Беларуса“ А. Бартуля—„Бунтаўшчык“ і Я. Воркуля—„Латгалія“; пераклады надрукаваны ў латыскай газэце „Jaukâe Zinas“.

## УКРАЇНСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

— Кнігаспілка выдае вялікі портрэт украінскага пісьменьніка Кацюбінскага, які намаляваны мастаком Жукавым. Гэта будзе першы портрэт з сэрыі портрэтаў украінскіх клясыкаў.

— У выдавецкі плян на 26-27 гады Кнігаспілка ўключыла выданьне на украінскай мове некалькіх кніжак твораў расійскіх клясыкаў; апроч гэтага, выдавецтва мае выдаць некалькі кніжак перакладаў з заходняэўропэйскіх моў.

— Украінскім поэтаю М. Бажанам напісаны сцэнары-комэдыя — „Беражысь народ—еду на курорт". Неўзабаве пачнецца здымка фільмы. Таксама па пропозыцыі В. У. Ф. К. У. пісьменьнік О. Сьлесарэнка піша сцэнары назваю „Карл Вішні". Тэмаю для сцэнарыя паложаны матэрыялы двух судовых процэсаў: процэс вэнгэрскага провокатара Карла Вішні і процэс комуністага Ракошы ў Вэнгрыі. Пісьменьнікі Зьмітро Загул і Ўладзімер Ярашэнка падпісалі ўмову з ВУФКУ на сцэнары „Слова аб палку Ігара".

— Рэпэртуар украінскае Кіеўскае опэры на наступны сэзон складацьмецца з опэр: „Аіда", „Наміста Мадонны", „Залаты пеўнік", „Тарас Бульба", „Майстарзынгеры", „Орлячы бунт", „Прарок" і „Чыо-чыо-сан" і з балету: „Баядэрка", „Лебядзінае возера" і „Жызель". У склад опэры ўвайшлі выдатныя артыстыя. Сэзон адчыніцца першага кастрычніка.

— Пісьменьнік Мікітэнка напісаў п'есу „Іду"—драма ў чатырох дзеях з пролёгам; зьмест драмы—змаганьне кулакоў з незаможнікамі.

— Украінскі тэатр „Бэрэзіль", які да гэтага часу працаваў у Кіеве, з наступнага году пераяжджае для працы ў Харкаў.

— У хуткім часе варочаецца з Амэрыкі ў Кіеў вядомы украінскі мастак Маневіч. Ён організуе выстаўку сваіх карцін, якія напісаў у Амэрыцы.

— Спынілася выданьне часопісі „Нова Кніга", якая выдавалася Дзяржаўным выдавецтвам Украіны на працягу некалькіх гадоў.

— Коопэрацыйнае выдавец. „Рух", поруч з выданьнем поўнага збору твораў Ів. Франко ды Віньнічэнкі, падгатавала да друку і на працягу 26-27 г. намеціла выдаць поўны збор твораў Б. Грынчэнкі.

— У Кастрычніку гэта-ж выдавецтва выпускае з друку падручнік па украіназнаўству, ухвалены да ўжытку ва ўсіх установах. Падручнік зрэдагаваў А. Прыходзька.

— У Харкаве пачала выходзіць новая часопісь „Бальшавік", політычна-экономічны орган ЦК КП(б)У. Ужо вышаў першы нумар за ліпень месяц.



*Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Ад Тэатральнае Падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.

**Тэатральная Падсэкцыя Інстытуту Беларускае Культуры паставіла аднэй з сваіх мэт зьбіраньне матар'ялу да гісторыі беларускага тэатру.**

Падсэкцыя заснавала тэатральны музэй, які павінен ахапіць матар'ялы па гісторыі беларускага тэатру ўсіх пэрыодаў:

1. Беларускія пацешнікі (скамарохі).

2. Народныя паказы гадавога кругу.

3. Беларускія царкоўныя містэрыі і інтэрмэдыі школьнае драмы на Беларусі ў XVI-XVIII вякох.

4. Батлейка.

5. Беларускі тэатр часоў Дуніна-Марцінкевіча і тэатр пры панскіх дварох часоў прыгону.

6. Беларускі тэатр часоў „Нашае Нівы“.

7. Беларускі тэатр часоў „Першага Таварыства Драмы і Комэдыі“.

8. Беларускі тэатр у Савецкай Беларусі і па-за яе межамі, як профэсыянальны, таксама і самадзейны па гарадох і вёсках.

У музэй ужо пачалі паступаць розныя экспонаты. Плян працы па заснаваньні музэю наступны:

а) Зьбіраньне рэчавых памятак працы, што да адраджэньня і будовы беларускага тэатру.

б) Фотографіі, зарысоўкі тыпаў, пастановак і г. д.

в) Этнографічны матар'ял, зьвязаны з беларускім тэатральным мастацтвам характары, самадзельны рэквізыт і бутафорыя).

г) Афішы, програмы, рэцэнзіі, рукапісы і іншыя матар'ялы па гісторыі беларускага тэатру.

д) Макеты пастановак.

е) Мэмуарны матар'ял, зьвязаны з гісторыяй беларускага тэатру.

ж) Розны матар'ял архіўнага характару як афіцыяльнага, так і прыватнага значэньня, біографічны матар'ял выдатных працаўнікоў беларускае сцэны і інш.

Падсэкцыя зварочваецца да ўсіх, каму дорага разьвіцьцё беларускага тэатру, прыйсьці з дапамогай у організацыі тэатральнага музэю. У першую чаргу Падсэкцыя пакладае свае надзеі на краязнаўчыя організацыі. Падсэкцыя просіць памянёныя організацыі як акруговыя, гэтак і раённыя сачыць і паведамляць Тэатральную Падсэкцыю праз Цэнтральнае Бюро Краязнаўства аб усіх спэктаклях, канцэртах, дзіцячых паказах, якія адбываюцца ў беларускай мове. Вельмі пажадана, каб прысылаліся абвесткі, програмы, а пры магчымасьці фотографіі, калі такія былі.

Вельмі важна таксама апісаньне народных паказаў пры гадавых абраднасьцях па розных кутках Беларусі, а таксама апісаньне сцэнічных прылад. Калі дзе яшчэ захаваліся батлейкі, прымітыўныя маскі і вопраткі народных паказаў, дык гэта ўсё просім прысылаць у музэй. Вялікае значэньне маюць да гісторыі Беларускага тэатру ўспаміны тэатральных працаўнікоў аб забаронах царскімі і польскімі чыноўнікамі спэктакляў на беларускай мове.

Сябры! пасылайце ўсё, што мае адносіны да тэатру на Беларусі! Бо толькі з шырокаю грамадзкаю дапамогаю Інбелкульт утворыць музэй. Калі хто-небудзь захоўвае і хоча прадаць якія-небудзь рэчы, якія маюць дачыненьне тэатру на Беларусі, паведамляйце аб гэтым. Кожная маленькая рыса, кожная дробязь, кожнае апісаньне маюць вялікую вартасьць для гісторыі беларускага тэатру.

*Старшыня Тэападсэкцыі Інбелкульту,*
*член Інбелкульту Мік. КРАСІНСКІ.*

*Старшыня Музэйнае камісіі, член*
*Інбелкульту Фл. ЖДАНОВІЧ.*

## Зьмест „Полымя“ № 6